


Паштоўка
**«Гербы беларускіх ваяводстваў БНР».** Выданне «Таварыства імя Ф. Скарыны». Аддрукавана ў Берліне. 1918 г. З калекцыі В. Целеша.

**4'90** ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ

# СПАДЧЫНА

## ЗМЕСТ





# КНЯЗЬ З ВОЗУ — МАНКУРТАМ ПАЛЁГКА

«...Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Ўздірванелы курган векавечны».

*Янка Купала.*

...А ці ведаем, ці памятаем мы, хто пад векапомнымі курганамі? Ці ўчыталіся мы ў разумныя кніжкі, ці паглыбіліся ў старажытныя летапісы, каб зразумець, усвядоміць, хто і з якой нагоды насыпаў тыя курганы? Ці ўдумваемся ў тое, на якой мове напісаны тыя летапісы? Ці аддаем даніну павагі сваім продкам, што вякамі адстойвалі свабоду нашай зямлі і плацілі за яе жыццямі? Ці ў памяці кожнага з нас імёны тых, хто паднімаў палкі і атрады ў пагоню за находнікамі і захопнікамі? Ці ведаем мы сваіх слаўных дзяржаўцаў, военачальнікаў, дыпламатаў, асветнікаў, што згуртавалі ў свой час людзей Белай Русі ў народ, каб вывесці яго затым на дарогу нацыянальнай самасвядомасці?..

А ці ведаем мы, як, калі і кім у даўнія і не вельмі даўнія гады ўстанаўлівалася, мацавалася, абаранялася і зберагалася наша дзяржаўнасць? Як пачуваў сябе наш суверэнітэт, пра які мы маем сёння магчымасць так шырока і з годнасцю гаварыць? І хто быў героем народа, а хто яго душыцелем і карнікам? І як каты часта-часта ў нашых надзвычай спецыфічных гістарычных умовах ператвараліся ў «герояў», а нашы героі падаваліся нам як нашы ворагі? І чаму гэта, з якое гістарычнае прычыны наш шматмільённы народ і, дарэчы, не менш цывілізаваны, чым суседзі, к пачатку XX стагоддзя быў даведзены да стану тутэйшых, а з героя п'есы Янкі Купалы Мікіты Зносака многія нашы сягонняшнія суродзічы бяруць прыклад? Вось ужо сапраўды бессмяротны вобраз і «пример для подражания»! Дык чым жа вытлумачыць, што народ наш па многіх параметрах захаваў стан «тутэйшых» аж да сёння, не думаючы ні пра якое «новое мышление»? Амаль згубіў бацькаву мову, размыў і выпаласкаў уласную самабытную культуру, забыў сваю трагічную і слаўную шматвяковую гісторыю і дажыў аж да таго стану, што спатрэбілася нарэшце прыняць Дэкларацыю аб сваім суверэнітэце як вяршэнстве, самастойнасці і паўнаце дзяржаўнай улады рэспублікі ў межах яе тэрыторыі, правамоцнасці яе законаў, незалежнасці ў знешніх зносінах, рашучасці стварыць прававую дзяржаву (нібы яе ў нас ніколі і не было), якая сцвердзіць неад'емнае права беларускай нацыі на самавызначэнне, дзяржаўнасць беларускай мовы і вяршэнства народа ў вызначэнні свайго лёсу.

Нарэшце... праз колькі вякоў і дзесяціголдзяў уціску, здзеку і прыніжэння! Толькі калі зважаць на тую трывогу, з якой успрынялі наш *зноў* аб'яўлены Суверэнітэт некаторыя аўтары некаторых цэнтральных газет, то настойліва турбуе пытанне: ці надоўга нам намі дэклараваны Суверэнітэт?

... Спрадвечная агрэсія і з Захаду, і з Усходу, беспарапынныя падзелы і перадзелы, жорсткае падаўленне народных рухаў і паўстанняў супраць каланізатараў, становішча заложнікаў, у якое народ трапляў па волі «сопредельных» дзяржаў і па Брэсцкаму і па Рыжскаму і па іншых мірных пагадненнях, адмаўленне яму ў праве на самастойнае жыццё, у праве «людзьмі звацца» прывяло нацыю да пакорлівасці трагічнаму лёсу, да сацыяльнай абыякавасці і атупення.

А як было не дайсці да такога незайздроснага лёсу, калі пад імперскую прапагандысцкую машыну трапілі дзесяткі пакаленняў нацыі, якія нарэшце паверылі, што захопніцкія акцыі імператрыцы Екацярыны II былі акцыямі вызваленчымі, а душыцель паўстання, якім кіраваў слаўны сын беларускага народа Андрэй Тадэвуш Касцюшка са сваімі выдатнымі паплечнікамі, генералісімус А. В. Сувораў стаў беларускім героем!

Ці не дзіва, ці не бяспамяцтва, нарэшце, цэлай нацыі, калі яна дазваляе мецъ на сваёй тэрыторыі 23 калгасы і 59 вуліц у гарадах і мястэчках, названых у гонар «слаўнага палкаводца», які, дарэчы, увогуле не ўдзельнічаў ні ў адной абарончай вайне? І ці не дзіва, што гэтыя найменні нададзены менавіта ў тых мясцінах, дзе войскі генералісімуса пасеклі і павесілі найбольшую колькасць беларускіх паўстанцаў-касінераў? Не меншае дзіва і тое, што сёння з нас мала хто ведае аб тым, што за заслугі ў задушэнні паўстання і падзел нашай Айчыны ў каторы ўжо раз слаўныя генералы Екацярыны II займелі не многа і не мала, а мільён беларускіх сялян. Больш за 17 тысяч, а дакладней 17750 душ і маёнтак у Кобрыне перапалі і «шаноўнаму другу» беларускага народа Аляксандру Васільевічу Сувораву. Гэтыя факты паведаміў чытачам «ЛІМа» Кастусь Тарасаў. Цікава, ці запомнілі іх экскурсаводы Кобрынскага музея, прысвечанага «герою»?

Не ведаю, ці шкадаваць, ці радавацца, што для паўнаты карціны нашага поўнага і безнадзейнага атупення ад гістарычнай абецэдаршчыны ў нас, на дзіва, не ўвекавечана памяць яшчэ двух «слаўных» вызваліцеляў — генералаў Мураўёва і Курлова. Дзякаваць Богу, што таварыш Сталін не дадумаўся сказаць: «пусть осеняют нас имена Суворова, Муравьева и Курлова». А то б... А вось фельдмаршалу Кутузаву ў нас сапраўды не пашанцавала. Відаць, тыя, што ўвекавечвалі Суворава, палічылі, што Кутузаў яму не раўня. І што тая Айчынная вайна 1812 г. у параўнанні з замардаваным вызваленчым паўстаннем?..






Так выглядаў пляц Волі ў Мінску (ранейшая Саборная плошча) да 1948 года.

Даўно і хранічна хварэе на бяспамяцтва цэлая нацыя. Перыядычна хвароба ўскладняецца «в силу исторических судеб народа». Такія ўскладненні спадарожнічалі нам у 20-я, у 30—40-я, у 50-я гады... Які ўжо тут радавод, якое генеалагічнае дрэва... Пачнеш складаць той радавод, а там раптам у нейкім калене дробны шляхціц, ды пры тым яшчэ войт, або суддзя польны, або кашталян ці маршалак. А калі, ратуй божа, баярын, князь, ці іншы які «эксплуататор трудового народа»! Дзесятаму заказаш маляваць сваё генеалагічнае дрэва, каб апрычнікі не вырвалі яго з каранямі і не пусцілі ў распілоўку. Не тое, што далёкіх продкаў, нават, як бацьку з маткай звалі, забудзеш на гэтай пілараме.

На сваё шчасце большасць княжацкіх ды баярскіх родаў не дажылі да ўсеагульнай выкарчоўкі. Але гэта зусім не значыць, што не было магутных, разгалінаваных крон над каранямі Астрожскіх, Алелькавічаў, Агінскіх, Гедымінавічаў, Гаштольдаў, Пацаў, Хадкевічаў, Кежгайлавічаў, нарэшце, Сапегаў і Радзівілаў, калі браць толькі самыя знатныя радаводы. Яны ж былі не толькі пудзілам, якім мы запужалі самі сябе. Гэтыя людзі ўзначальвалі дзяржаву (тую самую, з суверэнітэтам), абаранялі яе ад ворагаў, вадзілі войскі на татараў і да Грунвальда, былі дыпламатамі, будавалі замкі, крэпасці, храмы, а пры іх школы, мелі і апякалі друкарні. Не было яшчэ дзяржаў і цывілізацый, дзе б пралетарыі і люмпен-пралетарыі самі па сабе, без так званых эксплуататараў, стварылі хоць якую-небудзь культуру. І нам бы, грэшным, зразумець гэтую ісціну, не аблёўваць іх, не абліваць брудам без раз-



Такой была вуліца Няміга ў Мінску якіх дваццаць гадоў назад. Здымак зроблены З. Пазняком у 1967 годзе.




Так выглядаў будынак тэатра імя Янкі Купалы да рэканструкцыі 1958 года.

бору і без розуму. Прадстаўнікі ж многіх з пералічаных магнацкіх сем'яў былі вялікімі князямі Вялікага княства Літоўскага, яго канцлерамі і гетманамі. Менавіта яны і іх прыхільнікі выбіралі караля Польшчы.

Каб выклікаць павагу сучасніка да знакамітых дзеячаў мінуўшчыны, назавем хоць бы гетмана Канстанціна Астрожскага. Ён не толькі выйграў больш за 60 бітваў з татарамі і іншымі набежнікамі, але быў міласнікам царквы і кнігі. Вучоныя мяркуюць, што ён таксама быў у ліку фундатараў справы Францыска Скарыны. Не ўступаў яму ў знакамітасці і ўплыве на развіццё дзяржавы і барацьбіт з каталіцкай экспансіяй на праваслаўную Белую Русь і Украіну Канстанцін Канстанцінавіч Астрожскі. Яго стараннямі былі заснаваны першыя школы ў Слуцку, Тураве, Уладзіміры-Валынскім. Ім была наладжана друкарня ў Астрогу, дзе здзейсніў свой подзвіг наш зямляк Іван Фёдараў (Хведаровіч) з нашым жа земляком Пятром Мсціслаўцам.

Агінскія... Яны таксама пакінулі вечны след у справах палітычных, дыпламатычных, рэвалюцыйных і культурных. А можа ў знак удзячнасці хоць бы за паланеза «Развітанне з Радзімай» мы разбурылі і заплявалі «гняздо» гэтай сям'і? Што нам тыя магнацкія паланезы!.. За некалькі дзесяткаў гадоў «вучоныя» і «палітыкі» здолелі загнаць у абойму цемрашалаў цэлую плеяду выдатных асветнікаў свайго народа, ды і не толькі свайго.

Цывілізаваны свет ужо стагоддзі захапляецца подзвігам сыноў балгарскага народа Кірылы і Мяфодзія і аддае ім належнае сваёй памяццю і павагай. А хіба так ужо далёка стаяць ад іх па значымасці нашы асветнікі Кірыла Тураўскі і Ефрасіння Полацкая, узведзеныя царквой і народам у ранг святых? А хіба не выклікаюць здзіўлення творы іх паплечнікаў мастака Лазара Богшы і дойліда Іаана? А хіба не іх нашчадкі аздаблялі саборы і палацы ў Маскве на дзіва ўсяму свету?

А вазьміце больш позні час і яго герояў! Францыск Скарына — асветнік, філосаф, перакладчык, мастак, першадрукар усходнеславянскага свету, які першы паказаў харáство, моц і багацце роднай беларускай мовы, перакладчык на яе найскладанейшы помнік культуры чалавецтва! А мы, такія сёння адукаваныя, крывімся ў бок гэтай мовы, як прымітыўнай, недаразвітай. Не, не мова ў нас прымітыўная і недаразвітая, а нешта іншае...

А равеснік Скарыны і яго аднадумец Мікола Гусоўскі са сваёй геніяльнай «Песняй пра зубра»! Дарэчы, той самай Песняй, вакол якой так насцярожана многа гадоў хадзіла наша «навука», выпрашаючы: прызнаваць ці не прызнаваць. А як жа, Песня напісана на чужой лаціне! Яна (навука) ніяк не магла ўцяміць, што лаціна па тым часе сведчыла пра самы высокі клас у паэзіі, а паэт рызыкнуў выйсці са сваёй Песняй на суд Еўропы!

Горка ад таго, што ў нас практычна няма каму займацца такім ёмістым пластом лацінскай беларускай паэзіі, ды і культуры наогул. Меркавалася некалі адкрыць пры АН БССР спецыяльны сектар па вывучэнню беларускай спадчыны на лаціне, але так і не адкрылі, дажыўшы да эпохі новага Адраджэння. Што ж далей?!

А хіба наша такое цывілізаванае сучаснае грамадства глыбока і шырока ведае спадчыну Афанасія Філіповіча (1597 — ? гг.) — беларускага грамадскага, палітычнага і царкоўнага дзеяча. Сёння толькі вузкаму колу даследчыкаў вядома, што менавіта яму, Афанасію Філіповічу, належыць самы ранні з вядомых нотны запіс музыкі.

Не рэабілітаваныя перад народам, маловядомыя для шырокай грамадскасці многія магутныя фігуры «цемрашалаў», якімі б па праву ганарыўся любы цывілізаваны народ. Маю на ўвазе пісьменніка-палеміста і выдаўца Стафана Зізанія (XVI — пач. XVII ст. ), беларускага гуманіста і радыкальна-рэфармацыйнага дзеяча, кнігавыдаўца Васіля Цяпінскага (1540 (?) — 1604 (?) ), ідэолага левай плебейска-сялянскай плыні радыкальна-рэфармацыйнага руху на Беларусі Якуба з Калінаўкі ў 2-й палове XVI ст.

Крыху ў лепшым становішчы, але далёка не ў становішчы нацыянальных герояў-асветнікаў, сёння знаходзяцца імёны гуманіста, рэфармацыйнага дзеяча і асветніка, філосафа, філолага і гісторыка Вялікага княства Літоўскага — Сымона Буднага (1530 (?) — 1593 ); беларускага і ўкраінскага царкоўнага і грамадска палітычнага дзеяча, пісьменніка-палеміста — Мялеція Сматрыцкага (1572 (?) — 1633); беларускага і рускага грамадскага і царкоўнага дзеяча, пісьменніка і публіцыста, настаўніка ў сям'і цара Аляксея Міхайлавіча — Сімяона Полацкага (1629 — 1680); беларускага мысліцеля-атэіста, матэрыяліста, нашага Джардана Бруна — Казіміра Лышчынскага. Апошні за трактат «Аб неіснаванні бога», у якім ён сцвярджаў, што свет існуе вечна, а прырода развіваецца па ўласных законах, быў прыгавораны сеймавым судом да смяротнай кары і спалены на кастры ў Варшаве. Дык ці варты гэтыя подзвіг нашай памяці?

«Праніклівы» чытач, напэўна, падумаў: што гэта Петрашкевіч так абараняе магнатаў і цемрашалаў? І чаму гэта мы менавіта з іх павінны пачынаць увекавечанне?.. У нас жа не шануецца памяць нават Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага. Мы ж і да іх не ставімся як да нацыянальных герояў. А калі пачаць з герояў больш ранняй эпохі? Скажам, з Міхайлы Крычэўскага і Іллі Гаркушы (Філона) — паплечнікаў Багдана Хмяльніцкага ў час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648 — 1654 гг. Хіба ўзведзены мемарыялы? Хіба яны сталі героямі раманаў, аповесцей ці гістарычных драм? Чаго не чуў, таго не чуў... А дзе і куды пакласці кветкі ў знак памяці і павагі да Стахора Мітковіча — кіраўніка антыфеадальнага паўстання ў Магілёве на пачатку XVII ст.? Тое ж пытанне можна паставіць і адносна кіраўніка антыфеадальнага паўстання 1743 — 1744 гг. Васіля Вашчылы. А што мы чулі і што ведаем пра слаўнага Рамуальда Тройгута — аднаго з кіраўнікоў паўстання 1863 — 1864 гг., павешанага карнікамі ў Варшаве? І хто можа назваць хоць адну гаспадарку, хоць адну школу, хоць адзін завулак, названыя ў яго гонар? Ніхто! Забыліся і на Казіміра Чарноўскага — самааддана рэвалюцыянера першай паловы XIX ст. і, між іншым, першага вынаходніка падводнага карабля. Памёр Чарноўскі ў царскай ссылцы пад 1847 г. А дзекабрысты Андрэй і Пётр Барысавы? А рэвалюцыянер-народнік Анатоль Бонч-Асмалоўскі? І, нарэшце, Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны). Вядома, раней пералічаныя — гэта магнаты, дваране, буржуі, а гэты ж свой, савецкі і камуністычна-інтэрнацыяналістычны ад макушкі да пятак. А дзе яму помнік, дзе мемарыял? Можа, у Капылі, дзе нарадзіўся, можа, у Магілёве, дзе быў задушаны, можа, у Мінску, дзе перажыў шчасце і пакуты, і дзе абвясціў «Маніфест Часовага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі»? Між іншым, гэты дакумент сцвердзіў стварэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, замацаваў палітычныя і эканамічныя заваёвы рабочых і сялян. А за гэтыя заслугі яму, першаму прэм'еру БССР, прышпілілі ярлык нацыяналіста. Спроба ж вашага аўтара разам з кінадраматургам Уладзімірам Халіпам стварыць фільм, прысвечаны Цішку Гартнаму, ужо напярэдадні эпохі перабудовы выклікала такі перапалох і гнеў аднаго з былых сакратароў, што аўтары сцэнарыя дзесятаму заказалі. Вось народ наш і асабліва яго начальства і ганарацца сваёй глыбокай пашанай «інтэрнацыяналістаў», накшталт Урыцкага ды Валадарскага, або Кнорына і Мяснікова; якія «в упор» не бачылі беларускай нацыі і са зброяй у руках адмаўлялі ёй у праве на ўласную мову, культуру і гісторыю. «Мы считаем,— пісаў Кнорын,— что белорусы не являются нацией, и что те этнографические особенности, которые отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Нашей задачей является не создание новых наций, а уничтожение старых национальных рогаток, не существовавших до сих пор, а поэтому коммунисты не могут в каком бы то ни было виде принимать участие в этом движении». Вось тут, напэўна, варта ўспомніць Дастаеўскага і трактоўку яго герояў вялікім рускім філосафам Мікалаем Бярдзяевым: «Халуй Смердзякоў быў у нас адным з першых інтэрнацыяналістаў, і ўвесь наш інтэрнацыяналізм атрымліваў смердзякоўскую прышчэпку. Смердзякоў прад'явіў правы на бясчыннасць, і за ім многія пабеглі... Смердзяковы рэвалюцыі, ажыццявіўшы на справе прынцып Івана «ўсё дазволена», маюць падставы запытацца ў Іванаў рэвалюцыі: «теперь-то почему так встревожены сами-то-с?»

Хіба ўсе дзівосы пералічыш у адным артыкуле. Хацелася толькі сказаць і падкрэсліць, што гісторыя наша надзвычай багатая сапраўднымі героямі, і багацце гэтае склалася, накапілася не за дзесяцігоддзі, а за многія стагоддзі. Час адабраў тых, каму наканавана бессмяроцце, па крайняй меры да таго часу, пакуль жывуць нашчадкі, пакуль жыве народ, нацыя. Гісторыя зафіксавала нямала. Нават тое, што данеслі да нас уцалелыя летапісы, выклікае захапленне гістарычнай значнасцю гістарычных постацей. На самой справе, толькі перабяруце ў памяці: Полацкі князь Рагвалод (? — 980), забіты кіеўскім князем Уладзімірам Святаславічам за свабодалюбства, самастойнасць і непадлегласць чужой волі; яго дачка, пакутніца Рагнеда, якой было наканавана лёсам стаць жонкаю забойцы Уладзіміра і адыграць не апошнюю ролю ў хрышчэнні

Русі! А сын Уладзіміра і Рагнеды, якому суджана было аднавіць дынастыю полацкіх князёў і пабудаваць горад Ізяслаў (Заслаўе)! А князь Полацкі Усяслаў Брачыславіч (? — 1101) — герой былін, паданняў і «Слова аб палку Ігаравым», празваны Чарадзеем за рашучасць, розум і энергію! А Барыс Усяславіч па прозвішчу Рагвалод (? — 1128), з імем якога звязаны надпісы на так званых Барысавых камянях, якія хоць і не ўсе, але дажылі да нашых дзён. Відаць, у барацьбітоў супраць уласнай памяці не хапіла дынаміту... Толькі на маёй талачыншчыне было два такіх камяні: «Господи помози рабу своему Борису».

Неба, дапамажы майму народу вярнуць сабе гістарычную памяць і ўласны гонар! Бо яны ж былі і ў часы князя Андрэя Полацкага (1323 — 1399), які стаяў з палкамі супраць лівонскага ордэна і біў татар на Куліковым полі, і пры вялікіх князях Вялікага княства Літоўскага Гедыміне, Альгердзе, Ягайле, Вітаўце, Скіргайле. Іншая справа ў тым, наколькі мы пра гэта ведаем, або хочам ведаць. А некаторых з пералічаных герояў гісторыі мы вельмі проста і з задавальненнем аддалі суседзям. А нам яны навошта?.. Князь з возу — манкуртам палёгка...

А мне не лёгка і не проста пісаць гэты артыкул, бо за спіною ў мяне кніжныя паліцы, на якіх стаяць больш за паўтараста тамоў беларускіх энцыклапедычных кніжак, а на стале маім слоўнікі — шматтомнай энцыклапедыі гісторыі Беларусі і аднатомнай энцыклапедыі «Мысліцелі і асветнікі Беларусі». Якое ж гэта багацце чалавечага розуму, якая шырыня падзей! Толькі ў гэтым адзіным томе будуць змешчаны артыкулы пра 4500 нашых суродзічаў, якія прысвяцілі сваё жыццё асвеце народа і пошуку філасофскіх ісцін. І ў тых тамах, што ўжо стаяць на паліцах, усё пра тое ж. Чытайце на здароўе і на добрую памяць.

Дарэчы, у розных нашых энцыклапедыях мы ўжо на працягу больш двух дзесяцігоддзяў настойліва, паслядоўна, абапіраючыся на факты і дакументы, пішам, што беларуская народнасць склалася да IX — XIII ст.ст., што нацыя сфарміравалася і выспела да адмены прыгоннага права, што народ наш меў сваю дзяржаўнасць, карыстаўся ўласнай дзяржаўнаю мовай, быў багаты вуснай народнай творчасцю, ствараў адносна высокія ўзоры прафесійнага мастацтва, займаў не апошняе месца ў Еўропе па развіццю эканомікі. Нарэшце, нікому ў царскай імперыі не ўступаў па ўзроўню адукаванасці. Шкада, што не да ўсіх гэта даходзіць. Не ўсе гэтаму бяссрэчна вераць!

Доказу таго, што народ наш варты свайго лёсу, прысвяцілі свае сілы, розум і жыцці многія беларускія вучоныя і літаратары XIX — пачатку XX ст. Сярод іх надзвычай яркія асобы фальклярыстаў-этнографаў, археолагаў, мовазнаўцаў, славяназнаўцаў, гісторыкаў, дзеячаў нацыянальнага тэатра. І трэба зазначыць, што большасць з іх былі перадавых, рэвалюцыйных поглядаў на жыццё. Назавем з удзячнасцю хоць Яна Чачота, Адама Кіркора, Марціна Пачабута-Адляніцкага, Канстанціна і Яўстафія Тышкевічаў, Браніслава Эпімаха-Шыпілу, Зарыяна Даленгу-Хадакоўскага, Уладзіслава Сыракомлю, Тодара Нарбута, Арцё-



Т. Касцюшка.

ма Вярыгу-Дарэўскага, Еўдакіма Раманава, Мікалая Нікіфароўскага, Мітрафана Доўнар-Запольскага, Адама Гурыновіча, Адама Багдановіча, Яўхіма Карскага, Міхала Федароўскага.

Толькі гістарычнай несправядлівасцю можна вытлумачыць, што іх памятныя мясціны пры нашай затурканасці занялі і трымаюць за сабой Свярдловы, Калініны, Урыцкія, Валадарскія, Кнорыны ды Мяснікoвы, якія акрамя пакут ды прыніжэння, нічога беларускаму народу не прынеслі.

Зроблена нашымі вучонымі-патрыётамі неверагодная вялікая работа, каб даказаць свету, што народ наш мае права людзьмі звацца. І тым не менш, і як не дзіўна, гэтага аказваецца недастаткова для афіцыйнай навукі і афіцыйнай прапаганды, якая ўсё яшчэ талдычыць пра цёмную, забітую, неадукаваную ўскраіну царскай Расіі, якая нібыта да Кастрычніка 1917 г. не мела вышэйшых навучальных устаноў і школ. Былі, былі ў нас аж тры вышэйшыя навучальныя ўстановы, шэраг настаўніцкіх семінарый, гімназій і школ! Не былі мы ніякай ускраінай ніякай імперыі. Калі ўжо гаварыць пра геаграфію, то была Беларусь недзе пасярэдзіне Еўропы. І прадукцыйнасць працы ў Беларусі была не ніжэй, чым у метраполіі. І з медыцынай было не горш, чым у суседзяў. Пры забароне нацыянальнай мовы ў ёй развівалася літаратура і прафесійнае мастацтва. Квітнела народная творчасць і фальклор (ва ўсякім выпадку ў параўнанні з сягоняшнім днём). А чаго вартыя толькі такія пісьменнікі, як Альгерд Абуховіч, Вікенцій Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, Элаіза Пашкевіч (Цётка)! А мастакі: Ян Дамель, Іосіф





Мерачоўшчына (Івацэвіцкі раён) — дом, дзе нарадзіўся Т. Касцюшка. Знішчаны ў першую сусветную вайну.

Аляшкевіч, Іван Хруцкі, Валенцій Ваньковіч, Фердынанд Рушчыц, Нікадзім Сільвановіч, Язэп Драздовіч!

А цяпер колькі слоў пра адукацыйны цэнз беларускага народа. Хлусня, злосная хлусня, што з дзесяці беларусаў да рэвалюцыі 8 былі непісьменнымі. Па перапісу 1897 г. прыкладна ў межах сучаснай Беларусі пісьменных мужчын было 36,4%, жанчын —15,2%. У заходніх жа ўездах Беларусі адукаванасць насельніцтва складала больш за 40%. У Віленскай губерні ў 1888 г. сярод навабранцаў пісьменных было 19,5%, у 1897 г.—34,1% і ў 1910 г.—54,6%. У Магілёўскай губерні ў 1897 г.—39,0%, а ў 1913 г.—79%. І гэта яшчэ ў 1846 г. непакоіла начальніка акругі жандараў генерала Буксгеўдзена: «Свобода поступления в высшее училище (у сапраўднасці гаворыцца пра сярэднюю школу— *А. П.*), кроме вреда ничего не приносит, ибо какую, например, пользу сделает для общества мещанин или другой разночинец тем, что пройдет четыре или пять классов?» А крыху пазней другі жандарскі генерал Куцынскі з трывогай пісаў, што ў заходнім краі «есть общее расположение к образованию,— это отличительный характер страны... Грамотные бродяги здесь на каждом шагу... В крае увеличивается число грамотных и ученых негодяев, пренебрегающих ремеслом отцов».

Не больш, але і не менш таго...

Разняволенне, якое прынесла беларускаму народу Кастрычніцкая рэвалюцыя, выклікала літаральны выбух нацыянальнага адраджэння і велізарную цягу да навукі і беларусізацыі ўсіх сфер і кірункаў народнага жыцця. Спелае зерне народнай свядомасці падала на спрыяльную глебу, што рыхтавалася для пасеву вякамі. Але... Ужо 20-я, не кажучы пра 30-я, гады прынеслі загубу амаль усёй беларускай інтэлігенцыі, а разам з ёю і беларускай мове, беларускай культуры. З паляваннем на ведзьмаў (чытай нацдэмаў) пачалася і беспардонная фальсіфікацыя гісторыі Беларусі. Лёс народа і яго культуры на доўгія гады аказаўся пад гнётам вульгарна-жывёльнага сацыялагізму. Пачалося руйнаванне культуры народа і яго гістарычнай памяці. Знішчэнне духоўных здабыткаў і помнікаў матэрыяльнай культуры — замкаў і сядзіб, цэркваў і касцёлаў, культавага жывапісу і скульптуры, помнікаў драўлянага дойлідства, старажытнага друкарства, незлічонага багацця літаратуры, што на дзесяцігоддзі трапіла ў спецхраны, нанесла такі ўдар па народнай памяці, што ён (народ), нарэшце, здаецца, не апрытомеў і не ачомаўся да сёння. Інакш адкуль той нацыянальны нігілізм беларуса, які мы ўсе назіраем увачавідкі? Адкуль жа тады тая непавага да сваёй мовы, да сваёй гісторыі і нават да сваіх недалёкіх продкаў? Чаму сярод нас такі жывучы і дзейсны Мікіта Зносак?..

Можна яшчэ неяк зразумець, калі па ўстаноўцы ці ініцыятыве ўлад разняволены люд руйнаваў усыпальніцы князёў і магнатаў без разбору, хто з іх чаго варты. Цяжэй зразумець варварства, учыненае над прахам караля чужой дзяржавы. І ніяк не вытлумачыць той энтузіязм, з якім бурыліся цэрквы, касцёлы, мячэці, тут жа руйнаваліся могілкі сваіх продкаў, якіх тады яшчэ можна было


Памятная пліта на Лукішскім пляцы у Вільні.

хоць бы па надпісах на помніках пералічыць аж да сёмага калена.

Неверагодна, але факт, што знішчана было ўсё адразу: і помнікі, і прах продкаў, і сувязь часоў. І гісторыя пачалася ад нуля, а культура ад гэтай самай новай гісторыі. Што мы ад усяго гэтага маем сёння, гаварыць не трэба... Няма патрэбы і даказваць, чаму сёння роды і сем'і беларусаў не маюць радаводу, не ведаюць, чым славіліся іх прашчуры. У гэтым проста няма ўнутранай, душэўнай патрэбы. Пагібель радаводу, занядбанне памяці блізкіх і далёкіх продкаў, адсутнасць цікавасці да гісторыі як малой, так і вялікай Радзімы, занядбанне шматвяковых традыцый прывяло нас да маральнага і духоўнага ўбоства. Карацей, маральны Чарнобыль адбыўся задоўга да таго, як разваліўся рэактар, бо перманентны вандалізм здаўна прыжыўся на нашай зямлі-пакутніцы.

Дайшоўшы да гэтай мясціны свайго сумнага апавядання, дай думаю, пазваню нашаму выдатнаму археолагу, сапраўднаму барацьбіту за зберажэнне помнікаў айчыны Пятру Фёдаравічу Лысенку, запытаю, якія там навіны на яго «ўчастку фронту». Размова была доўгаю. Калі б яе запісаць на магнітафон ды пасля перавесці на паперу, быў бы асобны артыкул пра наша варварства, у якім дзесяткі гадоў удзельнічаюць нашы людзі ад міністра да бульдазерыста. Паведаміў мне Пётр Фёдаравіч, што ў 1970 г. у нас было яшчэ 3008 помнікаў археалогіі — курганоў, гарадзішчаў, замчышчаў. К 1983 г. іх засталося толькі 1978. Розніца паміж гэтымі лічбамі пайшла пад бульдозер па прычыне нашай усеагульнай дурноты і з дазволу кіраўнікоў і Дзяржбуда, і Дзяржплана, і Міністэрства міліярацыі і Міністэрства культуры. «Пасля 1985 г. археолагі больш не вядуць уліку разбурэнняў,— кажа Пётр Фёдаравіч.— Змарыліся і зняверыліся. Хоць і рыхтуем чарговую, можа сотую, а можа трохсотую дакладную. На гэты раз старшыні камісіі па культуры Вярхоўнага Савета БССР Нілу Гілевічу. Можа, хоць ён заступіцца за помнікі, стане перад бульдозерам дурноты». Прыкладаў мой субяседнік назваў дзесяткі — адзін страшней другога. Перакажу толькі два: з блаславення намесніка міністра культуры БССР і намесніка Дзяржбуда БССР знішчана недаследаванае гарадзішча старажытнага Слуцка — на яго месцы «возвели» дом культуры. (Во культура!) А ў вёсцы Скорынічы ў 1987 г. былі знішчаны недаследаваны помнік X—XII ст. А ў гэтым годзе каля той жа вёскі старшыня калгаса загадаў бульдазерысту зруйнаваць 45 старажытных курганоў. Бульдазерыст пратэставаў, плакаў... і руйнаваў. Старшыню гэта не кранула...

Барацьбу з дурнотаю вядзе, вядома, не адзін Лысенка. Усе нашы выдатныя археолагі вядуць няроўную барацьбу, ды хто іх слухае. Ачумненне калі і прыходзіць, то ўсеагульнае...

...Памятаю, як у пачатку 50-х гадоў пры пашырэнні вуліцы Даўгабродскай бульдозерамі пляжылі могілкі каля касцёла святога Роха. Экскаватары грузілі зямлю з касцямі, чарапамі, рэшткамі дамавін і надмагілляў. Відовішча было жахлівым, хоць, як мне тады падалося, нікога не кранала. А было гэта нешта горшае за звычайнае блюзнерства. Наогул жа пад той час была нейкая пошасць на разбурэнне старых могілак. Так, у Мінску зніклі могілкі на ўзгорку паблізу сучаснай новай гасцініцы «Беларусь», за імі былі разбураны яўрэйскія могілкі, потым нямецкія. З таго часу і да сёння руйнуюцца магілы і помнікі над імі на Кальварыйскіх могілках. А там жа столькі магіл знакамітых людзей, што ў свой далёкі і не вельмі далёкі час унеслі неацэнны ўклад у нашу культуру, мастацтва, навуку, урэшце, у будаўніцтва таго горада, у якім мы жывем.

Хіба можна ўвогуле паднімаць руку на памерлых і трывожыць іх прах?! Ім, памерлым, канешне, усё роўна. А нам, жывым? Няма патрэбы даказваць, што разбураючы чужыя магілы і помнікі над імі, мы становімся дзікунамі? Магілы ж продкаў шанавалі нават першабытныя людзі, што жылі ў пячорах. Над магіламі ўчынялі ўрачыстыя памінальныя трызны, насыпалі курганы. Душы продкаў клікалі «на дзяды», раіліся з імі, давалі ім справаздачу пра сваё зямное жыццё-быццё. І было гэта не столькі ад рэлігіі, колькі ад звычайнай чалавечай сутнасці, унутранай патрэбы.

А ці ўсе мы сёння ходзім і ездзім на могілкі, дзе ляжаць нашы блізкія, ці ўскладаем на іх кветкі, ці размаўляем з іх душамі ў радасныя і сумныя часіны нашага жыцця? Наўрад ці ўсе мы робім гэты святы рытуал, які, зноў жа, трэба не памерлым, а жывым.

Каб пераканацца ў людской глухаце і абыякавасці да магіл продкаў, паглядзіце на апошнія прыстанішчы нашых многіх знакамітых сучаснікаў — літаратараў, вучоных, мастакоў, кампазітараў, артыстаў. Упэўніцеся, што многія з іх зараслі чартапалохам пры жывых нашчадках. Толькі паасобныя магілы знакамітасцей выглядаюць дагледжанымі. За аднымі ўсё ж яшчэ глядзяць блізкія, за другімі замацаваныя грамадскія арганізацыі ці ўстановы. Дрэннага, вядома, у гэтым нічога няма, але ўсё ж... душы, пэўна, не выходзяць на кантакт з натоўпам.

Клопат пра дзяржаву, пра яе народ, пра яго культуру, маральнасць, духоўнасць, як мне здаецца, пачынаецца з павагі да сваіх продкаў самых блізкіх і самых далёкіх, да таго, што яны паспелі зрабіць, што змаглі нам пакінуць, каб даць магчымасць ісці далей і падняцца вышэй... Таму я і пачаў гэты артыкул з часоў Рагнеды, Кірылы Тураўскага, Ефрасінні Полацкай... Там нашы карані, там аснова нашай чалавечай годнасці.

...Шкадую толькі, што не паспеў сказаць пра бязглуздую, ідыёцкую пастанову ўлад аб тым, што любыя могілкі можна зруйнаваць праз 20 гадоў, як яны закрыюцца. Мне здаецца, гэта тое самае, што бульдозерам па звілінах, што кувалдай па памяці, што сякерай па жывому дрэву гісторыі...

Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

# ЗАЙГРАЙ, ДУДКА БЕЛАРУСКАЯ!

Нарэшце, прыйшоў час пагаварыць пра стварэнне ў Мінску музея народных музычных інструментаў. Як тут з горыччу не прыгадаць, што браты Іван і Антон Луцкевічы на свае грошы сабралі і адпісалі беларускаму народу шмат розных рэчаў, якія склалі аснову Беларускага музея ў Вільні. Фонды гэтага музея колькасцю ў сто тысяч адзінак захоўваюцца цяпер у Музеі гісторыі і этнаграфіі Літоўскай рэспублікі. Там мне на ўласныя вочы гадоў дзесяць таму назад пашчасціла бачыць сотні беларускіх жалеек, дудак, пастуховых труб з усіх куткоў этнаграфічнай Беларусі. Даўно ў многіх краінах свету існуюць музеі нацыянальных музычных інструментаў. На жаль, у нашай рэспубліцы такога музея няма, нягледзячы на пакінуты нам збіральнікамі вялікі нацыянальны скарб, на здабыткі сучасных майстроў-аматараў.

Важным крокам для стварэння такога музея, для адраджэння творчасці музычных майстроў можа і павінна стаць першая рэспубліканская выстава музычных інструментаў, якая пачала дзейнічаць у Дні славянскага пісьменства ў маі гэтага года ў Дзяржаўным музеі БССР і будзе працягваць работу да снежня. Гэта адна з першых грамадскіх акцый Асацыяцыі музычных майстроў Музычнага таварыства БССР, акцыя аднагчасова плённая і вельмі складаная ў ажыццяўленні.

Шмат для каго з гледачоў гэта выстава ўпершыню дала магчымасць пазнаёміцца з багатым светам музычных інструментаў, якімі спакон веку карысталіся беларусы. І ў рэшце рэшт — пабачыць (хай бы яшчэ і паслухаць) выдатныя прафесійна зробленыя скрыпкі, жалейкі, цымбалы, дуды, саломкі, ліры і г. д. Дыяпазон выставы шырокі. Мусіць, мы б не пабачылі гэтага багацця, каб у свой час не былі б рупліва сабраныя і набытыя гэтыя інструменты супрацоўнікамі розных музеяў рэспублікі (Мінска, Віцебска, Гомеля, Гродна, Полацка, Браслава і іншых). Каб пасля яны не былі б старанна адрэстаўраваны ў вытворчым камбінаце па рамонту, рэстаўрацыі і вырабу музычных інструментаў у Мінску. Каб за ўсім гэтым не стаяла ініцыятыва Дзяржаўнага музея БССР, Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АН БССР, Музычнага таварыства БССР, Міністэрства культуры БССР.

Музычны майстар Іосіф Ульянавіч Дударэвіч з Баранавіч (а ён — член Усесаюзнага музычнага таварыства) расказваў, як на адным з пасяджэнняў таварыства ў Маскве быў вельмі здзіўлены, калі пачуў, што на Беларусі знікае майстэрства вырабу музычных інструментаў. Ці ж гэта так? У нас ёсць майстры нават сусветнага ўзроўню.

У Мінску жыве і працуе выдатны майстар-прафесіянал А. А. Чайкоў, скрыпка якога адзначана дыпломам Страдывары ў Італіі. Сярод паважаных старэйшын гэтай справы В. С. Пратасевіч (в. Калодзішчы Мінскага р-на), І. У. Дударэвіч (г. Баранавічы), М. Д. Старавойт (в. Заводны Востраў Мазырскага р-на). Іх інструменты сёння купляюцца ў Маскве. На запрашэнне прыняць удзел у выставе некаторыя са славутых майстроў, як, напрыклад, В. С. Пратасевіч, адказалі,

што ў іх хатніх калекцыях такая колькасць зробленых імі музычных інструментаў, што прывезці іх у Мінск проста немагчыма.

Шмат сярод майстроў маладых, апантаных справай людзей: У. Г. Ключнікаў і В. Б. Салаўёў з Мінска (выраб смыкоў), А. У. Лось з вёскі Зарудзічы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобл. (дуда, ліра), А. У. Жукоўскі з Мінска (ліры, жалейкі, дудкі, басэтлі). Маюцца і свае прафесійныя дынастыі. Напрыклад, дынастыя Жукоўскіх — бацька, сын, унук. Сярэдні з іх, Усевалад Фёдаравіч, вырабіў больш за 130 розных музычных інструментаў. Ягоны бацька займаўся ў асноўным скрыпкамі. А што яшчэ мусіць зрабіць унук!

Традыцыйна майстрамі па вырабу музычных інструментаў станавіліся сталяры, бо справай гэтай даводзіцца займацца ўручную ў хаце. Але анкеты ўдзельнікаў выставы сведчаць, што сярод маладых аматараў з'явіліся і электрыкі, заатэхнікі, артысты, культработнікі, мастацкія рэдактары, нават кандыдаты філасофскіх і сельскагаспадарчых навук.

Наша ўсеагульная дзяржаўная беднасць на музычныя інструменты прымусіла брацца за іх выраб і кіраўнікоў музычных калектываў. Для кіраўніка ансамбля «Дударыкі» Мінскай сярэдняй школы № 11 Д. Д. Равенскага — гэта дудкі, для У. І. Казака — трашчоткі, лыжкі, каробачкі, бубны, саломіны, якія сталі неабходныя для яго жонкі, кіраўніцы дзіцячага фальклорнага калектыву. А славутага музыку У. М. Грома, кіраўніка «Крупіцкіх музыкаў», тая ж бяда прымусіла захапіцца вырабам пастуховых труб. Некаторыя з прафесійных майстроў і майстроў-аматараў, што ўдзельнічаюць у выставе, маглі б стаць заснавальнікамі школ па мастацтву стварэння музычных інструментаў. Да таго ж яны самі добрыя музыкі, здатныя перадаваць майстэрства ігры на дудах, скрыпках, цымбалах, жалейках, чаротцы, акарыне, дудзе ці ліры. На жаль, ім перашкаджае безліч праблем. Вось урывак з ліста У. Ф. Жукоўскага:«Як майстар, буду вельмі ўдзячны Міністэрству культуры і Музычнаму таварыству, калі мне за мае грошы будуць выдзяляць якасныя струны для смыкавых інструментаў, а таксама спірт для прыгатавання лаку. Працуючы шмат гадоў з растваральнікамі лаку 646 і 647 для вырабу лаку і нанясеннем гэтага лаку на інструменты, я, «дзякуй богу», атрымаў інфаркт. Дык пашкадуйце ж мяне — дайце ж мне спірту, каб я не атрымаў апошняга ў жыцці інфаркта. Пакінуць жа сваю працу па вырабу музычных інструментаў, вельмі патрэбных людзям, для мяне азначае загубіць жыццё».

Да стварэння Асацыяцыі выраб інструментаў знаходзіўся ў дужа раз'яднаным стане. Аўтарам навуковай канцэпцыі першай рэспубліканскай выставы, стваральнікам яе тэматычна-экспазіцыйнага плана, клапатлівым збіральнікам, які падрыхтаваў фотазапісы для «агучвання» традыцыйных народных інструментаў у вітрынах выставачнай залы, стала старшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР, кандыдат мастацтвазнаўства І. Д. Назіна. Справы з нацыянальнымі інструментамі ў нас у рэспубліцы, як лічыць даследчыца, катастрафічныя. Пасля смерці выдатных майстроў, такіх, як У. А. Крайко, інструменты якога захоўваюцца ў музеях Стакгольма, Ленінграда, Мінска, І. І. Лычкоўскага і іншых, зніклі сакрэты іх майстэрства. Рэспубліка не мае ўласнай музычна-акустычнай лабараторыі, высакаякасных матэрыялаў для інструментаў, неабходных памяшканняў для майстроў, прылад. Праўда, апошнім часам справы палепшыліся. І адно са сведчанняў гэтага — правядзенне першай рэспубліканскай выставы музычных інструментаў.



Выстава мае тры асноўныя раздзелы: традыцыйныя музычныя інструменты беларусаў з часоў неаліту да нашых дзён; інструменты сучасных музычных майстроў, народных і прафесійных; прафесійныя музычныя інструменты — рарытэты XVII—XX ст.ст. Згрупаваны яны ў вітрынах па відавочных прыкметах найбольш распаўсюджаных беларускіх ансамбляў: палескі гурт — скрыпка, бубен; заходнебеларуская капэля — гармонік, капшук, бубен; паўночна-беларускі ансамбль — дуда, скрыпка.

Рэдкія старажытныя прафесійныя інструменты, якімі магла б ганарыцца кожная сур'ёзная навуковая выстава,— скрыпкі Маджыні, Гальяна, з калекцыі Дзяржаўнага музея БССР — былі адразу ж пасля адкрыцця экспазіцыі вернуты ў сховішча, з-за адсутнасці спецыяльнай аховы ў зале. Але экспазіцыю ўпрыгожваюць флейты, габоі з калекцыі А. А. Прыходзькі, трагічна загінуўшага артыста філармоніі, балалайка пачатку XX ст. з калекцыі дацэнта Белдзяржкансерваторыі В. М. Шчарбака, старадаўняе адрэстаўраванае спецыяльна для выставы фартэпіяна, выробленае ў Мінску на пачатку XX ст. і знойдзенае на адной са старых кватэр навуковым супрацоўнікам Дзяржаўнага музея БССР А. А. Александрэнка. Сярод экспанатаў унікальныя латунныя муштукі да труб з калекцыі тэнара-барытона А. У. Парфімовіча.

На жаль, наведвальнікаў у музеі на вуліцы К. Маркса не шмат. Мала цікавімся мы гісторыяй сваёй культуры, яе набыткамі, мусіць, адна з важных прычын абыякавасці наведвальнікаў — даволі сумны, ціхі выгляд самой выставы. Шкада, што першы паказ нацыянальных музычных інструментаў не дае людзям магчымасці паслухаць жывое гучанне галасоў сабраных інструментаў. Трэба сказаць, што спецыяльныя касеты з запісамі галасоў лепшых музыкаў, выканаўцаў на рэдкіх інструментах былі падрыхтаваны загадзя, але абслугоўваючы персанал выставачнай залы лічыць для сябе гэту работу залішне клопатнай і таму не патрэбнай. І тут хочацца прыгадаць такі славуты музей, як музей Чурлёніса, дзе музыка выдатнага літоўскага кампазітара-класіка ні кому не ў цяжар. Менавіта яна надае наведвальнікам пачуццё той крохкасці, празрыстай чысціні, якой дыхаюць жывапісныя палотны вялікага майстра.

Выстава дае магчымасць упэўніцца, што не знікла на Беларусі старажытнае майстэрства вырабу народных інструментаў. Ёсць шмат сапраўдных прафесійных майстроў. Але каму і дзе змогуць яны перадаваць свае прафесійныя сакрэты? Ці не прыспеў час падумаць пра стварэнне школы беларускіх музычных майстроў, пра наладжванне стабільнай навуковай работы?

**Галіна ТАЎЛАЙ**

# ПАХОДЖАННЕ ДЗЯРЖАВЫ НА БЕЛАРУСІ

Сучасны стан лінгвістыкі, археалогіі ды іншых гістарычных навук дазваляе лепш спазнаць нашу старажытную гісторыю, даведацца пра народ, які ў V—IV ст.ст. да нашай эры жыў на тэрыторыі паміж рэкамі Заходняй Дзвіной і Прыпяццю і паміж Заходнім Бугам і Сярэднім Дняпром, займаўся рамяством, земляробствам і хатняй жывёлагадоўляй.

У першых стагоддзях нашай эры народы Усходняй Еўропы ўжо вялі гандаль. Ад таго часу засталіся ў нашай зямлі старажытнарымскія манеты. І аўтар «Слова аб палку Ігаравым» перыяд III—IV ст.ст. нашай эры назваў Траянавымі вякамі, тым самым гаворачы, што імя рымскага імператара Траяна было агульнавядомым і для ўсходнееўрапейскіх славян. Гандлявалі славяне і са сваімі суседзямі на ўсходзе, асабліва з волжскімі булгарамі, а праз іх і з краінамі Азіі. Гэтыя сувязі асабліва пашырыліся ў VIII—X ст.ст., аб чым сведчаць запіскі арабскіх географаў і падарожнікаў, а таксама клады арабскіх манет, знойдзеныя на тэрыторыі Беларусі.

Пашавае земляробства, рамесніцтва і гандлёва-эканамічныя сувязі ў народаў Усходняй Еўропы ў пачатку нашай эры дазваляюць зрабіць вывад аб значным падзеле працы і аб дзяленні грамадства на класы, што непазбежна вяло да стварэння дзяржавы. Аднак вельмі пашыраны быў погляд, што дзяржавы ў славян былі створаны прышлымі князямі-норманамі. Сярод гісторыкаў XIX ст. мелі прыхільнікаў тры тэорыі, якія рабілі спробы вызначыць характар грамадскага і палітычнага ладу ўсходніх славян да сярэдзіны IX ст. Найбольш распаўсюджанай была тэорыя родавага быту, прыхільнікі якой (Густаў Эверс, Канстанцін Кавелін, Сяргей Салаўёў) лічылі, што да прыходу варажскіх князёў славяне жылі родамі, г. зн. саюзамі больш-менш блізкіх кроўных родзічаў з агульнасцю родавай уласнасці і сумеснай дзейнасцю. Затым па меры разрастання родаў, яны аб'ядналіся ў плямёны, якія ў сярэдзіне IX ст. заклікалі да сябе варажскіх князёў, каб стварыць дзяржаву.

У сярэдзіне XIX ст. атрымала распаўсюджанне тэорыя абшчыннага быту (Канстанцін Аксаў, Іван Бяляеў, Васіль Ляшкоў), паводле якой славяне ў перыяд да IX ст. жылі абшчынамі, якія складаліся з асобных сем'яў. Аснову абшчыннага саюза складала не адзінства паходжання, але эканамічныя і сацыяльна-грамадскія інтарэсы. Людзі, што жылі ў абшчыне, сумесна валодалі зямлёй, сумесна абмяркоўвалі і вырашалі ўсе справы, разам клапаціліся пра абарону. Органамі кіравання быў сход членаў абшчыны і выбарны кіраўнік. Прыхільнікі гэтай тэорыі грунтаваліся на вывучэнні рускай абшчыны XVIII—XIX ст.ст. і больш старажытных прававых актаў, у якіх яны вышукалі ўпаміны аб мясцовых органах самакіравання.

У другой палове XIX ст. атрымала вядомасць тэорыя задружна-абшчыннага быту, вылучаная Ф. І. Леантовічам. Па ёй аснову грамадскага жыцця ў старажытнасці складалі не роды і не абшчыны, а іх сінтэз — сямейная абшчына, якая ў паўднёвых славян называлася «задругай». У яе ўваходзілі як крэўныя родзічы, так і чужакі, аб'яднаныя агульнымі эканамічнымі інтарэсамі. Задругі ў сваю чаргу аб'ядноўваліся ў больш буйныя грамадскія адзінкі па тэрытарыяльнаму прынцыпу: «жупы», валасці, землі, якімі кіравалі сход (веча) і выбарная асоба (жупан, князь, валасцель). У аснову гэтай тэорыі лягла гісторыя паўднёвых славян у XIX ст.

Усе тры тэорыі не ўлічвалі развіцця пра-

расслаення. Яны зыходзілі з таго, што дзяржавы ў славянскіх народаў узніклі не раней VII—IX ст.ст. Некаторыя лічылі нават, што дзяржава ва ўсходніх славян узнікла яшчэ пазней, толькі пасля хрышчэння Русі. Так, В. Нікольскі пісаў: «Гаварыць аб дзяржаве ў паўдзікіх славян-язычнікаў, якія яшчэ ў XI і XII ст. дапускалі кроўную помсту (яўны доказ адсутнасці не толькі дзяржавы, але нават правільнага грамадскага жыцця), больш чым дзіўна». Аднак крытыка «нарманскай тэорыі» гісторыкамі М. Ф. Уладзімірскім-Буданавым, І. Забеліным і іншымі не прывяла да поўнага паражэння яе прыхільнікаў, адбылося гэта толькі дзякуючы працам савецкіх гісторыкаў Б. Д. Грэкава, М. Н. Ціхамірава, Б. А. Рыбакова, С. В. Юшкова, П. Н. Траццякова і інш. Але і да цяперашняга часу мы мала ведаем пра паходжанне дзяржаў ва ўсходніх славян. Так, Б. Д. Грэкаў пісаў: «Зусім ясна, што значна раней IX ст. на Русі выспелі неабходныя для ўтварэння дзяржавы перадумовы, якія паспелі даць пэўныя вынікі. Аб'яднанне Ноўгарада і Кіева — гэта толькі важная падзея ў гісторыі Русі, але зусім не пачатковае». С. В. Юшкоў лічыў, што «Паколькі ўсходнія славяне сваімі продкамі мелі скіфасармацкія народы, то, натуральна, што яны павінны былі атрымаць у спадчыну не толькі матэрыяльную і духоўную культуру, але і грамадскі, палітычны і прававы лад ад гэтых народаў». Можна было б зрабіць вывад, што дзяржавы ва ўсходніх славян склаліся на рубяжы нашай эры. Але ў іншым месцы гэтай жа кнігі аўтар лічыць, што нават наяўнасць дзяржавы ў славянскага народа Антаў, якія жылі на велізарнай тэрыторыі ад Дуная да Паўночнага Данца і Сярэдняга Дона на працягу IV—VI ст.ст., не дазваляе адказаць на пытанне: калі склаліся дзяржавы ў больш паўночных суседзяў Антаў або нават у тых усходніх славян, якія пад іншымі імёнамі сталі вядомы на гэтай жа тэрыторыі. Так, ён пісаў: «Вядома, уплыў антаў павінен у той ці іншай ступені адбіцца і на тых плямёнах, якія не ўваходзілі ў склад анцкага саюза (дрыгавічы, крывічы, ільменскія славяне, вяцічы), але і ступень гэтага ўплыву і, значыць, узровень грамадска-эканамічнага развіцця магчыма былі іншымі, чым у карэнных антаў або ў суседніх з імі плямёнаў, адным словам, паўстае новае пытанне — пытанне аб грамадска-эканамічным і палітычным ладзе ўсходняга славянства з пачатку VII ст. да ўтварэння Кіеўскай дзяржавы». Такім чынам, аўтар як бы вярнуўся да думкі, што дзяржавы ў славян узніклі толькі пасля VII ст., бо да гэтага часу ён гаворыць не аб дзяржаўных аб'яднаннях, а пра плямёны.

Да больш ранняга перыяду адносіў утварэнне дзяржаў ва ўсходніх славян акадэмік Б. А. Рыбакоў. Ён пісаў: «Паўнакроўнае развіццё скалацкага грамадства ў V—II ст.ст. да н. э., якое дайшло мяркуючым па ўсім вядомым нам, да ўзроўню дзяржаўнасці, было спынена сармацкім нашэсцем II ст. да н. э. Сарматы рухаліся з усходу, ад нізоўяў Дунаю... з Сярэдняга Падняпроўя ... знішчылі адно з скалацкіх царстваў па Цясміну і моцна пацяснілі паўночнае царства (Кіеўская археалагічная група), заняўшы вялікае Перапетава поле на поўнач ад р. Рось. Праславянская дзяржаўнасць Сярэдняга Падняпроўя, якая толькі што зарадзілася, знікла прыкладна на чатыры стагоддзі, аж да складання новай спрыяльнай кан'юнктуры». Думка аўтара аб тым, што пратаславяне (скалоты) ужо ў V—III ст.ст. да н. э. дасягнулі «ўзроўню дзяржаўнасці» не выклікае пярэчання, але нельга згадзіцца з палажэннем, што народжаная праславянская дзяржаўнасць Сярэдняга Падняпроўя знікла прыкладна на чатыры стагоддзі; ад «пацяснення» дзяржаўнасць не знікае.

У старой рускай гісторыка-прававой навуцы меліся працы, у якіх даказвалася існаванне славянскіх дзяржаў у перыяд да нашай эры. Так, В. Н. Тацішчаў, пераказваючы Іаакімаўскі летапіс, пісаў: «О князех русских старобытных Нестор монах не добре сведом был, что ся деяло у нас славян во Новеграде, а святитель Иоаким добре сведомый, написал, еже сынове Афетовы и внуки отделишася, и един от князь, Славен з братом Скифом, имея многие войны на востоце, идоша к западу, многи земли о Черном мори и Дунае себе покориша. И от старшего брата прозваша славяне... Славен князь... иде к полуносчи и град великий созда, во свое имя Славенск нарече... умре Славен князь, а по нем владаху сынове его и внуки много сот лет. И бе князь Вандал, владая славянами, ходя всюду на север, восток и запад морем и землею, многи земли на вскрай моря повоева и народы себе покоря... Он имел три сына: Избора, Владимира и Столпосвята. Каждому из них построи по единому граду, и в их имяна нарече». Далей Тацішчаў расказвае пра князёў Бурывоя і Гостамысла, пасля якога ў Ноўгарад быў запрошаны сын дачкі Гостамысла князь Рурык.

Рацыянальнае зерне легенды, выкладзенай у Іаакімаўскім летапісе, заключаецца перш за ўсё ў тым, што гісторыя славянскіх народаў і іх дзяржаўнага ладу апускаецца ўглыб стагоддзяў, да скіфскага часу, г. зн. VIII — VII ст.ст. да н. э. Яе пацвярджаюць сучасныя археалагічныя адкрыцці, зробленыя пры раскопцы так званых зміевых валаў на Украіне. Аб славянскіх дзяржавах у перыяд да нашай эры можна даведацца і з паведамленняў Герадота аб Гелонах, Будзінах і Неўрах, насельніцтве, што жыло на тэрыторыі сучаснай Украіны і Беларусі. Ёсць падставы меркаваць, што спомненыя ў Іаакімаўскім летапісе гарады Славенск і Сталпасвят былі на тэрыторыі Беларусі. Так, на Заходняй Бярэзіне ў Валожынскім раёне ёсць вёска Славенск і побач з ёю замкавая гара, археалагічныя раскопкі якой маглі б даць адказ аб часе ўзнікнення Славенска. Водгаласы старажытнага Сталпасвята чуваць у назве цяперашняга горада Стоўбцы.

Падобнай думкі прытрымліваўся і І. Забелін. Ён пісаў: «Развіццё нашай краіны было, вядома, перш за ўсё земляробчае...



па ўсім верагодна, з тае пары, калі па берагах Чорнага мора, з'явіліся грэчаскія калоніі, за 700 і 600 гадоў да Р. Х.». Апісваючы падзеі больш позняга часу, І. Забелін прыводзіць запіс грэцкага гісторыка Іаана Эфескага, які пісаў у 584 г. нашай эры наступнае: «І да цяперашняга дня славяне жывуць, сядзяць і пакояцца ў Рымскіх абласцях без клопату і страху, рабуючы іх і разараючы агнём і мячом. Яны разбагацелі, набылі золата, серабро, табуны коней і мноства зброі, якой навучыліся валодаць, лепш чым Рымляне». Тое, што славяне сілай зброі выбілі ў V—VII ст.ст. візантыйцаў і рымлян з Балканскага паўвострава, а германцаў з Цэнтральнай Еўропы, сведчыць аб іх шматлікасці і добрай ваеннай і палітычнай арганізацыі.

Аб існаванні дзяржаў ва ўсходніх славян са старажытнейшага часу пісаў і М. Дзьяканаў у кнізе «Очерки общественного и государственного строя древней Руси» (Спб. 1910): «У пачатку гісторыі не існуе адзінай рускай дзяржавы. На прасторы Еўрапейскай Расіі, і то далёка не ўсёй, існуе цэлы шэраг невялікіх дзяржаў. Летапіс пералічвае шмат якія з іх: ён упамінае асаблівыя княжэнні ў палян, драўлян, дрыгавічаў, наўгародскіх славян, палачан, крывічаў і г. д.». Затым М. Дзьяканаў параўноўвае ўсходнеславянскія дзяржавы з дзяржавамі Галіі да заваявання яе Цэзарам: «Галія не ўяўляла нацыянальнага цэлага... не было адзінства палітычнага... На прасторы паміж Пірынеямі і Рэйнам можна налічыць каля 90 дзяржаў або кожны з народаў утварылі вялікую групу (з насельніцтвам у 50—400 тысяч)... Народы Галіі вялі войны і заключалі мірныя саюзы як паміж сабою, так і з чужаземцамі, як гэта робяць незалежныя дзяржавы... Старажытная Русь не мае ў гэтых адносінах ніякага выключэння. І ў ёй назіраецца значная колькасць невялікіх дзяржаў, граніцы якіх падвергнуты пастаянным хістанням».

Вядома, што рэвалюцыйны пераварот у грамадскіх адносінах адбываецца ўслед за пераваротам у вытворчых. Адным з такіх паваротных момантаў гісторыі было выкарыстанне жалезных вырабаў. Ф. Энгельс пісаў, што «жалеза апошні і самы важны з усіх відаў сыравіны, якія адыгрывалі рэвалюцыйную ролю ў гісторыі... Жалеза зрабіла магчымым паляводства на больш буйных плошчах, расчыстку пад пашу шырокіх лясных прастораў». Жалеза на Беларусь прыйшло ў VII—V ст.ст. да нашай эры. Да гэтага часу, мабыць, можна аднесці і ўстойлівае раздзяленне грамадства на класы, а гэта непазбежна вымагала органаў дзяржаўнага кіравання. «Разам з горадам з'яўляецца і неабходнасць адміністрацыі, паліцыі, падаткаў і г. д.» — пісалі К. Маркс і Ф. Энгельс.

Важную ролю ў такой старажытнай дзяржаве, яе «ідэалагічным забеспячэнні» ігралі жрацы. Пантэон старажытных славянскіх багоў быў досыць багаты і разнастайны: бог маланкі і грому Пярун, захавальнік года — Жыцень, Зюзя, Ляля, Цеця... Асаблівую пашану меў бог святла, цяпла і ўсяго жывога Сварог і яго сын — бог сонца, які называўся Сварожычам, Свята-Вітам, Яравітам, Даждзьбогам. Імя Даждзьбога ў форме Далібога захавалася ў сучаснай беларускай мове пры клятве-бажбе (Дальбог праўда), а імя Віта ўвайшло ў многія сучасныя асабістыя імёны.

На рубяжы нашай эры ішоў працэс станаўлення рабаўладальніцкага ладу і адмірання абшчынна-патрыярхальнага. Абодва гэтыя ўклады працяглы час суіснавалі, дапаўняючы адзін аднаго. Аднак рабаўладальніцкі лад у нашых народаў не быў даведзены да яго вышэйшага развіцця і ў X ст. н. э., пад уздзеяннем феадальных адносін пачаў хіліцца да заняпаду.

У сувязі з дваістым характарам грамадскіх адносін і палітычны лад у VIII — IX ст.ст. адлюстроўваў у сабе два элементы. Улада належала прадстаўнікам класа рабаўладальнікаў — князям і «лепшым людзям», а таксама народнаму сходу — вечу-сойму, на які збіраліся ўсе свабодныя домаўласнікі. Княжацкі стол займаўся, як правіла, толькі са згоды веча, яно ж давала сваю згоду і на назначэнне іншых службовых асоб дзяржаўнага кіравання. Асобныя невялікія воласці або ўмацаваныя гарады-замкі кіраваліся старцамі, якіх выбірала насельніцтва, або намеснікамі, якіх прызначала цэнтральная адміністрацыя. Аб шырокім распаўсюджванні на тэрыторыі Беларусі ўмацаваных паселішчаў гарадоў-замкаў сведчыць ананімны Баварскі географ IX ст. Ён пісаў, што ў жыхароў Свірскай зямлі было 325 гарадоў, у Турычан — 104 гарады, у Пружан — 70 гарадоў, у Бужан — 231 горад, шмат гарадоў было ў Жыцічаў, Лукамлян і Нараўлян.

Класавая структура грамадства ў старажытнасці (да IX ст.) характарызавалася наяўнасцю трох асноўных груп: рабаўладальнікаў, рабоў (халопы, чэлядзь нявольная), свабодных гарадскіх жыхароў і сялян-даннікаў, якія не знаходзіліся ў залежнасці, а выконвалі пэўныя павіннасці і ўносілі рэнту непасрэдна ў карысць дзяржавы. З IX ст. пачынаецца развіццё феадальных грамадскіх адносін. Але гэта ўжо новы этап развіцця дзяржаўнасці на Беларусі.

Увядзенне хрысціянства было раўназначна дзяржаўнаму перавароту, і гэта адбілася літаральна на ўсіх сферах жыцця.

З развіццём феадальных адносін, і асабліва з прыходам хрысціянства, адбыліся значныя змяненні ў сямейным праве. Духавенства дабівалася ўстанаўлення царкоўнай формы шлюбу з абавязковым вянчаннем у царкве, — а гэта вяло да манагаміі, права на спадчыну толькі для дзяцей ад царкоўнага шлюба.

**Язэп ЮХО**

Беларускі рэлігійны, культурны і асветны дзеяч Адам Станкевіч нарадзіўся ў 1891 годзе ў вёсцы Арляняты Крэўскай воласці Ашмянскага павету. Вучыўся ў Барунах і ў Ашмянскім гарадскім вучылішчы. У 1910 г. пад уплывам ксяндза Адама Лісоўскага паступіў у Віленскую духоўную семінарыю. Там А. Станкевіч заснаваў беларускі гурток і бібліятэку, залегалізаваныя рэктаратам. У 1914 г. паступіў у Каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбурзе і ў тым жа годзе атрымаў святарскія высвяціны. У акадэміі вёў актыўную нацыянальную дзейнасць у блізкім супрацоўніцтве з праф. Б. Эпімах-Шыпілам, з'яўляўся старшынёю беларускай акадэмічнай арганізацыі. У акадэміі Станкевіч займаўся філасафічна-грамадскімі студыямі, цікавіўся гісторыяй. Супрацоўнічаў у беларускім друку — «Светачы», «Дзянніцы», «Крыніцы». Станкевіч прыняў удзел у Першым з'ездзе беларускіх каталіцкіх святароў у Менску 24—25 траўня 1917 г. У 1918 г. пераехаў у Вільню, адкуль на кароткі тэрмін быў польскімі духоўнымі ўладамі высланы ў Драгічын над Бугам. З 1919 г. у Вільні Станкевіч вёў беларускую душпастырскую дзейнасць, супрацоўнічаў у Беларускім нацыянальным камітэце, Камітэце дапамогі ахвярам вайны, у Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры, Таварыстве беларускай школы, выкладаў рэлігію ў Віленскай Беларускай гімназіі. Станкевіч быў адным з заснавальнікаў і лідэрам партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. У 1922 г. абраны пасломy польскі сейм, дзе бараніў інтарэсы беларусаў. У 1926 г. заснаваў Беларускую друкарню імя Ф. Скарыны, у 1928 г.— Беларускае каталіцкае выдавецтва. Выдаваў і рэдагаваў газету «Беларуская крыніца», часопіс «Хрысціянская думка»; з ягонай дапамогай выходзілі часопісы «Шлях моладзі», «Самапомач», «Калоссе». Станкевіч змясціў у перыядычным друку каля 2 тысяч сваіх артыкулаў, першым з якіх быў допіс у «Нашу Ніву» ў 1909 г. Выдаў 18 кніг, сярод якіх — «Доктар Францішак Скарына» (1925), «Беларуская мова ў школах Беларусі XVI і XVII ст. ст.» (1928), «Родная мова ў святынях» (1929), «Вітаўт Вялікі і беларусы» (1930), «Беларускі хрысціянскі рух» (1939), «Хрысціянства і Беларускі Народ» (1940), кнігі пра Багушэвіча, Каліноўскага, Эпімах-Шыпілу, Забэйду-Суміцкага. У 1938 г. за нацыянальную беларускую дзейнасць высланы польскімі ўладамі ў Слонім. Пасля падзелу Польскай дзяржавы — зноў у Вільні, старшыня «Беларускага цэнтру ў Літве», дырэктар Беларускай дзяржаўнай прагімназіі (да ўсталявання савецкай адміністрацыі ў Вільні). Падчас другой сусветнай вайны Станкевіч працаваў у адноўленай Беларускай гімназіі ў Вільні і вёў душпастырскую дзейнасць у віленскай беларускай парафіі пры касцёле Св. Міхала. Пасля кароткатэрміновага арышту савецкімі ўладамі ў снежні 1944 г.— святарская дзейнасць у Вільні. Увесну 1949 г.— новы арышт, следства ў віленскім МДБ, допыты і катаванні. Станкевічу была інкрымінавана шпіёнская дзейнасць і супрацоўніцтва з японскай разведкай. Пасля — этап у Іркуцкую вобласць, лагер у тайзе непадалёк ад станцыі Віхараўка. 28 лістапада 1949 г. Адама Станкевіча не стала (па некаторых звестках, ён памёр на пачатку 1950 г.).

Такі быў жыццёвы шлях аднаго з найвыдатных пакутнікаў за беларушчыну.

Віталь ЗАЙКО

*Адам СТАНКЕВІЧ*

# ВІТАЎТ ВЯЛІКІ І БЕЛАРУСЫ

***Рэферат, чытаны на ўрачыстай акадэміі ў Вільні ў залі «Apollo» 27.X.1930 г., у дзень 500-годдзя смерці Вітаўта, Вялікага Князя Літоўска-Беларускага.***

## I

***Жывучасць думак Вітаўта. Належная ацэнка вялікіх людзей звычайна бывае толькі па смерці іх. Труднасць ацэны думак Вітаўта з прычыны іх вялікасці. Нязначныя вынікі дасюлешняй навукі аб Вітаўце. Пазнаць і ацаніць належна Вітаўта — заданне будучыні. Вітаўт і гісторыя літоўская. Вітаўт і гісторыя беларуская. Дадатная ацэнка беларускімі гісторыкамі перыяду літоўска-беларускага.***

**Сёння мінула 500 гадоў, як расстаўся з гэтым светам і перайшоў на той бок быту, вялікі валадар зямлі нашай, Вітаўт, духу каторага складаем мы тут чэсць нашу.**

**500 гадоў — між намі і Вітаўтам, між нашым часам і часам ягоным. Гадоў, як бачым, уплыло нямала, а памяць аб вялікім і слаўным Кейстутавічу жывая і свежая, думкі яго жывуць між намі, лунаюць над бяздольнай нашай старонкай, адухаўляюць нас, даюць нам натхненне да працы, да барацьбы, за волю і долю нашу, за вышэйшую справядлівасць жыцця народу ня толькі літоўскага, але также і беларускага.**



**У сённяшні ўрачысты дзень, думаючы аб Вітаўце, без засцярогау сказаць можна, што вялікія людзі сапраўды ацэньвюцца і сапраўды жыць пачынаюць, часта пасля доўгіх вякоў, толькі пасля сваёй смерці. Так і з Вітаўтам. «Не памёр — нарадзіўся»— сказаў бы аб ім пясняр наш Казімір Сваяк.**

**Пазнаць Вітаўта, як належыцца, ацаніць, як след, яго думкі, яго планы, нарысаваць праўдзівы і поўны абраз яго — рэч ня лёгкая, ды, бадай, немагчымая. Праз паўтасячы гадоў навука яшчэ не даканала гэтага. Вялікасць Вітаўта перавышае звычайныя людскія магчымасці. «Што за шырыня гарызонту — слушна кажа аб Вітаўце польскі гісторык праф. Ф. Конэчны.— Ад стэпаў татарскіх да базылікі над возерам швайцарскім, ад бурштынавага пабярэжжа Балтыкі, праз залатую Прагу, аж да купалаў Цараграду павядзе цябе дослед ніці яго намераў і чынаў. Пазнаеш адносіны неафіткі Літвы да яе айцоў хросных, да палякаў, таёмныя хістанні Русі ў Галічу, у Кіеве, баявую лінію між Вільняй і Масквой. Пазнаеш справы Цэрквы і Касцёла заходняга, уладыкаў і біскупаў, убачыш іх разам на саборы, як пажадаюць злучыцца ў адной аўчарні, натхнёныя Вітаўтам, які вядзе і гусытаў. Лучыць і усцяж лучыць — гэта мэта яго! Маскву з Вільняй, Прагу з Кракавам хацеў ён спрагчы ў адно, палову Еўропы жадаў ён ажывіць адным духам, так, што з уніі польска-літоўскай мела б паўстаць нейкая адна ўсеславянская унія. Гэткага кругазору рэдка ўгледзіш у адным чалавеку, бо ж гэта вялізарны размерам, чароўны думкай — гістарычны эпас. Гэта ня план палітычны з часіны прыпадковай, аблічаны на пэўны час і да пэўных абставін, але гістарычная ідэя, да выканання якой трэба вякі запрэгчы»[1].**

**Вось жа гэтыя вякі даўно ўжо ўпрэгліся ў працу над нарысаваннем поўнага і праўдзівага вобліку Вітаўта; шмат ужо ў гэтым кірунку даканалі, але нямала яшчэ даканаць асталося вякам будучым. Многае яшчэ з вітаўтаўскай эпапеі ад навукі закрыта.**

**Але і тое, што аб Вітаўце ёсць пэўным, мае часта рознае асвятленне, асабліва ў суседніх — польскіх і расійскіх гісторыкаў. Адны з іх за адны і тыя ж чыны падвышаюць Вітаўта пад неба, а другія яго паніжаюць.**

**Здэцыдаваную ж агулам думку аб Вітаўце мае маладая гісторыя літоўская, якая ясна і рашуча Вітаўта ўважае за найвялікшага сына літоўскага народу, за найслаўнейшага патомка Гедыміна і Альгерда, за свайго генія, шмат што з жыцця Вітаўта асвятляючы з свайго, новага пункту гледжання і шмат чаго, такім чынам, уносячы аб ім новага ў скарбніцу веды.**

**Што ж датыча гісторыі беларускай, як навукі, дык яна яшчэ дужа маладая, яна яшчэ толькі пачынае жыць і развівацца, А як гэткая, яна ня мела яшчэ магчымасці, сярод іншых важных пытанняў з беларускай мінуўшычны, распрацаваць усестаронна час, жыццё і дзейнасць Вялікага Вітаўта і свой, беларускі на яго погляд. Аднак жа трэба сказаць, што беларускія гісторыкі, як Ігнатоўскі, Пічэта, Любаўскі і інш. агулам у сваіх працах датыкаючы асобы Вітаўта з пункту гледжання беларускага, ацэньваюць яго дадатна і без засцярогаў як перыяд літоўскі агулам, так і перыяд Вітаўта ў беларускай гісторыі рысуюць, як перыяд светлы і слаўны.**

**Сваім жа заданнем у сённяшні ўрачысты 500-летні юбілей Вітаўта Вялікага лічу я бліжэйшае асвятленне гістарычна пэўных фактаў аб ім з пункту гледжання беларускага.**

## II

***Полацкі перыяд у гісторыі Беларусі. Злучэнне Беларусі з Літвой. Характар злучанай літоўска-беларускай дзяржавы. Слушнасць назовы гэтай дзяржавы: — «літоўска-беларуская». Значэнне злучэння Беларусі і Літвы.***

**Буйна пачынала развівацца беларускае жыццё ў першым (IX—XIII ст.ст.), так званым полацкім перыядзе беларускай гісторыі.**

**Беларускія продкі Крывічы, згуртаваныя ў палітычны, грамадскі і культурны цэнтр у Полацку, стойка баранілі незалежнасць свайго гаспадарства, апёртага ў нутры на глыбока дэмакратычным, вечавым строі і надзейна лучылі да сябе сваяцкія плямёны Дрыгавічоў і Радзімічаў.**

**Рана прыняўшы хрысціянства і жывучы на вялікім водным шляху «з Вараг у Грэкі», на шляху між усходам і захадам, беларуская Полаччына сапраўды займала пачэснае месца сярод культурных і цывілізаваных краін таго часу. Але частая барацьба Полаччыны за сваю самабытнасць з Кіеўшчынай, а также з паасобнымі суседнімі валасцямі-княствамі, унутранае змаганне супярэчных грамадскіх класаў, змаганне між гарадамі і прыгарадамі і іншыя прычыны давялі яе да ўпадку, які зазначыўся ўжо на пачатку XI ст., пасля смерці слаўнага Полацкага князя Усеслава (пам. у 1101 г.).**

**Тым часам на захадзе, грозныя для Літвы і Беларусі нямецкія рыцары (ордэн лівонскі і тэўтэнскі), у 1237 г. злучыліся ў адну магутную арганізацыю і сталіся для іх яшчэ больш грозныя. Вось жа літоўскія плямёны пад уплывам гразы з боку гэных рыцараў, а также пад уплывам частых нападаў на Літву паасобных беларускіх князькоў,— у XIII ст. збіраюцца ў цэласць. Яны арганізуюцца і збіраюць навокал сябе разрозненыя беларускія, а пазней і іншыя ўсходне-славянскія пляменні, якія ўрэшце і самі ахвотна пачынаюць злучацца з Літвінамі і разам з імі арганізоўваць літоўска-беларускую дзяржаву.**

**У XIII і XIV ст.ст. нямала было прычын, якія дамагаліся ад Беларусаў аб'яднання з Літвой.**

З усіх бакоў пачалі напіраць на беларускія землі ворагі. З поўдня ішла руіна і няволя ад татар, з поўначы і з заходу націскалі нямецкія рыцары, палонячы і сілай хрысцячы беларусаў паводле лацінскага абраду. У палове XIV ст. стала так жа напіраць на Беларусь і маладое каралеўства польскае, якое толькі што паўстала з развалін удзельнай эпохі. А ізноў з усходу пайшлі крыўды і зніштажэнні ад усцяж магутнеючага Княства Маскоўскага. Пры гэтых варунках, рэч ясная, што новапаўстаўшаму Вялікаму Княству Літоўскаму было лёгка стацца палітычным цэнтрам, да якога сталі хінуцца беларускія землі, тым больш, што ад самага пачатку свайго існавання яно было ня проста літоўскім, а літоўска-беларускім [2].

Такім чынам будуецца ўрэшце самастойная дзяржава літоўска-беларуская, дзе кіруе гаспадар вялікі князь Літвін, а пануе культура і мова занапаўшай палітычна беларускай Полаччыны. «Развіўшы культуру і прасвету,— кажа праф. Ігнатоўскі — Беларусь ня здолела зберагчы свайго асабістага дзяржаўнага жыцця. Літва, узяўшы ў Беларусі яе прасвету і культуру, прышла на Беларусь, каб даць ёй палітычны звязак і сувязь з сабой [3].

Літоўскі перыяд у гісторыі Беларусі слушна можна назваць перыядам літоўска-беларускім, бо якраз у ім, як кажа той жа праф. Ігнатоўскі, «вырасла і развілася тая дыферэнцыяцыя ўсходне-славянскага, рускага племені, якую мы бачым і дагэтуль. Літва аб'яднала заходнюю палавіну рускага племені. Тут ішло сваё асабістае культурнае і палітычна-сацыяльныве будаўніцтва, над каторым працавалі ў цэнтры беларусы і на паўднёвай акраіне — украінцы. На ўсходзе ў гэты самы час збудавалася Маскоўскае гаспадарства, каторае аб'яднала ўсходнюю палавіну рускага племені...» [4].

Праца беларусаў разам з літвінамі ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага ў Вільні над будаўніцтвам гэтай дзяржавы і беларуская ў ёй культура сапраўды даюць права дзяржаву гэту называць літоўска-беларускай.

Дзякуючы аб'яднанню беларускіх плямён з Літвою, яны аканчальна зліліся, зрасліся і стварылі адзін народ беларускі, мова якога такжа аканчальна злажылася і выдзелілася ў мову самабытную беларускую [5].

## III

*Аб'яднанне літоўска-беларускае з часоў Гедыміна і Альгерда. Аб'яднанне гэта за Вітаўта. Характар літоўска-беларускага аб'яднання за Вітаўта, магутнасць і самастойнасць літоўска-беларускай дзяржавы. Абшар гэтай дзяржавы. Адносіны гэтай дзяржавы да Польшчы. Барацьба Вітаўта з Ягайлам за самастойнасць зямель Вялікага Княства Літоўскага.*

Праўда, аб'яднанне Літвы і Беларусі было ўжо пры Гедыміне і Альгердзе, але замацавалася яно і злілося ў адзін дзяржаўны арганізм толькі пры Вітаўце (1392—1430 гг.).

Вітаўт усё даўгавечнае жыццё сваё пасвяціў на абарону самастойнасці літоўска-беларускай дзяржавы, ваюючы за яе падчас маладосці сваёй пры боку бацькі свайго Кейстута, ваюючы такжа пасля самастойна, як вялікі князь літоўска-беларускай дзяржавы, кіраваў якой аж 38 гадоў, будуючы аднача͡сна жыццё ўнутранае дзяржавы ў кірунку кансалідацыі і згоднага сужыцця літвінаў і беларусаў, у кірунку ліквідацыі бунтарскіх настрояў розных князькоў і агулам ліквідацыі іх як раскладаючай сілы палітычнай, у кірунку пашырэння хрысціянства і культуры, у кірунку грамадскага ладу і эканамічнага дастатку.

Так, вялікае княства літоўска-беларускае вырасла за Вітаўта ў вялікую і магутную дзяржаву, якая займала басейны верхняй і сярэдняй Дзвіны, Нёмана, Паўдзённага Буга, Дняпра і верхняй Акі — што знача — Літву, Беларусь, бадай усю (без Галічыны) Украіну і нязначную часць Маскоўшчыны — (усходнюю часць Смаленшчыны, быўшую губ. Калускую, Тульскую, Арлоўскую),— якая такім чынам між Паўдзённым Бугам і Днестрам датыкала берагоў мора Чорнага, а каля Палангі (Мэмэль) — мора Балтыйскага [6].

Ужо з гэтых агульных фактаў асоба Вітаўта не толькі для Літвы, але так жа і для Беларусі сапраўды ёсць вялікай, а думкі яго — гэта думкі аснаўныя, ідэалагічныя для гістарычнай падарожжы такжа і беларускага народу.

Але ідзём далей. Супольныя ворагі літоўска-беларускай дзяржавы і Польшчы — на захадзе нямецкія рыцары, а на ўсходзе Масква, а такжа розныя прычыны характару ўнутранага, змушалі гэтыя дзве дзяржавы да бліжэйшага сужыцця, да палітычнага і мілітарнага супрацоўніцтва, да рознага роду нават палітычных дагавораў.

Вось жа на фоне гэтых супольных інтарэсаў зрадзілася з боку польскага самалюбная ідэя далучэння літоўска-беларускай дзяржавы да Польшчы, ідэя, для якой у ахвяры злажыў на алтары Літву і Беларусь літвін вялікі князь Ягайла, а насупроць якой ідэі яшчэ больш зазначылася ідэя самастойнасці гэтай дзяржавы, ідэя, для якой пасвяціў свой геній Вялікі Вітаўт і за якую ўсё жыццё сваё ён змагаўся, як з ворагамі вонкавымі, так і з унутранымі, у тым ліку з сваім братам стрыечным Ягайлам. Прыгожа аб гэтым гаворыць успомнены ўжо намі польскі гісторык праф. Конэчны. «Вітаўт,— кажа ён — гэта ўвасабленне Літвы. Ен найвышэй паднаў сцяг яе, каронай жадаючы закончыць справу, распачатую Гедымінам. А вось аднача͡сна вялікі князь Літвы Ягайла засеў на троне польскім, якраз аднача͡сна на карабле гісторыі Польшчы, Русі і Літвы заткнуты быў польскі сцяг гістарычны — унія...

Ад непрыязні Ягайлы і Вітаўта распачынаюцца гэтыя дзеі, а на самым канцы жыцця волата чуем аб кароне, каторую бадай ужо ўзложаную здзірае яму з чала ізноў Ягайла. Спярша вязніць яго, пасля падносіць да ўлады і ізноў у гэтай уладзе агранічаць яго імкнецца. Раз проціў сябе, то ізноў вобак сябе яны ваююць, раз адзін аднаму памагаюць, другі раз адзін аднаму перашкаджаць стараюцца. А заўсёды кожны з іх мае за сабой нейкую сілу і бадай магутнасць, так, што ніколі адзін аднаго знішто жыць ня можа. Што знаходзіцца на дне гэтай так цікаўнай зменнасці з'явішчаў: ці гэта толькі два дынасты, ці дзве змагаючыяся гістарычныя ідэі? ці спор усяго жыцця іх ішоў стуль, што абодва хацелі адной якой непадзельнай рэчы, ці мо стуль, што кожны жадаў чаго іншага тымі самымі спосабамі? Калі ж прадстаўляюць яны працівенствы, дык і гэтыя бываюць дваякія: адны могуць узаемна дапаўняцца, а іншыя бязумоўна выключацца. Да каторай катэгорыі залічыць працівенствы Вітаўта і Ягайлы, гэта ёсць аснаўным пытаннем падзеяў ня толькі нашых, але цэлай усходняй Еўропы...» [7].

Вось жа, бяручы ў цэласці думкі і чыны Вітаўта і Ягайлы, трэба сказаць, што дзяліла іх ня што іншае, як толькі дзве розныя гістарычныя ідэалогіі, дзве розныя ідэі. Ідэя Вітаўта — гэта ідэя самабытнасці Літвы і Беларусі ўласным коштам, ідэя Ягайлы — гэта ідэя самабытнасці Польшчы коштам Літвы і Беларусі.

## IV

*Нясталасць дагавораў літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай і прычыны гэтага. Вялікія самастойніцкія планы Вітаўта. Бітва пад Грунвальдам. Унія Гарадэльская. Погляды на Вітаўта польскіх гісторыкаў і вартасць такіх поглядаў.*

Адгэтуль ясным павінна быць, чаму ўсе гэтыя уніі — дагаворы літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай: 1386 г., 1392 г., 1401 г. і 1413 г., падпісаны за часаў Вітаўта, у жыцці былі ня трывалыя і чаму сам Вітаўт, скарыстаўшы з іх для пэўнай патрэбы, пераходзіў над імі да парадку дзеннага. Гэта не вераломства. Гэта пачуццё генія вышэйшай справядлівасці. Вітаўт лучыўся з Польшчай настолькі, наколькі гэтае злучэнне, будучы карысным на пэўны час, для пэўнай канкрэтнай палітычнай патрэбы, як вольны саюз,— не пярэчыла, не ніштожыла самабытнасці літоўска-беларускай дзяржавы. Гэтая самабытнасць — гэта святое святых Вітаўта, для абароны якога ня было такой сілы, якая б Вітаўта здзержыла. Зрабіўшы дзеля патрэбы дагавор, ці унію з Польшчай, Вітаўт тады заўсёды паступаў так, што паступкі яго ярка тлумачылі гэныя яго дагаворы, як сурагаты, а не як прынцыпы яго палітыкі.

І сапраўды. Пасля уніі літоўска-беларускай дзяржавы з Польшчай 1386 г., калі прад Вітаўтам у ва ўсёй грозе стала ідэя Ягайлы, ідэя інкарпарацыі — ён у ва ўсёй красе і славе праціўставіў ей сваю ідэю, ідэю самабытнасці нашага краю.

Па трох гадах гэнай уніі, яшчэ на пачатку свайго валадарства на пасадзе вялікага князя, у 1396 г. у Вітаўта паўстае вялікі план: пры помачы Тахтамыша, згнанніка з Залатой Арды, знішто жыць магутнага татарскага валадара Тамерлана, а пасля, пры помачы таго ж Тахтамыша, разграміць гаспадарства Маскоўскае, трымаць у большай пакорнасці Пскоў, Ноўгарад, Разань, Твер, аддзяліцца цалкам ад Польшчы і стварыць самастойную, магутнейшую ў Еўропе літоўска — агульнаславянскую дзяржаву. З гэтай мэтай пайшоў Вітаўт вайной на татар у 1399 г., але, як вядома, на Ворксле татарамі быў цалкам разбіты. Гэты непамысны для яго факт разбіў яго планы, аслабіў дзяржаву, панізіў яго павагу, але думак аб палітычнай самастойнасці краю не зацёр у душы ягонай.

Пасля гэтага Вітаўт прыхінуўся ізноў да Польшчы. Для спакою згадзіўся на вунію з ей, узмацаваў паволі сваю дзяржаву і ўрэшце ў бітве пад Грунвальдам (1410 г.), дзе дэцыдуючую ролю пад камандай самога Вітаўта адыгралі беларускія смаленскія палкі, і дзе раз назаўсёды была разгромлена магутнасць нямецкіх рыцараў, ізноў праславіўся на свет цэлы і далей, супрацоўнічаючы з Польшчай, снуў планы аб самабытнасці свай дзяржавы.

Так, напрыклад, пасля гэнай слаўнай перамогі над рыцарамі, калі сіла іх была ўжо знішто жана дарэшты і назаўсёды, аглядаючыся на небяспеку Масквы, Вітаўт падпісаў артыкулы Уніі Гарадэльскай (1413 г.), але незадоўга пасля гэтага пачаў старанні аб сваёй каранацыі на цалкам незалежнага караля літоўска-беларускай дзяржавы, а да чаго не дапусцілі палякі, пэўне ж добра разумеючы праўдзівыя намеры Вітаўта.

Цікава тут будзе адзначыць пункт гледжання на Вітаўта польскіх гісторыкаў. Гэтыя гісторыкі, беручы агулам, Ягайлу ставяць вышэй за Вітаўта, вялікасць Вітаўта змяншаюць, а нават часам і цалком яе Вітаўту адмаўляюць [8]. Робяць яны гэта затым, што Вітаўт, будучы праціўнікам ідэі ягайлаўскай, адважна, мудра і вытрывала змагаўся за поўную самабытнасць літоўска-беларускай дзяржавы. Нават і тыя з польскіх гісторыкаў, якія агулам выслаўляюць геніяльнасць Вітаўта, прыпомніўшы яго змаганне за карону, як сымбаль самастойнасці краю, да Вітаўта астываюць і факт гэты тлумачаць як нешта сапраўды ад'ёмнае ў ягонай вялікасці [9]. Такім чынам, польскія гісторыкі ў сваіх працах аб Вітаўце выходзяць з пункту гледжання польскага самалюбства. Яны настолькі ганяць Вітаўта і настолькі цэняць — наколькі ён быў, ці не быў староннікам ідэі ягайлаўскай, ідэі далучэння нашага краю да Польшчы.

Але гэткая пастаноўка справы ацэны Вітаўта, як аднабокая, да мэты не даводзіць. Вядомыя факты гістарычныя аб Вітаўце гавораць самі за сябе — яны выразна рысуюць нам Вітаўта, як здэцыдаванага праціўніка варожай для нашага краю ідэі ягайлаўскай, як здэцыдаванага геніяльнага ідэолага незалежнасці зямель Вялікага Княства Літоўскага.

Праўда, ідэя Ягайлы вялікая ў вачах палякаў і быць можа ў вачах несвядомых нацыянальна, сацыяльна і палітычна беларусаў і літвінаў, памылкова ўважаючых сябе за палякаў, але ў вачах свядомых беларусаў і літвінаў, якіх апошнім часам усцяж прыбывае, і якія самі аб сабе забіраюць ужо голас — пры гэтым новым фактары — ідэя Ягайлы ёсць ідэяй звычайнага імперыялізму, а ў найлепшым выпадку ідэяй анахранізму, ідэяй пазбаўленай у сабе той красы і чару, якія мае кожная вялікая ідэя, асвечаная чыстай праўдай і прыроднай справядлівасцю.

## V

*Вітаўта і яго ўсходняя палітыка. Унутраныя труднасці ў дзяржаве з прычыны уніі Гарадзельскай. Спробы Вітаўта аб царкоўнай уніі. Погляд на Вітаўта гісторыкаў расійскіх і вартасць гэткіх поглядаў Вітаўта і асновы яго палітычна-грамадска-культурнай ідэалогіі.*

Аб усходніх княствах Пскове, Ноўгарадзе, Разані і Тверы, а прадусім аб гаспадарстве Маскоўскім, а такжа і аб татарах пасля няшчаснай бітвы на Воркслe думаць далей Вітаўт не пераставаў, але ўжо глядзеў на іх інакш, як раней. Абараніць сваю дзяржаву ад захопу з боку ўсходу, а прадусім з боку Масквы і татар — вось яго апошняя палітычная мэта на ўсходзе. Вось жа і характар войнаў яго на ўсходзе пасля бітвы на Воркслe, як, напрыклад, у 1408 г., быў ужо больш абаронны. Геній Вітаўта зразумеў дасканальна, што вялізарныя ўсходне-рускія і татарскія прасторы не могуць быць ахоплены ані мілітарна, ані палітычна і чужыя духам яго народам жывучыя там плямёны славянскія і татарскія — былі б заўсёды варожым і хворым наростам на літоўска-беларускай дзяржаве.

Але адгарадзіўшыся гэтак ад усходу і бліжэй прыхінуўшыся да захаду, Вітаўт спаткаў новыя труднасці, вырашэнне якіх мусіла быць хуткае і — што найважнейшае — мусіла быць у згодзе з асноўнай думкай яго аб самабытнасці дзяржавы. Труднасці гэтыя паўсталі на Беларусі сярод праваслаўнага насялення. Справа ў тым, што пастановамі Гарадзельскай уніі, якая, праўда, фактычна Вялікага Князя Літоўскага прызнавала незалежным валадаром, але якая Беларусь, як у аграмаднай сваёй масе праваслаўную, агранічвала ў палітычна-грамадскіх правах і дзеля гэтага беларусы яўна пачалі выражаць сваё нездаволенне з Вітаўта і прыхільна паглядаць на праваслаўную Маскву.

Ад зоркага вока Вітаўта гэта грознае для самабытнасці і цэласці яго дзяржавы з'явішча не схавалася і ён знайшоў планы ліквідаваць яго.

Вітаўт мусіў выбраць кірунак духова-цывілізацыйны для сваёй дзяржавы. Кірункі ж гэтыя былі два — заходняя каталіцкая Еўропа, дзе найвялікшай культурна-грамадскай сілай быў каталіцкі касцёл, або некалі слаўная ўсходняя праваслаўная Візантыя, а за часоў Вітаўта слабая і будучая напярэдадні разгрому яе туркамі. Вітаўт выбраў кірунак першы. Аб гэтым гавораць прыняцце ім аканчальна каталіцтва, хрышчэнне Жмудзі ў каталіцтва пасля Гарадзельскай Уніі, а такжа бліжэйшае яго супрацоўніцтва з Польшчай, чым з Масквой.

Паўстаўшае згэтуль нездаволенне праваслаўнай Беларусі Вітаўт хацеў ліквідаваць самастойнасцю праваслаўнай царквы ў дзяржаве (аўтакефалія), аддзяляючы яе ад Масквы, а такжа, калі гэта магчыма, увядзеннем рэлігійнай уніі праваслаўнай царквы з апостальскай сталіцай. Дзеля гэтых мэтаў балгарскі эмігрант Цамбляк быў пасвячаны на літоўска-беларускага мітрапаліта з сталіцай у Наваградку і ў Вільні і былі такжа зроблены захады аб рэлігійнай уніі на саборы у Канстанцы (1414—1418 гг.). Аднак планы гэтыя напаткалі на вялікія труднасці, і Вітаўт, як вялікі муж у ва ўсім, сілай іх не правадзіў і дазволіў ізноў праваслаўным беларусам прызнаваць мітрапаліта маскоўскага далей, свята аберагаючы нацыянальную і рэлігійную цярпімасць.

Для беларусаў усё гэта мае сапраўды вялікае значэнне. Гэта тое, аб чым мы сёння ламаем галовы і што, зважыўшы ўсё дакладна, вырашаем і вырашаць мусім паводле думкі Вітаўта.

Дарэчы тут будзе адзначыць пункт гледжання на Вітаўта гісторыкаў расійскіх. Многія з іх нават адмаўляюць Вітаўту вялікасці. У чым жа справа? Адказ просты: у выбары гістарычнай дарогі для літоўска-беларускай дзяржавы — дарогі самастойніцкай і заходніцкай.

Як для палякаў слава Вітаўта цямнее, наколькі ён проціўстаўляецца ідэі Ягайлы, ідэі інкарпарацыі і асіміляцыі Літвы і Беларусі з Польшчай, так для расейцаў асоба Вітаўта рысуецца ў святле ад'ёмным, наколькі ён не звярнуў Літвы і Беларусі на шлях праваслаўны, на шлях інкарпарацыі і асіміляцыі з Масквой. Тады б, кажуць яны, Літва і Беларусь асцерагліся б паланізацыі, але не гавораць яны, ведама, у гэткім выпадку, аб маскавізацыі [10].

На наш жа погляд, ідэалогія Вітаўта гістарычнага шляху для яго народаў, а такжа ідэалогія адносна суседніх народаў: палякаў і расійцаў — ідэалогія сапраўднага генія. Здаецца нам, а думкі нашы пацвярджае гісторыя народаў агулам і гісторыя народаў Вялікага Княства Літоўскага ў асобнасці, што шлях да самастойнасці культурнай і палітычнай народаў на ўсходзе Еўропы, асабліва для беларусаў, вядзе не праз усход, а праз захад. А Вітаўт якраз і ішло аб гістарычную дарогу для народаў яго дзяржавы і ён яе выбраў, а якой імя — дружная барацьба беларусаў, літвінаў і ўкраінцаў за сваю самабытнасць з апорай на хрысціянскую заходнюю культуру і цывілізацыю.

## VI

*Стараннi Вiтаўта стацца каралём беларуска-лiтоўскай дзяржавы. Характар i мэты гэтых старанняў. Смерць Вiтаўта i лёс яго самастойнiцкай iдэалогii. Трагiчны для Вiтаўтаўскай iдэалогii год 1569. Часовы трыумф iдэi Ягайлы i iдэi Масквы. Iдэя Вiтаўта iзноў ускрасае.*

Урэшце, каб не здавалася Польшчы, што праз уніі і праз аднаверства Вітаўт аддае свае народы на асіміляцыю з Польшчай, каб было ясным і Маскве, што Літва і Беларусь — гэта не «вотчына маскоўскіх гасудараў», а такжа, каб пакінуць сваім народам у тэстаменце асноўную ідэалогію іх народнага быту — Вітаўт пад старасць з небывалай дагэтуль энергіяй спяшыў каранаваць сябе на самастойнага фактычна і фармальна валадара літоўска-беларускага каралеўства. Здзейсніць Вітаўту гэтай думкі не ўдалося. На пярэдадні каранацыі і смерці Вітаўта Вялікага, як мы ўжо ўспаміналі, Ягайла здзёр карону з чала яго.



27 кастрычніка 1430 г. Вітаўта сярод жывых на зямлі не стала. Але ідэя яго аб самастойнасці літоўска-беларускай дзяржавы аставалася жыць у далейшых пакаленнях літоўскага і беларускага народаў, асабліва за часоў Ягельлёнаў, патомкаў Ягайлы. Пад націскам небяспекі Масквы і пад дамаганнем Польшчы, выкарыстоўваючай варункі, Літва і Беларусь падпісвалі яшчэ шмат разоў уніі з Польшчай, але ідэя Вітаўта Вялікага адкідала іх. І так справа уніі Вялікага Княства Літоўскага па смерці Вітаўта паняўлялася 1447 г., 1451 г., 1453 г., 1501 г., 1563 г., 1564 г., 1566 г., 1567 г. Аж урэшце, аслабленая літоўска-беларуская дзяржава ў 1569 г. у Любліне падпісала унію, якая касавала цалкам незалежнасць гэтай дзяржавы.

Ідэя Ягайлы затрыумфавала, перамагла ідэю Вітаўта. Але ці справядлівая была гэна перамога і ці трывалая? Перамога гэна святкавала сваё на нашых землях свята праз два вякі, аж да канца XVIII ст., калі Польшча ў сваёй экспансіі на ўсход, спаткаўшыся з другой, такжа самалюбнай прэтэндэнткай на нашыя землі, з Масквой, казаў бы Ягайлам навываратa, была паканана гэнай Масквой, якая сцяг свой горда заткнула на грудзях самой нават Польшчы.

Але і гэта не надоўга сталася — мала больш, як на адзін век. Нэмэзіс дзеёвая, якая ўсцяж прыпамінае чалавецтву аб пашане справядлівасці і гэтай «сабіральніцы» нашых земляў, планы зніштожыла. Маю на ўвеце гады сусветнай вайны, час расійскай рэвалюцыі і вынікі гэтых падзеяў для заборчай Расіі.

Пасля развалу Расіі магутны дух Вітаўта ізноў абудзіўся на нашых землях. Народы, становячыя некалі слаўную яго дзяржаву — літвіны, беларусы і ўкраінцы, натхнёныя духам ягоным, прыпомнілі аб сваёй слаўнай некалі мінуўшчыне і прыступілі, на гэты раз кожны паасобку, да яе адбудовы. На перашкодзе бачым ізноў адвечных праціўнікаў гэтых народаў — дух польскі Ягайлы і дух маскоўскі.

Дык і ня многа гэтыя народы даканалі. Літвіны здабылі сваю незалежнасць часткова, беларусы і ўкраінцы яшчэ менш, бо і ня частку, а толькі сурагаты самабытнасці, толькі фікцыю яе на частцы сваей тэрыторыі, пад чырвоным сцягам С.С.Р.Р.

## VII

*Вітаўт Вялікі і будучыня Беларусі, Літвы і Украіны.*

Дык што ж на гэта дух Вітаўта Вялікага? Мо ўжо прыйшоў канец яго дзейнасці? Мо ўжо раз назаўсёды ідэя Ягайлы і ідэя Масквы ўсталілі граніцу сваёй экспансіі на нашых землях?

На гэтыя пытанні няхай нам адкажуць сучасныя польска-літоўскія і польска-расійскія граніцы, якія парэзалі спадчыну Вітаўта.

Вось тут шмат нам мае сказаць Вітаўт і гавора сапраўды... Ідэя яго сёння, як жывая прад намі!..

Жывая сёння і жывая будзе заўтра. Калі наступіць поўнае зрэалізаванне народных ідэалаў літвінаў, беларусаў і ўкраінцаў, калі ідэалы гэтыя прыадзенуцца ў вопратку паасобнай іх самастойнасці — будзе гэта толькі этап да яшчэ бліжэйшага сужыцця іх, да шырокай супольнай палітычнай арганізацыі, маючай вокны на свет шырокі праз Чорнае і Балтыйскае моры. Адроджаныя культурна, самастойныя палітычна, асвечаныя духам Вітаўта Вялікага народы гэтыя ўбачаць як дарэмныя кошты на лішняе войска, на непатрэбную абарону граніц, як беспатрэбныя гранічныя труднасці пашпартовыя, мытныя і г. д. Ідэал бліжэйшага сужыцця і супрацоўніцтва гэтых народаў падыктуе ім гэта.

А да гэтага гарманійнага сужыцця Беларусі, Літвы і Украіны далучацца такжа і Польшча і Расія — усе, як сапраўды «вольныя і роўныя»... У гэтым жа ідэалогія Вітаўта, душа яго і праца...

Словам, ідэя Вітаўта Вялікага — гэта праводная зара для літвінаў, беларусаў, а такжа і для ўкраінцаў, як у мінуўшчыне, так і ў сучаснасці і ў будучыне. Дарогі гэтых народаў, супярэчныя з духам Вітаўта — дарогі смерці іх, дарогі ж натхнёныя духам Вітаўта — гэта дарогі іх перамогі, дарогі светлай будучыні!..

---

[1] *Ор. Феликс Конецзны. Йагиелло и Витолд. Лвόв*, 1893, *стр.* 1.

[2] Любавскій М. К. Очерк Исторіи Литовско-Русскаго Государства. М., 1910, с. 33.

Любаўскі Мацей. Літоўска-Беларуская дзяржава ў пач. XVI ст.; у кніжцы-зборніку: «400-лецьце беларускага друку». Менск, 1926, с. 60—63.

[3] Ігнатоўскі У. Кароткі нарыс Гісторыі Беларусі. Вільня, 1921, с. 35.

[4] Ігнатоўскі У. Там жа.

[5] Карскій Е. Бълоруссы І. Вильна, 1904, с. 111—112.

[6] Vytautas Didysis 1350—1430, Kaunas, 1930 — Vutauto Didžiojo metai. Есьць гэта зборнік паасобных працаў аб Вітаўце Вялікім. У канцы зборніка знаходзіцца мапа Вял. Кн. Літ. з часаў Вітаўта.

[7] Koneczny F. Там жа, с. 2—3.

[8] Kolankowski — Dzieje W. Ksiestwa Litewskiego I. Warszawa, 1930.

[9] Szujski, Smolka, Halecki, Prochaska i inszyja.

A. Prochaska — Dzieje Witolda W. Ksiecia Litwy. Wilno, 1914, str. 387—8.

[10] Кояловичъ М. Чтенія по исторіи Заподной Россіи. С. Петербургъ, 1884. Бестужевъ-Рюмінъ — Русская Исторія, 1895 і іншыя.

Асабліва ярка расейскі погляд на Вітаўта рысуе нам Брянцевъ. Праўда, аўтар гэты да паважных расейскіх гісторыкаў не належаць, але і паважныя расейскйя гісторыкі ў гэтай справе ў сутнасці ад Брянцева адышлі не далёка. Дзеля гэтага пазваляем сабе тут памясьціць наступныя яго думкі аб Вітаўце:

«...Первая и самая главная ошибка Витовта была та, что онъ оставилъ православіе и перешелъ въ католичество и тъмъ навсегда оттолкнулъ отъ себя главную и могущественную часть народонаселенія въ своемъ государствъ, именно: православно-русскую, а затъмъ, второю ошибкою его было то, что онъ, вопреки политическимъ разчетамъ увлекся латинскою цивилизаціею, и все руское отстранилъ; изъ этихъ двухъ ошибокъ пошли и всъ другія его ошибки. Не измъни онъ православію, не оттолкни отъ себя русской народности, а опрись на нее подобно дъду и дяди, то Литва не была бы поглощена Польшею, какъ это случилось въ послъдствіи, государствомъ болъе слабымъ, чъмъ сама Литва».

Брянцевъ П. Дм. Исторія Литовскаге Государства съ древнъйшихъ временъ. Вильна, 1889, с. 218.

Падрыхтоўка тэксту Уладзіміра **КРУКОЎСКАГА**.

*Аркадзь СМОЛІЧ*

# ГЕАГРАФІЯ БЕЛАРУСІ

## РАЗДЗЕЛ І

## Насяленне Беларусі і яго гаспадарная дзейнасць

**Вызначыць саўсім точна лік насялення Беларусі цяпер яшчэ нельга; пасля вайны хаця і праводзіліся ва ўсіх частках Беларусі народныя перапісы, але рабіліся яны найбольш наспех, а часамі і з пэўнымі палітычнымі мэтамі, дык надта верыць ім нельга. Самы агульны і досіць добры перапіс быў зроблены яшчэ ў 1897 г. Тады на ўсім Беларускім прасторы налічылі каля $10^{1}/_{2}$ мільёнаў усяго насялення. Пазнейшыя падлічэнні выявілі, што насяленне ў нас у сярэднім прырастае на 2 % у год. Карыстаючыся з гэтых цыфраў, можна разлічыць, што ў момант пачатку вайны (у 1914 г.) жыло ў Беларусі каля $14^{1}/_{2}$ мільёнаў насялення. За час вайны не толькі рост насялення спыніўся, але адбылося вялізарнае яго змяншэнне. Паводле перапісу, зробленага польскай уладаю ў 1919 г. у Заходняй і Цэнтральнай Беларусі, выходзіць, што нават найменш зачэпленыя вайною паветы Меншчыны страцілі праз вайну больш 25 % насялення, далей жа на захад — яшчэ большае спусташэнне. Паўночна-заходняя Беларусь (Віленшчына) страціла каля 35 %, а паўднёва-заходняя (Горадзеншчына) — каля 60 % насялення, пры чым у паасобных паветах страта гэтая даходзіць аж да 70 % (Берасцейскі пав.). Наогул выходзіць, што Заходняя Беларусь страціла больш 3 мільёнаў людзей, а калі лічыць, што рэшта Беларусі гэтак сама спустошана, як Меншчына, дык выйдзе, што наогул Беларусь за вайну страціла каля 5 мільёнаў насялення.**

**Гэткае вялікае змяншэнне насялення ёсць бязумоўна толькі часовым з'явішчам. Бо з тых 3-х мільёнаў людзей, якія былі выгнаны расейскім войскам з Беларусі ў бежанства, хаця значная іх частка загінула па дарозе і ў чужой старане, а значная частка ўжо вярнулася на Бацькаўшчыну, шмат яшчэ застаецца і цяпер параскіданых на вялізарных прасторах Маскоўшчыны і Сібіру. Не гледзячы на бязмеры цяжкія варункі дарогі ў Бацькаўшчыну, яны ўсё ж не кідаюць надзеі вярнуцца да сваіх спаленых хатаў, на родную зямельку. І пэўна шмат іх яшчэ вернецца назад; ды нават і тых, якія застаюцца на чужыне, павінны мы заўсёды мець на ўвазе, калі будзем высняць агульны лік беларусаў.**

**З гэтых прычынаў, кажучы аб гушчыні насялення паасобных частак Беларусі, мы будзем разглядаць не выпадковыя даныя аб спустошаных паветах, а перадвэенныя лічбы, калі жыццё было менш-больш сталае. Гушчыня насялення мае дужа вялікае значэнне і ўплыў перад усім на эканамічнае жыццё стараны, а праз гэта і на культурнае ды палітычнае яе палажэнне. Найбольш культурныя староны ў свеце маюць і найгусцейшае насяленне; староны, дзе жывуць некультурныя народы, звычайна бываюць рэдка заселены. І хоць з гэтага правіла бываюць выняткі (Фінляндыя), але трэба прызнаць, што згушчэнне насялення цесна звязана з развіццём матэрыяльнай і духоўнай культуры краю. Гушчыня насялення Беларусі перад вайною дайшла ў сярэднім да 50 чал. на кв. вярсце, цяпер яна — каля 35 чалавек, гэтак сама менш-больш, як была 25 гадоў назад, у часе перапісу 1897 г.**





5. Віленскія замкі ў XVII ст.

**Паводле даных гэнага перапісу насяленне размешчана на прасторы Беларусі няроўна. У краінах з лепшымі грунтамі, з развітым эканамічным жыццём насяленне гусцейшае; на бедных грунтах, далёка ад местаў і шляхоў, адным словам, у бедных і глухіх закутках, насяленне жыве рэдка. Найгусцейшае насяленне мела тады (у 1897 г.) Наваградчына, Амсціслаўшчына і Лепельскі павет, дзякуючы сваім багатым грунтам і, з другога боку, Беласточчына і Лесастэп, дзе асабліва моцна развівалася прамысловасць. Усе гэтыя краіны ўжо тады (у 1897 г.) мелі гушчыню 45—50 чал. на кв. вярсце аднаго толькі вясковага насялення, не лічучы меставага насялення. Вакол гэтых гусцейшых краінаў ляжалі радзей заселеныя прасторы, а найрадзейшае насяленне было ў Палессі, асабліва ў Прыпяцкім (Мазырскі пав.— 12 чал на 1 кв. вяр.) і ў паўночнай Смаленшчыне (Бельскае Палессе —16 чал. на 1 кв. вяр.). Цяпер лічбы гэтыя моцна змяніліся, але да самае вайны адносіны між імі заставаліся даўнейшыя, і мы на гэтыя лічбы будзем увесь час апірацца, як на найбольш пэўныя і адпавядаючыя нармальным варункам. Трэба аднак адзначыць, што ў Прыпяцкім Палессі насяленне перад вайною дужа шыбка ўзрастала і, калі б усё было спакойна, магчыма, што гэтая краіна ўжо была б цяпер не апошняю ў Беларусі па гушчыні насялення.**

**Калі Беларусь мае цяпер не вельмі густое насяленне, дык затое ёсць у яе цвёрдая надзея, што ў будучыне з гэтага боку яна дагоніць, прынамсі, калі не перагоніць, сваіх заходніх суседзяў. Надзею гэтую дае надзвычайна шыбкі прырост насялення ў Беларусі. У часе скасавання прыгону ў Беларусі жыло крыху больш за 5 мільёнаў людзей; за 60 гадоў, якія мінулі з таго часу, насяленне Беларусі паспела было павялічыцца ў тры разы. Што году на кожную тысячу чалавек прыбывае 20 новых. Важна адзначыць, што гэтае павялічэнне насялення адбывалася ў спакойныя часы, і яго прычынаю была значная перавага радзінаў над смерцямі ў Беларусі, а не перасяленне ў Беларусь чужых людзей (іміграцыя), якое калі і адбывалася тады, дык у зусім малых размерах. На 1000 чалавек што год у Беларусі раджаецца ў сярэднім 45 чалавек, а памірае —25.**

**З еўрапейскіх краёў толькі ў Маскоўшчыне ды ў Украіне лік радзінаў крыху большы, чым у Беларусі, усе ж іншыя краі з гэтага боку застаюцца далёка ззаду (у Францыі на 1000 жыхароў — толькі 21 радзіны). Праўда, і памірае ў нас людзей больш, чым у культурных старонках Захаду, але ўсё ж шмат менш, чым у Маскоўшчыне і Украіне; праз гэта й прырост у нас адзін з найбольшых у Еўропе. Пачаўся гэты шыбкі прырост пасля скасавання прыгону; прычынаю яго ёсць значнае зямельнае раздолле, якое мае Беларусь раўнуючы да іншых краёў, здаровы клімат ды крыху мо большая агульная культурнасць насялення, чым у нашых усходніх суседзяў, і праз тое — меншая смертнасць. Цікава, што чым далей пасувацца па Беларусі на ўсход, у бок Маскоўшчыны, тым смертнасць насялення павялічваецца: у Віцебшчыне на 1000 жыхароў памірае ў год 22, у Меншчыне —26, у Магілёўшчыне —27, а ў Смаленскай губерні (разам з велікарускімі паветамі) —39 чалавек. І гэта не гледзячы на тое, што ў Смаленшчыне існуе ўвесь час земскае самаўрадаванне, якое клапоціцца аб медыцынскай помачы і якога ў Цэнтральнай Беларусі да апошняга часу не было. На захадзе Беларусі лік радзінаў крыху меншы, чым на ўсходзе. Найбольшы прырост у Беларусі маюць палескія паветы (найбольш — Мазырскі), дзе найбольшае зямельнае раздолле і куды таксама пакрысе перасяляецца, купляючы зямлю, насяленне з гусцей заселеных краінаў Беларусі.**

**Насяленне Беларусі жыве або ў местах і мястэчках, або ў вёсках, засценках, дварах, фальварках і хутарах. Розніца паміж местамі і мястэчкамі галоўным чынам па вялічыні; мястэчкі маюць меншы лік жыхароў, чым месты. Мястэчкі ж адрозніваюцца ад вёсак перад усім заняткамі жыхароў, але таксама і велічынёй. У вёсцы ўсе блізка жыхары займаюцца гаспадаркаю; у мястэчках значная частка іх занята гандлем і ў прамысловасці. Кожнае мястэчка ёсць гандлёвым цэнтрам для свае ваколіцы і ўвесь гандаль у нас адбываецца ў местах ды мястэчках. У Беларусі ёсць каля 70 местаў і больш 500 мястэчак. Жыве ў іх каля 25 % усяго насялення Беларусі. Найбольшыя месты Беларусі: Вільня — перад вайною мела 200 тыс. жыхароў, Дзвінск —120 тыс., Менск — 110 тыс., Віцебск —115 тыс., Беласток —90 тыс., Горадня —70 тыс., Смаленск —70 тыс., Гомель —65 тыс., Магілёў —60 тыс., Берасце —60 тыс. Месты Беларусі вельмі шыбка растуць, асабліва калі праз іх пройдзе чыгунка. Тады... праз кожныя блізка 20 гадоў яны па-**



Даўнейшыя беларускія тыпы.

двойваюць сваё насяленне, якое збіраецца ў іх найбольш з вёсак акалічных краінаў. Апрача правядзення чыгунак, росту местаў моцна дапамагае развіццё прамысловасці. Аб шыбкасці росту местаў залежыць іхні знадворны выгляд. Тыя месты, што вельмі хутка растуць, у значнай меры зложаны з новых, недабудаваных кварталаў, маюць рух і ажыўленне на вуліцах. У местах з слабым ростам новыя будоўлі спатыкаюцца рэдка, затое шмат руінаў, жыццё ідзе цішэй. У апошнія часы перад вайною найшыбчэй раслі з вялікіх местаў: Віцебск, Гомель і Дзвінск; Менск і Вільня раслі цішэй. Цяпер аднак палажэнне зусім змянілася і аб сучасным росце і выглядзе нашых местаў можна будзе гаварыць толькі праз нейкі час.

Вялічыня вёсак у паасобных краінах Беларусі не роўная; залежыць гэта ад прыродных варункаў. У марэнным краі вёскі маленькія, з некалькіх хат, у сярэднім маюць па 40—60 і не больш 100 жыхароў. Зразумела, што большым вёскам трудна было б раскінуць свае шнуры на няроўнай, зрэзаннай азёрамі паверхні гэтае краіны. Далей на поўдзень і ўсход, меншбольш у краінах паўднёвага ланцуга ўзгор'яў і наогул у краінах з слаба-зыбістаю паверхняю, вёскі большыя, па 100—200 чалавек у кожнай. На паўднёвых жа нашых раўнінах, асабліва ў паўднёва-ўсходнім Палессі і Лесастэпе, вялічыня вёсак найбольшая — у сярэднім больш, як па 200 жыхароў у кожнай. Вёскі даўжынёю часамі па некалькі вёрст раскідаюць на дзесяткі вёрст свае палеткі і ляжаць адна ад адное далёка; гэтаму якраз спрыяе раўніннасць мясцовасці.

Насяленне Беларусі належыць да некалькіх нацыянальнасцей, якія розняцца між сабою моваю і звычаямі. Найбольш у Беларусі ёсць беларусаў. На кожную сотню чалавек прыходзіцца ў сярэднім 77 чалавек беларусаў. У розных частках Беларусі гэты працэнт няроўны: на ўсходзе ён большы, насяленне мае тут больш аднародны выгляд; на захадзе насяленне больш мяшанае, з значнаю ўсё ж перавагаю беларусаў. Усіх беларусаў у Беларусі жыве цяпер каля 8 мільёнаў; калі ж палічыць усіх беларусаў, рассеяных у бежанстве, на эміграцыі ў Амерыцы, Сібіры і ў местах даўнейшай Расіі, дык агульны лік іх будзе пэўна каля 11— 12 мільёнаў.

Пасля беларусаў найбольш жыве ў Беларусі жыдоў, у сярэднім каля 14 % усяго насялення, значыць, каля $1^1/_2$ мільёнаў людзей.

Палякаў і маскоўцаў жыве ў Беларусі тысяч па 400 адных і другіх, па нейкіх 4 % усяго насялення; палякаў больш жыве на захадзе Беларусі, маскоўцаў — на ўсходзе.

Жывуць у нас і іншыя народы: немцы, латышы, ліцвіны, украінцы, татары, але кожнага з гэтых народаў жыве ў нас ня шмат...

## РАЗДЗЕЛ II

## Віленская краіна

Віленшчына мае досыць пярэсты нацыянальны склад насялення. У часы дагістарычныя жылі тут, відаць, ліцвіны (бо сялібы ліцвінаў даходзілі і да самых усходніх рубяжоў Беларусі). На пачатку гістарычнага жыцця краіна была заселена або нейкім пераходным між беларусамі ды ліцвінамі племям, або мела мешанае насяленне, дзе побач жылі і беларусы, і ліцвіны. Наогул справа гэтая нявыясненая. У часы Вялікага княства Літоўскага, асабліва перад Люблінскай уніяй, калі Віленшчына стала цэнтрам вялікай дзяржавы з беларускай культурай — беларускім пануючым класам, у яе шырокай хваляй палілася беларуская каланізацыя з прастораў усходняй Беларусі *.

* Каланізацыя гэта была выклікана між іншым страшэнным спусташэннем Вільні і сумежных з ёю паветаў у сярэдзіне XVII і пачатку XVIII ст., калі ад голаду і пошасцяў выміралі дзясяткі тысяч людзей (у 1710 г. у самой толькі Вільні памерла 35 000 людзей). Тады ў спустошаныя вёскі Віленшчыны сталі перасяляцца масамі беларускія сяляне з усходняй Беларусі; аб гэтым дбалі, пэўне ж, земляўласнікі, асабліва тыя, якіх двары часта бывалі параскіданыя па ўсім ваяводствам Беларусі і якім саўсім лёгка было перасяляць сваіх падданых з аднаго двара ў другі. Балінскі ў гэтай справе піша: «Даўнейшыя інвентары, або апісанні валасцей, даводзяць, што змена гэта (насялення) бярэ пачатак ад шведскіх войнаў і часоў Яна-Казімера (1649—1669), калі войны супольна з пошасцяй, якая пасля іх лютавала ў краі, шмат выцерабілі насялення. Новыя насельнікі, што перабраліся сюды з глыбейшай беларуска-літоўскае часці Вялікага княства, дапамагалі змене мовы і паміж таго насялення, якое заставалася. (Balinski i Lipinski. Starożytna Polska).





Рака Вялля (суч. Вілія).

Гэтая каланізацыя моцна павялічыла тут сілу і значэнне беларускага элементу і адсунула ліцвінаў далей на захад. Побач з каланізацыяй павялічэнне беларускага насялення адбывалася яшчэ і іншым спосабам. Ліцвіны, прыймаючы культуру беларускую, як вышэйшую і пануючую ў дзяржаве, пакрысе пераймалі і мову і звычаі беларускія, змешваліся з чыстым беларускім насяленнем і праз некалькі вякоў там, дзе былі ўперад скрозь жылі ліцвіны, пазаставаліся толькі невялічкія іх астраўкі. Адзін з найцікавейшых такіх астраўкоў ляжыць вёрст 40 на ўсход ад Вільні (Гярвяцкая парахвія) і перахаваўся да нашага часу. У рэзультаце абодвых успомненых працэсаў беларускае насяленне акружыла Вільню, зрабіла яе беларускім местам і пашырылася значна далей на захад. Пасля Люблінскай уніі, калі і беларуская і літоўская шляхта пачалі польшчыцца, беларускі напор на захад аслабеў; не згас ён, аднак, і да апошняга часу, бо хіба толькі ў цяперашнім веку, пад уплывам развіцця літоўскай нацыянальнай свядомасці спыніўся пераход ліцвінаў на беларускую мову. Але з другога боку сярод нядаўна збеларушчаных ліцвінаў стала асабліва моцна пашырацца польская мова, і ў нашы часы на этнаграфічнай мяжы паміж ліцвінамі і беларусамі можна сустрэнуць шмат людзей, ужываючых галоўным чынам польскую мову і прызнаючых сябе палякамі. Ці застануцца яны і назаўсёды палякамі, ці, можа, вернуцца да сваёй даўнейшай, літоўскай мовы, ці мо да беларускай — цяпер угадаць трудна. У кожным разе на беларуска-літоўскім узмежжы нацыянальныя працэсы яшчэ і дагэтуль не закончыліся і гэта ёсць важнейшай прычынай сучасных палітычных спрэчак з-за Віленшчыны.

Вільня — культурны і эканамічны цэнтр усёй Беларусі і Літвы, сталіца вялікіх князёў літоўска-беларускіх, найбольшае места на ўсім прасторы Беларусі. Ляжыць Вільня ў катліне, акружанай з усіх бакоў гарамі. З захаду і поўдня ідуць Панарскія горы, а з усходу, ля самай Вільні, высяцца пяшчаныя горы — Замкавая, Трохкрыжовая і Бакешавая. З поўначы катліну замыкае ўзгор'е Шашкіні. Пасярод катліны цячэ Вялля і тут у яе, ля падножжа Замкавае гары, ўпадае Вялейка. Вільня пабудавана на левым беразе Вяллі, пры ўтоку Вялейкі.

Хаця лягенда прыпісуе залажэнне Вільні Гедыміну і адносіць яго да пачатку XIV веку, аднак можна з пэўнасцю сказаць, што Вільня куды старэйшая. Хто і калі яе залажыў, нават які народ — немаведама. У летапісу першая вестка аб Вільні гаворыць, што віленцы выбралі сабе за князя аднаго з беларускіх полацкіх князёў — Расціслава (унука Усяслава Чараўніка); было гэта ў 1128 г. Гэта дазваляе нам лічыць, што Вільня ад самага пачатку была беларускім местам. Пасля, калі вялікія князі літоўскія перанеслі сюды сваю сталіцу і абкружылі сябе беларускім баярствам, Вільня перахавала свой беларускі характар. Ліцвіны займалі толькі паўночную частку горада, каля Замкавае гары, каторая звалася Літоўская Палавіца. Беларуская палавіца займала паўднёвую частку Вільні, пад Вострую Браму.

Вільня тых часоў была вялікім, багатым і культурным местам. Насялення ў ёй было да 200 тысяч; апроч беларусаў і ліцвінаў, было

шмат жыдоў, немцаў і інш. Прыдворнае жыццё вымагала раскошы, і вяльможы, жывучы самі ў Вільні, сцягвалі з усяго прастору дзяржавы ўсё, што было лепшага ў іхніх маёмасцях, а перад усім лепшых майстроў, рамеснікаў. У сталіцу з'язджаліся ўсе лепшыя культурныя сілы. Затым у Вільні былі вельмі моцна развітыя рамёслы, было шмат школаў, друкарняў. Урэшце красавала тады й гандлёвае жыццё Вільні. Для нас гэта цікава між іншым яшчэ і таму, што ўсе культурныя і тэхнічныя сілы ішлі ў Вільню найбольш з Беларусі, і Вільня, дзеля таго, мела характар чыстабеларускага места.

У XVII веку беларускую культуру ў Вільні стала выціскаць польская. З гэтага ж часу пачаўся і ўпадак Вільні. Рэлігійная барацьба, даведзеная да крайнасці, пажары, хваробы, голад, напады чужаземцаў — усё гэта памагала ўпадку Вільні.

У канцы XVIII і пачатку XIX в. ў Вільні зноў закіпела культурнае жыццё. Справы прасветы пайшлі моцна ўперад, паадчынялася шмат новых школаў; з старой, існаваўшай яшчэ з 1578 г., вышэйшай школы — езуіцкай Акадэміі быў створаны Віленскі універсітэт, які стаў на чале гэтага прасветнага руху. Было ў ім 4 факультэты: фізіка-матэматычны, мэдыцынскі, этыка-палітычны (з тэалогіяй) і літаратурна-мастацкі. Хаця ўся навука ў ім ішла на польскай і лацінскай мовах, аднак значэнне Віленскага Універсітэту для ўсёй Беларусі было велізарнае. Там выгадаваліся шырокія кадры краёвай інтэлігенцыі, якая кінула першыя іскры беларускага адраджэння. З паміж 47 яго прафесараў — аж 36 было родам з Беларусі і Літвы і толькі 2 — з Польшчы.

Праіснаваўшы каля 30 гадоў, універсітэт быў у 1832 г. зачынены расійскім урадам. Толькі медыцынскі факультэт яго існаваў яшчэ 9 гадоў (1832—1841), ужо з выкладаннем па расійску, ды тэалагічны факультэт ператорваны ў Каталіцкую Духоўную Акадэмію. У 1849 г. і гэтая Акадэмія была пераведзена з Вільні ў Пецярбург. Тады ж, у царстваванне Мікалая I, была пазачыняна большая частка школ у Беларусі. Лепшыя школы разам з іхняй маёмасцю пераведзены былі ў Маскоўшчыну. У будынках Універсітэту і іншых школ паадчыняліся расейскія сярэднія школы. У палацах вяльможаў, у каталіцкіх манастырах расейскі ўрад зрабіў вастрогі, казармы. З еўрапейскага культурнага цэнтру, якому дзівавал іся чужаземцы, маскоўцы стараліся зрабіць звычайны «губернскі горад»,— поўны казармаў і чыноўнікаў.

З другога боку, за апошнія 3 вякі насяленне Вільні вельмі моцна спольшчылася. Патомкі беларусаў і ліцвінаў часта ўжо не разумеюць роднай мовы і шчыра лічаць сябе палякамі. Гэткім парадкам з беларускай Вільні сталася Вільня польска-маскоўскаю.

За апошнія часы і гэтае палажэнне змянілася. Абудзіліся нацыянальна і беларусы, і ліцвіны, і пакрысе адбіраюць адну па адной свае старыя пазіцыі ў палякаў. А маскоўцы былі наносным элементам і, з выхадам расійскіх войскаў з Вільні, счэзлі.

У Вільні засталося шмат старасветчыны. Цэлыя дзесяткі старасвецкіх касцёлаў і цэркваў падымаюць свае вежы над Вільняй. Як памятка сівое мінуўшчыны над местам на Замкавай гары высіцца руіны вялікакняжскага замку, пабудаванага Гэдымінам. Апроч гэтага Верхняга Замку, ля падножжа гары быў вялікі ды пышны Ніжні Замак, дзе звычайна і жылі вялікія князі.

У Катэдральным касцёле і ў Прачысценскім саборы пахаваны вялікія князі Літоўска-беларускія. У Катэдры знаходзяцца і іхнія партрэты і статуі. У капліцы над Вострай Брамаю ёсць найслаўнейшы беларускі абраз Багародзіцы, да якога з усёй Беларусі ходзяць на багамолле. Шмат якія з касцёлаў і цэркваў годныя ўвагі дзеля сваёй архітэктуры, скульптуры і малярства. З гэтага боку Вільня ёсць найцікавейшае места Беларусі. Нідзе не захавалася гэтулькі цікавых і харошых будынкаў і абразоў. У Траецкім манастыры (адным з старэйшых) змяшчаецца беларуская гімназія.

У Вільні культурнае жыццё ідзе байчэй, чымся у якім іншым месце. Выдаецца шмат газет і журналаў у розных мовах, існавалі ўвесь час культурныя і палітычныя таварыствы і гурткі, іншыя адкрыта, а то і патаемна. Усё гэта рабіла з Вільні культурны цэнтр усяго краю.

Вільня была да апошніх часоў цэнтрам і нацыянальнага беларускага руху. Тут выдаваліся першыя беларускія газеты і кніжкі, закладаўся першы тэатр беларускі і навуковыя таварыствы, а таксама і беларускія школы. Вільню таксама лічаць сваім галоўным культурным цэнтрам і жыды (іх у Вільні больш палавіны жыхароў) і ліцвіны.

Вільня — найвялікшае места Беларусі; у ім жыве больш за 200 000 чалавек. Апрача палітычных і гістарычных прычынаў, гэтаму спрыяе палажэнне Вільні на важным вузле чыгунак. З Вільні разыходзяцца чыгункі ў пяцёх кірунках. Яны злучаюць Вільню простымі лініямі з Захадам і поўднем Беларусі.

## РАЗДЗЕЛ III

# Віцебская краіна

Рамёслы ў краіне слаба развітыя.

Эканамічны занепад Віцебскай краіны часткаю тлумачыцца яе рэдкім насяленнем. Аднак гэтае агульнае тлумачэнне тутака ўжо затым несправядлівае, што як раз адсюль шмат народу ідзе на зарабаткі — асабліва ў расійскія вялікія месты — Петраград і Маскву.

Трэба дзеля таго звярнуць асаблівую ўвагу на гісторыю краіны. Спрадвеку краіна была заселена крывічамі і належала найбольш да Віцебскага, а часткаю да Полацкага княстваў. Таксама спрадвеку праз яе ішлі вялікія шляхі з поўдня — да Ноўгарада і Пскова і да Варажскага Краю. Дзеля таго тут ніколі не сціхала барацьба беларусаў з суседзямі. Асабліва барацьба гэтая разгарэлася тады, калі ўзмацнела Масква, а ўсе землі беларускія сабраліся ў Літоўска-Беларускую дзяржаву. Азёрная Віцебская краіна была для апошняй дзяржавы той сцяною, якая бараніла ад Маскоўшчыны самае



Віцебск.

яе сэрца, яе культурныя цэнтры: Полацак, Вільню. Дзеля таго праз увесь час войнаў з Масквою тут адбываліся самыя заўзятыя бітвы. Абедзьве стараны стараліся замацаваць за сабою азёрны край, і дзеля таго будавалі тут замкі і крэпасці. Уся краіна засеена руінамі гэтых крэпасцей, якія сумна высяцца на астравах азёр, на ўсхоных узгорках, або ў лясной нетры. Зусім зразумела, што спакойнаму гаспадарскаму насяленню ў час войнаў жыцця не было. І толькі, калі барацьба скончылася, край пачаў аджываць.

Праз увесь 16-ты век, калі рэшта Беларусі жыла найбольш шырокім нацыянальна-культурным жыццём, паветы Себежскі і Невельскі, разам з Усходняй Беларусяй (Смаленшчынаю), прабылі пад уладаю Маскоўшчыны, якая і тады ўжо старалася іх абмасковіць. Пэўна ж гэтае сталецце таксама вельмі нядобра адбілася на жыцці Віцебскай краіны. На мове тамашніх беларусаў яно пакінула свае сляды. І да нашых часоў яны дамешуюць да мовы шмат расійскіх слоў і зваротаў.

Дзеля лепшай абароны граніц вялікія князі і каралі раздавалі землі на пагранічччы вайсковым людзям, якія называліся панцырнымі баярамі, або шляхтаю. У часы прыгону яны былі вольнымі. Гэта адбілася і на іх патомках, якія замажнейшыя і культурнейшыя ад звычайных сялян. Патомкаў гэтых панцырных баяраў шмат ёсць у Себежскім, Невельскім ды іншых прыгранічных паветах Беларусі.

Адным толькі Віцебская краіна папраўдзе багатая — гэта шляхамі. Апроч вадзяных шляхоў, аб якіх ужо гаворана, краіну сякуць аж пяць чыгункавых ліній. З Віцебску і Невеля разыходзяцца чыгункі ў чатырох кірунках. Апроч таго праз усю блізка краіну ідзе шаша.

У нашы часы, так сама як і ў сівой мінуўшчыне, застаецца Віцебшчына вялікім раздарожжам. Усе месты краіны стаяць пры чыгунках (зраўнуй з Мсціслаўшчынаю!). Гэта дае надзею на тое, што ў недалёкай будучыне яе эканамічнае жыццё зноў адрадзіцца.

## Важнейшыя мясцовасці

У надзвычайна прыгожай мясціне над Дзвіною, дзе, звіваючыся на дне глыбокіх яроў, у яе ўпадае р. Віцьба, стаіць стары Віцебск. Гісторыю гэтае места мела багатую і цікавую. Не вяжучыся пераказаць яе тут, успомнім хаця аб некаторых цікавейшых выпадках з гэтай гісторыі.

Таксама, як і шмат іншых беларускіх местаў, заложаны Віцебск не за памяццю гісторыі. Быў ён найбольш звязаны з Полацкам, але ў некаторыя часы быў у залежнасці ад Смаленску. Віцебск вельмі доўга бараніў свае незалежнасці перад літоўскімі князямі. Дастаўся ён урэшце Альгерду, ды і той не заваяваў яго, а атрымаў, як пасаг за Віцебскаю княжною, з якою ажаніўся, стаўшыся такім чынам Віцебскім князем. Альгерд, як ведама, быў грэцкай, усходняй веры. Вось жа ў Віцебску ён пабудаваў некалькі цэркваў. Адна з іх, якую ён, нават, толькі перабудаваў, існуе і да нашых часоў (Царква Благавешчання). Так сама пабудаваў Альгерд на левым беразе р. Віцьбы і Дзвіны моцныя каменныя замкі, найбольшыя

і найлепшыя ў той час у Беларусі. Аб сцены грозных замкаў віцебскіх не раз разбівалася чужаземная навала. Адважна бараніліся ў іх віцябляне перад маскоўскімі ваяводамі. А адбараніўшы роднае места не раз праганялі ворагаў і з межаў краю. У 1605 г., прыкладам, віцебская дружына пад камандаю Марка Лыткі напала сваім адумам на маскоўскае войска і зусім яго разбіла. Наогул, віцябляне адзначаліся сваёю ваяўнічасцю, імкненнем да волі, самаўрадавання і г. д.

Віцебск спрадвеку быў жывым гандлёвым местам. Заўсёды меў ён гандлёвыя зносіны з Рыгаю, Кенігсбергам і нават Лейпцыгам, вывозячы найбольш футры і скуры. Гандаль гэты моцна ўзбагачаў жыхароў, а зносіны з Заходняй Еўропай высока падымалі места з боку культурнага. Але сталыя войны з Маскоўшчынаю моцна падрывалі дабрабыт Віцебску. Да ваенных бедаў далучыліся яшчэ і ўнутраныя рэлігійныя сваркі. У 1623 г. на грунце гэтых сварак быў забіты ў Віцебску гарачы прапаведнік Уніі арх. Езафат Кунцэвіч, прызнаны пасля Р.-Каталіцкім Касцёлам за святога. За гэтае забойства ўсё места было моцна пакарана. Быў зняты вечавы звон, разбурана ратуша і адабрана магдэбургскае права. Пасля, аднак, дзеля ваенных заслугаў віцяблян усе правы былі ім зноў вернеоыя.

Але найгоршая бяда сталася Віцебску сто гадоў пазней. У час шведскай вайны віцябляне спрыялі шведам і нават памаглі ім грашамі. За гэта Пётр І загадаў спаліць Віцебск. Казакі падпалілі места з усіх бакоў. Згарэлі пад той час замкі, ўсё места, ратуша, крамы, усе прадмесці, 4 касцёлы, 12 цэркваў, а ад Задзвіння * казакі ўзялі выкуп. З гэтае пары Віцебск моцна падупаў і пачаў ён аджываць толькі ў апошнія дзесяткі гадоў, калі правялі чыгункі.

Цераз Віцебск цяпер праходзяць дзве чыгункавыя лініі, шаша і на р. Дзвіне ёсць вялікая прыстань. Гандаль Віцебску цяпер значна вырас. Ен з'яўляецца складачным месцам тавараў, якія раздае на мястэчкі і месты сумежных паветаў. Найбольш таргуе Віцебск лесам і лёнам, якія адпраўляе ў Рыгу і за граніцу, а часткаю і збожжам. Апроч таго Віцебск шырока таргуе гатовай адзежаю (тандэтнаю).

Хвабрычная прамысловасць Віцебску мае досыць значныя размеры. На хвабрыках яго працуе каля 2000 чал. Хфабрыкі Віцебскія найбольш невялікія; з іх трэба адзначыць — картонную хвабрыку, некалькі табачных, досыць вялікую хвабрыку акуляраў. Апроч таго ёсць некалькі піваварных бравароў, аляярняў і гарбарняў. З рамёслаў моцна развіта кравецтва.

Мала засталося старасветчыны ў Віцебску. Ад замкаў не засталося ані следу; навет Гару Замкавую раскапалі. Толькі некалькі старых цэркваў засталося на ўспамін аб слаўных часох Віцебску: гэта ўспомненая царква Благавешчання і царква св. Іллі, перабудаваная ў XVII веку. Мае Віцебск, апроч таго, прыгожы сабор, будаваны ў XVIII веку.

За тое мясцовасць, у якой знаходзіцца Віцебск і яго ваколіцы, робіць чаруючае уражанне хараством сваіх краявідаў.

Недалёка ад Віцебску, над Дзвіною, стаіць вельмі стары Маркаў Манастыр; у ім перахавалася дзераўляная царква св. Тройцы, пабудаваная яшчэ ў XVII веку ў беларускім стылю.

* Частка Віцебску, што ляжыць на правым беразе Дзвіны.

## Смаленшчына

Смаленшчына на пачатках беларускай гісторыі была заселена крывічамі і стварыла моцнае незалежнае княства. Калі ж Вялікія князі Літоўскія пачалі збіраць пад сваю уладу Беларусь, Смаленшчына таксама апынулася пад уладаю Літвы. У час вялікай барацьбы Літвы-Беларусі з Масквою, Смаленшчына заўсёды была арэнаю гэтай барацьбы, месцам найгарачэйшых бітваў. Смаленск, як мы ўжо казалі, замыкаў Смаленскую Браму. Затым жа мэтаю маскоўцаў заўсёды было завалодаць гэтым местам. Гэтая ж самая прычына прымушала нашых продкаў за ўсякую цану бараніць Смаленск і Смаленшчыну.

Праз цэлы XVI век была Смаленшчына пад уладаю Масквы. Маскоўцы, хочучы мацней прывязаць край да сябе, высылалі з Смаленшчыны шмат беларусаў у Маскоўшчыну, а на іх месца насылалі ў край маскоўцаў. Аднак на пачатку XVII в. Смаленшчына зноў на 50 гадоў злучылася з рэштай Беларусі. За гэты час туды перабралася шмат (як лічаць, больш 20 000 чал.) дробнай і буйнай беларускай шляхты з Захаду, якая асела па ўсёй Смаленшчыне і засталася там да апошніх часоў, хаця цяпер ужо абмаскоўілася. У 1667 годзе Смаленшчына зноў адышла да Расіі.

Дзякуючы доўгаму супольнаму жыццю з Маскоўшчынаю ў Смаленшчыне пазаводзілася шмат маскоўскіх парадкаў, як добрых (напр. земствы), так і благіх. Мова Смаленскіх беларусаў значна абмаскоўленая, а ў усходніх паветах ёсць месцамі маскоўскае насяленне. Тут, як гэта заўсёды бывае на пагранічках, беларусы жывуць перамяшаўшыся з маскоўцамі, але ўсюды значная большасць беларусаў. За тое трохі беларусаў, перамяшаўшыся з маскоўцамі, жыве і на ўсход ад беларускай мяжы, у Вяземскім павеце, перахоўваючы сваю мову і звычаі; там беларусы ўжо ў меншасці.

У паўночнай Смаленшчыне беларусы ўжываюць «цокаючае» гаворкі (гавораць, як мазуры) — цаго, цалавек і г. д.

Даўгая барацьба, якая ішла на землях Смаленшчыны яшчэ і з другога боку, адбілася на жыцці гэтай краіны. Ёю трэба тлумачыць бязлюднасць усходніх паветаў краіны, на якіх барацьба заўсёды адбівалася наймацней. На Вокаўскім Лесе шмат дзе сярод лясное нетры можна знайсці калодзіж, руіны даўнейшых будынкаў і г. д. Даўней стаялі тут вёскі, народ жыў гусцей; мяйсцовае апавяданне пацвярджае гэтую думку, кажа што ў часе вайны людзі ўцякалі адгэтуль у больш бяспечныя месцы, сяліліся там, а іхнія сялібы зарасталі лесам. Такія месцы называюцца пустошамі.



Дзвінск (суч. Даўгаўпілс).

### Важнейшыя мясцовасці

Смаленск стаіць на высокім, зрэзаным ярамі, левым беразе Дняпра. Калі ён быў заложаны, немаведама; залажылі яго барджэй усяго, палачане. Ад самага пачатку ваёй гісторыі быў Смаленск бойкім гандлёвым пунктам. Як раз у ім крыжаваліся абедзьве найважнейшыя дарогі ўсходу Еўропы: адна з Варагаў да Візантыі і другая з усходу, з краю баўгараў і хазараў, з-за Волгі — да Нямеччыны. Смаленск тады таргаваў з Рыгаю, востр. Готляндам і г. д., быў багатым і культурным местам, меў добрыя школы і такіх высокаасвечаных людзей, як архірэй Клімэнт Смаляціч або св. Аўрам Смаленскі.

Наўгародскія і кіеўскія князі ўвесь час прэтэндавалі на Смаленск: хаця ўрэшце ім удалося падчыніць яго сабе, аднак не вялікае было іхняе значэнне ў Смаленску. Смаленск упраўляўся сваім вечам, а князям, мусіць, небяспечна нават жыць было ў месце, бо мусілі будавацца на водшыбе, за местам, над р. Смядынню.

Умеў пад той час Смаленск і бараніцца ад ворагаў. Захавалася ў ім напалову легендарнае апавяданне аб св. Мяркурыю, што са жменяю смалян кінуўся на аграмадныя татарскія горды, якія прывёў быў пад Смаленск маскоўскі князь, разбіў іх і адагнаў ад Смаленску, але заплаціў за гэта сваім жыццём.

Калі большая частка Беларусі адышла пад Літву, Смаленск зрабіўся быў цэнтрам барацьбы за незалежнасць Беларусі. Смаленск літоўскім князям прыйшлося здабываць сілаю. Аднак, і пад Літвою будучы, трымаўся Смаленск вельмі незалежна і перахаваў найбольш вольнасцей за ўсе іншыя беларускія месты. Пад Літвою жылося Смаленску наогул вельмі добра. Ніколі не даходзіў такога росквіту яго гандаль, як пад Літвою, ніколі гэтак не багацела смаленскае насяленне.

Але не доўга цягнуўся гэты час дабрабыту. Узмацнеўшая Масква пачала нападаць на землі Смаленскія і заяўляць прэтэнсыі да самога Смаленску. Каб адбараніць места, быў тады, у XV веку, пабудаваны земляны замак. Моцны быў гэты замак, але не вытрымаў напору маскоўскага: у 1514 годзе ўзяў Смаленск Васіль III. Быў Смаленск пад Масквою аж да 1611 года. Маскоўцы ў часы Барыса Гадунова пабудавалі вакол места вялізарную сцяну — шырынёю ў 1 сажань, вышынёю ў 2 сажані, а даўжыні 7 вёрст. Сцяна гэтая перахавалася да нашых часоў.

Трудна было адабраць Смаленск ад Масквы. Войскі літоўска-польскія дванццаць месяцаў стаялі пад ім, пакуль узялі. Зноў аджыў Смаленск, злучаны з рэштаю Беларусі. За 40 якіх гадоў яго было не пазнаць. Ен моцна вырас, пабагацеў, ды зрабіўся чыста еўрапейскім местам. У ім было ўведзена магдэбургскае права, шмат наехала і пасялілася жыхароў з заходніх краінаў Беларусі. Побач з праваслаўнымі цэрквамі пазакладаліся і каталіцкія касцёлы ды манастыры. Але ў 1654 годзе Смаленск зноў адабралі Маскоўцы і зараз жа скасавалі ўсе парадкі беларускія, а завялі маскоўскія. Шмат беларускага насялення вывязлі з Смаленску, а на яго месца пачалі сяліцца маскоўцы.— У 1812 годзе Смаленск моцна пацярпеў ад французаў.

Смаленск цяпер — адно з найпрыгажэйшых і найцікавейшых местаў Беларусі. Места гэтае перахавала гэтулькі памятак слаўнай беларускай мінуўшчыны, як можа ніякае другое

Праўда, у большасці яны ляжаць у руінах, засыпаных зямлёю. Але гэтыя руіны павінны быць дарагімі кожнаму беларусу. З-пад маскоўскага налёту, асеўшага на Смаленску, яны найвыразней гавораць аб тым, што тут беларуская зямля была, ёсць і будзе.

З уцалеўшых старасвецкіх будынкаў трэба ўспомніць перад усім Свірскую царкву, пабудаваную ў XII веку. Знаходзіцца яна на прадмесці, дзе некалісь быў князёўскі замак; перахавалася гэтая царква да нашых часоў у ва ўсім сваім харастве. Есць у ёй надзвычайна цікавы абраз Прачыстае беларускага рысунку. На яго адваротнай старане знаходзіцца беларускі надпіс, якога дагэтуль яшчэ ніхто не змог прачытаць. За Дняпром стаіць яшчэ старэйшая Пётра-Паўлаўская царква, якую, праўда, пазней перараблялі.

Сцены Смаленскія надаюць месту шмат харства; на іх перахавалася яшчэ шмат вежаў. З вежы, якая называецца «Весялухаю», адкрываецца цудоўны від на места і яго ваколіцы.

Геаграфія — навука народазнаўчая і народатворчая. Сучасная акадэмічная геаграфічная навука развілася ў цэлую галіну ведаў, падзялілася на эканамічную, фізічную, гістарычную геаграфію, краязнаўства і г. д. Але ж Беларусь — адна, і толькі ў спалучэнні розныя раздзелы геаграфіі нашай Бацькаўшчыны набываюць і выхаваўчы, і стваральны патэнцыял. Пры адной умове: любові да Бацькаўшчыны.

На Смолічавай «Геаграфіі Беларусі» выхоўваліся пакаленні свядомых беларусаў і па абодва бакі Рыжскай мяжы, і ў эміграцыі, і падпольна ў пасляваенай БССР. Гэтая кніга з абавязковых чытанак-падвалінаў нацыянальнай адукацыі; яна стаіць поруч з кнігамі Ластоўскага, Тарашкевіча ды Ігнатоўскага. Смоліч упершыню трактуе Беларусь як асобную геаграфічную краіну; гістарычны, эканамічны, фізічны і краязнаўчы падыходы лучыць у глыбокі, доказны і разам з тым даступны выклад; прагне ўбачыць перспектыву Бацькаўшчыны. Хто ж ён, аўтар гэтае класічнае працы?

Паўторым за Анатолем Сідарэвічам яго ны кароткі жыццяпіс. Аркадзь Смоліч нарадзіўся ў 1891 годзе ў вёсцы Бацэвічы (цяпер Клічаўскі раён) у сям'і псаломшчыка. Набыў духоўную, аграномічную і эканамічную адукацыю (скончыў сельскагаспадарчы інстытут у Нова-Аляксандраўску, цяпер Зарасай у Літве, і лесаводчы інстытут у польскіх Пулавах). З сакавіка 1917 года ўвайшоў у Беларускі Нацыянальны Камітэт, пазней — у Вялікую Беларускую Раду. Быў адным з лідэраў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, выдаваў газету «Грамада». Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі А. Смоліч выступіў з дакладам, паводле якога Рада БНР ухваліла III Устаўную Грамату аб незалежнасці Беларусі. Ва ўрадах БНР Смоліч быў народным сакратаром асветы, віцэ-прэм'ерам, народным міністрам земляробства.

У БССР Смоліч пераключыўся на навуковую дзейнасць. Быў правадзейным сябрам Інстытута Беларускай культуры, потым — акадэмікам Беларускай Акадэміі навук; выкладаў у БДУ. Заснаваў ландшафтазнаўства. Узнагароджаны Малым залатым медалём Геаграфічнага таварыства СССР.

Арыштаваны ў 1930 г., высланы ў Цюменскую вобласць. 17 ліпеня 1937 г. арыштаваны зноў; апошні раз А. Смоліча бачылі ў 1938 г. у лагеры...

Характэрны жыццяпіс беларускага адраджэнца, характэрны і лёс яго галоўнай кнігі: са спецсховішчаў, з забыцця яна выходзіць толькі цяпер. Друкуючы раздзелы «Геаграфіі Беларусі», верым, што дачакаецца яна і рэпрынтаванага перавыдання, і паслядоўнікаў.

**Вінцук ВЯЧОРКА**



# ПРАТАКОЛ З'ЕЗДУ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫАНАЛЬНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ У МІНСКУ 25—27 МАРЦА 1917 г.

На з'езд сабралася ўсяго да 150 учасьнікоў. На старшыню сходу быў выбраны доктар Кастравіцкі, яго таварышамі прыс. пав. Метлін, і юрыст. Алексюк. За сэкрэтароў выбралі Л. Зайца і Б. Тарашкевіча. З'езд адкрыўся ў 7 гадзін вечара.

Таварыш старшыні П. Алексюк прачытаў прыветныя тэлеграмы ад розных арганізацый і прыяцелеў беларусаў: Радзевіча, Саксімовіча, Столыгвы і Свілана з Петраграду, ат жаноцкага бел. гуртка ў Петраградзі «Пралеска», ат беларускаго выдавецтва ў Петраградзі «Загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ», ат гуртка вучняў і студэнтаў уцекачоў з Петраградзі, ат бел. кс. Будзькі і Хведзькі, ат Мануіла Булгака з Магілева, ат беларус. артысты Абрамовіча, ат палякоў пінскаго павету, ат Харкоўскіх беларусаў, ат беларусаў 38 ваенна-дарожнаго атраду.

Старшыня Камітэту «Прапаганды асновоў новага грамадзянскага строю» докт. Морзон шчыра прывітаў першы нацыанальны з'езд белар. і прызываў яго к супольнай і згоднай рабоце. Па парадку віталі з'езд і дэлегаты рожных арганізацый і гурткоў: ат гуртка магілеўскіх беларусоў і педагогоў — Кохановіч, ат петраградзкіх студэнтоў — ст. Каравайчык, ат петраградзкіх чыноўнікоў беларусоў почты і тэлеграфу — А. Адамовіч, ат палякоў Аршанскаго павету — Гордзялкоўскі, ат рады рабочых і салдацкіх дэпутатоў Петраграда Жылуновіч.

Таварыш старшыні Мінскаго Камітэту п. а. вайны У. Фальскі далажыў кароткі агляд працы беларускаго Камітэту, каторы дужа ў дрэнных варунках пры старым урадзе, не маючы грошы павінен быў закрываць адно за другім аткрытыя ўстановы; можна было думаць, што рабоце Камітэту прыходзіць канец. Але ўзышло сонцэ свабоды і беларусы падняліся, установілі дачэсны нацыональны камітэт, каторы арганізаваў сярод мешчан і селян мітынгі, знаеміў веску с тым, што дзеіцца ў гэтыя часы ў Расеі, прылучаў да сябе прэдстаўнікоў ат селян і мешчан, зрабіў збор на вольны беларускі друк у Мінску і Бабруйску, склікаў гэты з'езд і разаслаў павесткі на селянскі з'езд на 4 сакавіка гэтаго году.— Даклад аб рабоці петраградзкіх беларусоў зрабіў Э. Будзько. Беларускі Камітэт помачы ахвярам вайны ў Петроградзі закладаў бурсы для моладзі беларускай, залажыў швальню і падаваў помач бежэнцам грашыма, апраткай і работай. Петраградзкіе беларусы ўзяліся арганізаваць салдат, работнікоў і вучашчуюся моладзь. Бабруйкі дэлегат Кілчэўскі, прывітаўшы з'езд далажыў, што ешчэ маланды Бабруйскі беларускі гуртох ні мог шырока развіць сваей працы, але спадзеецца пры цяперашніх варунках хутка развіцца. Парэчын дэлегат ат гуртка народных вучыцелеў у Ярославе (Мінскі вучыцельскі інстытут) пад названьнем «Вольная Беларусь» прывітаў з'езд ат вучашчых і вучашчыхся. «Вольная Беларусь» ставіла сваей мэтай арганізацыю беларусаў уцекачоў, каб яны на чужбіне ні забываліся роднай бацкоўшчыны.— Дэлегат ат Мінскай Рады рабочых і салдацкіх дэпутатаў Кузьміцкі горача і шчыра прывітаў з'езд, прызываючы да супольнай працы.— З вялікай вымовай П. Алексюк нарысаваў колішнюю светнасьць Беларусі; як яе мову шанавалі пры князеўскіх дварах, як гэта мова была ўрадавай і як пасьля злы лес загнаў яе ў курные хаты, скуль яна здавалася ні выйдзя на свет Божы. Але вось святлейшыя сыны бацькоўшчыны началі будзіць дух народны, але да 1905 году мала знаходзілі ад'звуку. Прышоў і гэты крывавы год. Ні мала крыві пралілося за народную волю і лепшую долю бацькоўшчыны, і толькі цяпер сонцэ свабоды ўзышло над бацькоўшчынай, цяпер толькі светлые яго праменьня далятуць ва ўсе цемныя куткі роднай бацькоўшчыны. Шчасьце ў нашых руках і калі цяпер мы яго не здалеім узяць, то каб ні было пасьля запозна.— Ад імені Беларускай Социалістычнай Грамады выступіў з дэкляраціей А. Смоліч. Беларуская грамада бароніць клясовыя інтэрэсы беларускаго селянства і наагул працоўнай беднаты, бароніць яго нацыанальную душу, бо жыцьце кожнаго народу і яго дабра да найвышэйшых мэтаў павінна ісьці цераз нацыональнае самапазнаньне.— З дэкляраціей ат Каталіцкай Дэмократычнай Партыі выступіў ксендз Гадлеўскі. Мэтай партыі есьць перш наперш дабро народу, которага яна клічэ да праўдзівай хрысьціанскай міласьці. Партыя будзе клікаць да згоднаго жыцьця с праваслаўнымі братамі беларусамі. Партыя будзе памагаць народу ў яго штодзеннай справе, у зямельнай і кожнай рабоце. Партыя хоча падняць прасьветай культурнае жыцьце працоўнай клясы. Але каб народ быў моцны, то ён павінен мець усе

---

Лютаўская рэвалюцыя надала імпульс беларускаму палітычнаму руху. Адной з першых значных паслялютаўскіх падзеяў стаў з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый у Мінску. Публікуем яго пратакол, захоўваючы правапіс арыгіналу *(выключэнне зроблена для відавочных памылак друку)*.

што захочуць рабіць для прасьветы нашага яшчэ цемнага народу беларускага, залажыць таварыства «Прасьвету», запрасіўшы туды як найбольш вучыцельскіх сілаў, а так сама ўсіх грамадзянаў нашага краю, прыязных беларускай справе.

Школьная справа вызвала вельмі жывую супярэчку. Хоць і ўсе згаджаліся на тое, што беларуская мова, літэратура і гісторыя мусіць быць уведзены ў школах, але моцная супярэчка была ў тым, якім парадкам і калі павінна быць гэта зроблена. Пасьля доўгіх і гарачых прамоваў былі даволі згодна прыняты такія пажаданьня і пастановы:

1) Арганізаваць таварыства «Прасьвету» і для гэтага выбраць тымчасовы ўрад: Парэчына, Станкевіча, Левіцкую, Смоліча і Тарашкевіча. Запрасіць да помачы ў справе арганізацыі Таварыства вядомых дзеячоў: Краскоўскаго, Ігнатоўскаго, Мігая, Бр. Эпімах-Шыпілло, Іваноўскаго, Фальковіча, Максіма Богдановіча;

2) даручыць дэлегацыі да Тымчасоваго Ураду, каб яна прэдставіла Ураду, што справа кіраваньня прасьветай у Беларусі павінна быць аддадзена ў беларускіе рукі;

3) дамагацца каб у ніжэйшых школах уводзілася беларуская мова, літэратура і гісторыя па меры магчымасьці і вучыцельскіх сілаў. Якім парадкам гэта мае быць праведзена ў жыцьце, павінны судзіць з'езды беларускіх народных вучыцелеў-людзей найбольш блізкіх да гэтай справы;

4) хутчэй выдаць патрэбные падручнікі;

5) арганізаваць на лета беларускіе курсы для вучыцелеў.

УВАГА: апрача мовы, гісторыі і літэратуры беларускай на курсах павінны быць лекцыі аб тым, што і як трэба рабіць цяперака ў весцы. Курсы арганізаваць па магчымасьці хутчэй і ні цягнуць доўга, каб ні адбіраць ад вескі яе інтэлегентных сілаў у такі патрэбны час.

6) Каб у вучыцельскіх сэмінарыях, а так сама ў духоўных — праваслаўных і каталіцкіх была ўведзена беларуская мова, літэратура, шырэйшае пазнаньне краю і яго гісторыі;

7) Дапусьціць у сярэднія школы, там дзе знайдуцца патрэбные вучыцелі, беларускую мову і літэратуру як асобны прэдмет па сваей ахвоце (факультатыўна). Наагул, у праграму гісторыі і літэратуры зьвярнуць увагу на літэратуру і мову беларускую (западнорускую) і народную культуру. Пры першай магчымасьці атчыніць у адным з беларускіх гарадоў вышэйшую школу, каторая споўна здаволівала б культурные патрэбы цэлаго краю;

8) шырока развіць зашкольную прасьвету і пашырэньне уселякай навукі пры помачы арганізацыі на мейсцох, курсоў, чытаньняў, народных дамоў і іншых прасьветных установаў.

IV. Этнографічная камісія разглядзеўшы пытаньня аб этнографічных граніцах Беларусі прышла да таго выводу, што такімі граніцамі есьць мяжы расселеньня беларускаго народу, значыцца ў склад яе ўходзяць губэрніі: Мінская, Гродзенская, Магілеўская, часць Смаленскай і Чэрнігаўскай. Дзеля точнаго абмежэваньня граніцаў пастановілі стварыць асобую камісію прафэсароў: Любаўскаго (рэкт. Маск. ун.), Довнар-Запольскаго (Кіев. ун.), акадэміка Карскаго (Петраград) і ак. Шахматова (Петраград). Дзеля таго, што дэпутацыя ат літоўскаго національнаго камітэту зьвярнулася да Часовага Ураду аб тым, што Віленская губэрнія літоўская, як Ковенская і Сувальская і што ў ні занятой часьці Віленскай губэрніі павінна быць уведзена літоўская адміністрацыя, этнографічная камісія прэдлажыла з'езду выразіць перед Часовым Урадам пратэст супрэць уключэньня літвінамі ў склад Літвы ўсей Віленскай губэрніі, заселянай блізка што на 3/4 беларусамі, а у той часьці, каторая ні занята немцамі, заселянай беларусамі скрось. Такім парадкам аб назначэньні ў ей літоўскай адміністрацыі ні можэ быць ніякае гутаркі.

З'езд згодзіўся з дакладам этнаграфічнай камісіі.

Дакладчыком быў рэдактор «Магілевскаго Вѣстника» — М. Кохановіч.

V. Даклад фінансавой камісіі зрабіў Э. Будзько. Каб можна запраўды рабіць нейкую работу — трэба залажыць нацыональны фонд і для добраго пачатку дакладчык даў на гэты фонд 2000 руб. ад імені петраградзкіх беларусаў. Дакладчык раіў шмат спосабаў, як бы можна было мець грошы для нацыональнаго фонду, а паміж іншымі:

1) стварыць аддзел для арганізацыі беларускаго нацыональнаго банку;

2) разаслаць падпісные лісты ўсім беларускім арганізацыям;

3) старацца дастаць уклады на нікаторыя рэчы, як напрыклад на арганізацыю селянства і прапаганду паміж імі новаго парадку;

4) каб ні толькі збяргачы грошы, але ішчэ зарабіць, камітэт павінен залажыць друкарню, а таксама тэатр. З'езд з давадамі дакладчыка згадзіўся.

VI. Даклад земскай камісіі зрабіў Стаўпоўскі. Камісія прэдлажыла такі даклад:

Адразу прыступіць да рэорганізацыі земскаго самоўпраўленьня на такіх падставах:

1) арганізаваць валасные камітэты на аснове агульнаго выбарнаго права без розніцы мужчын і жанок;

2) устанавіць лік членаў валаснога камітэту ні меньш, чым было выбарных валаснога сходу;

3) на чале валасного камітэту павінен стаяць урад у складзе: старшыні, 2 членаў і пісара; Валасны Камітэт выбірае валасного камісара;

4) арганізоваць паветовые Земскіе Камітэты на аснове прапорціональных выбароў ат усіх валасных камітэтаў павету, лічучы па 1 прэдстаўніку ат кожных 40 членаў валасных камітэтаў, з тым адно каб лік членаў павятоваго камітэту быў ні менш, як адзін на воласьць з павялічэньнем ліку членаў павятовага камітэту на 10 % ад ліку валасцей павету;

5) на чале павятоваго земскаго камітэту павінна стаяць павятовая земская ўправа ў складзе аднаго старшыні і 5 членаў. Павятовы земскі Камітэт выбірае павятоваго Камісара;



6) арганізоваць губэрнскі земскі Камітэт на основах прапорціональных выбароў ат усіх членаў павятовых земскіх камітэтаў;

Дакладчык адзначыў, што ўсе гэта апрацована на скорую руку па нідастатку часу, і з'езд пастанавіў прыняць праект камісіі пад увагу, а зацьвердзіў толькі такую рэзолюцію.

Прызнаючы арганізацію мейсцоваго самоўпраўленьня на дэмократычных асновах глаўнейшым пытаньнем сучаснаго мамэнту з'езд лічыць, што канешне адразу выбраць асобную камісію пры Беларускім Нацыанальным Камітэце з учасцем спэціалістаў, каторай і даручыць падробнае апрацаваньне асноваў мейсцоваго самоўпраўленьня ў краі і прыступіць адразу да працы.

VII. Даклад арганізацыйнай камісіі зрабіў П. Алексюк. Пасьля гэтаго дакладу з'езд прыняў такіе рэзолюцыі:

1) Беларускі Нацыанальны з'езд лічыць патрэбным стварэньне ў як найбліжэйшым часе «Беларускай Краевай Рады» ў Мінску;

2) да выбароў у Беларускую Краевую Раду з'езд павэдлуг патрэбы бярэць на сябе роль вышэйшай краевай інстытуцыі.

3) Беларускі Нацыанальны з'езд выбірае з сябе Камітэт з 18 асоб, каторы мае называцца «Беларускі Нацыянальны Камітэт»;

4) Беларускі Нацыональны Камітэт маець:

1) арганізаваць Беларусь у кантакце з Часовым Расейскім Урадам;

2) падгатавіць выбары ў Беларускую Краевую Раду;

3) весьці прапаганду выбароў у Расейскае Учрэдзіцельнае Сабраньне на прынцыпах фэдэратыўна дэмакратычнай рэспублікі Расейскай;

4) Цяпер жэ прыступіць да апрацаваньня конституцыі «Беларускаго краеваго Ураду» у кантакце з усімі нацыямі Беларусі і з прапарцыанальным ат іх прэдстаўніцтвам;

5) дзеля выканаўчых функцій з складу Нацыанальнаго Камітэту выбіраецца прэзідыум з пяці асоб.

У канцы заседаньня Алексюк прэдлажыў прыняць дэкларацыю з'езду, каторую павінны злажыць перад тым Часовым Урадам выбраные з'ездам дэлегаты. З'езд прыняў такую дэкларацыю:

З'езд прэдстаўнікоў беларускіх палітычных партый і клясоў сабраўшыся ў Мінску 25—27 марца гэтаго году, вітаючы вялікую расейскую рэвалюцыю, прынесшую нам свабоду і блізкасьць аўтономіі Беларусі, выражаючы сваю гатоўнасьць падтрымаць Часовы Урад у яго барацьбе з унешнімі ворагамі за свабоду Расеі і яе народаў і с прыслужнікамі стараго ўраду — перэдае споўніцельную ўладу Беларускаму Нацыанальному Камітэту, каторы павінен у кантакце з Часовым Расейскім Урадам арганізаваць Беларусь. Беларускі Нацыанальны з'езд, умацаваны ў шчырым жаданьні нясьці часьць вялікай працы на карысьць вольных народаў Расеі моцна перэконаны, што яго Нацыанальны Камітэт кіруючыся да палепшэньня жыцьця ў родным краю, апіраючыся на ўсіх жыхароў Беларусі — прынясі карысьць агульна-гасударственнаму будаваньню на фундамэнце фэдэратыўнаго строю дэмократычна-рэспубліканскай Расеі аб чым з'езд даручае сваей дэлегацыі данясьці да ведама Часоваго Ураду.

У дэлегацію да Часоваго Ураду выбраны:

1) І. Краскоўскі (упаўномочэны Саюза Гарадоў Юо-зап. фронту),

2) Р. Скірмунт (дэпутат 1 Гасудар. Думы),

3) Э. Будзько (член Беларускаго Каміт. помачы афярам вайны ў Петраградзі, селянін Вілейскаго павету),

4) Е. Канчэр (упоўномочэны ат Часоваго Ураду па арганізацыі каапэратываў у Мінскай губ.),

5) П. Алексюк (акончыўшы курс юрыдычных навук),

6) М. Кохановіч (рэдактар «Могилевскаго Вѣстника»),

7) І. Касяк (народны вучыцель).

З'езд высказаўся за прылучэньня прэдстаўнікоў ат праваслаўнаго і каталіцкаго духавенства.

У Нацыанальны Беларускі Камітэт выбраны:

1) Р. Скірмунт,
2) А. Смоліч — аграном,
3) П. Алексюк,
4) Л. Заяц, (аконч. курс юрыд. навук)
5) Э. Будзько, (публіцыст)
6) В. Фальскі, (чыноўнік Ліб.-Ром. жэл. дар.)
7) Б. Тарашкевіч, (кандыдат філалогіі)
8) кс. Гадлеўскі,
9) Е. Канчар,
10) І. Краскоўскі,
11) А. Бурбіс, (банкоўскі служ.)
12) К. Кастравіцкі, (гаспадар)
13) Боборыкін, (вучыцель гімназіі)
14) Ф. Шантыр, (прыватны адвакат)
15) М. Кохановіч,
16) В. Іваноўскі, (інжынер)
17) Л. Дубейкоўскі, (архітэктар)
18) Д. Жылуновіч, (работнік і паэт)

Беларускі Нацыанальны Камітэт мае права кооптацыі, а так сама пашырацца прэдстаўнікамі селянскіх і беларускіх нацыанальных арганізацій.

(У тым парадку, як пры саветах Рабочых і Салдацкіх Дэпутатоў).

Участнікі Бел. Нац. Кам. з 18 асоб выбраў прэзідыум з Мінскіх працоўнікоў 5 чэлавек:

1) Р. Скірмунта (за старшыню),
2) П. Алексюка } за таварышоў,
3) В. Фальскага }
4) Л. Зайца (за скарбніка),
5) Б. Тарашкевіча (за пісара).

Старшыні з'езду — Кастравіцкі Скірмунт.
Віцэ старшыні — Алексюк Смоліч.
Сэкрэтар з'езду — Тарашкевіч Заяц.

Допрошенная по делу в качестве обвиняемой, гр-ка Клюбанова Хистина Потаповна в предъявленном ей обвинении по ст. 75 УК БССР виновной себя признала и в оправдание себе добавила, что на работу она не шла, потому что она была разутая и не имела зимней одежды, а говорила при всех против выполнения планов лесозаготовок и вывозок, потому что она была в расстроенном виде.

А потому, на основании вышеизложенного, гр-ка Клюбанова Христина Потаповна, 1896 г. рождения, урожд. Витебской обл., Дубровенского р-на, Разсковского сельсовета, д. Михалиново, прож. в д. Пузыри Кривичского района Молодечненской обл., беспартийная, грамотная, по национальности русская, по происхождению из крестьян-бедняков, ранее не судима,

ОБВИНЯЕТСЯ:

в том, что она отказалась от выполнения плана лесозаготовки, занималась саботажем и агитацией с целью подрыва последнего, т. е. в совершении преступлений, предусмотренных ст. 75 УК БССР.

Пом. оперуполномоченного
Кривичского НКВД Цимерман.
Гербовая печать
Согласен. Зам. нач. Кривичского НКВД
ст. л-т милиции Якуничев».

Што «давалі» за сабатаж і антысавецкую дзейнасць — ужо вядома. Варта падкрэсліць, што асуджаных паводле Указа 1940 г. не датычыць рэабілітацыя.

Рэпрэсіямі суправаджалася і калгаснае будаўніцтва ў Заходняй Беларусі.

Годам «вялікага пералому» для заходнебеларускай вёскі стаў 1947 год. Працэс калектывізацыі вызначыла пастанова Савета Міністраў БССР ад 6 верасня 1947 г. «Аб падаткавым абкладанні кулацкіх гаспадарак заходніх абласцей БССР», згодна з якою кожны абласны і раённы выканкам Заходняй Беларусі выдаў сваю пастанову аб падаткавым абкладанні кулацкіх гаспадарак вобласці або раёна. Уявіць, што гэта былі за дакументы, можна, прачытаўшы адпаведную пастанову Івянецкага райвыканкома.

«1. Обложение сельскохозяйственным налогом кулацких хозяйств на территории Ивенецкого района производить путем надбавок к облагаемым доходам всех источников в следующих размерах:

при доходе до 10 000 руб.— 20 %,
при доходе свыше 10 000 руб. до 15 000 руб.— 30 %,
при доходе свыше 15 000 руб.— 50%.

Все льготы, предусмотренные законом о сельскохозяйственном налоге, кулацким хозяйствам не предоставляются...

3. При принудительном взыскании с кулацких хозяйств не уплаченных в установленный срок сумм налога, не применять постановления СМ БССР от 7 августа 1946 года № 1504 «О перечне имущества, не подлежащего изъятию у граждан по погашению недоимок по налогам и налоговым платежам».

4. Установить, что кулацкими хозяйствами являются хозяйства, которые в период немецкой оккупации или после освобождения от оккупации:

а) использовали постоянных наемных рабочих в сельском хозяйстве или промысле, за исключением случая найма подсобного рабочего в кузнечном промысле и кустарном производстве колес;

б) применяли систематически в сельском хозяйстве или промысле одного или более сезонных рабочих (за исключением найма пастуха при отсутствии в деревне общественного выпаса или найма одного поденного рабочего в период сева или уборки урожая, если это вызывалось отсутствием или недостатком трудоспособных членов семьи, а также применение труда других хозяйств на началах супряги, если она не носила кабального характера);

в) систематически использовали труд других крестьян на условиях трудовой отработки, взамен предоставления им не на кабальных условиях рабочего скота, семян, фуража, продуктов питания или сельскохозяйственного инвентаря;

г) систематически получали доходы от использования в других хозяйствах сельскохозяйственных машин за денежную или натуральную плату, а также на началах трудовой отработки;

д) систематически имели доходы от эксплуатации мельниц, маслобоек, круподрушек, картофельных, плодовых или овощных сушилок, терочных и других предприятий;

е) имели доходы от скрытой аренды земли;

ж) систематически имели доходы от скупки на корню урожая сада или ягодника с целью торговли или промышленной переработки;

з) систематически занимались скупкой скота, зерна, картофеля и других продуктов с целью перепродажи или обмена, занимались торговлей или ростовщичеством.

6. Установить, что списки кулацких хозяйств в сельских местностях и городских поселениях районного подчинения составляются сельским или городским Советом при участии сельского актива и обязательно утверждаются исполкомом райсовета депутатов трудящихся.

7. При наличии в кулацких хозяйствах членов семьи, имеющих ордена, офицеров Советской Армии, инвалидов Великой Отечественной войны, бывших партизан или когда кулацкие хозяйства принадлежат вдовам и сиротам лиц, погибших на фронтах Великой Отечественной войны, вопрос о привлечении таких хозяйств к обложению сельскохозяйственным налогом в порядке, установленном в п. 1 настоящего решения, решается в каждом отдельном случае исполкомом райсовета депутатов трудящихся в пятидневный срок...

Председатель Зенович
Секретарь Сергеев».

Мы прывялі гэты дакумент амаль цалкам, каб даць уяўленне, каго мясцовыя ўлады залічвалі тады ў разрад кулакоў.

А вось і яшчэ архіўны дакумент — рашэнне Маладзечанскага райвыканкома аб прызнанні сялянскай гаспадаркі кулацкай.

Адбывалася гэта так:

«СЛУШАЛИ: Об отнесении в списки кулацких хозяйств по Мясотскому сельсовету.

Рассмотрев предоставленный материал исполкомом Мясотского сельсовета об отнесении к кулацкому хозяйство гр. дер. Костюшки Мясотского сельсовета Молодечненского района Пахом Анны Адамовны, 1888 года рождения, семья состоит:

1. Пахом Мария Романовна, 1912 года рождения, невестка,

2. Пахом Антон Петрович, 1940 года рождения, внук,

3. Пахом Михаил Петрович, 1941 года рождения, внук.

В хозяйстве гр. Пахом Анны Адамовны имеется земли и имущества:

а) пашни — 7,95 га,
б) огорода — 0,04 га,
в) сада — 0,05 га,
г) луга — 5 га.

Из скота: 1 лошадь, 1 корова, 2 овцы, 2 свиньи.

В хозяйстве Пахом Анны Адамовны, как в период немецкой оккупации, также и в настоящее время, используется систематически постоянная сезонная наемная рабочая сила на сельском хозяйстве.

Исполком райсовета решил:

1. Утвердить решение исполкома Мясотского сельского Совета от 4 сентября 1947 года об отнесении хозяйства Пахом Анны Адамовны дер. Костюшки к кулацким хозяйствам».

З заявы жыхара вёскі Чэхі Хоўхлаўскага сельсавета Маладзечанскага раёна Ксаверыя Ігнатавіча Шыдлоўскага на імя старшыні Маладзечанскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных відаць, як многім беларускім сялянам удавалася набыць кавалак зямлі — гэта значыць ператварыцца ў патэнцыяльных кулакоў:

«В прошлом, то есть до 1913 года, был батраком, так как мой отец своей земли не имел, в связи с чем с юных лет пришлось батрачить, зарабатывая на жизнь у капиталистических элементов деревни царской России. В 1913 году был вынужден поехать на работу в Соединенные Штаты Северной Америки... За счет отказывания себе в самом необходимом за 17 лет тяжелой работы я смог сэкономить некоторое количество денег. Тоска по родине вернула меня в Западную Белоруссию... Здесь же я набыл 25 га земли, заросшей заростником, начал раскорчевывать, потом строил дом и надворные постройки. Сам трудился днем, захватывая и ночь, с единственной помощницей — своей женой, не прибегая к найму чужой рабочей силы, так как не имел средств оплачивать. 1939 год облегчил мой труд, так как я перестал выплачивать стоимость земли, которую купил в рассрочку на 30 лет.

В 1940 году вступил в колхоз «Борьба за социализм» Холхловского сельсовета, где работал до 1941 года, когда колхоз был разгромлен фашистами. В период немецкой оккупации пришлось работать на единоличном хозяйстве, что я и продолжал до 1948 года...»

Паводле рашэння Маладзечанскага райвыканкома № 315 ад 23 верасня 1947 г. гаспадарка К. І. Шыдлоўскага была прызнана кулацкай.

Пачатковым, «лёгкім» націскам на кулака рабілася шматразовае павышэнне яму сельскагаспадарчага падатку. Як правіла, выплаціць такія падаткі ніводзін «кулак» не мог. Тады пачыналіся рэпрэсіі супраць гаспадаркі: у лепшым выпадку — канфіскацыя маёмасці і высяленне, у горшым — папраўча-працоўны лагер.

Уявіць, які быў узровень дабрабыту падобных «кулацкіх» сем'яў, можна па пераліку канфіскаванай маёмасці. Вось, напрыклад, якое «багацце» было канфіскавана 1 красавіка 1951 г. у мястэчку Краснае:

| №№ п/п | Наименование | К-во | Качественное состояние | Оценка |
|---|---|---|---|---|
| 1. | Дом деревянный 12×7, покрыт щепой, одноэтажный | 1 | 75 % годн. | 3800 руб. |
| 2. | Сарай деревянный 8×4, крытый щепой (принадлежит половина) | 1 | 25 % годн. | 550 руб. |
| 3. | Лошадь — кобыла гнедой масти, 3-х лет, документов не имеется | 1 | хорошая | 1200 руб. |
| 4. | Поросенок 4-месячный | 1 | | 225 руб. |
| 5. | Колеса на железном ходу | 1 | изношенные | 150 руб. |
| 6. | Стол деревянный простой | 1 | изношенный | 20 руб. |
| 7. | Кровати односпальные железные | 2 | старые | 60 руб. |
| 8. | Табуретки деревянные | 2 | старые | 20 руб. |
| 9. | Кухонный стол деревянный | 1 | 50 % годности | 15 руб. |
| 10. | Сундук деревянный | 1 | старый | 35 руб. |
| | Всего: | 12 | | 6075 руб. |

У падобныя спісы траплялі драўляныя ўслоны агульным коштам 12 рублёў за 4 штукі (паводле цэн 1951 г.), старыя сялянскія ступы, цэбры, лавы, дзіцячыя начоўкі, бляшаныя вёдры і г. д.

У выніку палітыкі раскулачвання значная частка сялянскіх сем'яў, разам са старымі бацькамі і малалетнімі дзецьмі, высылалася ў аддаленыя раёны краіны.

Пасля смерці Сталіна людзі сталі звяртацца ў розныя інстанцыі, пачынаючы ад выканкомаў раённых і абласных Саветаў аж да Савета Міністраў і Вярхоўнага Савета БССР, са скаргамі на тое, што іх гаспадаркі няправільна былі залічаны да кулацкіх, і з просьбамі дазволіць вярнуцца на ранейшае месца жыхарства.

Вось адна з такіх спраў.

«27 марта 1954 года Секретно

Председателю Совета Министров
Белорусской ССР

Представление

Решением исполкома Ильянского райсовета депутатов трудящихся от 26 сентября 1947 го-

*да хозяйство Мотошко Виктора Ивановича отнесено к числу кулацких хозяйств. Основанием к отнесению хозяйства Мотошко к числу кулацких послужили данные, представленные Ракшицким сельсоветом о том, что в хозяйстве Мотошко до 1940 года имелось земли 19 га, 1 лошадь, 1 корова, 1 телка, 2 свиней и сельхозинвентарь. В 1940 году земля была обрезана, и осталось в его пользовании 10 га. В хозяйстве применялась наемная рабочая сила.*

*С 1941 по 1947 г. работал военнопленный Советской Армии Несмеянов и пастушок Венгерский Юльян.*

*В 1948 году Мотошко обжаловал решение исполкома Ильянского райсовета в Молодечненский облисполком. Решением № 290 от 3 июля 1948 года исполком Молодечненского областного Совета депутатов трудящихся признал отнесение хозяйства Мотошко к числу кулацких правильным.*

*16 апреля 1952 года на основании решения Совета Министров БССР от 7 апреля 1952 года за № 436 семья Мотошко Виктора Ивановича в составе: жены, Мотошко Ксении Ивановны, 1898 года рождения, и дочери, Мотошко Ирины Викторовны, 1927 года рождения, выселена в отдаленные районы СССР на спецпоселение.*

*Дочь Мотошко В. И., Шмуглевская В. В., в жалобе, адресованной на имя председателя Совета Министров БССР, указывает, что хозяйство отца, Мотошко В. И., отнесено к числу кулацких неправильно, и ссылается на то, что в период Отечественной войны в доме действительно некоторое время проживал военнопленный Советской Армии Несмеянов, но не как батрак, а укрывался от немецких оккупантов. Впоследствии он ушел к партизанам. Венгерский Юльян несколько месяцев пас корову, т. к. общественного пастуха не было. Кроме того, указывает, что отец имел связь с партизанами...*

*Сын Мотошко В. И., Мотошко П. В., служит в Советской Армии, второй сын, Мотошко И. В., работает инспектором техснабжения ИТЛ МВД по вольному найму, дочь, Шмуглевская Валентина, инженер, работает в Молодечненском облпроекте.*

*Согласно Постановлению Совета Министров БССР от 10 августа 1950 года за № 994, примечание к п. «б» — наем трудовым хозяйством пастуха, при отсутствии в деревне общественного выпаса, если этот пастух не выполняет другой работы в хозяйстве, или наем одного поденного рабочего в период сева или уборки — не является основанием для отнесения такого хозяйства к кулацким.*

*Поэтому на основании изложенного*

*ПРОШУ*

*решение исполкома Ильянского райсовета депутатов трудящихся от 26 сентября 1947 года и последующие его решения об отнесении хозяйства Мотошко Виктора Ивановича к числу кулацких хозяйств, а также решения исполкома Молодечненского облсовета депутатов трудящихся № 290 от 3 июля 1948 года и № 409 от 27 мая 1953 года отменить, хозяйство Мотошко В. И. из числа кулацких исключить и возвратить семью Мотошко со спецпоселения к прежнему месту жительства.*

*Прокурор БССР*
*государственный советник юстиции 2 класса*
*А. Бондарь».*

*«Рассмотрев копию представления Прокурора БССР, присланную Советом Министров БССР, о неправильном отнесении хозяйство Мотошко Виктора Ивановича к числу кулацких и рассмотрев материалы проверки, исполком областного Совета депутатов трудящихся*

*РЕШИЛ*

*решения облисполкома от 3 июля 1948 года № 290 и от 27 мая 1953 года № 409 об отнесении хозяйства Мотошко В. И. к числу кулацких считать правильными. Оснований для пересмотра и отмены данных решений нет.*

*Зам. председателя исполкома*
*Молодечненского облсовета*
*Подпись*
*Секретарь*
*Подпись».*

А вось і яшчэ прыклады.

18 лістапада 1955 г. Маладзечанскі аблвыканкам разглядаў заяву спецпасяленца Станіслава Антонавіча Кербедзя, высланага ў пасёлак Джэтысай Ільічоўскага раёна Паўднёва-Казахстанскай вобласці. Такое пакаранне Станіслаў Антонавіч атрымаў як член кулацкай гаспадаркі сваёй маці — Людвігі Іосіфаўны. Са снежня 1944 г. да кастрычніка 1945 г. С. А. Кербедзь быў на службе ў Савецкай Арміі, удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, атрымаў лёгкае раненне, а маці ў гэты час адна ўпраўлялася з гаспадаркай. Пасля дэмабілізацыі Станіслаў Антонавіч прыехаў зноў у Валожынскі раён, а з 15 сакавіка 1950 г. і да высялення 19 красавіка 1952 г. працаваў у Маладзечанскім хімляспроме.

На хадайніцтва аб вызваленні ад спецпасялення С. А. Кербедзь атрымаў такі адказ: «Из материалов проверки усматривается, что хозяйство Кербедь Л. И. к числу кулацких отнесено правильно, заявление считать необоснованным, в просьбе об освобождении отказать».

Сталіншчына бязлітасна ламала лёс многіх беларускіх сялян. Вынікі генацыду мы бачым сёння, а архіўныя дакументы дазваляюць глыбей асэнсаваць трагізм нашай нядаўняй гісторыі.

**Расціслаў ГЕРАСІМОВІЧ,**
**Наталля ІВАНОВА**





*В. ЛАСТОЎСКІ*

# ПРЫВІД

**Ігнат ляжаў на печы і думаў аб сваёй паганай долі. У хаце было цёмна, жонка і дзеці спалі. Думаў Ігнат аб людскіх дастатках і ўсёй душой пажадаў іх сабе. Аж тут раптам расступіліся сцены й сьвятло заліло хату. Ігнат пачаў аглядацца, асё-ж здалёку, на белай хмарцы плыве да яго нейкая паня. Ігнату ўсё гэта дужа дзіўным здалося, і ён занямеў. А тымчасам зданьне прыпала да самага чэрэна й станула. Цяпер Ігнат зблізка акуратна разглядзіў, што гэта грэцкая багіня, якую нядаўна бачыў нарысаваную ў нейкай кнізе, толькі чыста забыўся, як завуць яе. На галаве багіня мела залаты вяночак, аднэй рукой прыдзержывала багатую сваю вопратку, зусім непадобную да нашай, а ў другой мела грамадны рог, поўны грошы, дарагіх каменьняў і ўсялякага багацьця. Ігнату зрабілася страшна, але маўчаў і ждаў, што далей будзе.**

**Багіня ласкава ўсьміхнулася да Ігната і прывітала яго гэткімі славамі:**

**— Вітай, Ігнат, на зямлі прадзедаў тваіх! Ты думаў аба мне, і я вось прыходжу, каб надзяліць цябе ўсялякім багацьцем. Хачу зрабіць гэта праз памяць на тваіх прадзедаў, каторых некаліс-то я знала. Даўно было гэта... Бачу, у вас цяпер тут край голы, а калі я тут бывала з сваімі людзьмі, многа ўжо сот лет таму назад, бары тут, лясы шумелі. Нашы людзі прыяжджалі да вас на караблёх і лодках па дарагі бурштын, бабровыя, кунічныя і саболія скуры; на замен яны прывозілі вам бронзавае аружжа і літыя прыкрасы, маляваныя урны і рэзаныя фігуркі, каторыя вашы людзі craраліся падрабляць; няскладна ішло ім, але перараблялі ўсё на свой спосаб. Здольны народ быў, прадзеды вашы. Іх работа сьпярша была грубая, але мела ў сабе зачаткі арыгінальнай красы. Вы цяпер недзе папярэдзілі сваіх вучыцялёў; вашы майстры недзе даўно ўжо вытварылі сваю штуку? Цяпер можа ўжо вашы купцы возяць іншым народам свае вырабы, каб прамяняць іх на залаты пясок... Ці так? — усьміхаючыся спытала багіня.**

**Ігнат маўчаў, нічога не разумеючы з гэтай гутаркі. Багіня, не дачакаўшыся адказу, далей цягнула:**

**— Даўныя часы гэта, ах, даўныя... Тады ў вас тут дзіч была, нашы людзі прымусілі перайсьці з каменнага да бронзавага веку. Праўда, рабілі яны гэта ня дзеля вас, але каб самім разбагацець на дарагіх вашых таварах, каб на старасьць жыць у багацтве, піць віно з залатых кружак на ложах з слановай косьці, за сярэбранымі сталамі, сярод панадных дзяўчат, пры тонах гарфы... Дзяўчаты вашы славіліся красой; дорага плацілі за іх у Афрыцы. Дык нашы людзі кралі дзяўчат вашых. Яны заманівалі іх на берагі рэк, раскладаючы ўздоўж берагу розныя ўборы і дарагія саматканы, і калі дзяўчаты вашы прыходзілі паўзірацца на дзівы гэтыя, самі адны, бяз мужчын, то нашыя людзі хапалі іх і, не зважаючы на крыкі, вязалі і хавалі на дно лодак, лічучы ў думках, колькі залатых колец возьмуць за іх у Эгіпце.**

**Посьле вашы старшыны і мужы перанялі збыткоўнае жыцьцё ад Скіфаў і нашы людзі пачалі дастаўляць вам збыткоўныя тавары: міра і ладан, дарагія каменьні і бісер, чорнае дрэва і слановую косьць. А ўжо і ў народзе пачала будзіцца душа. Вашы дзяўчаты і хлопцы танцавалі дзіўныя, рытмічныя танцы на ігрышчах, каторыя ўстрайвалі сабе пад голым небам, над ракой ці возерам; вашы сьляпцы-лірнікі складалі багатырскія песьні і расьпявалі іх на трызнах і ваенных банкетах. Але гэта быў зачатак. На цяперашніх ігрышчах пэўна дзяўчаты вашы пяюць і танцуюць, як музы, а вашыя лірнікі сваімі казкамі багоў абваражыць могуць? — пытала багіня.**

**Ігнат, шырока раскрыўшы вочы, маўчаў і... не разумеў нічога. А багіня далей казала:**

**— О, помню гэты сьветлавалосы народ: мужы, як дубы ўсе, высокія, стройныя, а гордасьці сколькі было ў сьветлых вачох іхніх. Благі тавар зь іх быў на нявольнікаў: западаныя ў няволю, умíралі моўча, бо ня важыліся пахіліць галоў сваіх перад чужой воляй... Вашы прадзеды волю любілі, умíралі пазбаўленыя волі зь іменем народу свайго і зямлі сваёй на вуснах... Нешта зь бесьсьмяртэльных багоў было ў паставе і вачох прадзедаў вашых...**

**Багіня задумалася, а посьле, быстра зірнуўшы на Ігната, ужо іншым тонам пытала:**

**— Але чаму-ж гэта, ваша, патупляеш свае вочы?**

**Ігнат разумеў, што тут выпадае нешта сказаць, але ня мог дабраць слова. Зь перапалоху ляскаў зубамі і таптаўся на месцы.**

**Багіня змоўкла, зь няверай аглядаючыся на Ігната. Той чухаўся ў патыліцы і ўсё яшчэ сіліўся на адказ.**

---

Тры апавяданні В. Ластоўскага «Спадчына» друкуе паводле самага поўнага на сёння збору ягоных твораў, выдадзенага ў 1956 г. у Мюнхене.

— Дзіўнае стварэньне!.. Але патурбуйся, ваша, зь печы зьлезьці! — крыкнула багіня, знаць, залаваўшыся.

Ігнат паслушна ссунуўся зь печы і, згорблены, памкнуўся да багіні, каб пацалаваць у руку ей. Але багіня, як апараная, адскочыла ў бок, і зьдзіваваная й злосная, крычала на ўвесь голас:

— Хто гэта?! Што гэта?! Хто ты? О чалавеча, хто ты такі?!..

Ігнат чыста зьбіўся з панталыку. Маўчаў.

— Ды хто ты такі, чалавеча, як род і племя твае завуцца?

— Хто ты?!

— Я, я...— стагнаў Ігнат — тутэйшы...

Багіня зь дзіва ажно анямела. А посьле, зьмяркаваўшы, пачала на ўвесь голас сьмяяцца.

— Ня ведае, бедны, як назваць сябе... Абываталь ня знае племені — роду свайго; ня знае назовы зямлі роднай, каторая ўзрасьціла яго, у каторай зложаны косьці бацькоў і дзядоў... Ха... ха...

— А... А-ткі гэта патомак тых поўбагоў, поўгэркулесаў... Такі сам вус бялавы, такія самыя вочы; толькі ў вачох ня гордасьць, але рабства, нявольніцтва празірае, не адвага і сьмеласьць, а страх у гэтай усей хвігуры, гатовай заўсёды да паклону... Божа мой, колькі рабства!..

Не, чалавеча, лішне многа ў табе рабскага... Нягрыцянскі нявольнік больш захаваў у сабе гордасьці, чым у цябе, чалавеча, асталося... Бачу, як праз доўгія вякі пагляд твой плюгавіўся пакорай, галава паклонамі, вусны лізаньнем рук нячыстых... Няволя затуманіла памяць тваю; забыўся ты людзкой назовы сваёй і гэтым сьцёр ты зь ліца свайго знамя людзкое... Не, чалавеча, скарбы мае рассыплю перад табою толькі тады, як ты прыпомніш імя людзкое сваё, калі прабудзіцца ў табе адвага і гордасьць... А цяпер, бывай здароў! —

І багіня, сеўшы на хмарку, аддалілася, а ў той час у хаце сышліся сьцены і зрабілася цёмна. Ігнат, пастаяўшы крыху, паскрабаў з аднэй і з другой стараны галаву, сплюнуў і, узьлезшы на печ, ізноў заснуў.

Вільня 20.7.1910

# ЛЯБІРЫНТЫ

Ад колькіх гадоў сталася ў мяне звычаем выяжджаць на тыдзень-два ў які-колечы закутак Беларусі для пазнаньня роднае старасьвеччыны. Мяне даўно вабіў да сябе наш сівагорбы Полацак сваім рамантычным мінулым, якое сягае ў легендарныя часы, і гэнага году я пастанавіў сабе пару вольных летніх тыдняў правесьці ў Полацку. На маёй пастанове канчальна заважыў ліст, атрыманы з Полацку ад тамтэйшага аматара-архэалёга Івана Іванавіча, які даносіў, што каля яго ўтварыўся гуртох ахвотнікаў старасьвеччыны зь мясцовых жыхароў. «У нашых вячорных вольных басёдах запраўды ажываюць мінулыя вякі ў казках, легендах і фантазіях...» — пісаў ён мне ў сваім лісьце.

Увечары таго-ж дня я сеў у вагон у Вільні, а на другі дзень раніцай ужо ішоў старымі вуліцамі Полацку, шукаючы сабе памешканьня ў гасьцініцах.

Удзень пабываў у Івана Іванавіча, дзе аглядаў цікавыя кахлі і мэталёвыя бляшкі, знойдзеныя пры раскопках у даўнай княжай сялібе — Бельчыцах. Пазнаёміўся ў яго з двума ўдзельнікамі, як яны называлі, «Архэалёгічнай Вольнай Контэрфратэрніі». Адзін зь іх быў мясцовы чыноўнік, якога я знаў з брашуры, напісанай ім калісь, калі было яшчэ моднае і патлатнае для чыноўніцкай кар'еры русыфікатарства. У гэнай брашуры ён задаваўся мэтай давесьці, што парасейску трэба пісаць назоў гораду ня «Полоцк», а «Полотск» і што быццам у гэтым пераменаваньні прастарога назову крыўся сам цэнтр «абрусеньня краю». Вынікам ягонае брашуры сталася тое, што ў расейскім мясцовым правапісе завёўся хаос, бо некаторыя пачалі, запраўды, пісаць «Полотск», «полотскій» і т. д., а іншыя пайшлі яшчэ далей і пісалі — «Полотеск», кансэрватары-ж і мясцовыя жыхары засталіся пры старым назове.

Пры цяперашняй, асабістай зь ім знаёмасьці я даведаўся, што ён ужо 40 гадоў, як зьбірае матар'ялы і дакуманты да краёвае гісторыі, што ў яго два пакоі бітма набітыя гэтымі матар'яламі, сярод якіх ёсьць неацэненае вартасьці рэчы.

Другі быў колішні акалічны памешчык, які злажыў гаспадарку, распрадаў зямлю, і цяпер жыў у Полацку, у сваім собскім дамку з садам, з гатовага граша. Бацька ягоны меў нейкія блізкія дачыненьні да Васільнаў, а ён сам цікавіўся галоўна дэманалёгіяй, кабалістыкай і да г. п. Меў, як зарэкамендаваў мне яго Іван Іванавіч, у сябе «чорнакніжную бібліятэку», якой нікому не паказваў і не даваў чытаць. Знаў ён гэбрайскую мову і любіў час ад часу пайсьці ў жыдоўскую сынагогу падыскутаваць.

Мы ўмовіліся сустрэцца, разам зь іншымі яшчэ ўдзельнікамі «Вольнае Контэрфратэрніі», на кватэры ў Івана Іванавіча.

Увечары прыбыло яшчэ двох. Мясцовы полацкі мешчанін Рыгор Н., сівавусы старац, які ўпорыста гаварыў пабеларуску, а часам прыкідаўся, што не разумее некаторых словаў парасейску і, па колькі разоў перапытаўшы, паўтараў слова ў перакладзе пабеларуску з асаблівым на яго націскам. Мне яго зарэкамандавалі пад найменьнем «Падземны Чалавек», спэцыяльнасьцю ягонай было знаньне розных фантастычных легендаў аб падземных ходах і дзівах, скрытых у іх, якія ён умеў апавядаць із разьлівым рэалізмам, але на заканчэньне заўсёды дадаваў: «Так пераказуюць, але хто-ж ведае, ці ёсьць у гэтым хоць кропля праўды».

І ўрэшце апошнім удзельнікам «Контэрфратэрніі» быў сярэдніх гадоў настаўнік гарадзкой школы, які цікавіўся галоўна мясцовай гісторыяй да прыняцьця хрысьціянства Крывічамі.

Пазнаёміўшыся, расьселіся мы за сталом на выгодных так званых «клюбовых крэслах», глыбокіх і мяккіх, з шырокімі поручамі. На стале вясёла шумеў самавар і красавалася бутэлька, запарушаная пылам, а на талерках панадна была параскладаная ўсякага гатунку дымляніна: кумпячына, сальцэсона, кілбасы, якія ня маюць роўных сабе ў сьвеце, калі бываюць прыгатаваныя паводле старасьвецкіх рэцэптаў, рукамі беларускіх гаспадарных жанок.

Пасьля другое-трэйцяе чаркі «Падземны Чалавек» пахінуўся да мяне і пачаў даводзіць, што гара, на якой стаіць Верхні Замак — насыпная. Што першапачаткава гэта была толькі магіла славутага валадара ўсяе прыбалтыцкае «ратайскае» Скіфіі, а пазьней яе дасыпалі і на ёй стаяла бажніца, прысьвечаная Дзеве Сонцу, якую чцілі тут у постаці агністага птаха зь дзявочай галавой. Пры гэтым ён сягнуў у кішэнь і падаў мне бронзавы мэдаль з стылізаваным рысункам, характэрнага вельмі, але нябачанага мной дагэтуль стылю. На адным баку мэдалю быў зьмеявік, а на другім — Дзева Сонца, у постаці птаха зь людзкой галавой, абкружанай аўрэоляй.

— Гэткія мэдалі даўней часта знаходзілі каля гары, а гэты — я сам выкапаў у пясочку.

У нашую размову ўмяшаўся настаўнік, які сказаў:

— Я бачу, што вас застанаўляе закончаны стыль рысунку. І я пэвен, што вы думаеце — вось табе грубы прымітыў! Людзі імкнуліся нешта адтварыць, але не маглі перадолець тэхнікі, а дзеля гэтага зрабілі быццам сьцень падобнасьці да рэальных зьмеяў. Вось акурат у гэтым крыецца нашае самае грубае неразуменьне старасьвеччыны. Прасачце разьвіцьцё мастацтва ў Грэцыі: там пасьля груба рэалістычных скульптураў Фідыя і ягоных сучасьнікаў, пасьля вульгарнага клясыцызму, настае пэрыяд пазьнейшы — бізантыйскі. Стыль бізантыйскі — гэта ня ўпадак мастацтва, а ягонае вышэйшая ступень. Першы пэрыяд імкнецца, як і ў разьвіцьці рэлігіі, да багомленьня прыроды, другі — да тварэньня прыроды свайго замыслу і хаценьня. У першым пэрыядзе чалавек няпэўны сваіх духовых сілаў і яму здаецца, што зьвер ня толькі фізычна, але і духова дужэйшы за яго, яму імпануе зьвярыны сьвет, і ён пачынае багоміць яго. А таму ахвотна прыбірае сваю галаву бычынымі рагамі, цела акрытае мядзьвежымі скурамі, або размалёўвае на ім падобы тых зьвяроў і гадаў, што імпануюць яму. Калі-ж, ходам разьвіцьця культуры, чалавек даходзіць да пазнаньня самога сябе, да ацэны сваіх духовых сілаў, ён, разам із бычынымі рагамі, ськідае зь сябе і багомленьне рэальных формаў у мастацтве. Пачынае сам тварыць няісную́чыя формы, устанаўляе канон мастацтва. Бізантыйске мастацтва — гэта мастацтва вышэйшае фармацыі, чымся грэцкі клясыцызм, бо гэта мастацтва не натуралістычнае, а кананічнае. Тое, што мы бачым у Грэцыі, паўтараецца ўсюды, дзе толькі цывілізацыя людзкая даходзіла да вышэйшых ступеняў: і ў Асырыі, і ў Бабілёне, і ў Эгіпце, і ў Індыі, у Кітаі і Японіі...

Гэты мэдаль сьветчыць нам, што і мы, на гэтай зямлі, у гэтым краі, праходзілі ўжо раз росквіт высокай самаістай культуры, якая загінула і рэшткі якой, вельмі рэдкія, зьяўляюцца пакуль што для нас таёмнымі крыптонімамі, даступныя толькі рэдкім, як я сказаў-бы, пасьвячоным людзям. Нашае няшчасьце ў тым, што край наш ня мае ні годнага да будоўлі каменьня, ні капальняў мінэралаў, а з гэтае прычыны адзіным, годным да будовы матар'ялам было дрэва і нашыя мастацкія будоўлі былі драўляныя, малатрывалыя. Нашыя пісаныя памятнікі не на камянёх высякаліся, але начырkаліся на бяроставых пластках, якія лёгка запаляліся і гнілі. Скажэце, каб у Эгіпце, Індыі, Бабілёне была драўляная культура, дык ці ведалі-б мы сяньня што колечы аб ёй? Не.

— Маеце слушнасьць,— сказаў памешчык.— Нашыя прашчуры перажылі стадыю высокае культуры. Як довад, магу прывесьці, што дагэтуль, сярод нашага простага народу, які паўтысячы год ходзіць у чужым ярме, дагэтуль тут ёсьць собскія назовы важнейшых нябёсных знакаў. Прыкладам зорку Вэнэру да сяньня сяляне называюць «Чагір». Пад найменьнем «Чагір» фігуруе Вэнэра ў Супрасьльскім календары XVIII ст., дзе аб ёй гаворыцца: «Зьвязда Чагір між усімі Зьвёздамі 10 месц у кажным месяцы мае, а па трыкрот прыходзіць на кажнае месца, кажнага месяца»; Плеяды «Сітцом» або «Вуціным Гняздом»; Арыёнаў пояс — «Кігачамі»; тры зоркі, каля Млечнай Дарогі называюць «Пральлямі» або «Зялезны Абруч»; у галаве Млечнай Дарогі знаюць «Касьбітоў», а самую Млечную Дарогу называюць «Вайсковым Станам». Назоваў гэтых захавалася многа. А што гэта значыць? Гэта значыць, што быў калісь час, калі ў нас працьвітала астралёгія, глыбокае веданьне якой зьяўлялася прывілеем клясы вучоных, але яна была аднача́сна, мабыць, ведай, даступнай для ўсіх станаў.

Тут яго перапыніў стары чыноўнік, кажучы:

— Сярод маіх збораў меў я карціны кніг, пісаных на бяросьце, незразумелымі знакамі, падобнымі да рунічнага пісьма. Я маю дадзеныя цьвердзіць, што г. зв. Яцьвягі ня былі асобным плямём, як памылкова думаюць, а гэта назоў клясы сьвятароў паганскіх часоў. Тых зорнікаў і зораведаў, а пацяперашняму астраномаў, якія аднача́сна былі і клясай сьвятароў, духаўнікоў. Прашу зьвярнуць увагу на падобнасьць паняцьця, уложанага ў словы «яцьвяг» і «жрэц». Там і тут да ўтварэньня слова ўзята паняцьце яды — жорці, есьці. Выйдзеце з гэтага пакою на рынак і спытайце, дзе прадаюць ядомыя рэчы? Усякі вам адкажа: —

у ятках. У старапольскай мове жэртва называецца «objata», ізноў-такі тое самае паняцьце яды ўложана ў слова. Наш селянін дагэтуль кажа на страву «ятво», славянскае — яство, яства. Папольску пішацца «Jadźwingowie», дык і тут ёсьць карэнь «яд», «яда»... У даўныя часы паміж словамі: «яцьвяг» і «жрэц» была акурат розьніца, як у цяперашнім нашым разуменьні паміж словамі «сьвятар» і «жрэц». Для ваяўнічага хрысьціянізму, які нішчыў усё паганскае, усе старой веры і сьвятары, і грубыя шаманы, і варажбіты — былі агульна пагарджанымі жрацамі. Гэтая староверная, з высокай культурай, інтэлігенцыя, брыдзілася змагацца забойствамі з новай верай і эміґравала ў глухія пушчы на ўзьмежжа старовернай і аднавернай зь імі Жмудзі. Як іх там тропілі і нішчылі блізу штогод, палячы будоўлі і выразаючы людзей, сьветчаць ужо рускія і польскія летапісцы. Разам з тым, калі заг'нулі яцьвягі, загінула і старая дахрысьціянская нашая культура.

Тут ізноў узяў слова «Падземны Чалавек»:

— Я там ня ведаю, які назоў мелі сьвятары дахрысьціянскіх часоў. А што яны займаліся астрономіяй — гэта пэўнае. Ваша, хіба, ведаеш,— зьвярнуўся ён да мяне,— Богінскае возера. Цікавы закутак! Уся ваколіца поўная старога жыцьця. На возеры ёсьць паўвостраў «Богіна», а таму «Богіна», што там былі сьвятыя бажніцы. У канцы возера ідуць валатоўкі бронзавага веку, на пяшчыстым урочышчы, гэтае месца жалю, смутку панашаму — могілкі — носіць найменьне Жаль-Бор. На востраве, яшчэ да скасаваньня паншчыны, трымаўся высокі капец, у сярэдзіне якога была старое веры бажніца, з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ў сярэдзіну падаў толькі роўна а паўдні. Капец гэты ўзарвалі маскалі ў часе паўстаньня 63-га году, думаючы, што гэта нейкая крэпасьць. Там, у Богіне, ёсьць таксама падземныя ходы, як і ў нас, пад Верхнім Замкам, у сярэдзіне гары. Старая веда і старая культура не загінулі. Кажуць людзі, а хто-ж ведае, ці ёсьць у гэтым хоць кропля праўды, пад Верхнім Замкам, за магілай няведамага валадара, ёсьць склады з багацьцямі вялікімі. Кажуць, у вабход абшырнай грабніцы, направа, ёсьць мураваны праход крокаў на 60 удоўжкі, і праз яго ўваходзіцца ў сховы із старымі кнігамі. Часткай пісаны яны на дошчачкав, часткай на бяростаных пластох. Зложаныя кнігі ў каваных серабром скрынях, у сярэдзіне абітых скурай. З гэтай кніжні пракавечнай ёсьць ход у скарбец... Толькі дужа страшна ісьці там.

Голас ягоны абарваўся спазмай у горле, ён сам неяк згарнуўся ў крэсьле, а вочы застыглі, быццам угледжаныя ў няведамую даль.

На мамэнт спынілася размова, а, пазьней, памалу перайшла на славутную полацкую бібліятэку, якой, здабываючы Полацак у 1572 годзе, шукаў Іван Грозны і не знайшоў, і якую даручаў папа Грыгор XII Пасэвіну знайсьці і пераслаць у Рым. Усе аднагалосна выказвалі, што бібліятэка гэтая была тады схаваная, і сяньня ёсьць недзе ў падземных полацкіх лёхах. Іван Іванавіч расказваў, што на свае вочы чытаў у старых мэтрычных кнігах у архіве віцебскае лютаранскае кірхі запіс на белягу аб тым, што ігумен Бельчыцкага манастыра, перад аблогай гораду Масковіяй, злажыўшы ўсе манастырскія скарбы і кнігі, паплыў уніз Дзьвіны, каб захаваць ўсё гэта ў падзямельлях Верхняга Замку. Стары чыноўнік вылічаў, якія кнігі ёсьць у захаванай бібліятэцы.

— А найперш ёсьць там,— казаў ён,— летапісы Полацкага княства, і нават летапіс пісаны рукой сьв. Еўфрасіні, праўдзівы эгзэмпляр г. зв. «Повесьці врэменных лет», бо копіі, што дахаваліся да нашых дзён, пераблытаныя і далёкія ад арыгіналу, далей — сваяручныя пісаньні братоў Кірыла і Мяхвода, Бізантыйскія хранографы і да г. п. Васільяне ведалі, дзе захаваная бібліятэка, але баючыся, каб яе не забралі езуіты і ня зьнішчылі, хавалі месца ейнага знаходжаньня ў сакрэце.

Гутарка зацягнулася да познае начы.

Разьвітаўшыся, мы разыйшліся кажны ў свой бок.

Мой пакой у гасьцініцы быў на другім паверсе, і вакно выходзіла ў сад, за якім, на мураваным доме, красаваўся агаловак коміну ў кшталце кароны. Полацкія старажылы кажуць, што даўней больш было гэткіх аздобленых комінаў у горадзе, з часам яны вывеліся, і я пашкадаваў у душы заміраньне роднае старасьвеччыны. У стылі агалоўка было нешта няўлоўнае, што нагадвала на стыль нядаўна бачанага мэдалю, які паказваў «Падземны Чалавек». Ці-ж бы рэшткі стылю яшчэ жылі? Я пахінуў галаву на вакно і задумаўся. Перада мной, у фантазіі, пачаў расьці стылёвы горад зь дзіўнымі будоўлямі...

## II

Першы мой сон стрывожыў ціхі стук у вакно. Я ўскочыў з ложка і, падыйшоўшы, пабачыў у вакне вусатае аблічча «Падземнага Чалавека». Ён даваў мне знакі рукамі, каб адчыніць яму вакно, пры чым клаў палец на вусны, даючы гэтым знак, каб я не нарабіў гоману.

Калі вакно было адчыненае, ён улез на падваконьнік, зажыў зь сярэбранае табакеркі і пачаў гаварыць шэптам:

— Я даўно ўжо ведаю ход у схаваную бібліятэку, але сам ня рухаў яе і нікому не паказваў, маўчаў, баючыся, каб не зарабавалі ў нас і гэтае нашае апошняе багацьце. Адзявайцеся, пойдзем! Я ўзяў з сабой сьвечку, ліхтарню і ўсё патрэбнае...

Няма чаго казаць аб тым, як хутка я быў апрануты і гатовы ў дарогу.

Мы зыйшлі па драбіне ўніз, аднесьлі яе ўбок і паклалі на зямлю, а самі ціпіком вымкнуліся з брамы і сьціраваліся ў бок Верхняга Замку. Мінутаў за 20, мы былі на месцы. На гары, у бок Дзьвіны, тады стаялі яшчэ руіны замкавых будынкаў, у якіх да 1839 г. месьціўся Васільянскі манастыр.



Замак быў, як апавядаюць, зруйнаваны ўсяго толькі ў 40-х гадох. Перш, на загад цара Мікалая I, зь яго зьнялі мядзяны дах і адправілі ў Пецярбург на будову Ісакіеўскага сабору, а пазьней нехта ці запарушыў няўмысна, ці мо' ўмысна падпаліў будынак. Пасьля пажару ён больш паўстагодзьдзя пакінуты быў на руйнаваньне сіламі прыроды. Урэшце руіны, каля 1913 году, прадаў расейскі ўрад на цэглу нейкаму маскалю-падрадчыку, які, разабраўшы каштоўныя муры, сплавіў цэглу лайбамі ў Рыгу.

Але тады, калі мы сходзілі ў будынак, частка ягоная, якраз левы вугал у ніжнім паверсе, меў яшчэ цэлыя скляпеньні. Мы папацёмку дабраліся да вялікай вуглавое, у скляпох, залі, сьцены якое і столь былі пакрытыя старымі фрэскамі, якія месцамі былі асыпаўшыся, месцамі сьцёртыя і павыдзіраныя. Справа, між дзьвюх атворынаў ад дзьвярэй, была круглая ніша да самога памосту.

— Вось тут ход у падзямельле,— сказаў мой правадыр і пачаў рукамі адгартаць насыпаны на добрага паўаршына друз. Супольнымі высілкамі мы ачысьцілі дно нішы, якое было зробленае з аднае, у квадратны мэтр, каменнае пліты.

— Гэта дзьверы,— сказаў «Падземны Чалавек» і, засунуўшы ў шчалугу між каменьняў загнуты зялезны друк, з высілкам павярнуў яго. Нешта глуха храснула, і пліта адным бокам пачала апушчацца ўніз. Адкрыліся вітыя мураваныя сходы, якімі мы, пры слабым сьвятле «сьляпое» ліхтарні, пачалі зыходзіць уніз. Калі нашыя галовы зраўняліся з канцом навіслае пліты, дык пліта сама сабою паднялася ўверх і зашчоўкнулася, пры дапамозе прыладжанага да яе мэханізму.

— Апрача мяне, з жывых ніхто ня ведае аб гэтым ходзе. Ты другі будзеш ведаць аб ім і захаваеш патомным. Але перш, чым увайсьці ў тайныя ходы, у якіх нашыя празорлівыя прадзеды захавалі ня толькі свае культурныя, але і вялікія матар'яльныя багацьці, ты павінен даць абяцаньне злажыць прысягу на вечную тайну,— казаў стары ўрачыстым голасам, з націскам на кажным слове.

Я выказаў сваю згоду, і мы рушылі далей ходам, які меў шмат паваротак, але ўсьцяж пахіляўся ўніз. На аднэй з паваротак мой правадыр стрымаў мяне, кажучы:

— Памятай, пасьля сёмага вугла ёсьць запастка.

Перад намі ў поравень з цагляным памостам была на сажань даўжыні і на ўсю шырыню ходу ўпраўленая ў памост дубовая дошка.

— Гэта дошка на вяртугу ўстроеная, хто ня ведае, ступіць на яе, дык і зваліцца ў глыбокі калодзеж, а дошка сама сабой стане на месца.

Пры гэтым, хочучы паказаць, як гэта адбываецца, ён націснуў палкай на канец дошкі, і тая хінулася ўніз, адкрываючы чорную продань скрытага пад ёю калодзежа. Праваднік патрымаў гэты рухомы мост, а мне загадаў выцягнуць засунутую за зялезныя скобкі, збоку мураванае студні, дошку, паклаўшы якую на мост, мы перайшлі на другі бок яго і схавалі дошку зноў з другога боку.

Прайшоўшы колькі крокаў, мы знайшлі ў сьцяне нізкія чорныя дзьверцы, за якімі была рухомая сьценка, адсунуўшы якую, увайшлі ў даволі абшырны пакой, з мураванымі лавамі каля сьценаў і высокім падмуркам пасярэдзіне, на якім стаяла старасьвецкая труна, званая яшчэ данядаўна месцамі на Беларусі пад назовам «корсту». Гэта — таўстая калода з высечаным у сярэдзіне дуплом, у якое клалі нябожчыка; верх закрывалі плашкай ад такой жа калоды. У васабліва важных здарэньнях, хаваючы багатых або заслужаных людзей, корст пакрывалі смалой і «берасьцілі», г. зн. густа спаясавалі даўгімі паяскамі бяросты усю труну, як бандажом, а наверх шчытна акручвалі яшчэ добра прасмоленымі вяроўкамі. Гэтак прыгатаваны корст мог сотні гадоў ляжаць у зямлі не паддаючыся буцьвежы. Гэткія корсты бачыў я раней, калі аднэй вясны Дзьвіна падмыла старое магілішча, і вада то зносіла ўніз, то прыбівала да берагу іх, а сяляне вылоўлівалі, каб нанова закапаць у зямлю.

— Гэта корст, у якім ляжыць той, хто дабудаваў гэты ход,— сказаў мне праваднік.— Тут ты і зложыш прысягу, а на знак датрыманьня слова пацалуеш у чало гэтыя шаноўныя астанкі.

Пры гэтым ён запаліў таўстую, як добрая бэлька, васковую сьвячу, што стаяла ў канцы труны. Кнот трашчэў і дыміў, але памалу ўгарэўся, і я пабачыў на труне зроблены ў вакружыне надпіс глаголіцкімі літарамі. Надпіс гаварыў:

«Я, Ярамір, ходы гэтыя працай многай утварыў і дэманаў пяці моцай слоў тайных на пілнаваньне давечнае ўвязаў тут. Хай уносячага сюды прапусьцяць, а на выносячым споўніцца слова».

Мы адчынілі корст, і маім вачом паказаўся забальзамаваны нябожчык з густой сівой барадой, адзеты ў залататканую павалоку. Ляжаў ён крыху на правы бок павернуты, адна рука ягоная была пад галавой, другая ляжала на пазалоцістым паясе; левая нага крыху паднятая ў сагнутым калене. Выглядала, што гэта не нябожчык, а заснулы старац з шэрапапялістым абліччам.

«Падземны Чалавек» сказаў мне стаць у нагах, а сам стаў каля галавы на прыступках падмурку. Ад руху, калі ён праходзіў, закалыхалася полымя сьвечкі і мне здалося, нябожчык зьміргнуў вачыма.

Сярод непісанае цішы прагучэлі ўрачыстыя словы формулы прысягі, якую чытаў мне праваднік з узятага з-пад галавы нябожчыка зьвітку пэргаміну.

Словы былі такія ўрачыстыя, закляцьці такія страшныя, акружэньне такое нязвычайнае і нечаканае, што ў мяне закружылася галава. Мой праваднік таксама стаўся бледны і ўвесь дрыжэў. Раптам ён, як быццам аступіўшыся, зваліўся ўніз, адначасна

падсьвечнік з грукатам рынуў на памост, гасячы сьвячу. Запанавала непраглядная цемра і ціш. Я пачаў клікаць яго. Глухое маўчаньне ды нягулкае рэха былі адзіным адказам на мой кліч.

Сьвігавіцай праз мысьль прабеглі страшныя абразы зь легендаў і запраўдных здарэньняў, а таксама той факт, што пры мне няма сернічкаў. Я чуў, што ў гэтай немай цішы і чорнай, да болю ў мазгох, цемры, пад уражаньнем сьвежага страсеньня нэрваў, знаходжуся на самым рубе да страты прытомнасьці. У мазгох інстыктыўна і распачліва пачала біцца адна-адзіная думка: трэба быць спакойным, трэба быць спакойным! Я чуў, разумеў, што цяпер адзіны ратунак у захаваньні спакою. І як люнатык, з працягнутымі наперад рукамі, пайшоў у бок, шукаючы бачаных мной пад сьценамі мураваных лавак.

Я сеў на лаўку і пачаў глыбока ўдыхаць паветра. У вушшу званіла цішыня, пры якой чыканьне гадзіньніка ў кішані чулася, як рытмічны ход паравое машыны, ды глухое тутненьне крыві ў шыі і скронях. Як доўга я сядзеў — зьмеркаваць нельга, магла гэта быць адна мінута, як і цэлая вечнасьць.

Урэшце надумаўся пайсьці шукаць майго праваднiка і пры ім сярнічкаў і ліхтарні. З гэтай мэтай я сунуўся з лавы і папоўз на руках і каленах да сярэдзіны. Хутка намацаў падмуроўку, на якой я нядаўна стаяў, і папоўз навокал яе, бо ня мог зьмеркаваць, зь якога боку знаходжуся. За другой павароткай рука натрапіла на нешта мокрае і клейкае. Я падумаў, што гэта кроў, што недзе тут блізка ляжыць мой праваднік, і асьцярожна выцягнуў наперад руку, якая наткнулася сьпярша на масыўны мэталёвы падсьвечнік, а пасьля на людзкае цела. Я падаўся яшчэ бліжэй, шукаючы рукі. Пульс ня біўся, галава ягоная была мокрая і сьцюдзёная. У бочнай кішэні ягонае курткі я намацаў сернічкі і з радасьцяй хапіўся паліць іх, але рукі мае былі мокрыя і дрыжэлі, сернічкі ламаліся, або толькі давалі іскры. Перапсаваўшы штук зь дзесяць, я схапіўся, што іх у скрынцы ня шмат, і сілай волі пачаў паўстрымваць сябе, каб не псаваць болей дарэмна. Высілак над самім сабой даў найлепшыя вынікі, з увагай выняты сернічак і пацерты аб скрыначку загарэўся, асьвятляючы страшэнны абраз: перада мной ляжаў наўзнак мой праваднік з разьбітай і скрываўленай галавой. Ад правага вока і да вуха зіяла страшэнная крывавая рана. Сернік дагарэў і згас. Цяпер я толькі заўважыў, што, апрача сернікаў, у мяне больш няма нічога. Куды паставіў праваднік ліхтарню, якую згасіў, пасьля таго, як запаліў сьвечку, я не заўважыў. Сернікаў было ўсяго колькі ў скрыначцы, і я пастанавіў ужыткаваць іх з мудрай асьцярожнасьцю. А дзеля гэтага ізноў папоўз па памосьце. Па доўгіх шуканьнях была знойдзеная ліхтарня. Пры сьвятле ліхтарні я сьцьвердзіў сумны факт сьмерці майго праваднiка. Ен такі сапраўды аступіўся зыходзячы і, падаючы, ударыўся скроняй аб востры выступ падстаўкі ліхтарні, якую цяжарам свайго цела абярнуў.

Падымаючы цяжкі ліхтар, я заўважыў на ім унізе надпіс:

«Обятопрыімчэ, прымі другога, з чары тайн піўшага».

## III

Прачытаўшы дзіўны надпіс, я стараўся ўцяміць ягонае значаньне; і, мне здалося, што ён напамінае на права, якое пануе ў гэтых падзямельлях. Ці-ж бы «Падземны Чалавек», згодна з гэтым правам, павінен быў за раскрыцьцё мне тайны заплаціць сваім жыцьцём? Аднак, факты гаварылі, што ён стаўся: «другім, піўшым з чары скрытае веды». Мяне агарнула забабонная багавейлівасьць да навакольных да мяне муроў і рэчаў. Я пачуўся агорнутым з усіх бакоў таёмнымі, сьведамымі сваіх чынаў сіламі. І гэтыя цёмныя пракаветныя сьцены і чорны дубовы корст з астанкамі няведамага мне, аднак, бязумоўна геніяльнага духа, і гэты таёмны надпіс, і, урэшце, труп малаведамага, аднак, чамусьці, мне блізкага і дарагога чалавека, апутвалі душу тысячамі кволых, але цягучых ніцяў, няведамых мне тайнаў. А, галоўна, я быў тут, у гэтых лябірынтах, адзінай жывой істотай. Я абярнуўся, каб яшчэ раз глянуць на мілае старэчае аблічча «Падземнага Чалавека». І якое-ж маё было зьдзіўленьне, калі я не пабачыў яго на зямлі, дзе мамэнт таму ён ляжаў. Гэта апошняе страшэнна стрывожыла і парушыла мяне да апошніх глыбінаў усяе мае істоты. Я яшчэ больш пачуўся бездапаможным і бязрадным у путах няведамага. Уражаны новай тайнай, я, шукаючы свайго праваднiка, узьняў у гару ліхтарню, аглядаючы склеп, але нідзе ня было цела, якога я шукаў. Затое я толькі цяпер заўважыў, што памешканьне, у якім я знаходжуся, мае трохкутную форму, трылук якой, звужаючыся, зыходзіўся ўверсе высокім скляпеньнем. Мне прыпомнілася чытанае некалісь апісаньне славянскае сьвятыні ў Рэтры, якая была збудаваная трыбочнай фігурай, як і сама сяліба пры ёй, якая мела з трох бакоў агароду і тры брамы на ўсход, паўдня і поўнач. Спомнілася мне адна дыскусія ў гуртку моладзі, і як паважны вучоны, які быў сярод нас, даводзіў тады, што таксама ў трыкутную фігуру была будаваная слаўная, апяяная Гомэрам Троя, што ўсе бажніцы, ці то «багоды» старое славянскае веры, пасьвячаныя Найвельшаму, бацьку багоў, зваліся Троямі. Але хутка думка мая зьвярнулася зноў да майго незавіднага палажэньня ў гэтых склепах. І я толькі быў прыняў у сабе пастанову вяртацца назад тэй самай дарогай, як раптам, нешта скрыганула за мной. Пахоплiва абярнуўшыся назад, я пабачыў рассунутую сьцяну і паміж дзьвюх ейных палавінаў, на



асноведзі аксаміту чорнае цемры праходу — чалавечную постаць у белай вопратцы і ў белым, мітрападобным, клабуку на галаве. Я стаяў, як амярцьвелы і пэвен быў, што гэта галюцынацыя. А тымчасам, белая постаць з павагай пачала да мяне набліжацца. Узіраючыся расшыранымі вачыма на яе, я, зь немалым зьдзіўленьнем, распазнаў аблічча Івана Іванавіча. Першым маім водрухам было выразіць сваю радасьць і падзяліцца перажытымі трывогамі, але ён, як быццам, згадаўшы маю думку, урачыстым падняцьцем рукі стрымаў маё парываньне, кажучы:

— Не парушай павагі месца гэтага мовай сваіх турботаў. Хадзі за мной!..

І мы моўчкі ськіваваліся ў праход, зь якога выйшаў Іван Іванавіч. Ен ішоў наперадзе, а я за ім. Цяпер я толькі разгледзіў, што белая ягоная вопратка была ў форме доўгай, шырокай кашулі з пурпуровымі шлякамі на падоле і рукавох; клабук быў таксама падбіты зьнізу, на адваротах брыля, пурпуровай тканінай. Ішлі мы разьмернай, роўнай хадою, лукавыгібістым, шырокім праходам, на сьценах якога былі пасьвялыя ад часу малюнкі і нейкія надпісы, абкружаныя арнамэнтамі. Памост быў зложаны з чатырохкантовых каменных плітаў. Гэтак, у маўчаньні, прайшлі мы ня менш за 200 крокаў, калі, урэшце, сталі перад глухой сьцяной, якой канчаўся праход.

Іван Іванавіч падняў руку ўверх і палкай, на якую апіраўся, моцна націснуў на разэтку над крукам, упраўленую ў скляпеньне. Глухая сьцяна, перад якой мы стаялі, сьпярша дрыгнула, а пасьля пачала вольна апушчацца наперад, і перад намі адкрылася круглая заля, сьцены і столь якое пакрытыя былі рысункамі, а памост — мазаікай. Заля была зусім пустой, толькі з правае стараны, пры сьцяне, стаялі тры каменныя седзішчы.

— Во, тут, на гэтых сьценах,— пачаў Іван Іванавіч,— забразаваная істота нашае старое веры, якая абапіралася на траістасьці ўсяго існага. Уверсе — выбражаныя сілы нябёсныя, у сярэдзіне — жыхары зямлі зь іхнымі турботамі, унізе — замагільны сьвет зь ягонымі валадарамі і жыхарамі. Кажны з гэтых сьветаў, паводля старое навукі, распадаўся, сваім парадкам, на тры істотныя характары. Усе рэлігійныя сыстэмы ад пачатку існаваньня ў чалавецтве сьведамае думкі прызнавалі гэтую траістасьць рэчаў. Хальдэя-бабілёнскія сьвятары, якія за шмат тысячагодзьдзяў да нас слылі лепшымі ў сьвеце астраномамі, лепшымі пры гэтым знаўцамі матэматыкі, безь якое немагчыма астраномія, і да гэтага — старэйшымі носьбітамі веды людзкой,— у лік свае Тройцы ставілі багоў Ану, Эа і Бэла. Ану — гэта валадар зорыстага неба, першародны, старэйшы, бацька багоў. Эа — мудрэйшы, лепшы з багоў, прасьветнік і праваднік усяму сьмяротнаму. Бэла — сын Эа, які вывяў зямлю зь цемры і хаосу, аддзяліў адны ад адных усе постаці і адмены, зь якіх злажыўся сьмяротны сьвет, якім мы яго цяпер знаем. У Індыі Тройцу складаюць Брама, Вішну, Шыва; Функцыі, прыпісаваныя асобам гэтае Тройцы, тыя-ж самыя, што і ў хальдэяў. Ня чужа была і грэцкай думкі паняцьце траістасьці сілы, што валадае сьветам, чым галоўна цікавілася школа плятонікаў, ад якіх догма Тройцы была перанятая хрысьціянствам.

Пасьля гэтага ўступу Іван Іванавіч падняў руку ўверх, паказваючы на малюнак і сказаў:

— Пасярэдзіне скляпеньня бачым мы тут тры постаці славянскае, а лепей — Дака-Гецкай Тройцы. Першая зь іх — Найвельшы (Optimus), бацька багоў, які ня мае найменьня. Іменьні, даваныя яму рознымі народамі, Баг, Бог, Дэос, Дзевае, Гот, Элёгім, Аллах, Адонай — гэта ўсё ягоныя прыметнікі, як і нашае «Найвельшы», бо імя ягонага нельга вымавіць. Чэсьць яго ў нашым народзе сягае ў вельмі глыбокую мінуўшчыну. Можна сказаць, што бальшыня грэцкіх мітаў цесна зьвязаная з нашымі прашчурамі Гетамі, зь якімі на берагох Дунаю Грэкі вельмі рана сьткнуліся і ўзаемна дзяліліся тайнамі веды. Нават наш сяньняшні край быў ведамы Грэкам, у той час, калі тварыліся ў іх першыя міты. Відаць гэта з Гомэра і іншых паэтаў старое Грэцыі, асабліва-ж з аповесьцяў аб Апалёне і сыну ягоным Фаэтоне, якую перадаў нам прыгожым вершам рымлянін Віргілі, аб Промэтэю, Орфэю, Эскуляпе і інш. Вось-жа ў старагрэцкіх пісьменьнікаў знойдзем, што славяне верылі ў замагільнае жыцьцё і па сьмерці сваёй мелі надзею бытаваць разам з Зямельчыцам, рэлігійным рэфарматарам, які жыў з 600—650 гадоў да Н. Хр.

Другая асоба славянскае Тройцы, якая адпавядае Хальдэя-Бабілёнскаму Эа, індускаму Вішну — гэта Правечны Кон, які даў усяму жывому законы жыцьця, назначыў кон, долю і акрэсьліў канец, скон. Як і ўсе багі Пракавечны Кон меў шмат розных эпітэтаў, якія няведамі прыймаліся часам за ягоныя собсія іменьні. Да гэткіх іменьняў ягоных належыць:— Прова, Права, Тур. У ваднэй старадаўнай саксонскай кроніцы ёсьць малюнкі старaславянскіх багоў з часоў хрышчэньня славянаў, між імі — рысунак стода з подпісам «Prono». Гэты рысунак сьветчыць, як хрысьціянскія апосталы таго часу былі прасякнутыя маззамам ды бабілёнскімі харубамі і шайтанамі, а як мала ведалі тое, што ніштчылі. Бо Кон-Прова-Тур ня меў стодаў: яму прысьвячаліся сьвятыя дубы і гаі. У гэткія месцы, агароджаныя, з параю наўсупроцьных варотаў, зыходзіліся ў канодныя дні старшыні народу спраўляць суды. У здарэньні, калі каго перасьледавалі, ён мог схавацца ў загароду, хоць-бы ён быў ворагам, яго ніхто ня сьмеў крануць: бо права не на перавазе фізічнае сілы, ані на гвалце грунтуецца.

Трэйцяя асоба славянскае Тройцы, якая адпавядала бабілёнскаму Бэлу і індускаму Шыву — Сіціўрат, Сіва. Хальдэйцы ўважалі Бэла за бога апраметнай, царства вечнай цемры, дому, «у які ўсе ўваходзяць, але скуль ніхто ня выходзіць». Індусы Шыву называюць «помсьнікам». Цікава пры гэтым адцеміць адну асаблівасьць, гэта тое, што Індусы аддавалі чэсьць Шыву — Ішвару ў мясцовасьці Рудры, а славяне — у Рэтры. І каб

мы ня ведалі аб тым, што Дака-Гецкія міты праз Грэкаў сягалі да Бабілёну і Эгіпту з аднаго боку, а да Індыі з другога — дык можна было-б дзівіцца нязвычайнай выпадковасьці ў сугуччы.

У санскрыце ёсьць эпітэт, даваны Шыву — «Гары», які вельмі сходны з нашым Яры, Ярыла, Яравід. Сымбалем Сіціўрата (жыцьцявароту)— Ярылы быў нязгасны агонь Жывец, Жынч, Зьніч (зьнікомы), які меў свае вечныя аўтары паўсюдна, куды сягала вера славянская. Летапісы ўспамінаюць аб такіх вечных агнёх у Вільні, Вялікім Ноўгарадзе, а ў заходніх славянаў у Жніне, Гнезьне і Жуліне на Памор'і. Усюды, дзе існуюць або існавалі першыя хрысьціянскія сьвятыні, пасьвячоныя прароку Ільлі, яны былі пабудаваныя на месцах вечнага агню. Бо Ільля заступаў у пачатках хрысьціянства Ярылу. Цэрквы былі тыя ў Менску, Віцебску, Смаленску, Полацку і іншых гарадох. Сьвятары, што служылі «Яраму», называліся ведунамі, ведачамі, вятачамі, вяцьвягамі, бо яны прарочылі будучае. Няхай ня дзівіць, што мсьцівай сіле надаваўся эпітэт белага, яркага. Гэта дзеля ўласкаўленьня яго. Бо-ж дагэтуль, старой памяцьцю, народ называе агонь — багач, цяпло, сьвятло, каб ня ўкваліць грознай сілы. У мысьль гэтага страшны Лясун носіць эпітэты — Дабрахот, Зялун; а чорны балотны дух «Бялун», «той», «гэты» і, ужо пад уплывам навейшага сьветагляду,— «нячысьцік».

Сіле першапрычыннай, «Найвельшаму» належыць пашана ад усяго жывога. Ен асновапаложнік, ён той, аб якім пяе брамін у сваіх гімнах:

Я носьбіт і дарога, сьветка і князь,
Айчына, прыяцель, прытулак;
Першапрычына і мэта і існасьць рэчаў,
Я і захоўнік і вечнае семя.

Калі Арфэй, які быў з народу Гетаў, што сяліліся пад той час у Фракіі, панёс у Грэцыю навуку аб адзіным Найвельшым, дык Грэкі пыталі аракула, што такое Бог, якога прапаведуець Арфэй? І аракул назваў Найвельшага: сьвятлом (rad), думкаю-словам (logos) і крыніцай жыцьця (pneuma), якія іменьні азначаюць адзіную першапрычыну, сьвятло духу, радасьць бяз мучэньня, першакрыніцу веды, увенчаную вышэйшай праўдай.

Правечны Кон даў права, закон людзям, зьверам, птахам, полазам, рыбам, расьцінам і наагул усяму, што жыве, родзіцца і памірае. Устаноўленыя ім законы вечныя і непарушныя. Галоўнае месца ў нашым краі, дзе складалі яму чэсьць, быў Тураў і мясцовасьць Скрыгалава, недалёка ад Турава, дзе дагэтуль захаваліся рэшткі так званых цыклёпічных будоўляў у форме вялізарных каменых блёкаў. За сымбаль справядлівасьці ў славянаў уважаўся белы бык — тур.

І хоць даўным-даўно забыліся нашыя людзі старых багоў, але Палеская (Горадзенская) зямля дагэтуль мае ў сваім гэрбе тура, сымбаль Правечнага Кону.

Пад гэтай Тройцай бачым мы ніжэй сем асобаў зь іхнымі сымбалямі, гэта — сем галоўных сілаў, што валодаюць сьветам. Першая — Кон, Князь і ягоны сымбаль сонца; другая — Княжыч або Месяц із сваім сымбалем — месяц у маладзіку; трэйцяя — Ярыла і сымбаль ягоны — зорка Мэркуры; пятая — Пярун-Грамавік; шостая — Грамавіца і ейныя сымбалі зорка Вэнэра і птушка зязюля; сёмая — Лада, Ладон і ягоны сымбаль — зорка Сатурн. Кажнай з гэтых сямёх асобаў прысьвечаны адзін дзень тыдня, аб чым сьветчаць рунічныя надпісы пад кажнай асобай: Нядзеля — соўнік, панядзелак — месіч, аўторак — ярэц, серада — радаўнік, чацьвер — пярунец, пятніца — грамніца, субота — ладзіч. Ніжэй за гэтых сямёх асобаў ёсьць дванаццаць сымбаляў, што азначаюць 12 знакаў Задыяку, а пад імі — чатыры вятры, што бытуюць на чатырох канцох зямлі: Усток, які сухасьцю тхне; Ірэй, што прыносіць цяпло; Сутон, які навявае хмары і дождж; Сівер — што прыносіць сьцюжу.

Сярэдні шлях малюнкаў зьмяшчаў у сабе сцэны з жыцьця людзей, зьвяроў, птушак, расьцінаў і іншых на зямлі, у паветры, у вадзе, зь іхнымі пераменамі і бытам.

У самым нізе было выабражанае царства сьмерці, дом вечнай цемры зь ягонымі жыхарамі. На першым пляне былі дзьве галоўныя фігуры: Люцец, Люты (Pluto), або Кашча Бясьсьмертны і ягоная жонка — Марва. Першы выяўляў сабой худую, з вострымі людзкімі рысамі і злымі вачыма пачвару, другая — мела старэчую жаночую галаву, на якой, заміж валасоў, зьвіваліся сыкучыя зьмеі. Ейнае мясістае тулава абапіралася на чатырох лапах і заканчвалася драконаўскім хвастом. Па-за гэтымі галоўнымі постацямі віднеліся пачварныя духі краіны сьмерці і бясконцыя лікі бледных людзкіх пастацяў.

Мазаіка памосту пакрытая была сымбалічнымі знакамі, значаньне якіх я ня знаў і не адважыўся спытаць аб іх.

— А цяпер,— сказаў Іван Іванавіч,— каб пасунуцца далей у лябірынты, нам трэба сесьці ў гэтыя крэслы.

## IV

Зачараваны веліччу абразоў, разьвінутых Іванам Іванавічам, я спытаў у яго:
— Чаму-ж ўсё гэта занапала, чаму забыта?
І Іван Іванавіч сказаў:



— Гэрадот апавядае, што паўночныя краіны Эўропы былі найлюднейшымі пасьля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі Гіпэрбарэйцамі, займаліся лавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Зналі рамёствы і асабліва любаваліся ў пазнаньні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі высокае веды. Зь берагоў Гэрадотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю, паходзіў вялікі індускі рэфарматар — Рама. Ален гіпэрборэец вывеў з поўначы каленію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай сьвятароў і асноўапаложнікамі чэсьці Апалёна і Дыяны ў Дэлёсе. З поўначы, з славянска-гецкае зямлі прыбыў у Грэцыю Арфэй, заснавец гарадоў, вучыцель мастацтва і рамёстваў. З поўначы занёс Прамэтэй сьвятло, за што быў няміласэрна пакараны.

Прамэтэй, першы цывілізатар Грэцыі, прыкаваны за гэта да Каўкаскае гары, паводля слоў Эсхіла, жаліўся:

«Багі, мне дзеецца крыўда! Паслухайце, што я выканаў дзеля сьмяротных. Дзякуючы мне, із зьвярат, якімі былі, сталіся людзьмі. Сьляпыя, глухія, як мары, яны туляліся без правоў і ладу, ня ўмелі будаваць дамоў, пячоры былі ім адзіным прытулкам, цягнулі жыцьцё няпэўнае; не разрозьнівалі часу і пораў году. Я першы навучыў іх пазнаваць ход зораў, навучыў іх знакаў пісьма, знакаў лічэньня, абдарыў іх памяцьцю, маткаю муз, навучыў іх лавецтва. За што-ж карае мяне завідны Зэўс? Ці-ж бы за сьвятло, што зблізкае людзей да багоў»?

Грэцкія пісьменьнікі самі сьветчаць, што паўночныя народы, якія жылі на поўнач ад іх, занесьлі ў Грэцыю ня толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сыстэму, навукі і ўмеласьці. Славянскія народы, як прыкладам,— Курэты, Квірыты або Крывіты,— ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцьця ў Грэцыю фэніцыянскага Кадмуса. Іхныя будоўлі нагадвалі цыклёпічныя, адзначаючыся нязвычайнай трываласьцю. У першых іхных сялібах, на гарах Алімпійскіх, Гэліконскіх і Пандэйскіх насамперш зараджаецца рэлігія, музыка і філёзофія, якой пасьля славілася Грэцыя. Згэтуль выходзіў Апалён, які займаўся тут пастырствам. Арфэй (orfeos — цёмны), праўдападобна сьляпы, як Гомэр, сваёй вымоўнасьцю аблашчваў дзікіх зьвяроў і лагодзіў дзікасьць тыбульскіх барбараў. На чароўных, адкудныя гуды ягонае ліры, палі зьмяняюцца ў гарады (грэцкі горад — Paleis), Ален, Тамарыс і Лінэй, таксама як Арфэй, сваімі прамовамі схілялі тыбульцаў пакінуць людзкія ахвяры багом, а, здаецца, і вырачыся людаедзтва.

Але ёсьць народы, як і паасобныя людзі, прызначаныя быць ня толькі мэсіямі чалавецтва, але і ягонымі адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ гетаў з усімі ягонымі галінамі. І мы бачым: Прамэтэя за ягоныя дабрадзействы, выказыныя людзям, расьпялі на Каўкаскай скале. Арфэя разьдзерлі п'яныя жанкі, упаўшыя ў шал. Фастыйскія пэлязгі за недаверства паганізму былі пабітыя Грэкамі і патопленыя ў моры. Троя, сялянская сяліба між Грэкаў, збураная Грэкамі. Урэшце Грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчачы, стараліся зьняславіць іх перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдзкія абычаі і чараўніцтва.

Перш, чымся стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі мэсіянізму, народ гетаў павінен быў прайсьці сам рад нутраных пераабражэньняў і рэформаў.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго існавала ў гетаў супольнасьць жанок і маемасьці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ен навучыў ратайства і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кажнага году. Штогодна меў права муж зьмяніць жонку і жонка мужа. Дзень гэты быў названы Купальлем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты да жаніцьбы адбыць ачышчэньне праз агонь і купаньне ў вадзе. Кажная пара магла мець сваю собскасьць і аддзяліцца ад грамады. Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кажны пільнаваў ладу ў сваёй сям'і і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але сем'і пачалі множыцца і бацькі мала-па-малу ўстанавілі патрыярхат, неабмежаваную нічым уладу галавы сям'і над усімі сям'янамі. Прычым патрыярхі неахвотна выпушчалі каголечы зь сям'і, і сем'і разрасьліся да 100—200 душаў. Собскасьць у сем'ях сталася сямейнай собскасьцю, або інačай кажучы собскасьцю патрыярха, як і ўсе жанкі сям'і. Пайшло агульнае незадаваленьне.

У гэтым часе аб'явіўся другі рэфарматар Багавей, які высунуў на першы плян касту сьвятароў. Апавешчаная была сьвятарская дыктатура; зямля, як належная да Бога, была аддадзеная на ўласнасьць галоўнай сьвятыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нароўна працаваць для багоў і сьвятыняў. Як найсьвяцейшая праца была палічана праца ратайская. Сымбалем яе ўстаноўлены быў белы бык, які атрымаў асаблівую пашану пры сьвятынях. Пры гэтым ладзе хутка ратай стаўся паніжаны да безгалосае скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаньне рэвалюцыі, сьвятары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утвораны быў духоўна-арыстакратычны ўрад, які, прыкрываючыся воляю багоў, выдаваў ад іхняга імя свае загады, маючы, перш за ўсё, на мэце свае карысьці. Гэтая тройца — духавенства, старшыні і багі моцна і надоўга селі на карак рэшты народу. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх вандроўных народаў, абарона ад якіх вытварыла, мала-па-малу, трэйці стан — вайсковы. У супалку — багі, сьвятары, старшыні — павіны быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыглядзімся да зьместу нашых народных казак, дык гэтую гісторыю мы знойдзем там перададзеную ў сымбалях. У сялянскай сям'і, прыкладам, родзіцца які-

небудзь Кацігарошак, найдужэйшы за ўсіх, якія ёсць, асілкаў на сьвеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і, памалу, дабірае сабе яшчэ двох, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго, і закідаюць у прадонную бязвыходную прорву. Але Кацігарошак раней-пазьней здабываецца з прорвы, пасароміўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над сьветам, якому дае спакой і шчасьце.

Пад панаваньнем старшыняў і духавенства, замацаваным вайскоўцамі, ратаі ў грэцкай сымболіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклёпа, а пазьней і сьляпога Паліфэма.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыйманыя сьпярша як госьці, пачалі панявольваць славянскія народы і, памалу, абяртаць у сваіх нявольнікаў. Вышэйшыя клясы, арыстакратыя і духавенства, зьліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за шмат гадоў да заснаваньня Рыму, жыў высокакультурны народ Этрускаў. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх нявольнікаў і, пераняўшы ад іх культуру, ачарнілі Этрускаў перад гісторыяй, як дзікіх і нічога ня вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навукаў, аб стане высокай асьветы ў Этрускаў, мы сяньня даведваемся толькі з раскопак іхных магілішчаў і гарадзішчаў. Этруская цывілізацыя загінула ў войнах прыходцаў зь мясцовым жыхарствам. А пасьля, за часоў Сцылія, бязьміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзьмі, былі нішчаныя ўсе помнікі этрускае культуры, іхныя кнігі і творы іхнага генія. І этруская культура занапала навекі. Рым пакрыў яе маўчаньнем, абсыпаў лаянкай і зьнявагай.

Пад ударамі чужаземскіх наезьнікаў занапала і нашая культура, а асабліва ў часе хрышчэньня чужынцамі славянаў.

Трэба памятаць, што міталёгія шмат якіх народаў нічога супольнага з тэасофіяй ня мае, як прыклад можа служыць лацінская міталёгія. Уважаю за патрэбнае гэта зазначыць дзеля таго, каб сталася віднеей, што з нашае міталёгіі належыць да тэасофіі, а што зьяўляецца толькі сымбалем пройдзенай народам гісторыі.

Есьць апавяданьне аб Сатурне, што за ягонае панаваньне быў на зямлі залаты век. Сатурн — бог патрыцыяў. Легенду гэтую, ведама, уламкылі патрыярхі, спамінаючы сваё даўнае і бязьмежнае панаваньне. І дарма некаторыя хочуць бачыць у гэтым пэсымізм клясычных народаў, якія кладучы сьпярша век залаты, пасьля сярэбраны, мядзяны, урэшце — зялезны, хацелі, быццам, зазначыць, што — чым далей, тым горш на сьвеце. Не, гэтую гісторыю трэба паставіць у зусім іншае пласмо.

Сатурн пачаў есьці сваіх дзяцей.

Гэтую байку выдумала ўжо каста сьвятароў, сьціскуючы супраць усеўладнага патрыярхату. Устаноўлены лацінскімі сьвятарамі пазьнейшы лад аддаў уладу ў рукі багатых сем'яў «абдарыў старшых братоў правам боскім і людзкім» jus pater — (згэтуль Юпітэр), крыяўдзячы і вызуваючы з правоў малодшую, ратайскую брацьцю. Утварыліся патрыцыі (паны) і плебэйцы (мужыкі).

Патрыцыі тонуць у зьбытках і роскашах, плебэй у заплату і падзяку за крывавую працу мае бізуны і розгі. І вось у лацінскім богабайніцтве апавядаецца, што Вэнэра, жонка плебэйскага Вулькана, пачала задавацца з патрыцыянскім Марсам. Вулькан, ня могучы зьнесьці гэткай зьнявагі, абвівае сонных — Вэнэру і Марса — сеткай, падложанай пад іх, і выкідае іх на сьвятло, каб уяўным ужо сталася, што плебс змаўляецца і бяскарна пасягае на правы патрыцыяў. Гэта быў дакор, зроблены Апалёну, вартаўніку правоў. Увесь Алімп устрывожаны. Апалён памярцьвеў ад зьнявагі. Адны багі сьмяюцца, а другія выказваюць злосьць і абурэньне. Юпітэр страшліва загрымеў — quos ego!.. Бачачы аднак прыгожую Вэнэру гэтак зьняважанай, кажа: — «Годзе ўжо ёй... На Вулькана няма спосабаў — quem ego!.. За мяшаньне ў маю спрэчку зь Юнонай у справе наданьня правоў плебэям нядаўна так піхнуў яго я нагой на зямлю, што аж нагу ён зламаў».

У цяжкім палажэньні Юпітэру аж галава трашчыць. Як пагадзіць нязгоду ў народзе, пры ўсёўзрастальных дамаганьнях чэрнядзі, пры заўзятай упорыстасьці патрыцыянскіх багоў?

— Вулькан і Мэркуры не даюць мне спакою ад таго часу, калі Марса з Вэнэрай удалося прылавіць у сетку.

— Чатырох нас,— кажа Мэркуры,— стань, Найвышэйшы, на нашай старане і народная справа будзе выйграная.

— Найвышэйшай рады багоў не перагаласуем, шэсьць галасоў супраць пяцёх,— адказаў Юпітэр.— Што рабіць? Галава трашчыць, што рабіць! Тут мяне рве, ствару Мінэрву. Вулькан, валі молатам у галаву во тут, тут!

Вулькан выконвае загад. А калі, спужаныя відовішчам бацьказабойства, багі зьбягаюцца, бачаць: нованароджаная багіня, узброеная ад ног да галавы, выходзіць із патыліцы Юпітэра. Вось і багіня мудрасьці — Мінэрва.

— Плебэйцы дапамінаюцца правоў,— кажа Мэркуры.

— Пачалі галасаваць. Шэсьць супраць шасьцёх.

— Мне належыць падвойны голас,— крыкнуў Юпітэр.

І справа народу была выйграная.

— Дык занясі ім зямельнае права! — крыкнуў Юпітэр.— Сам пагавару я зь Юнонай і думаю, што яна дазволіць таксама права вольнай жаніцьбы.

Мэркуры, які выконваў абавязкі паштара, панёс ведамку на зямлю.

І плебэйцы атрымалі правы людзкія і цывільныя. А ўсё гэта сталася вынікам непе-





Пакланенне вешчуноў. Фрагмент абраза XVII ст. Вывезены з Мінскай вобласці. Захоўваецца ў Дзяржаўным гістарычным музеі, г. Масква.





Залаты дукат дыяметрам 21 мм, таўшчыня 1 мм, вага 3,5 грама. На аверсе выява караля ва ўвесь рост з каронай і німбам над галавой, бердышападобнай баявой сякерай у правай руцэ і дзяржавай у левай. Пад правай рукой літара «К» (відаць, скарочаная назва манетнага двара «Крэмніц»); пад левай рукой лацінская літара «К», назва дынастыі Люксембургаў. Кругавая легенда SIH [ISMUN]DIS HU [NGARIA]S REX — Сігізмунд, Венгерскі кароль.
Раверс мае выяву геральдычнага 4-частковага шчыта з выявай ільвоў па дыяганалі справа налева і гарызантальнымі лініямі злева направа. Кругавая легенда: Sigismundis+Hungaria.
Манета дыяметрам 2,35 см, таўшчыня 0,7 мм, вага 3,5 грама. На адным з бакоў (аверсе) мы бачым выяву караля ў латах і надпіс FERD.III.O:GR(O)I—VNG-BO-REX) 1652. На другім баку (рэверсе) можна прачытаць наступнае: HONOV AVRIA CIVIJA IMPER CAMPEN. Надпіс узяты ў рамку, вакол якой размешчаны раслінны арнамент.

# МАРКІ ЧАСОЎ БНР

Перад вамі марки, выдадзеныя, як мяркуюць, да 1921 года. Філатэлісты ведаюць пра іх няшмат. У савецкай філатэлістычнай літаратуры згадак пра гэтыя маркі няма. Толькі ў адмысловым каталогу марак перыяду грамадзянскай вайны (1927 г., рэдактар Ф. Чучын) паведамляецца, што абодва выпускі не прызначаліся для паштовага абарачэння. Замежныя філатэлістычныя каталогі прысвячаюць ім хіба некалькі радкоў.

Дагэтуль не знойдзены дакументы, якія б пацвердзілі (ці абвергліі) паштовае паходжанне гэтых марак. Дакладна невядома, дзеля якіх мэтаў і хто іх выпусціў, хто быў мастак, дзе і якім накладам яны друкаваліся, ці былі ў паштовым абарачэнні і г. д. Магчыма, сёння, калі адчыняюцца архівы, мы напэўне зможам высветліць для філатэліста: паштовыя ці непаштовыя гэтыя два выпускі.

Пэўна вядома, што ўсе маркі існуюць у двух варыянтах — з зубцамі і без зубцоў, што, паводле каталогу, адна з серыяў з'яўляецца выпускам «асобнага атраду Беларускага армейскага корпуса (выпускам Булак-Балаховіча)» і складаецца з пяці наміналаў. На марках — азін і той жа малюнак, каталогі апісваюць яго як «нацыянальныя беларускія тыпы». Усе маркі маюць надпіс «Асобны атрад. Б. Н. Р.» (Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчана ў сакавіку 1918 г.). Намінал — у рублях і капейках.

Другая серыя вядомая пад назваю «Беларусь». У ёй тры мініятуры арыгінальных малюнкаў. На марцы двухрублёвага наміналу выява Скарыны з вядомага партрэту ў




пражскай Біблії. Унізе надпіс беларускаю лацінкай: «Francisk Skaryna z Potatcka. 1517 — 1917». Можна думаць, што марка мела быць нібы прымеркаваная да 400-годдзя беларускага кнігадруку. На марках іншых наміналаў выявы герба «Пагоня» і аратага, надпісаў няма. Слова «Почта» пішацца праз «ч», як і на тагачасных беларускіх паштоўках.

Таямніца марак чакае свайго даследчыка. А пакуль тое — паштовыя гэтыя маркі ці якія іншыя — усё роўна яны захоўваюцца ў зборах філатэлістаў, зацікаўленых гісторыяй Беларусі.

**Леў КОЛАСАЎ,**
**намеснік старшыні Саюза філатэлістаў Беларусі**



М. Сеўрук. Зіма ў вёсцы. Алей, 1936 г.

расьцераганьня правоў бажкамі, залётнасьцю Вэнэры і праз папушчэньне Юпітэра, тлумачылі сьвятары.

Мэркуры, бог купецтва і прамысловасьці, носіць сьвіту на распашку, служыць усім, хто плаціць: багом і людзям, небу і зямлі. Апякуецца злодзеямі і ашуканцамі.

Пад ягонай апекай вырастае новая арыстакратыя — грашовая. У рады яе ўваходзяць усе, кім апякуецца Мэркуры. І на правы для гэтага стану багі, ад імя сваіх кліентаў, патрыцыяў, павінны былі згадзіцца.

Дарма, што даўно пасвойму разьвязаў Юпітэр зямельнае права, права гэтае да сяння несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кажны народ ня станецца за гаспадара ў сваім краі, пакуль кажны, хто палівае сваім потам загон, ня будзе праўным, прызнаным і ўсьвячоным правам ягоным валадаром.

Гэты-ж час ужо недалёкі!

## V

У гэты мамэнт, калі скончыўшы гутарку, прымоўк Іван Іванавіч, а я аддаўся раздуме, нас абкружыла маўклівая ціша, скрозь якую зьнекуль пачаў даходзіць да вуха ціхі харальны сьпеў. Сьпярша гэты сьпеў быў такі ціхі, што зьліваўся з тутненьнем сэрца і крыві ў жылах. Але ў меру таго, як я, натужваючы свой слых, услухаўся, ён ўсё рос і, урэшце, набіраў штораз больш выразістасьці. Калі сьпеў гэтых лічных галасоў пачаў набліжацца, я пытальна глянуў на Івана Іванавіча.

— Гэта пяюць нашыя старцы,— сказаў ён спакойна.

— Як! Дык хіба-ж гэтыя падзямельні заселеныя людзьмі? — зьдзівіўся я.

— Але. Жыцьцё ў гэтых падзямельлях ідзе старое, даўнае. Вам-жа, хіба, даводзілася чуць ад народу дый чытаць у так званай этнаграфічнай літаратуры аб гарадох, царквах, манастырах, што праваліліся скрозь зямлю. Хіба-ж вы ня чулі аб нявідомым горадзе Багоцку, во тут, каля Полацку? Другі такі горад, што каля Гомеля, апісаў расейскі пісьменьнік пад найменьнем Кіцежа. На землях, якія апошнімі часамі ў дакрывіцкую эпоху засялялі Геты, гэткія гарады існуюць.

Я зьдзіўлена ўзіраўся на Івана Іванавіча і сам ня ведаў, што аб усім гэтым меркаваць. Гэтак ўсё чутае і бачанае было нязвычайным для майго разуменьня, што я павёў рукой сабе па абліччы, каб пераканацца, ці ўсё гэта не галюцынацыя, ня сон... Але чоў мой мяне не ашукваў...

Іван Іванавіч пры гэтым ўстаў, і, адчыніўшы дзьверы ў сьцяне, павёў мяне даўгім і шырокім праходам, аж урэшце мы апынуліся ў вялікай і сьветлай залі. Ня было там ні сьвечак, ні лямпаў, сьвятло як быццам само сабой стаяла ў залі. Сьцены былі запоўненыя ўсякімі кнігамі і зьвіткамі рукапісаў. Падыйшоўшы да аднае з паліцаў, Іван Іванавіч зьняў пэргамінны рукапіс, кажучы:

— Во гэта сьветчаньне падарожнага, які быў у нашым краі за колькісот год да арабскага пісьменьніка Масуды, які ягонае сьветчаньне асобным разьдзелам (Маруджа 62) із старых кнігаў упісаў у свае кнігі. Тут мова аб гарадох і сьвятынях славянскіх. Руінаў гэтых гарадоў і сьвятыняў цяперашняя археалёгія не знаходзіць на зямельнай паверхні, бо яны дзіўнай умеласьцю старабытных нашых інжынераў апушчаныя ў глыб зямлі, як вось і гэтая наша сьвятыня, у частцы будынкаў якой мы цяпер з вамі знаходзімся. У гэтай кнізе вось што аб ёй напісана:

«З гэтых сьвятыняў адна пабудаваная на гары, гэта дзіва сьвету, а як кажуць знаўцы, прыклад архітэктуры і распарадкаваньня рознаякага каменьня, ужытага да гэтае будоўлі. Сабраныя там дарагія каменьні нявыказанай каштоўнасьці, а таксама знакі, што паказваюць будучыню».

— Усё, што тут напісана — шчырая праўда! — сказаў Іван Іванавіч, складаючы кнігу.

— Цяпер-жа я пайду на мамэнт да нашых старцаў, а вы агледзьце найрадчэйшую ў сьвеце бібліятэку.

— Прашу вас, скажэце, хто гэта такія старцы і як яны жывуць тут?

— Гляньце на гэтую залю,— сказаў Іван Іванавіч,— вы тут не пабачыце нідзе ніякіх прыладаў да асьвятленьня, а ў залі сьветла і цёпла. Гэта таму, што сьцены гэтае залі ўкрытыя элемэнтам, падобным да радыя, зь якога пабудавана сонца. Пад гэтым сьвятлом і расьціны і людзі могуць жыць бяз ушчэрбку для свайго здароўя. Гэты элемэнт, ужыты тут, як маса для тынкаваньня сьценаў, апрача сьвятла і цяпла, мае яшчэ іншыя дзеяньні: хто знаходзіцца заўсёды пад уплывам ягонага сьвятла, не падлягае старасьці, якая паходзіць ад звапненьня крываточных судзінаў у людзкім арганізьме. Пад уплывам гэтага сьвятла вапна ня можа зацьвердзяваць у арганізьме, а дзеля гэтага чалавек застаецца ў вадным веку назаўсёды, як вынік гэтага — не падлягае сьмерці. Мы з вамі цяпер знаходзімся на глыбіні каля тысячы мэтраў ад паверхні зямлі, і аднак-жа вы аддыхаеце лёгкім паветрам, гэта таму, што элемэнт гэты, які завецца «гетынам», мае ўласьцівасьць пахлынаць лішкі кіслых газаў. Вось-жа старыя вучоныя, зыйшоўшы з поля дзікага змаганьня на зямлі, жывуць тут працуючы над навукай і ўмеласьцямі, у сваіх абшырных і добра абстаўленых бібліятэках і лябараторыях. Працуюць, чакаючы часу, калі ім давядзецца зноў выйсьці да свайго народу. Адным з важнейшых адкрыцьцяў, якія імі тут зробленыя, зьяўляецца «крывін», пры дапамозе якога кажную рэч можна разлажыць на першапачатковыя высхады і зь першапачатковых высхадаў злажыць якую-хаця рэч. Пры-

кладам, з высхадаў паветра і вады можна вытварыць камень, золата, хлеб, тлушч, і, наадварот, кажную рэч можна перамяніць у іншую. Прыкладам, той-жа бруковы камень можна зьмякчыць у хлеб ці золата, у паветра ці якога-хаця смаку сталовае масла. Бо першапачатковы высхад ува ўсім адзін і той-жа, залежыць толькі ад таго, які надаецца кірунак руху ягоным праатамам. Гэтае вялікай вагі адкрыцьцё зробленае нашымі старцамі, разьвяжа на зямлі сацыяльнае пытаньне... Пытаньне пракорму людзей...

У гэты мамэнт недзе здалёк пачуўся званок, і Іван Іванавіч, падаўшы мне на разьвітаньне руку, выйшаў у праход, які пачынаўся зь левага боку залі, сказаўшы:

— Вам, аматару кніг, думаю, маркотна тут ня будзе.

Я, ня трацячы часу, пачаў разглядаць кнігі. Аддзел бібліятэкі, у якім я знаходзіўся, складаўся з помнікаў старасьвецкіх арабскіх, грэцкіх, індускіх і эгіпецкіх пісьменьнікаў. Вялізарныя фаліянты, пісаныя на пэргаміне і шоўкавых тканінах, залягалі ўсе сьцены: унізе, каля сьценаў, у дубовых, абіваных сярэбранай бляхай скрынках, разложаныя былі зьвіткі, пісаныя ў розных мовах. З пляну бібліятэкі, які выабражаны на мармарнай дошцы сярод залі, відаць было, што аддзел славянскіх кніг знаходзіўся ў трэцяй залі, ідучы налева. Я засьпяшаўся туды.

У гэты мамэнт нейкі лёгкі быццам звон у гары зьвярнуў маю ўвагу. Я ўзьняў галаву і пабачыў, што зь сьцяны выступае масыўны каменны блёк, у кшталце стала, з глыбокімі ўнізе выемкамі. На стале быў расстаўлены цэлы рад жоўтага мэталю стылёвых місаў, а на іх разложаныя сьвежыя фрукты і закускі, пасярод-жа красавалася бутэлька з старкай. Падыйшоўшы да стала, я пабачыў картку, пісаную рукою Івана Іванавіча, гэткага зьместу:

«Паважаны Дружа!

Усё, што знойдзеце на гэтым стале, толькі што прыгатаванае пры дапамозе высхаду «крывін». Спрабуйце, ці годнае да ўжытку.

Ваш Іван Іванавіч».

Я сеў пры стале і ў часе ежы пераканаўся, што пададзеная закуска вызначалася вялікім кулінарным мастацтвам. Пячэня была гарачая і сакоўна з прыемным водарам дымляніны; фрукты мелі дзіўную сьвежасьць; старка цягнулася з бутэлькі, як аліва, і разыходзілася па арганізьме хвалямі прыемнага цяпла.

Перакусіўшы, я скіраваўся ў славянскі аддзел бібліятэкі. Багацьце, якое я тут пабачыў у зьвітках і фаліянтах, прост не паддаецца апісаньню. Тут я бачыў ня толькі фаліянты полацкіх летапісаў, між імі і адзін пісаны рукой княжны Еўфрасіньні, але і летапісы шмат ранейшых пэрыядаў існаваньня нашага народу. Пабачыў збор навукі Зямельчыца, які складаўся з чатырох кніг, разьбітых кажная на 72 разьдзелы. На зьмест кнігі зважыліся: маральнае права, цывільнае і дзяржаўнае права, гісторыя народу і анталёгія лепшых тагачасных літаратурных твораў. Цэлы аддзел бібліятэкі складаўся з кнігаў, пісаных глаголіцай, якая, як я тут пераканаўся, была шмат старэйшай, бадай на добрую пайтысячу год, славянскай граматай, знакі якой разьвіліся з славянскіх гіерогліфаў. Старэнна апрацаваныя табліцы разьвіцьця пісьменных славянскіх знакаў паказвалі ня толькі перамены ў формах знакаў, але давалі адначасна і храналёгічныя дадзеныя, зь якіх відаць было, што пачаткі славянскае пісьменнасьці трэба аднесьці на канец чацьвертага тысячагодзьдзя перад нашай эрай. Цікава было сачыць на гэных табліцах, як із людзкое фігуры (рысаванай у гіерогліфах поўнасьцю), вытварыўся знак «аз» — я, нашае цяперашняе вялікае А, у якім ад людзкое постаці засталіся ўнізе толькі дзьве палкі, а ў папярэчцы памяць аб рысаваным калісь паясе. Як цьвёрда трымаўся цэлыя тысячагодзьдзі знак зямлі і дахаваўся да нашых часоў у славянскай літары «зело», а таксама знак жука ў літары — ж, які сяньня яшчэ нагадвае сабой кузурку. У ваддзеле архітэктуры бачыў я дзіўнае прыгажосьці стылёвыя будоўлі гэтак званага «гецкага» стылю. У ваддзеле пісьменнасьці хрысьціянскіх часаў з асаблівай пашанай перахоўваліся тут рукапісы першых хрысьціянскіх апосталаў Кірылы і Мяхвода, аб якіх трэба аднак, на аснове пачэрпнутых мною ў бібліятэцы дадзеных, сказаць, што хоць яны запраўды пераклалі сьвятое пісьмо ў славянскую мову, але ў пісьменнасьці славянскай, так званымі кірылаўскімі літарамі, на добрых чатыры сталецьці іх папярэдзілі розныя хрысьціянскія сэкты, а перадусім манахійцы, паўлікіянцы і мэсальянцы. Усе гэтыя сэкты пісалі грэцкімі літарамі паславянску, дапасоўваючы іх да славянскае мовы. І пераклад кананічных кнігаў у славянскую мову папярэдзілі розныя сказаньні, як, прыкладам, «Сказаньне аб Ламэху і Мэльхісэдэку», «Запаветы дванаццацёх патрыярхаў», «Пасланьне Абрама да Хрыста», «Евангельле Хамы», «Евангельле Нікадымава» і шмат іншых.

Урэшце, змучаны пераглядам кнігаў, я надумаў абыйсьці бібліятэку, і з гэтай мэтай выйшаў у другую залю, а з другой у трэйцюю і г. д. Прайшоўшы дзесяткі два заляў, напоўненых кнігамі, я апынуўся перад глыбокай нішай, у якой была зьмешчана фігура чалавечая з бліскучымы вачыма. У меру зьбліжэньня да яе, вочы фігуры штораз ярчэй сьвяцілі, прычым чулася ў іх нейкая прыцягальная сіла. Калі я быў на адлежнасьці мэтраў дзесяць ад фігуры, я ўжо ня меў сілы стрымаць сябе, нешта незразумелае, няпераможнае цягнула наперад, і высілкам усяе волі я ня мог спыніць сябе, каб ня ісьці далей. Фігура была з жоўтага мэталю, утрая большая за натуральны чалавечы рост. Ад сіняватага блеску сьвятла вачэй фігуры, які быў скіраваны проста ў мае вочы, я чуў, як цела маё



млела. У гэты мамэнт фігура правай рукой ударыла тры разы ў шчыт, які быў у яе на левай руцэ. Аглушальны патройны гук дарэшты спаралізаваў мяне, і я страціў прытомнасьць.

## VI

Калі я адкрыў вочы, дык пабачыў, што ляжу ў гатэлі на сваёй пасьцелі ў вадзежы. Праз вакно ярка сьвяціла сонца і двума агністымі стаўпамі клалася на памост перад маім ложкам.

у гэты мамэнт нехта пастукаў у дзьверы.

— Але! Прашу! — сказаў я.

Адчыніліся дзьверы, і я пабачыў на парозе «Падземнага Чалавека». Ен падыйшоў да мяне, паздароўкаўшыся сеў пры ложку. Глянуўшы на яго, я пабачыў шырокую блізну на левай шчацэ, ад вуха да падбародку. Мне зразу ўспомнілася падзямельле, і я ўскочыў з ложка. Стары глядзеў нейкім цьвёрдым сталёвым поглядам мне ў вочы. Гэты ягоны погляд наводзіў на мяне нейкі забабонны страх, і я зноў сеў на ложку.

Стары моўчкі пачаў капацца ў падысподным кішані свае спанцэркі і па нейкім часе выняў адтуль даволі пакамечаны канверт, падаючы які мне, сказаў:

— Гэта вось вам цэдулька ад Івана Іванавіча.

Я пасьпешна схапіў канвэрт і, разьдзёршы яго, дастаў запіску, у якой было напісана:

«Паважаны Дружа!

Заўтра мае імяніны, а сяньня ўвечары сьвята Купальле. Загляньце вечарком, пагаворым ізноў аб мілай старасьвеччыне. Стол я прыгатаваў паводле сваіх рэцэптаў. Спрабуйце, ці годная мая кулінарыя да ўжытку.

Ваш Іван Іванавіч.

Полацак, 23 чэрвеня».

Я хутка глянуў на сьцяну, дзе вісеў календар, там відаць была дата.

Гэта быў дзень, калі я прыехаў у Полацак і ўвечары 20 чэрвеня гасьцяваў у Івана Іванавіча.

— Якая сяньня дата? — спытаўся я ў «Падземнага Чалавека».

— А якая-ж, то-ж ведама 23 чэрвеня,— адказаў ён пасьміхаючыся.

— А калі я ў вас быў?

— То-ж вы заўчора былі ў нас, ў ваўторак, а сяньня мы маем, дзякаваць Богу, чацьвер, заўтра будзе пятніца. Сьвятога Яна.

Голас «Падземнага Чалавека» здаўся мне нейкім скрыпучым, ён уплываў на нэрвы, як пілаваньне па зялезе.

Мяне агарнуў ізноў забабонны страх, і я пастараўся чым хутчэй пазбыцца гасьця. На адходным, заміж звыклых словаў пры разьвітаньні, ён сказаў:

— Мы яшчэ пабачымся.

Застаўшыся адзін, я прыпамінаў абраз па абразе ўсё мной бачанае ад часу звароту дамоў з гасьціны ад Івана Іванавіча.

Не, я ня сьніў. Думаў, перадумваў і зноў прыходзіў да пераканаваньня, што ўсё гэта было на яве, ўсё гэта было рэальнасьцяй. «Можа я пераблытаў даты», глянуў я і, каб пераканацца выняў з кішані запісную кніжку. Так, праўда: выехаў я зь Вільні ўвечары 19 чэрвеня, раніцаю 20 быў у Полацку. Я пазваніў.

Калі прыйшоў нумарны, я спытаўся ў яго, якая сяньня дата?

Перш, чым адказаць на пытаньне, ён хутка загаварыў:

— Добра, што вы, панічу, вярнуліся, ато ўчора прынесьлі вам тэлеграму, а як вас ня было, то я ня ведаў, што рабіць зь ёю. Дата-ж, панічыку, сяньня 23-я. Але дзе вы, панічу, бавіліся так доўга? Як мне сказалі, што вы выехалі ў госьці, то я, прызнацца, і ня прыбіраў,— і ён закланапціўся каля мыцельніка.

— Хто табе сказаў, што я выехаў у госьці? — спытаўся я парывіста.

— Ды-ж во гэты самы, што быў цяпер у вас, панічу. «Падземнік», як яго ў нас называюць.

А пасьля ён спахапіўся і борзда пабег па тэлеграму.

Тэлеграма была з дому:

«Прыязджай назад першым цягнікам важныя справы», пісалася ў тэлеграме. Я моцна занепакоіўся, бо выязджаючы, ніякіх «важных справаў» не прадбачылася. Што там? Хвароба? Няшчасьце? Чаму ня сказана, якія там справы?

І гэтак раздумваючы, я пачаў складаць свае рэчы. Пасьля сеў і адпісаў Івану Іванавічу на ягоныя запросіны, што з прычыны тэлэграмы, якая кліча дамоў, ня буду ў яго на імянінах і, пажадаўшы яму ўсяго лепшага, закончыў лісток.

Таго-ж дня, позна ўвечары, быў я ўжо дома. Аказалася, ніякіх важных справаў дома ня было і ніхто з хатніх мне тэлеграмы ня высылаў. Хоць на белягу выразна было пазначана: «Выслана зь Вільні, прынята ў Полацку».

У ранічнай газэце 24 чэрвеня я прачытаў тэлеграму з Полацку гэткага зьместу:

«Учора, 23 чэрвеня, увечары, памёр мясцовы полацкі архэалёг і гісторык Іван Іва-навіч»

# АДЗІНОКІ

## ЭПІЗОД З ЖЫЦЦЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Палац перад ратушам у Вільні. На мураваным падвышэньні стаіць магістрацкі ўрадовец, ліцытуючы рэчы даўжбітоў. Яго абступае гарадзкая публіка: мяшчане, мяшчанкі, купцы, сьвятары абодвых законаў, студэнты, якія вучацца ў замежных унівэрсытэтах, чэрнядзь.

Урадовец:

Во гэту груду кніг, панове,
будзем прадаваці,
хто купіць ахвочы
просім аглядаці!

*(Цікавыя падыходзяць да кніг, зваленых у груду на пляцы).*

I студэнт: *(разгортваючы грубы фаліянт, да свайго калегі):*

Старасьвецкім, роўным пісана ўставам;
многа працы, добрая аправа,
ды, на жаль, навейшых тут дарма шукаць ідэяў.

II студэнт:

Усё-ж прыгожы гэты завіток із зьмеяў!
Каб ён быў у боскім стылю адраджэньня,
я-б гатоў быў даці...

III студэнт *(сьмяючыся):*

Скажаш, чэсьць свайго іменьні!..
Мала тут лаціны,— болей ўсё букі...
Есьць у простай мове для паспольства друкі...
Не, шукаць дарэмна тутака, што жывое,
У духу гуманізму... Больш ўсё такое,
не для нас, асьвету знаюць што замежную,
творы Алігеры, Гуса думку бунтэжную...

I манах:

Во так карае Бог рушыцеляў закону!
Яго-ж сьвятыя словы Францішк крануў рукою
у кнігах, ім самым наноў надрукаваных...

I мешчанін:

Такіх даўней каменьнем пабівана!

II мешчанін:

I моладзі ў навуку, рубалі гэткім руку.

II манах:

Вось ён ідзе... Бязбожнік!

III мешчанін:

Ен толькі навамоднік;
Бязбожнасьці няма ў ім.

I манах:

Пракляты вы да веку, што мудрыще ў пісьме;
што анельскай рукой накрэсьлена было!

I Францішканец:

Свае яго ня любяць,
затое, бач, і губяць.

II Францішканец:

А што-ж у іх усё пайшло?

I Францішканец:

Ен кнігі пераклаў у мову іх прыродную,
Яны-ж работу ўсю яго прызналі за нягодную.

I пан:

Прост дзіва: ён навукі скончыў многа
I доктарам сябе мянуе.
А сам гарнецца да паспольства
I кнігі ім друкуе?!

II пан:

Што кнігі для мяшчан тутэйшых,
і цёмнага паспольства. Дзіўна!
Ня бачу мудрасьці я ў ім,
бо-ж гэта прост наіўна!..



Тут, дзе шляхты род зь Італьскае зямлі
вядзе пачатак свой,— хоць, праўда, агрубеў
між гэтага народу,— ўсё-ж, традыцыя і кроў,
павінны падказаць, што мы, ад шляхты да паноў,
к лаціне вінны павяртаць!
А гэтых, шкодных пісьмакоў паспольных
да ката даць!

Урадовец:

Ацэнены на копы дзьве,
во тыя кнігі ўсе,
хто з вас, панове, болей?

Голас з натоўпу:

Ня трэба іх у народ шырыць,
а лепш бязбожныя спаліць!

Манах:

Найлепш спаліць!
Разьвеяць попел зь ветрам!

II студэнт *(да калегі):*

А я ўсё-ж хачу сабе купіць
адну з тых кніг, што зьмеямі
застаўкі маляваны...

Мешчанін:

Давайце дроў, агню!
Няхай гарыць, паганы!

Францішканец:

Мы пойдзем згэтуль, брат,
бо тут благая йдзе гульня!

II пан:

Люблю прастоту нашу,
здаровага ў ёй шмат інстынкту!
Я-б сам ня іншы суд
даў кніжкі гэтай,
якая толькі можа далей
у барбарства нас гнаць...
Нам, Крыўцам і Літве,
нашчадкам рымлянаў славетных,
к лаціне трэ вяртаць...

Чэрнядзь *(зносячы салому і дровы):*

— То-ж, ведама, бязбожнік!
Яшчэ які! Каб ты ўмеў чытаць,
То з кнігаў тых, як той бунтэжнік,
чарцей бы здолеў выклікаць
сабе на ўслугі.
— I думаеш, што чорт-бы мне служыў?
— А то чаму-ж бы не!..

Армянін:

У доўг улез па вушы
праз кнігі ён свае...

Мешчанін:

Давай яго каменьнем,
бязбожніка, што губіць душы!..

Камень трапляе ў Францішка Скарыну і ён абапіраецца аб сьцяну ратушы, зьлева ад натоўпу. У натоўпе выбухае сьмех адначасна з клубамі дыму недзе некім запаленай бярэма саломы.

Скарына:

Горкім палыном шлях мой буяе,
горыч льле ў чару жыцьцё, ня скупіцца,
і супакою сэрца ня знае...
Ох, як-жа цяжка далей так біцца!
Вечнае Праўды Духу Вячысты,
у сьветкі Цябе я корна ўзываю,
сьветч, хоць патомным, порыў мой чысты,
шчыра ахвярнасьць клаў я для Краю!..
У садзе віновым нівы айчыстай,
у поце і сьпёцы як я трудзіўся:
кажны расточак духам жарчыстым
грэў я, кукобіў і весяліўся
уродзе мабытнай...
Шмат што якое

ускалыхаў я, шмат і зярнятак,
кволых, быць можа, кінута мною:
у шчырым імкненьні шчыра клаў датак...
Стрэў-жа у вадплату посык зьмяіны,
напасьць нікчэмну, зайздрасьць і здраду,
стаў прад людзьмі вінен бязьвінна...
Колькі балота, подласьці, яду!..
Што пражылося, цяжка сьпісаці:
цяжка і ўцяміць, скуль тое зносьці...
Сілы, цярпліўства, заўтра каб ждаці
між тэй агіды людзскае злосьці.
Зноў-жа вось жоўцю хлеб мой паліты,
дзень мой заслала чорная Марва:
крыж мой цяжэе... Сілаў нястача...
Дзе-ж Ты, я клічу, Вечная Праўда!?

Паміж Скарынаю і натоўпам праходзяць доўгім цугам гарадзікія жанчыны, вяртаючыся работы. Ідучы, яны пяюць складзеную Скарынам песьню:

О, Войча наш, Уладар Нябёс!
Хай імя вечнае Тваё
Між нас сьвяцiцца векавечна.

*(Пад гукі песьні імгла зачыняе абраз).*

Публікацыю падрыхтаваў **Кастусь ТАРАСАЎ.**

*Сяргей* *ІВАНОЎ*

## ПАЛЯВАННЕ

У пушчы, у напрамку Гародні, ёсць невялічкі ўзгорак, які завецца Баторавай гарой. Кажуць, што некалі тут Баторый паляваў на яцвягаў. Страляў гэтых бедных дзікуноў, як зубраў ці мядзведзяў.

*Народнае паданне*

«О божа!» — змоўклі жонкі, сціхлі
дзеці:
З галёканнем і свістам на губах,
У хмарах пары раптам з-пад узлесся
Лаўцы заходзяць лавай нам на шлях.

Паветра густа пранізалі стрэлы —
Разлёгся енк адчаю і нуды.
Адно імкненне ў душах засмылела:
У лес! Хутчэй! Падалей ад бяды.

З разлёту стрэлы працiналі целы,
Спынялі бег, звяргалі іх далоў —
Крычалі, падалі, паўзлі, хрыпелі —
Як жар на снезе, расцвітала кроў.

І блізка лес. Яшчэ. Яшчэ імгненне...
І прагла плоць, крычала сіпла: «Жыць!
Прымі, о Лесе! Дай сваё збавенне...»
Як цеціва, жыцця звінела ніць.

Удар у твар. Я пакаціўся долу,
Па целе хваляю — гарачыня,
Штось даўкае шлях заступіла слову,
І толькі хрып сарваўся з вуснаў: «Х-га!»



Як дзікі звер, ушчэмлены у аблогу,
Ад немачы і роспачы шалеў,
У нетры мкнуўся, далей ад разлогаў,
Дзе стрэл смяротных разлягаўся спеў.

Я бег, як воўк, і, нібы вуж, шчаміўся,
Калі ўваччу свет заступаў туман,
Як да каханай, да хваі туліўся,
Браў у абдымкі яе шорсткі стан.

Хоць цела млосна енчыла: «Даволі»,
Само хілілася на мяккі снег,
Хоць розум здрадна кленчыў аб спатолі,
Абраза з помстай доўжылі свой бег.

Вось так сышоў, не растварыўся ў слоце.
Мой родны лес уратаваў мяне:
Прайшоў лядком таненькім па балоце,
Пагоню з конмі топячы ў дрыгве.

## СЛОВА СТАРОГА ЯЦВЯГА

Я — тут нарадзіўся. І вырас я — тут,
Сярод нечапаных пушчанскіх абшараў.
Звяры мне сябры, і мой дом — кожны куст,
Бо горш за людзей я не бачыў пачвараў.
Так — мы дзікуны. Хто нас імі зрабіў?
Пазбавіць нас волі не кінуў патугі?
Яцвягаў рабамі бязглузды сасніў?!
То хай паспытае яцвяжскай мачугі!..
Яцвягі! Браты! Вельмі мала нас тут,
Загналі ў балоты нас злыдні-чужынцы
І гэты у нас адабраць хочуць кут,
Пазбавіць жыцця альбо волі ў дзядзінцы.
Віжуюць і сочаць, ганяюць штораз.
Ледзь мы прымарудзім, і тут жа — пагоня,
Зімою кароль сам у ловы на нас
Збіраецца, быццам на зубраў, на конях...
Ну што ж! Калі так — шмат у лесе мачуг.
Такога не знаў белы свет «палявання» —
Сустрэць іх належна за гонар лічу.
Я — лясны валадар!.. Тут — мае уладанні!
Рахуба у нас. З чужым каралём.
Хай едзе да нас, хай збірае ўсю світу —
За волю сваю мы заплацім жыццём
Сваім і чужым.
І на гэтым мы — квіты!..

Аўген КАЛУБОВІЧ

# «АЙЦЫ» БССР І ІХНЫ ЛЁС

2

Калі 1-шы ўрад БССР пераехаў з Смаленска ў Менск, ён заняў на пляцы Волі будынак царскага губернатара і расклеіў па сталіцы свой маніфест. У маніфесце апавяшчалася, што «ад сяго моманту» «ўсе законы, пастановы, распарадак і прыказы Рады, яе слух... лічацца несапраўднымі» (п. 4), а «Беларуская Рада з яе так празыванымі «народнымі міністрамі» абвяшчаецца безабаронай законамі» (п. 3) [124]. Час паказаў, што «безабароннымі» перад Масквою сталіся не толькі Рада і Урад БНР, але і самі «айцы» БССР, аўтары маніфеста і іхныя паслядоўнікі.

Які ж быў іхны асабісты лёс?

Поўнасцю адказаць на гэтае пытанне немажліва: хоць «айцы» БССР і былі лідэрамі беларускага камуністычнага і савецкага руху ў 1917—1920 гг., інфармацый пра іх у савецкім друку мала.

Пра большасць з іх няма ніякае літаратуры. Некаторыя — У. Скарынка, В. Майзель, Сосна, Гурыновіч, Лаўрэцкі, Паляцка — згадваюцца толькі ў адзінкавых гістарычных нарысах 1920-ых гадоў [125]. Другія — Я. Лагун, А. Квачанюк, І. Няцецкі, А. Усціловіч, П. Клыш, А. Дзедзя, І. Мазур, В. Ханін, І. Пузыроў, Ф. Балбека, М. Драко-Дракан і інш.— згадваюцца і ў БелСЭ [126], але пра іх там, за рэдкімі выключэннямі, няма асобных артыкулаў; і мы нічога не ведаем пра іхны лёс, як і пра лёс усіх названых перад імі. А пра каго ведаем (пераважна з несавецкіх і неафіцыйных крыніц), ніхто з іх не памёр сваёй смерцю [127]; яны, падобна тысячам з беспартыйнай беларускай інтэлігенцыі, былі абвінавачаны ў беларускім нацыяналізме і, на загад Масквы, знішчаны.

У гібелі іхнай павінны перад усім правадыры расейскага камунізму, якія супрацiўляліся тварэнню БССР і БКП. Пачатак таго канвееру смерці ў развязанай Леніным у 1917—1920 гг. хвалі «чырвонага тэрору». Канец — у сістэматычных і планавых акцыях вынішчэння нацыянальнай эліты нерасейскіх народаў, у хвалях тэрору 1930-ых гадоў, асабіста кіраваных Сталіным.

Скрайнюю заўзятасць у гэтым апошняга ўжо на прыкладзе г. зв. «грузінскай справы» [128] заўважыў і нат асудзіў Ленін. Будучы сам, як мы ведаем, не свабодны ад вялікадзяржаўнага шавінізму, у нататках «К вопросу о национальностях или об «автономизации» ён пісаў: «Приняли мы с достаточной заботливостью меры, чтобы действительно защитить инородцев от истинно русского держиморды? Я думаю, что мы этих мер не приняли... Я боюсь, что т. Дзержинский [129], который ездил на Кавказ расследовать дело о «преступлениях»... «социал-националистов» (так Сталін назваў тады грузінскіх камуністаў.— А. К.), отличился тут тоже только своим истинно русским настроением (известно, что обрусевшие инородцы всегда пересаливают по части истинно русского настроения). Тут грузин (мова ідзе пра Сталіна.— А. К.), который... пренебрежительно швыряется обвинением в «социал-национализме» (... сам является настоящим и истинным не только «социал-националистом», но и грубым великорусским держимордой)...» [130]. Аднак, не зважаючы на такія засцярогі Леніна, «грубый великорусский держиморда» інспіраваў ці арганізоўваў і далей рэпрэсіі супраць «инородцев» і «инородных» «социал-националистов», пазней перазваных у «нацыянал-камуністаў».

Першай ахвярай з «айцоў» БССР быў сябра 1-га ўрада БССР, народны камісар нацыянальных спраў Фабіян Шантыр. Пісьменнік-адраджэнец, чые апавяданні і вершы друкаваліся ў «Нашай ніве», «Дзянніцы» і іншых перыядычных выданнях, у сваёй брашуры «Патрэбы нацыянальнага жыцця для беларусаў і самавызначэнне народа» (1918 г.) марыў «працаваць над адбудовай вольнай бацькаўшчыны Беларусі... Якая гэта вялікая доля для нас!» Ды вось... па выхадзе з урада БССР ён мабілізаваны ў Чырвоную Армію, дзе ўвосень 1920 г. арыштаваны, абвінавачаны ў нацыянальнай контррэвалюцыі і расстраляны [131].

Смерць ягоная была і першай ахвярай бальшавіцкага тэрору ў беларускай літаратуры.

Блізкі сябра У. Ігнатоўскага і М. Чарота, адзін з былых кіраўнікоў падпольнай Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г., а па 2-ім абвяшчэнні БССР рэдактар газеты «Савецкая Беларусь» (орган ЦВК БССР) Міхась Маразоўскі (сапраўднае прозвішча — Гурын) у 1924 г. пад прозвішчам Ханевіча перакідаецца з Менска ў Заходнюю Беларусь.

З ягонае ініцыятывы 30.11.1924 г. у Вільні склікаецца канферэнцыя Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), якая, падобна КП(б)Б, не была самастойнай беларускай партыяй, а часткаю Камуністычнай работніцкай партыі Польшчы (КПРП). Канферэнцыя прымае прапанаваны М. Гурыным курс на «арганізацыйную і палітычную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання» з мэтаю «аб'яднання Заходняй Беларусі з БССР» [132].

М. Гурын выбіраецца ў ЦК КПЗБ і дэлегатам на 3-ці з'езд Камуністычнай партыі Польшчы, які з пастановаю канферэнцыі КПЗБ не згаджаецца і яе ўневажняе [133].

Паміж КПЗБ і КПРП паўстае канфлікт. Масква ў ім становіцца на бок КПРП. Яна таксама супраць «узброенага паўстання ў Заходняй Беларусі», якое М. Гурын з КПЗБ «спрабаваў выклікаць у 1925 г.» [134]; дзеля чаго адклікае М. Гурына назад у Менск.

М. Гурын не падпарадкаваўся.

Ён выйшаў з ЦК КПРП і з кантраляванай ёю КПЗБ ды, разам з сябрамі ЦК КПЗБ А. Капуцкім і Л. Родзевічам, заснаваў новую КПЗБ, незалежную ні ад Польскай Камуністычнай партыі, ні ад РКП(б). Гэта была 3-ая (пасля 1917—1919 і 1920 гг.) спроба стварыць самастойную Беларускую Камуністычную партыю.

Былы беларускі пасол польскага сойма В. Рагуля ў сваіх успамінах [135] з падзей 1925—1928 гг. прыгадвае: М. Гурын «зарганізаваў тайную друкарню, у якой друкаваў свой орган «Чырвоны сцяг» [136]. Польскім камуністам гэта прыпала не да смаку. Яны выкрылі яе і, уварваўшыся аднойчы ў друкарню, спалілі ўсе драўляныя часткі, разбілі чыгунныя і знішчылі рэшту. Цераз некаторы час Гурын сам быў арыштаваны і кінуты ў беластоцкую вязніцу».

Пасля таго, як ён выйшаў на волю і спаткаўся з пасламі, апошні запрапанаваў яму: «Адмоўся ад камунізму і перайдзі на бок Беларускага пасольскага клуба... Мы перакінем цябе нелегальна ў Нямеччыну. Там ты... станеш на чале нашага інфармацыйнага бюро... Ты — зацкаваны воўк, і цябе ўсё роўна заб'юць камуністы і скінуць на дэфензіву або дэфензіва і зваліць на камуністаў».

Маю прапанову ён не прыняў.

Як я прадбачваў, гэтак і сталася. У Гародні, пасля гутаркі са мною ў атэлі «Гандлёвы», ён выйшаў ад мяне каля 11 гадзін увечары. Я не паспеў распрануцца, калі пачуў стук у дзверы і голас Гурына: «Адчыні!» Ён увайшоў бледны і сказаў: «Я паранены. На вуліцы Пілсудскага нейкі тып 8 разоў выстраліў у мяне». Я паклаў яго на сваім ложку, агледзеў рану і выклікаў паліцэйскага лекара... Мяне дапыталі ў якасці сведкі, а Гурына забралі ў шпіталь...

Хутка... я даведаўся, што Гурын (16.3.1928 г. [137]) быў застрэлены ў Вільні... Так скончыў закладчык КПЗБ» [138]. А забойца ягоны — С. Кліннцэвіч, засуджаны польскім судом на пажыццёвую турму, выменены на свабоду ў СССР [139].

У 1930 г., у часе 1-ае ў 30-ых гадах хвалі масавага тэрору ў БССР, ГПУ арыштоўвае цэлую групу беларускіх нацыянал-камуністаў, спаміж каторых — трох былых сяброў урада БССР:

народнага камісара працы 1-га ўрада БССР — гісторыка і пісьменніка Язэпа Дылу (Назара Быўаеўскага), які па 2-ім абвяшчэнні БССР быў сябрам ЦВК БССР (1921—1924 гг.), старшынёй праўлення Беларускага цэнтральнага саюза спажывецкіх таварыстваў (1921—1923 гг.), старшынёй Дзяржплана БССР (1923—1924 гг.), дырэктарам Інстытута мастацтвазнаўства Інбелкульта, заступнікам загадчыка Белдзяржкіно (1928—1930 гг.);

народнага камісара асветы БССР (1926—1929 гг.) і сябра ЦВК Антона Баліцкага, у 1921—1926 гг.— заступніка наркома, фактычнага кіраўніка школьніцтва БССР у 1921—1929 гг.;

і народнага камісара земляробства БССР (1924—1929 гг.), сябра ЦВК і ЦК КП(б)Б Змітра Прышчэпава.

Яны, актыўныя творцы 1-ае і 2-ое БССР, былі далучаны да арыштаваных у тым жа часе былых дзеячаў БНР, выдатных беларускіх навукоўцаў, пісьменнікаў, працаўнікоў асветы і мастацтва, абвінавачаных у прыналежнасці да неіснуючай «контррэвалюцыйнай нацыянал-дэмакратычнай арганізацыі Саюза вызвалення Беларусі» (СВБ), і, разам з усімі імі, увесну 1931 г. без суда былі засуджаны: Я. Дыла — на 5 гадоў ссылкі ў аддаленыя раёны РСФСР, а А. Баліцкі і З. Прышчэпаў — на 10 год канцэнтрацыйных лагераў.

А. Баліцкі ў 1935 г. памёр у лагеры пры станцыі Мядзведжая Гара Мурманскай чыгункі, дзе ён з рыдлёўкаю ў руках капаў Беламорска-Балтыйскі канал імя Сталіна [140]. Пра лёс З. Прышчэпава сведчыць у сваіх успамінах былы вязень Салавецкіх канцэнтрацыйных лагераў украінец С. Підгайны, які спаткаў яго «на самім востраве, на камандзіроўцы Філімонава, у 1937 г.» [141]. З Салаўкоў ён не вярнуўся.

Заснавальнік і кіраўнік Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г., актыўны ўдзельнік 2-га абвяшчэння БССР, Усевалад Ігнатоўскі, былы выкладчык гісторыі ў Віленскім настаўніцкім (ад 1914 г.) і Менскім педагагічным інстытутах, у БССР быў сябрам урада (народным камісарам земляробства ў 1920—1921 гг. і асветы ў 1921—1926 гг.), прафесарам гісторыі Беларусі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, аўтарам шматлікіх навуковых прац (і папулярнага «Кароткага нарыса гісторыі Беларусі», 1919 г.), старшынёю Інстытута беларускай культуры — прэзідэнтам Беларускай Акадэміі навук (1925—пач. 1931 гг.).

Не зважаючы на ўсё гэта, у 1930 г., калі было арыштавана шмат іхніх сяброў — дзеячаў беларускай навукі, асветы і мастацтва,— У. Ігнатоўскага абвінавачваюць у «нацыянал-апартунізме». Супраць яго ў афіцыйнай прэсе ўзнімаецца акцыя ачарнення і цкавання. Урэшце яго самога змушаюць выступіць у друку з пакаянным лістом, у якім бы ён сам публічна асудзіў і апаганіў сябе і сваіх сяброў, што пакутавалі ў камерах ГПУ.

«...Перажыткамі «адраджэнства»,— пісаў ён,— якія засталіся ў мяне ад эсэраўска-грамадаўскага мінулага... маім нацыянал-апартунізмам у тэорыі і на практыцы; незалежна ад таго, хацеў я ці не хацеў... я зрабіўся, па правільнай фармуліроўцы т. Гея [142], «нацыянал-дэмакратам з партбілетам у кішэні»... Зусім правільна пленум ЦК КП(б)Б (25.10. 1930 г. [143] — А. К.) пастанавіў вывесці мяне са складу Бюро ЦК і ЦВК і перадаў справу аб далейшым маім знаходжанні ў партыі ў

Заканчэнне. Пачатак у № 3.

ЦВК, дзе яна разбіраецца. Як ні балюча, як ні цяжка гэта для мяне, але перад ЦК КП(б)Б і перад усёй партыяй я цвёрда павінен прызнаць, што палітычна я зрабіў здраду перад партыяй, хоць і не хацеў зрабіць гэтага суб'ектыўна...» [144].

Не дапамагло і гэта. У студзені 1931 г. яго выключаюць з партыі і здымаюць з становішча прэзідэнта Беларускай Акадэміі навук. Пачынаюць выклікаць на допыты ў ГПУ і патрабаваць, каб ён згадзіўся на ролю правакатара ў дачыненні да арыштаваных сяброў, якім інкрымінуецца ўжо згаданая «контррэвалюцыйная нацыянал-дэмакратычная арганізацыя СВБ».

Перад ім такая прапазіцыя была зроблена Янку Купалу. Яго таксама выклікалі ў ГПУ і змушалі «прызнацца», што ён быццам бы ўзначальваў СВБ. Я. Купала на прапазіцыю ГПУ адказаў спробаю самагубства: аднае начы ў канцы лістапада, вярнуўшыся з ГПУ дадому, ён распароў сабе нажом жывот. Лепей смерць, чымся роля нягодніка.

Ад смерці Я. Купалу адратавалі. У адведзіны да яго прыехаў У. Ігнатоўскі.

— Табе трэба жыць, Янка... трэба жыць. Ты ў нас адзін,— суцяшаў ён паэта [145].

І вось цяпер, калі Я. Купала з ранамі ляжаў у цяжкім стане, ГПУ вырашыла змусіць на гэтую ролю прафесара У. Ігнатоўскага. Ад яго вымагаюць выступіць на публічным працэсе ў характары «кіраўніка» гэтай «арганізацыі».

Пра фінал развязкі жонка Ігнатоўскага расказвала:

...У тое ранне (4.2.1931 г. [146].— А. К.) ён чуўся страшэнна знерваваным і змучаным допытамі ГПУ. Прыйшоўшы да яе на кухню, ён пачаў гаварыць, што ніколі не згодзіцца на тое, што яму прапануюць. Ен прасіў, каб яна не вельмі сумавала, калі з ім што здарыцца...

— Ці ж я буду горшая за іншыя жонкі? Куды вышлюць цябе, туды і я. Гэта ж нам з табою не першыня,— яна ўспомніла першую, царскую ссылку Ігнатоўскага.— Што людзям — тое і нам.

Прафесар пяшчотна пацалаваў жонку і пайшоў да сябе ў кабінет.

Хутка пачуўся адтуль стрэл.

Ігнатоўскі ляжаў у крыві, без памяці, але яшчэ дыхаў. Жонка кінулася да тэлефона выклікаць хуткую дапамогу. Але раней, чымся хуткая дапамога, у дзвярах з'явіўся агент ГПУ. Сэрца жанчыны не вытрывала. Яна кінулася на яго і пачала выпіхаць са свае кватэры:

— Я цябе не клікала, кат! Прыбег цешыцца? Вон адгэтуль!

Але не з ейнай сілаю было выпіхнуць ненавіснага ката з кватэры. Ды і па сходах падымалася яшчэ двох...

Хуткая дапамога паспела шмат пазней ад спрытных агентаў ГПУ. Яны засталіся і пасля бесперапынна дзяжурылі ў доме. Відаць, іх непакоіла думка, што можа выбухнуць дэманстрацыя: яны ведалі, што У. Ігнатоўскага высока паважалі і горача любілі. Дзеля гэтага, абвясціўшы спачатку, што пахаванне адбудзецца а 2-ой гадзіне вызначанага дня, «яны загадалі выносіць цела ўжо а 10-ай гадзіне раніцы.

Па бакавых брудных вуліцах Менска, амаль бегучы, пранеслі труну... І калі пазней пачалі прыходзіць людзі, прыносіць вянкі — усё было даўно скончана» [147].

Для большага расейскага кантролю над БССР (у дадатак да практыкі прызначэння з Масквы 1-ых сакратароў ЦК КП(б)Б — паўнамоцных эмісараў Крамля і сапраўдных уладароў БССР) Масква адных «айцоў» БССР пачала адклікаць з БССР у РСФСР: 5.5.1927 г. яна адклікала старшыню СНК БССР Я. Адамовіча — на становішча дырэктара Цукратрэста ў Маскве [148]. Другіх, на ейныя вымогі, звальнялі з высокіх і ўплывовых становішчаў, але пакідалі ў БССР: у жніўні 1927 г. быў звольнены са становішча сакратара ЦВК БССР З. Чарнушэвіч; увосені 1929 г. са становішча дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва і рэдактара часопіса «Полымя» — З. Жылуновіч (Ц. Гартны); са становішча галоўнага рэдактара цэнтральнай газеты «Савецкая Беларусь» — М. Кудзелька (Чарот); у студзені 1931 г. са становішча народнага камісара юстыцыі — А. Сташэўскі [149].

На месцы адкліканых і звольненых, як правіла, прызначаліся небеларусы (пераважна расейцы), або Масква пачала вышукоўваць на гэтыя становішчы сярод беларускіх камуністаў самых паслухмяных і вернападданых сабе кар'ерыстаў.

Урэшце, у 1936—1938 гг. 3-яя ў 30-ых гадах хваля тэрору ў БССР змыла з паверхні БССР усіх яшчэ жывых «айцоў» БССР. Яны былі абвінавачаны па кольніх асобных справах, хоць сутнасць абвінавачання была адна і тая ж: тайная антысавецкая змова з мэтаю адарваць БССР ад СССР, зліквідаваць у ёй савецкую ўладу ды ўстанавіць «буржуазна-капіталістычны лад».

Памятаю асабіста, як у прэсе, на сходах і мітынгах яны былі абвешчаны «ворагамі народа, пралезшымі ў партыю». Іх «прарабатывалі» за тое, што ў 1917—1920 гг. яны прабавалі тварыць асобную і незалежную ад РКП(б) Беларускую Камуністычную партыю; а пазней, стаўшыся «верхаводамі беларускіх нацыяналістаў», «агентамі» ці «шпіёнамі замежных разведак», тварылі розныя «контррэвалюцыйныя арганізацыі», выкрытыя «слаўным НКВД».

У арыштах іхных паўтарылася гістарычная храналогія: арышты пачаліся ў 1936 г. ад ініцыятараў тварэння 1-ае БССР — былых сяброў 1-га ўрада БССР і іхных бліжэйшых супрацоўнікаў, сяброў Беларускіх секцый РКП(б), а закончыліся ў 1937 г. на іхных паслядоўніках — творцах 2-ое БССР.

Нікога з іх не судзіў суд. Справы вяло НКВД. Яно ж, на загады з гары [150] і вырашала іхны лёс: выносіла прысуды і «приводило их в исполнение».

Пра лёс З. Жылуновіча (Цішкі Гартнага), старшыні 1-га ўрада БССР, ёсць цэлая літаратура. Прывядзём з яе толькі адно сведчанне — з кнігі ўспамінаў Масея Сяднёва «Ахвяры бальшавізму» [151].

23.10.1936 г. аўтар (тады студэнт 4-га курса Менскага педагагічнага інстытута) быў арыштаваны НКВД. На першым допыце яму было прачытана абвінавачанне: «Вы обвиняетесь в принадлежности к контрреволюционной нацдемовской организации, целью которой было отторжение Белоруссии от СССР, чтобы сделать ее буржуазно-демократической республикой типа Латвии, Литвы и Эстонии...»

«Следчы далей з іроніяй зазначыў, што «идейный вождь» гэтай арганізацыі — «ваш знаменитый писатель» Цішка Гартны... [152].

Аднойчы, як звычайна, мяне ад следчага вялі да камеры. У вузкім калідоры нечакана я сустрэўся з Цішкам Гартным, якога вялі на допыт. Ад здзіўлення я спыніўся, чаго, зразумела, рабіць было нельга... Я крыкнуў:

— Добры дзень, дзядзька Гартны!

— Молчать! — крыкнуў праваднічы.— Кто он вам? — І паставіў мяне тварам да сцяны. Я стаяў да тых пор, пакуль не змоўклі крокі Цішкі Гартнага.

Праз 10 хвілін пасля гэтага мяне вельмі ганялі на паўторным допыце:

— Откуда знаете Гартного? — пытаўся следчы...

— Я ведаю яго як беларускага пісьменніка — і не больш гэтага.

— Гм-м, «белорусского»... А лично знакомы?

— Не,— адказаў я...

У камеры я доўга думаў над тым, як сталася, што арыштавалі Цішку Гартнага. У маіх вачах Ц. Гартны быў чалавекам, якога нельга было, здаецца, арыштаваць, наагул...

Хутка я апынуўся ў камеры, дзе былі Цішка Гартны і Сымон Баранавых. Я вельмі абрадаваўся гэтаму... меў з кім гутарыць.

Цішка Гартны гаварыў, што... ідзе знішчэнне ўсяго беларускага... знішчэнне духовага жыцця народу, больш таго — ідзе яго фізічнае знішчэнне... Робіцца ўсё... каб не даць нам жыць як народу. Дзеля гэтага і «створана» сягоння органамі НКВД нацдэмаўская арганізацыя. Сяброў гэтай арганізацыі будуць цяжка абвінавачваць у дзяржаўнай здрадзе. Нікому з нас не будзе літасці...

Кожны дзень прыносіў нечуваныя навіны... Арыштаваны народны камісар земляробства Бэнэк, народны камісар асветы Чарнушэвіч, галоўнакамандуючы Беларускай вайсковай акругай Убарэвіч... паэты Чарот, Александровіч, Хадыка, Дудар, Кляшторны, Маракоў, Звонак... пісьменнікі Галавач, Зарэцкі, Скрыган, Баранавых, Знаёмы, Мікуліч, Шашалевіч і г. д. Турма набівалася біткам.

На допыты цягаюць дзень і ноч, і б'юць» [153].

«...Ц. Гартны звар'яцеў. Вяртаючыся з допытаў, ён хаваўся пад лаўку і ціха, спалохана шаптаў: «Божа мой!.. Я хацеў забіць Сталіна?» [154].

«Праходзіць цэлы год... Я атрымліваю, нарэшце, «обвинительное заключение»... (З яго) вынікае, што кіраўнікамі арганізацыі з'яўляюцца «ворагі народу» — Цішка Гартны, Зарэцкі, Чарот і Дудар.

У гэты час Гартнага ў жывых ужо не было. Ен памёр (11.4.1937 г. [155]) у Магілёўскім доме вар'ятаў» [156], куды яго перавезлі з турмы менскага НКВД.

Праз 2 месяцы пасля трагічнай смерці Ц. Гартнага склікаецца 16-ты з'езд КП(б)Б. Адбываецца ён у Доме ўрада ў Менску. На ім тагачасны 1-шы сакратар ЦК В. Шаранговіч вельмі востра асуджае і абвінавачвае не толькі арыштаваных незадоўга перад тым старшыню СНК БССР М. Галадзеда, народнага камісара асветы А. Чарнушэвіча і іншых кіраўнікоў БССР [157], але, разам з імі, і прысутнага на з'ездзе Алеся Чарвякова [158], народнага камісара асветы 1-га ўрада БССР, нязменнага ад 1920 г. старшыню ЦВК і Прэзідыума ЦВК БССР, сябра ЦБ і ЦК КП(б)Б. Не было ніякага сумніву, што чарга сталінскай гільятыны тэрору дайшла да яго. З'езд толькі фармальна павінен закляйміць яго «ворагам народу».

У часе аднаго з перапынкаў А. Чарвякоў ідзе ў свой кабінет, замыкае на ключ з сярэдзіны дзверы і стрэлам з рэвальвера ў сэрца канчае самагубствам. Калі дзверы кабінета былі ўзламаны, яго знайшлі мёртвым... на сваім урадавым крэсле.

Гэта было 16.6.1937 г. [159].

Назаўтра ў поўдзень (пра смерць А. Чарвякова публічна яшчэ нічога не было вядома) я ішоў Савецкай вуліцай у кірунку тэатральнага скверу. Выпадкам з рэдакцыі газеты «Звязда» выходзіць мой добры знаёмы, паэт Р. К., які працуе там за стыльрэдактара. Пад вялікім сакрэтам ён расказвае мне, што, калі чарговы нумар газеты ўжо быў аддрукаваны поўным тыражом, уначы пазванілі з Дома ўрада, загадалі цэлы тыраж затрымаць, а ў газету на апошняй, 4-ай балоне петытам набраць паведамленне з аднаго сказа: «Учора покончыў самагубствам старшыня ЦВК СССР і БССР А. Р. Чарвякоў». Калі газета (са спазненнем!) была аддрукавана нанова, а экспедыцыя спяшалася пакаваць яе на рассылку, з Дома ўрада пазванілі зноў. Загадалі затрымаць і гэты тыраж, цалкам яго знішчыць, а ў паведамленне пра самагубства А. Чарвякова ўставіць словы: «...на глебе сямейных непаразуменняў».

Пра лёс сяброў 1-га ўрада БССР У. Фальскага, А. Квачанюка і І. Пузырова мы не маем ніякіх інфармацый. Змітро Чарнушэвіч, былы народны камісар сацыяльнага забеспячэння, пазней сябра ЦВК БССР (1919, 1921—1931 гг.), сакратар ягонага прэзідыума (1924—1927 гг.) і старшыня Упраўлення дзяржаўнага страхавання БССР, 28.6.1938 г. [160] расстраляны НКВД у Менску. Такі ж лёс 30.10.1937 г. [161] спаткаў і Янку Пятровіча (Нёманскага), пісьменніка і эканаміста, былога сябра петраградскай і маскоўскай Беларускіх секцый РКП(б), супрацоўніка Белнацкома і сурэдактара газеты «Дзянніца». У часе арышту ён займаў становішча заступніка старшыні Дзяржплана БССР і дырэктара Інстытута эканомікі Акадэміі навук.

22.4.1937 г. [162] у адным з вагонаў цягніка, які ішоў з Уладзівастока на Маскву, застрэліўся пасажыр. Наўрад ці хто з ехаўшых тым цягнікам ведаў, што страляўшы ў сябе — былы старшыня СНК БССР Язэп Адамовіч.

Відны беларускі камуніст Я. Адамовіч, хоць і не належаў да Беларускіх секцый РКП(б), на 6-ай Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РКП(б) (тады вайсковы камісар Смаленскай губерні) галасаваў за абвяшчэнне БССР. У 1920 г., будучы сябрам Вайскова-Рэвалюцыйнага камітэта Менскай губерні, ра-

зам з А. Чарвяковым, У. Ігнатоўскім і інш., падпісаў дэкларацыю пра 2-ое абвяшчэнне БССР, у якой займаў становішчы народнага камісара вайсковых спраў (1920 г.), заступніка старшыні ЦВК і СНК (1921—1924 гг.), а ад 1924 г.— старшыні СНК.

Пасля адклікання яго ў 1927 г. з БССР у Маскву ён працуе там у Цукратрэсце. «У цяжкім 1932 г.,— прыгадвае ягоная жонка С. Шамардзіна,— над... галавой Адамовіча «грымнуў гром». Ен быў незаслужана зняты з пасады (і, паводле вусных пераказаў, арыштаваны.— *А. К.*). Але Язэп Аляксандравіч не ўхапіўся за «выратавальныя кругі», якія яму кідалі тыя, хто быў сведкам «расправы з Адамовічам». Ен нікога не пацягнуў за сабой, але не падумаў і пра змякчэнне свайго асабістага лёсу». З дапамогаю сяброў яму ўдаецца ўхіліцца ад большае кары, ды цяпер яго ўжо «накіроўваюць ва Усурыйск... будаваць на Далёкім Усходзе цукровы завод...

Аднак і на Далёкім Усходзе Адамовіч не траціў сувязі з Беларуссю. Выпісваў беларускія газеты, сустракаўся са старымі беларусамі, якіх партыя накіроўвала на самую далёкую ўскраіну СССР... з І. Васілевічам [163]. Ва Усурыйск да Адамовіча прыязджаў Б. С. Гарбчоў [164], калі па вайсковых справах бываў у Хабараўску і Уладзівастоку.

Апошні перыяд свайго жыцця Язэп Адамовіч правёў на Камчатцы, куды з амаль пабудаванага цукровага завода ва Усурыйску (у 1936 г. [165].— А. К.) яго накіравалі начальнікам АКО [166], [167].

І вось у часе, калі найбольш шалеў тэрор і шматлікіх ягоных сяброў ужо катавалі ў засценках НКВД, Я. Адамовіча з Камчаткі выклікаюць у Маскву. Відаць, у падарожным роздуме ён прыходзіць да перакanання, што сам, добраахвотна едзе ў пашчу НКВД. Дык ці не лепей тады згінуць ад свае рукі?

Астатнімі з «айцоў» 2-ое БССР (наколькі гэта ведама сёння) да канвееру смерці падвялі былых бліжэйшых сяброў і памочнікаў У. Ігнатоўскага ў тварэнні падпольнай Беларускай Камуністычнай Арганізацыі ў 1920 г.:

рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Язэпа Каранеўскага;

першага сакратара ЦВК і СНК БССР (1921—1924 гг.), народнага камісара юстыцыі (1928—1930 гг.) Алеся Сташэўскага і «пачынальніка пралетарскай беларускай паэзіі», ініцыятара і старшыню літаратурнай арганізацыі «Маладняк» (1923—1927 гг.), рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» (1925—1929 гг.) Міхася Чарота (Кудзельку).

Я. Каранеўскага, пасля засуду ў канцэнтрацыйны лагер, у канцы 1937 г. прывезлі ў асобны камендацкі лагер сталіцы Байкала-Амурскіх лагераў — г. Свабодны (!). Разам з ім у партыі вязняў з Менска быў і нацыянал-камуніст з 1919 г. С. Гарбуз [168]. На трэці дзень са Свабоднага іх пагналі на «закрытую» калону № 66 [169], дзе след іхны гіне. А. Сташэўскага і М. Чарота пасля доўгіх катаванняў расстралялі. Першага — 11.12.1938 г. [170], другога — тры дні пазней, [171].

Беларускі паэт Мікола Хведаровіч, які ў тым часе таксама сядзеў у менскім НКВД, сведчыць, што ў 1939 г., калі яго перавялі ў адзіночную камеру, у каторай перад расстрэлам сядзеў М. Чарот, ён знайшоў там «тэкст апошняга чаротаўскага верша... выкалупаны нечым вострым на сцяне. Гадамі... захоўваў... у сэрцы» яго, каб некалі апублікаваць. Развітваючыся з жыццём, у гэтым вершы «Прысяга» М. Чарот пісаў:

... Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне зацяснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары,
Кажу вам: я не вінаваты.
Паверце: я не вінаваты! [172]

...Якая іронія лёсу! «Бацька» «айцоў» БССР, Казімер Петрусевіч — адзін з 9 дэлегатаў 1-га з'езда РСДРП (з'езда, каторы адбыўся ў 1898 г. у Менску і арганізацыйна даў пачатак гэтай партыі), беларус і зямляк З. Жылуновіча, Ф. Шантыра, А. Сташэўскага, абодвух Чарнушэвічаў [173] — на шмат год перажыў усіх іх, пазнейшых спадкаемцаў РСДРП, перша-творцаў БССР, не далучыўшыся (як і ніводзін з дэлегатаў 1-га з'езда!) ні да бальшавіцкае фракцыі РСДРП і РКП(б) і не прызнаўшы ні СССР, ні БССР (!!). Перажыў, мажліва, толькі таму, што пасля перамогі бальшавіцкай рэвалюцыі ў Расеі і акупацыі Чырвонай Арміяй БНР уцёк за мяжу. У 1928 г., будучы віленскім адвакатам (і прафесарам Віленскага універсітэта), на «працэсе 56» бараніў кіраўнікоў Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады (як і ў 1908 г. на судзе ў Менску — Я. Коласа і ягоных сяброў з Беларускага настаўніцкага саюза [174]. Перажыў... пад «фашысцкімі рэжымамі» Польшчы і Нямеччыны, а ў канцы 2-ой сусветнай вайны, калі «вызваленая» Вільня настала адышла да СССР, падаўся далей на захад і ў 1949 г. памёр у Варшаве [175].

У 1969 г. з вялікай помпаю святкавалася 50-годдзе БССР. Тады яшчэ быў жывы Язэп Дыла.

Ужо было па 20-ым і 22-ім з'ездах КПСС, якія «асудзілі» «культ Сталіна». Былі абвешчаны «адліга» і «рэабілітацыі»... Вы думаеце, па Я. Дылу паслалі самалёт? Каб прывезці на юбілейныя ўрачыстасці ганаровага госця — адзінага, хто застаўся яшчэ ў жывых з сяброў 1-га ўрада БССР? І не блізка!

Менск гарэў ад чырвані сцягоў. Грымелі аркестры. Янычарам Масквы раздаваліся ордэны... А дзесь далёка, на глухой ускраіне чужога Саратава, самотна дажываў свой век (яму было каля 89) апошні «айцец» БССР. Ен пражыў там яшчэ да 1973 г. і на 42-ім годзе ссылкі з БССР памёр [176].

---

124 Тэкст маніфеста цытуецца з арыгінала, клішэ якога апублікавана ў альбоме «Янка Купала. Жыццё і творчасць». Міністэрства асветы БССР, Мінск, 1959, б. 89.

125 Па-за СССР паўтораныя ў публікацыі: Недасек Н. Камунізм і «беларускі нацыяналізм» — Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтваў, кн. I. Мюнхен, 1962.



126 БелСЭ, т. 2, б. 230, 243, 260 і інш. З. Жылуновіч і Я. Лагун — яшчэ і ў «Очерках...» б. 347, 350.

127 З гэтага нам ведама толькі адно выключэнне: смерць ад хваробы былога сябра ЦК БКА а ў БССР рэдактара газеты «Савецкая Беларусь» і сакратара ЦБ КП(б)Б С. Булата, які не да жыў да часу, калі пачалася расправа над ягонымі сябрамі, памёршы ў 1921 г.

128 У 1922 г., калі тварыўся СССР, ЦК РКП(б) праектам «аўтанамізацыі» (улучэння ўсіх не расейскіх савецкіх рэспублік у склад РСФСР) вырашыў адабраць ад іх фікцыйны статус іхнаі «дзяржаўнай незалежнасці». Праект выклікаў супраціў з боку камуністаў гэтых рэспублік: янь жадалі канфедэрацыі з РСФСР, а не федэрацыі. 16.9.1922 г. праект быў адкінуты ЦБ КП(б)Б 3.10.1922 г.— ЦК КП(б) Украіны і г. д.

Найбольш рашуча супраць маскоўскага праекта выступіў ЦК КП(б) Грузіі. 15.9.1922 г. ё вынес пастанову: «Прапанаванае на аснове тэзаў таварыша Сталіна аб'яднанне ў форме аўтанамізацыі **незалежных рэспублік** уважаць за перадчаснае». «Аб'яднанне гаспадарчых высілка і агульнай палітыкі ўважаць за неабходнае, але — з **захаваннем усіх атрыбутаў незалежнасці** (падкрэсленні ЦК КП(б) Грузіі) Авторханов А. «Технология власти». Франкфурт-на-Майне 1976, б. 365). Пазіцыя гэтая грузінскіх камуністаў і была галоўнай прычынай карных рэпрэсіі супраць іх.

129 Тады кіраўнік толькі што рэарганізаванага з ВЧК ГПУ.

130 Ленин В. И. Полн. собр. соч., изд. 5, т. 45. Москва, 1958—1965, б. 357—360.

131 Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры, выд. 2. Вільня, 1921, б. 206.

132 БелСЭ, т. 4, б. 276—277.

133 Там жа, б. 277.

134 БелСЭ, т. 10, б. 157.

135 Рагуля Васіль. Успаміны. Нью-Иорк, 1957.

136 Паводле БелСЭ, т. 10, б. 157, іншы орган ЦК КПЗБ — газ. «Бальшавік».

137 БелСЭ, 1972, т. 6, б. 28.

138 Рагуля В. Там жа, б. 66—70. Пазней, будучы зманеныя ў БССР і арыштаваныя ў 1934 г. загінулі таксама А. Капуцкі і Л. Родзевіч: першы — у 1935 г., а другі — у 1937 г.

139 БелСЭ. Там жа.

140 Такое паведамленне атрымала жонка ягоная, лекар аддзялення скураных хвароб Мен скага клінічнага гарадка. Сама яна ў роспачы атруцілася.

141 Підгайний С. Недостріляні, ч. 1. Видавництво «Україна», 1949, б. 115.

142 Гей К.— навапрысланы ў 1930 г. з Масквы для разгрому «беларускага нацыяналізму» 1-шы сакратар ЦК КП(б)Б.

143 БелСЭ, т. 2, б. 507.

144 Ліст апублікаваны ў газ. «Звязда». Тут цытуецца паводле перадруку ў час. «Камуністыч нае выхаванне». Менск, 1930, № 12, б. 34.

145 Рытар Іна. На суд гісторыі — час. «Конадні», 1963, № 7, New — York — München б. 119—120.

146 БелСЭ, 1972, т. 5, б. 44.

147 Еўтух Б. Менск у 1930—1931 гг.— газ. «Раніца», Берлін, № 54 — 216 за 13.12.1944 г

148 Таксама іншых беларускіх камуністаў: 25.10.1930 г. 2-га сакратара ЦК КП(б)Б Я. Васіле віча — у апарат Наркамзема СССР; 1.2.1932 г. рэктара Камуністычнага універсітэта ў Менск і загадчыка аддзелаў друку, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б у 1928—1931 гг. (был. народ нага камісара аховы здароўя БССР у 1921—1922 гг.) А. Сянькевіча — у сістэму Наркамата аховы здароўя РСФСР. У 1933 г., калі ў БССР пачалася 2-ая ў 30-ых гадах хваля масавага тэрору, з БССР у РСФСР былі адкліканы народны камісар асветы А. Платун, народны камісар земляробства П. Рачыцкі, народны камісар лёгкай прамысловасці Р. Грысевіч і шмат іншых Усіх іх праз колькі год у РСФСР паарыштоўвалі і, праўдападобна, парасстрэльвалі.

149 Як і згадваныя ўжо, перад арыштам: 31.6.1929 г.— А. Баліцкі, 14.9.1929 г.— З. Прышчэпаў, у студзені 1931 г.— У. Ігнатоўскі.

150 Тэрорам 1936—1938 гг. у БССР асабіста кіравалі сябры Палітбюро Г. Малянкоў і М. Яжоў

151 Выданне Беларускага аб'яднання ў Беластоку, 1944 г.

152 Б. 4.

153 Б. 14—16.

154 Б. 5.

155 БелСЭ, 1971, т. 3, б. 367. Усе іншыя дакладныя даты смерці таксама зверaны ці ўзять з БелСЭ.

156 Сяднёў М., б. 16.

157 Мікола Галадзед 21.6.1937 г. забіўся насмерць, кінуўшыся галавою ўніз у пралёт паміж сходамі, калі яго ў НКВД вялі на чарговы допыт. Алесь Чарнушэвіч 2.8.1938 г. расстраляны

158 Даклад В. Шаранговіча 16-му з'езду КП(б)Б быў апублікаваны ў прэсе і хутка пасля таго выдадзены асобнай брашурай.

159 БелСЭ, 1974, т. 11, б. 186.

160 Там жа, б. 197.

161 Там жа, 1973, т. 7, б. 495.

162 Там жа, 1969, т. 1, б. 91.

163 Янка Васілевіч у 1919 г.— заступнік народнага камісара харчавання ЛітБел., у 1925 — народны камісар гандлю БССР, у 1926 — фінансаў. Па адкліканні яго з БССР у Маскву ў

1934 г. быў прызначаны ў сельскагаспадарчы аддзел Далёка-Усходняга краю. Расстраляны 29.12.1938 г.

[164] Камкор Барыс Гарбачоў — камандуючы войск Забайкальскай вайсковай акругі, у 1917—1920 гг. актыўны ўдзельнік устанаўлення савецкай улады ў Беларусі. 3.7.1937 г. расстраляны па справе маршала М. Тухачэўскага.

[165] БелСЭ, т. 1, б. 91.

[166] АКО — рыбапрамысловае акцыянернае камчацкае Таварыства.

[167] Шамардзіна Соф'я. Старонкі з біяграфіі Язэпа Адамовіча — час. «Полымя», 1966, № 4, б. 127.

[168] Сцяпан Гарбуз — былы сябра ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР. У 1921—1923 гг.— на кіруючых становішчах ва ўстановах Наркамасветы БССР, кіраўнік спраў ЦБ КП(б)Б. У 1925—1926 гг.— сакратар акруговага камітэта КП(б)Б толькі што далучанай да БССР Клімавіцкай (Калінінскай) акругі, у 1928—1929 гг.— на падпольнай працы ў Заходняй Беларусі (сябра ЦК КПЗБ), скуль у 1930 г. адкліканы ў Маскву.

[169] Кіпель Яўхім. Байкала-Амурская магістраль — БАМ — газ. «Беларус», Нью-Йорк, 1977, № 246.

[170] БелСЭ, т. 10, б. 67.

[171] Там жа, т. 11, б. 202.

[172] Зборнік «Дзень паэзіі». Мінск, 1965, б. 151.

Як і па ўсяму СССР, у завірусе тэрору 1936—1938 гг. пацярпелі і тыя беларускія камуністы, што стараліся трымацца «генеральнай лініі» Крамля — М. Стакун, 7.7.1937 г. заступіўшы А. Чарвякова на становішчы старшыні ЦВК БССР, а 13.11.1937 г. зволънены і арыштаваны; Д. Ваўковіч, 2-гі сакратар ЦК КП(б)Б у 1934—1937 гг. 30.5.1937 г., заступіўшы М. Галадзеда на становішчы старшыні СНК БССР, 8.9.1937 г. звольнены і арыштаваны; З. Кавальчук, старшыня Цэнтральнага савета прафесійных саюзаў БССР у 1932—1937 гг., увесну 1937 г. арыштаваны; камандарм Е. Убарэвіч, камандуючы войск Беларускай вайсковай акругі, 11.6.1937 г. расстраляны; і шмат іншых, а ў тым і сам В. Шаранговіч, адзіны да таго беларус у ролі 1-га сакратара ЦК КП(б)Б, арыштаваны 29.7.1937 г.

5.3.1938 г. маскоўская «Праўда» публікуе ягоныя «паказанні» на судовым спектаклі «Антысавецкага праватрацкісцкага блоку» ў Маскве:

«Старшыня суда Ульрых: Падсудны Шаранговіч, ці пацвярджаеце вы вашыя прызнанні, якія вы зрабілі ў часе папярэдняга следства?

Шаранговіч: Цалкам пацвярджаю... У нацыянал-фашысцкую арганізацыю мяне завербавалі Галадзед і Чарнушэвіч... Асноўныя мэты нацыянал-фашысцкай арганізацыі Беларусі Галадзед коратка фармуляваў так: ліквідацыя савецкай улады і аднаўленне капіталізму, адлучэнне Беларусі ад Савецкага Саюза ў выпадку вайны з фашысцкімі дзяржавамі...»

Гэтага было досыць, каб В. Шаранговіча расстралялі. БелСЭ, т. 11, б. 295 падае і дату — 13.3.1938 г. Тут хіба можна яшчэ выказаць здогад: гінучы самі, М. Галадзед і А. Чарнушэвіч маглі пацягнуць за сабою і В. Шаранговіча, «завербаваўшы» яго на допытах у «сваю арганізацыю» — насіў воўк, хай панясуць і ваўка!

[173] К. Петрусевіч паходзіць з с. Душава (Навіны) з-пад Капыля — час. «Полымя», 1968, № 8, б. 249.

[174] Колас Я. Цені мінулага — гл. «Публіцыстычныя і крытычныя артыкулы». Мінск, 1957, б. 8.

[175] Час. «Полымя», там жа, б. 249—250.

[176] Газ. «Літаратура і мастацтва» (№ 15-2646 за 13.4.1973 г.) падае дакладную дату смерці — 7.4.1973 г.



# НАРОДНАЕ ДОЙЛІДСТВА ПАСОЖЖА

Пасожжа — адзін з цікавейшых куткоў зямлі беларускай. Калісьці тут праходзіла граніца паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўяй. Напамінаюць аб тых часах паселішчы, дзе жыла ў свой час так званая панцырная шляхта, якая абараняла дзяржаўную мяжу. Напрыклад, вёска Мыза Галічская. Шмат народу бегла сюды, ратуючыся ад апрычнікаў Івана Грознага, ад Гадунова. Людзі беглі шукаць паратунку ад патрыярха Нікана і будавалі на берагах Сожа вёскі і мястэчкі. Так узніклі Ветка (мясцовае паданне тлумачыць назву як «ветка ад Масквы»), Гомель. Есць тут і перасяленцы з Украіны (Сцяпанаў Хутар у Краснапольскім раёне). Вандравалі ўздоўж Сожа і цыганы. Спыняліся ў вёсках, здавалі сялянам у наём коней, асядалі ў мястэчках (Мсціслаўе, Крычаў). Этнічныя асаблівасці засялення адлюстраваліся ў гісторыі паселішчаў. Згодна з імі распаўсюджваліся рамёствы і промыслы.

У XVII—XVIII ст. ст. магутныя лясы, што пакрывалі даліны ля Дняпра і Сожа, спрыялі шырокаму разгортванню вытворчасці паташа, дзёгця, шкла. Карабельныя сосны вывозілі ў порты Рыгі і Круляўцу, а адтуль на верфі Еўропы. Аб былым росквіце промыслаў сведчаць назвы Красная Буда Крычаўскага, Ячная Буда Краснапольскага, Кляпінская Буда Кармянскага раёнаў. Асобныя паселішчы ўзніклі ў месцах перапрацоўкі балотнай руды. Мясцовае паданне так тлумачыць узнікненне вёсак Рудні Барталамееўскай і Нісімкавіч, што на Чачэршчыне. Калісьці два браты Барталамей і Нісімк знайшлі тут дзве мясціны з балотнай рудой і заклалі рудні, з якіх часам і выраслі вёскі. Рускія падарожнікі Севяргін і Ляпёхін, якія ў XVIII ст. праязджалі праз Беларусь, пісалі аб Падняпроўі, як аб краі пчалярства. Адзначалі гэта ў XVII ст. і замежныя госці — паслы аўстрыйскага двара А. Маерберг і Г. Кальвучы, пасол Папы Рымскага І. Г. Корб, польскага караля Б. Таннер і іншыя. Адсюль відавочна і паходзіць назва вёскі Вашчанка Кармянскага раёна. Назвы асобных вёсак маюць корань ад славянскіх слоў гарадок, гарадзішча. Напрыклад, Гродаўка Чачэрскага раёна. Мясцовыя паданні паведамляюць і аб вёсках, што былі заснаваны атаманамі сялянскіх дружын, што змагаліся з панамі (Дабрынь Чачэрскага раёна), асобнымі пасяленцамі (Сідаровічы Чачэрскага, Грамыкі Веткаўскага раёнаў і іншыя). Кажуць, што вёска Сяброві чы Чачэрскага раёна нібыта заснавана трыма сябрамі, што прыйшлі сюды пасяліцца. Пасля спусташальных войнаў і паўстанняў XVII — пачатку XVIII ст. закінутыя землі гэтага краю здаваліся сялянам на льготных умовах (вызваленне ад падаткаў — адсюль Слабоды, Волі). Па шматлікіх прычынах узнікалі паселішчы з назвамі, вытворнымі ад уласных імён. Напрыклад, назвы вёсак Фёдараўка і Петраполле Чачэрскага раёна нібы паходзяць ад імён двух братоў, Фёдара і Пятра, якія падзялілі паміж сабой зямлю свайго бацькі. Некаторыя назвы ўзыходзяць да векапомных падзей. Так, кажуць, што Краснаполле ўзнікла каля невялікага мястэчка Маластоўкі, дзе адбылася бітва паміж рускімі і шведамі — поле гэтае ў народзе звалі красным (ад крыві). Назвы некаторых паселішчаў часам убіралі ў сябе народны гумар (Жэўжыкі Клімавіцкага раёна).

Хоць і шмат падзей пранеслася над тутэйшым краем і нямала розных людзей сялілася тут, але сяляне не забываюць, чые яны нашчадкі. У вёсках Краснапольскага раёна пра паходжанне іх жыхароў сведчыць трапнае выслоўе «радзімеці яго ведае».

Але не толькі аб сацыяльна-гаспадарчых і палітычных падзеях гісторыі могуць расказаць назвы паселішчаў Пасожжа. Багацце прыроды — лясы, шырокія лугавіны, рэчышчы — «занатавана» ў назвах многіх вёсак: Палессе і Залессе Чачэрскага, Высокі Бераг Краснапольскага, Бярозаўка Кармянскага, Беразнякі Краснапольскага, Ліпаўка Хоцімскага, Белая Дуброва Касцюковіцкага, Лужок Кармянскага, Рэчыца Чэрыкаўскага, Струмень Кармянскага раёнаў. Пра жывёльны свет краю распавядаюць такія назвы, як Вепрын Чэрыкаўскага, Барсукі Кармянскага і Чачэрскага, Воранаўка Кармянскага, Рысіна Краснапольскага раёнаў. Звяртаюць на сябе ўвагу і паселішчы з назвай Карма, якія неаднаразова сустракаюцца (г. п. Карма, Кармы Дольныя і Карма Пайкі Краснапольскага, Вострая Карма Чачэрскага раёнаў). Магчыма, яны звязаны з даўнім суднаходствам па рацэ.

Часцей за ўсё людзі сяліліся ўздоўж берагоў рэк. На прытоку Сожа, рэчцы Віхры стаіць Мсціслаўе, на Сожы — Крычаў, Чэрыкаў, Слаўгарад, Карма, Чачэрск і, нарэшце, Гомель. У глыбокай старажытнасці рэкі былі адзінымі шляхамі зносін, крыніцамі вады, рыбы. Нездарма ля вёскі Бердыж Чачэрскага раёна была знойдзена адна з найстаражытнейшых на Беларусі стаянка людзей эпохі палеаліту. Паселішчы цягнуліся ўздоўж ракі, дворы ставіліся ў адну лінію. Прыкладам можа быць забудова вёскі Людагожа Мсціслаўскага раёна. Двары стаяць на высокім беразе Сожа, выцягнуўшыся амаль на тры кіламетры. На высокім крутым беразе Сожа стаіць і вёска Турышчавічы Чачэрскага раёна. Вёскі ў воддалі ад берагоў забудоўваліся на два бакі ад вуліцы. Двары стаялі шчыльна. На ўездзе і выездзе, як правіла, стаялі брамы «калаўроты», каб у начы ў вёску непрыкметна не заехаў хто-небудзь чужы. На прынцыпы забудовы паселі-



яночны двор у вёсцы Першамайск Чачэрскага раёна.

ічаў аказвалі ўплыў сацыяльна-палітычныя бставіны. Так, пасля адмены прыгоннага рава сяляне з маладворных вёсачак пераяліліся на кавалак выкупленай зямлі — узніалі хутары. Узбуйненне паселішчаў адбыалася пасля рэвалюцыі і ў часы калектывіацыі.

Шмат слядоў сівой даўніны захоўваюць наваколлі старых вёсак. У лясах схаваныя звышшы старажытных капішчаў, магільнікаў асоў шведскай вайны і французскага нашэсія. На Магілёўшчыне паданні данеслі да нас шмат гістарычных эпізодаў. Тут можна ачуць і даўнюю песню, у якой раптам заўважаеш тэму барацьбы з татарамі, ці даведаешся, як ад шведскіх рабаўнікоў ратавалія ў курных хатах варам.

У Пасожжы і сёння ў вёсках шмат двароў, абудаваных нядаўна, але ў традыцыяхродкаў: чатырохкутнікам ці круглых (вяночных). Гэта традыцыйна-гістарычны тып сядзібай забудовы ў гэтым рэгіёне. Хата, вазоўня, лявы, клець ставіліся кругам і злучаліся вулічнага боку моцнай брамай. Часта комлекс хлявоў тут называюць адным словам пуня». У пуні мелiся вароты для праезду а гумнішча. Зараз усе двары звернуты хатай а вуліцы. Але яны ў мінулым маглі быць звернуты да вуліцы і глухой сцяной хаты і ават хлявоў. Такі прыём узыходзіць да больш таражытнага тыпу, калі жыллё знаходзілася асярэдзіне кругавой забудовы.

Хаты будавалі з сасновых бярвенняў-кругякоў. Але часта ўжывалі і асіну, таксама рывалае дрэва ў адносінах да гніення. Зруб ставілі на дубовы фундамент-падрубу: ўкапаныя па перыметру слупы-штандары, аміж якімі ў пазы запускаліся 3—4 бервяы. Уцяпляўся зруб на зіму прызбай — «загуваліна». Гэта мог быць рад абмалочаных снапоў, прысыпаных зямлёй ці невысокая сценка з закінутых у шулы-слупкі бярвенцаў. Паміж ёй і зрубам засыпалі зямлю і старое лісце. Вокны рабіліся невялікімі, калісьці толькі на паўбервяна, насупраць печкі і чырвонага кута, пазней — на 4—6 шыбак. На зіму вокны таксама ўцяплялі саламянымі матамі. Зруб перакрываўся столлю на падоўжных, ці папярочных бэльках-падстольніках. Дошкі часта запускалі ў пазы-шпары ў бэльках, атрымоўвалася роўная гладкая столь. Раней у гэтым рэгіёне часта ўжываліся рубленыя стрэхі (на «самцах» ці «свалоках»), якія зараз можна бачыць у старых свірнах. Шырока ўжываліся і канструкцыі на «дзядках», «козлах». Зараз найбольш распаўсюджаная кроквенная канструкцыя. Форма страхі звычайна двухсхільная, але калі страха хаты была канструктыўна звязанай з перыметральнай страхой хлявоў, то з боку вуліцы мела схіл (трохсхільная страха). Пакрыццё — салома, чарот, радзей дранка. Апошняя іншы раз набівалася радамі ў «елачку», што прыдавала страсе своеасаблівую прывабную фактуру. На Сожы ў хатах насцілалася падлога (мост) з дошак па лагах. Пад мастом, каля печы, звычайна знаходзіўся склеп,— сховішча для бульбы, морквы, буракоў. Традыцыйны інтэр'ер дапаўнялі печ, за ёю нары-«пол» для адпачынку, над імі — палаці. Каля печкі, пад столлю — шасткі, у куце насупраць печы — насценная шафа для посуду, паліцы, услон для вядра з вадою. Уздоўж сцен — лавы, у чырвоным куце — абразы над набожнікам, стол накрыты ільняным абрусам, услон. Замест нараў-«пола» і лаў ужывалі таксама драўляны ложак, канапу.

Печ з комінам у гэтым рэгіёне Беларусі пачалі будаваць раней, чым у іншых. Але разнавіднасць курніцы, печ з дымаходам, які





Брама. Вёска Прысна Веткаўскага раёна.



Агароджа — «сасновы плот». Вёска Барсукі Чачэрскага раёна.

выходзіў у сенцы, на Падняпроўі захавалас да нашага часу. Такія печкі можна бачыць напрыклад, у вёсцы Боўсевічы Круглянскаг раёна. Адметныя рысы падняпроўскай печы — высокі падруб у 6—7 вянцоў на тоўсты слупах-штандарах, ляжанка збоку, наяўнасц камінка (тут гатавалі непрыхатлівую вячэру ці палілі лучыну), шырокі комін з прыступ камі, шматлікія нішы. Акрамя печкі магл быць у хаце і грубка-сцяна, іншы раз з ляжан кай.

У Пасожжы акрамя хаты з сенцамі будавал і характэрная для Падняпроўя ўвогуле спалу чэнні — сені-хата-хата, хата-сені-хата. Пр арыентацыі хаты ўздоўж вуліцы сенцы слу жылі і скразным праходам на двор. Зв чайна ў такім выпадку з боку вуліцы рабіў ся ганак на слупах з прыступкамі.

Традыцыйна хлявы ўтваралі суцэльны ком плекс, абмежаваны са знешняга боку злуча нымі праз шулы сценамі і зрубамі, з унутра нага (двор) — шэрагам слупоў-сох, прастор паміж якімі запаўнялася яловым плятнём сасновым парканам. Пад агульнай страхой часта асобнымі зрубамі ставілі хлеўчукі дл свіней, авечак, курэй (Куклічы Чачэрскага Вашчанкі Кармянскага раёнаў). У сцян хлява рабілася спецыяльная «фортка», пра якую ўвесну выкідвалі гной. У балоцісты мясцінах з высокім верхаводкам замест по грабаў ставілі «імшэнікі». Характэрнымі был таксама лазні. Іх ставілі ланцужком уздоўж ручая, ці рэчкі (Фёдараўка Чачэрскага раёна) Калі побач вады не было — капалі сажалку копань (Дзўжыкі Клімавіцкага раёна).

Калісьці звыклым элементам сядзібнай забудовы было гумно. Зараз у Пасожжы захаваліся адзінкавыя пабудовы. Падняпроўскі



Вятрак, пачатак XX ст. Вёска Тур'я Краснапольскага раёна.

рэгіён уваходзіў у зону гумнаў з агнявой сушкай. У сярэдзіне такога гумна акрамя тока і застаронкаў для снапоў знаходзілася зрубная пабудова з печкай-каменкай — асець ці еўня. Печка-каменка магла знаходзіцца пад асеццю ў асобным прыямку. Каштоўным помнікам народнага дойлідства з'яўляецца гумно пачатку нашага стагоддзя Карпенкава Х. у вёсцы Вашчанка Кармянскага раёна (гаспадар Х. Карпенкаў). Прасторная будыніна са стромкай страхой з шырокімі прычолкамі. Каля варот — прырубка-мякіннік. У сярэдзіне, побач з такоўняй,— зруб, еўня.

У сілуэце вёсак Пасожжа добра прыкметны калодзежы-жураўлі, па 5—6 на паселішча. Будавалі іх спецыяльныя вандруючыя арцелі, ці свае майстры ўскладчыну. Там, дзе вада была надта глыбока, ставілі калодзежы-калаўроты. Іншы раз над такім калодзежам рабілася паветка на слупах з чатырохсхільнай страхой. Ахвотна карысталіся вадой з крыніц. У вёсцы Турышчавічы іх шмат ля берага Сожа. Робяць зрубную надбудову са шчытом-дзверкамі, побач кладуць жэрдку з мудрагелістым кавальскім крукам.

У панараме вуліцы прыцягвае ўвагу і традыцыйны тып агароджы — сасновы «плот». Трывалы і шчыльны, ён іншы раз мае значную вышыню, спалучаецца з пасадкамі дрэў уздоўж вуліцы, ці на межах сядзібы (вёскі Вялікая Грыва, Будзішча, Барсукі Чачэрскага, Князёўка Краснапольскага раёнаў).

Сілуэтнымі арыенцірамі паміж вёскамі некалі былі ветраныя млыны-шатроўкі (інакш галандскія млыны, з рухомай вежай), што стаялі ля вясковых дарог. І сёння яшчэ стаяць цудам захаваўшыяся ветракі ў вёсках Бярозаўка Кармянскага і Тур'я Краснапольскага раёнаў.

Адметнай рысай народнага дойлідства гэтых мясцін з'яўляецца росквіт разьбярства. Хаты ўпрыгожваюць разныя ліштвы. У іх можна бачыць і старажытныя сімвалы-знакі ўрадлівасці, жыцця, сямейнага дабрабыту, цікавыя кампазіцыі розных зместаў. У традыцыйныя кампазіцыі ўдала ўплятаюцца і элементы сучаснай сімволікі.



Вокны з ліштвамі і аканіцамі. Вёска Вялікія Немкі Веткаўскага раёна.

Народнае дойлідства Пасожжа сведчыць аб адметнай, самабытнай культуры гэтага кутка Беларусі. Асобныя двары і цэлыя вёскі па сутнасці з'яўляюцца помнікамі і сведкамі выключнага таленту нашага народа, яго побытавым традыцыям. Мы гэта павінны не толькі ўсведамляць. Мы сёння мусім біць у званы небяспекі, бо большасць з гэтых выдатных тварэнняў народнага духу і ўмельніцтва накрыта чарнобыльскай радыяцыяй. Дзяржаўная праграма па перасяленню абавязкова павінна мець на ўвазе і акалічнасць высокай каштоўнасці помнікаў народнага дойлідства раёнаў Пасожжа. Сёння трэба тэрмінова арганізаваць і навуковыя экспедыцыі, бо калі немагчыма ўратаваць, дык варта хоць бы зафатаграфаваць, апісаць — пакінуць на кінастужках, фотаздымках, паперы тое, што ствралася стагоддзямі.

**Аляксандр ЛАКАТКО**



# ПРАЎДА ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ...

Пасля рэвалюцыі доля сялянскага землекарыстання ў Беларусі павялічылася на 30 працэнтаў. Адбывалася гэта за кошт перадачы сялянам былых памешчыцкіх маёнткаў. Аднак усе сродкі вытворчасці з панскіх гаспадарак перайшлі галоўным чынам да саўгасаў і калектыўных гаспадарак. Аднаасобнікі ж такіх сродкаў не мелі. Таму, калі карыстацца навуковай тэрміналогіяй, з ростам вытворчых сіл вёскі, паглыбленнем грамадскага і ўнутрыгаліновага падзелу працы аб'ектыўна выспявала неабходнасць кааперавання сельскагаспадарчай вытворчасці.

Аснову рэзалюцый «Аб кааперацыі» і «Аб рабоце ў вёсцы» XIII з'езда РКП(б) (май 1924 г.) склалі ленінскія ідэі. Новы этап у распрацоўцы аграрнай палітыкі партыі вызначыла XIV канферэнцыя РКП(б) (красавік 1925 г.), на якой гаворка ішла пра практычнае ўвасабленне гэтых ідэй. Усім групам насельніцтва, якія займаліся сельскай гаспадаркай, давалася права ўдзельнічаць у кааперацыі, палягчаліся ўмовы прымянення наёмнай працы і арэнды зямлі. Партыйным і савецкім органам на месцах забаранялася адміністрацыйнае ўмяшанне ў кааперацыйную працу. Вынікі такой палітыкі адчуліся хутка: калі на 1 кастрычніка 1924 г. сельскагаспадарчая кааперацыя аб'ядноўвала 4,6 працэнта сялянскіх гаспадарак, дык у 1927 г.— ужо 35,9. У рэзалюцыі X з'езда КП(б) Беларусі (студзень 1927 г.) «Вынікі гаспадарчага будаўніцтва і далейшыя задачы КП(б)Б» падкрэслівалася: «Узмацненне сацыялістычных элементаў вёскі ў асноўным павінна дасягацца шляхам умацавання сельскагаспадарчай кааперацыі — праз арганізацыю цэлага шэрагу спецыяльных відаў аб'яднанняў: масларобных, сыраварных, машынных, жывёлагадоўчых, таварыстваў па апрацоўцы торфу, меліярацыйных, насенных і да т.п.». Напярэдадні «вялікага пералому» да сельскагаспадарчай кааперацыі далучылася ўжо болей як 69 працэнтаў сялянскіх гаспадарак.

Пашыраліся і ўмацоўваліся эканамічныя сувязі горада і вёскі (калі ў 1924—1925 гг. у Беларусі было нарыхтавана 6519 тон мяса, дык у 1925—1926 гг. ужо 8257 тон). Актывізавалася забеспячэнне вёскі прамысловымі таварамі, рос яе дабрабыт. З 1921 да 1926 г. спажыванне малака на душу насельніцтва вырасла ў 2 разы, мяса і мясных прадуктаў — у 2,2 раза, алею — у 3, цукру — больш як у 8, рыбы — у 11,7 раза.

Такім чынам, былі ўсе ўмовы, каб на аснове агульнага вытворчага ўздыму вёскі (а значыць, і эканамічнага росту краіны ўвогуле) стварыць магутны сектар калектыўнага земляробства. Заканамерна паўстае пытанне: чаму ж тады, на рубяжы 20—30-х гадоў, сталінскае кіраўніцтва здзейсніла «рэвалюцыю зверху» і правяло прымусовую, «палачную» калектывізацыю? Чаму эканамічныя метады гаспадарання падмянілі рэпрэсіўна-мабілізацыйнымі?

Індустрыялізацыя і звязаная з ёю урбанізацыя нарадзілі павышаны попыт на сельскагаспадарчыя прадукты і сыравіну. Апроч таго, вёска мусіла ўдзельнічаць і ў фінансаванні індустрыялізацыі, рэалізуючы на сялянскім рынку прамысловыя тавары. Але неспрыяльныя суадносіны цэн на збожжа ў параўнанні з цэнамі на мяса і тэхнічныя культуры не спрыялі продажу лішкаў збожжа, таму зімой 1927—1928 гг. у краіне разгуляўся хлебанарыхтоўчы крызіс. Экспарт збожжа ўпаў да нуля, пад пагрозай аказаліся планы індустрыялізацыі. У гарадах давялося ўвесці сістэму забеспячэння прадуктамі па картках.

У 1929 г., пераадолеўшы супраціўленне групы Бухарына, якая шукала выйсце на шляхах нармалізацыі рынку, часовага закупу збожжа за мяжой, поўнага скарачэння капіталаўкладанняў у цяжкую прамысловасць, Сталін і яго паплечнікі ўзялі курс на ўжыванне надзвычайных мер, сілавога націску на сялян.Былі ўключаны ўсе рычагі. На першым месцы аказаліся адміністрацыйна-рэпрэсіўныя меры: харчразвёрстка, забарона свабоднага гандлю, павальныя вобыскі, загараджальныя атрады, прымусовы захоп збожжа, арышты. Усё гэта нагадвала 1918 г., перыяд «ваеннага камунізму». Толькі за студзень — люты 1928 г. у сялян Беларусі было гвалтам забрана каля 70 тысяч пудоў хлеба. Згодна з дадзенымі статыстыкі, у канцы 20-х гадоў у асноўнай масе сялянства запасы збожжа не перавышалі неабходных страхавых фондаў. Аднак, нягледзячы на гэта, у 1927—1928 гаспадарчым годзе ў беларускіх сялян было забрана ў 3,5 раза больш збожжа, чым годам раней.

У наступным, 1928—1929 гг. у час нарыхтоўкі збожжа ўсё паўтарылася. Зноў ужываліся надзвычайныя меры, зноў панаваў прымус. Паколькі прамысловасць «пасадзілі» на бюджэт, спатрэбіліся новыя крыніцы даходаў. Перш за ўсё іх знайшлі ў аднаўленні дарэвалюцыйнай манаполіі на гарэлку. Калі ў 1927 г. яе продаж даў дзяржаве 500 мільёнаў рублёў прыбытку, дык у 1934 г.— каля 7 мільярдаў. Была ўведзена валютная манаполія, чырвонец зрабіўся ўнутранай валютай і страціў канвертуемасць, шмат якія заклікі ў эканоміцы пакрываліся залішняй эмісіяй папяровых грошай. А галоўным напаўняльнікам дзяржаўнай казны мусіла стаць сялянства. Сталінская ідэя была ў тым, каб пазабіраць у сялян хлеб і заплаціць гэтым хлебам за імпартныя машыны, здзейсніўшы такім чынам тэхналагічны скачок у ажыццяўленні індустрыялізацыі без усялякіх дадатковых выдаткаў.

Канчатковае вызначэнне лёсу савецкага сялянства адбылося на працягу 1929 г. Ухвалены XVI партыйнай канферэнцыяй і прыняты на V З'езде Саветаў (май 1929 г.) першы пяцігадовы план прадугледжваў да канца 1933 г. аб'яднаць у калгасах 18—20 працэнтаў сялянскіх гаспадарак. Калгасам належала асвоіць 20 працэнтаў усіх пасеўных плошчаў, каб доля іх валавой прадукцыі ўзнялася з 1 працэнта ў 1927—1928 гг. да 11,4 працэнта ў 1932—1933 гг., каб яны змаглі даць краіне больш як 500 мільёнаў пудоў збожжа. Па Беларусі да канца пяцігодкі планавалася

к у ЦК КП(б) Беларусі паступіла аператыўка «Пра выпадкі апухання ад голаду у калгасе «Перамога» Астрашыцка-Гарадоцкага сельсавета». Вось вытрымка з гэтага дакумента: «...У гэтым калгасе на працягу некалькіх апошніх месяцаў амаль цалкам адсутнічаюць хлеб, бульба, крупы і г. д., і калгаснікі ў большасці выпадкаў жывяцца травой, якую вараць і забельваюць малаком. За апошні тыдзень ёсць выпадкі апухання ў асобных калгаснікаў ног, рук, твару, і ў час працы людзі валяцца з ног... Па наяўных дадзеных, аналагічнае становішча склалася ў калгасах Молатава і «Прамень сацыялізму».

Як бачым, галадалі людзі і ў нашай рэспубліцы, хаця голад набыў не такія маштабы, як на Украіне. Аднак спецыяльныя даследаванні на гэтую тэму ў рэспубліцы не праводзіліся. Мусіць, пазней пра гэта можна будзе весці гаворку больш кваліфікавана і падрабязна.

І яшчэ некалькі лічбаў. Па шэрагу паказчыкаў калгасы намнога адставалі ад асабістых сялянскіх гаспадарак. Напрыклад, у 1940 г. удзельная вага калгасаў, саўгасаў і іншых грамадскіх гаспадарак рэспублікі ў вытворчасці мяса складала ўсяго 11,4 працэнта, малака — 13,2, бульбы — 34, воўны — 12,2, збожжавых культур — 51,2 працэнта і г. д., хаця ў карыстанні грамадскіх гаспадарак было 57,1 працэнта пасеўных плошчаў. У выніку сукупная сельскагаспадарчая вытворчасць у разліку на душу насельніцтва складала нават у канцы 30-х гадоў каля 85 працэнтаў сярэднегадавой сельскагаспадарчай вытворчасці нэпаўскай пары.

Сельская гаспадарка так і не змагла ліквідаваць цяжкіх вынікаў тае разбуральнай віхуры, якой можна назваць практыку і метады суцэльнай калектывізацыі ў 30-х гадах. Калектывізацыя ператварылася ў адно з буйнейшых палітычных злачынстваў у сусветнай гісторыі.

**Уладзімір АСМАЛОЎСКІ**

# МАНЕТЫ З КРЫЧАВА І МСЦІСЛАЎЛЯ

«Зноў прыйшлі золата шукаць!» — такімі словамі старая бабуля ці сівы дзядок часта праводзяць археолагаў, што летам са сваімі пляцакамі і рыдлёўкамі з'яўляюцца на вуліцах старажытных беларускіх гарадоў і мястэчак. Бо што ж яшчэ можна шукаць у зямлі, перабіраючы рукамі кожную яе жменьку, як не золата, ці, у горшым выпадку, сярэбраныя манеты? І калі цікаўныя людзі бачаць раскладзеныя на сонцы толькі што знойдзеныя знаходкі археолагаў — бітыя гаршкі, шкляны і керамічны посуд, кавалкі кафлі, то пачынаюць даваць парады, дзе шукаць схаваныя недзе бочкі з золатам.

Але Беларусь не Егіпет і не Фракія, і таму на залатыя прадметы археолагам шанцуе не часта. Праўда, зрэдку трапляюцца такія унікальныя рэчы, як Вішчынскі скарб, залаты пярсцёнак полацкага князя, ці скарб сярэбраных манет.

Мы хочам расказаць пра дзве такія цікавыя і рэдкія знаходкі.

Летам 1976 г. кіраўнік Днепра-Сожскага археалагічнага атрада Інстытута гісторыі АН БССР вёў раскопкі на Замкавай гары ў Крычаве, акурат па цэнтры дзядзінца. Як гэта ўжо водзіцца, «золата» з языка ў адвечных памочнікаў археолагаў — мясцовых школьнікаў — не сходзіла. Адзін марыў пра гаршчок з ім, другі пра чайнік з залатоўкамі і аўтарытэтна спасылаўся на дзядзьку, які на ўласныя вочы бачыў, як у Віцебску, на старым Смаленскім базары, экскаватарам адкапалі такі чайнік, трэці хацеў чамусьці адкапаць вялікі залаты «хрэст». Чацвёрты, Саша Ласукевіч, толькі пасміхаўся і ў час адпачынку пацікавіўся, што і колькі каму будзе, калі золата ўсё ж адкапаем. І такі трапіла яно яму, гэтаму чацвёртаму! Аднак ён і хітруном аказаўся! Калі блiснула пад рыдлёўкаю манета, спакойненька ўзяў яе, засунуў у кулак і схаваў у кішэню. І — нічога нікому. Праз нейкі час, калі нікога побач не было, падышоў. Хітра прыжмурыўшы вока, яшчэ раз удакладніў: «Дык што будзе таму, хто знойдзе золата?» Я паабяцаў яму не менш як Ленінскую прэмію. І тады ён не без хвалявання раскрыў сваю «страшную таямніцу» — на далоні гарэла жарынаю невялікая залатоўка...

Як удалося высветліць з дапамогаю вядомага на ўвесь Саюз беларускага нумізмата В. Н. Рабцэвіча, манета аказалася сапраўды унікальнай для Беларусі. Гэта быў добра вядомы па пісьмовых сярэдневяковых дакументах «угорскі дукат». Яго чаканілі ў Венгрыі на манетным двары Крэмніц у часы караля Сігізмунда-Люксембурга (1387—1437 гг.). На Беларусі «ўгорскі дукат» знойдзены ўпершыню, хаця ў пісьмовых крыніцах XV—XVIII ст.ст. згадваецца многа разоў.

Другая залатая манета знойдзена намі ў 1987 г. у старажытным Мсціславе. Студэнты будатрада «Дойлід», што працавалі на археалагічных раскопках, залажылі шурф каля касцёла кармелітаў, каб аднавіць стары ўваход. Прыбралі будаўнічае смецце і пачалі выбіраць чорны культурны слой, перамешаны з жоўтым суглінкам. На глыбіні каля 80—90 см, разам з кавалкамі паліванай керамікі і шклянога посуду, і быў знойдзены залаты галандскі дукат 1652 года. Манета гэтая бітая ў горадзе Кампен у часы панавання Фердынанда III.

Як трапіла сюды гэтая манета і хто-быў яе ўладальнік? Магчыма, яна належала заможнаму шляхцюку, якіх шмат было ў той час на службе ў мсціслаўскім замку, а згубіць яе мог уладальнік пад час гарачых ліпеньскіх баёў за горад і яго ваколіцы, што разгарнуліся тут у 1654 г., калі войска царскага ваяводы Трубяцкога абрынулася на Мсціслаў і яго абаронцаў.

...Небагатая на золата зямля беларуская. І толькі зрэдку блісне з глыбіні далёкіх стагоддзяў аскабалак жыцця тутэйшага люду, які быў звязаны культурнымі і гандлёвымі сувязямі з суседзямі і з гонарам прымаў далёкіх гасцей.

**Міхась ТКАЧОЎ,**
**Алег ТРУСАЎ**

*Ілюстрацыі гл. на каляровай уклейцы.*

**Падчас падрыхтоўкі нумара да друку рэдакцыя атрымала нью-йоркскую газету «Беларус» (сакавік, 1990) з артыкулам, які праліваe новае святло на загадку паходжання беларускіх марак (гл. уклейку). Змяшчаем яго без скарачэнняў.**

# СЫМБОЛІКА І АЎТАРЫ МАРАК БНР

*(Паводля матар'ялаў брытанскага дасьледніка Гая Пікарды)*

У энцыкляпэдычным даведніку «Францыск Скарына і яго час» (Менск, 1988) да артыкулу «Філятэлія і філякартыя» зьмешчаная ілюстрацыя — паштовая марка з партрэтам Ф. Скарыны. Гэта, думаецца, адна зь першых трох марак, выпушчаных урадам БНР у 1918 годзе. Марка з Ф. Скарынам з дэнамінаалам 2 рублі, іншыя былі з выяваю «Пагоні» (3 рублі) і аратага (5 рублёў).

Бальшыня дасьледнікаў пагаджаюцца на тым, што гэта — самыя раньнія паштовыя віньеткі БНР. Такое меркаваньне падтрымваецца чыста беларускім характарам малюнкаў на марках. Маркі гэтыя прызначаліся для ўжытку па цэлай Беларусі, у адрозьненьне ад БНР-аўскіх марак «Асобнага Атраду», выдадзеных у Рызе ў 1920 годзе. Што да даты выпуску й месца друку гэных найпершых марак, дык тут паўстаюць разыходжаньні.

На думку Г. Пікарды, пастанова аб іхным выданьні магла быць прынятая ў Менску 19—21 лютага 1918 г., калі быў створаны першы Народны Сакратарыят (урад) Беларусі на чале зь Язэпам Варонкам. З усіх сямёх урадаў БНР пэрыяду 1918—1925 гадоў толькі ў першым быў міністар пошты й тэлеграфу А. Карач.

Што да аўтараў рысункаў, дык рысунак скарынаўскае маркі мог быць узяты з паштоўкі 1917 году, калі адзначаліся 400-я ўгодкі ад выхаду Скарынавага пераклаay Біблії. Тады ў ведамай друкарні М. Кухты ў Вільні выйшла паштоўка з партрэтам Скарыны, выдадзеная Беларускім Выдавецкім Таварыствам. У Вільні было даволі мастакоў і крыніцаў беларускае гісторыі, каб замовіць там зь Менску пасьля сакавіка 1918 году, калі фронт пайшоў далёка на ўсход, і беларускія маркі.

На Вільню, як месца выданьня марак, паказвае таксама й марка з аратым. Аўтарам рысунку яе мог быць адзін з найбольш таленавітых мастакоў Фэрдынанд Рушчыц (1870—1936), які паходзіў з Багданава на Валожыншчыне з каталіцкае сям'і і ўважаў сябе за «тутэйшага».

Рушчыц у сваёй творчасьці шмат увагі прысьвячаў тэмам зямлі і вясковага быту. Імя Рушчыца фігуруе ў каталёгах сьвету, як рысавальніка паштовых марак. Нарысаваная ім марка для эфэмэрнай дзяржавы «Сярэдняй Літвы» (1922 г.), арганізаванае польскім генэралам Жэлігоўскім, вельмі нагадвае БНР-аўскую марку з аратым 1918 году. Дарэчы вельмі падобны матыў аратага бачым на першым календары «Нашае Ніва» (1910 г.).

Да найбольш прафэсійна выдадзеных марак БНР належыць сэрыя марак, часамі падаваная ў каталёгах Гібанса (S. Gibbons) і інш., з выяваю сялянскае пары і надпісам «Асобны Атрад». Сэрыя гэтых марак выйшла ў пяцёх дэнамінаалах (5 кап., 10 к., 15 к., 50 к. і 1 руб. адпаведна зялёная, чырвоная, фіялетавая, блакітная і бурнатая). Рысунак гэтае маркі — работа ведамага латыскага гравёра Р. Сарыньша (да рэвалюцыі ведамага як Зарын)*, які рысаваў шмат якія царскія юбілейныя выпускі, а пасьля — латыскія дый савецкія.

Маркі «Асобнага Атраду» выйшлі стараньнямі палкоўніка Кастуся Езавітава (1893—1946), які ўзначальваў ваенную дыпляматычную місію БНР у Латвіі й Эстоніі. Маркі былі прызначаныя для ўжытку галоўна войска БНР, асабліва ў раёне разьмяшчэньня Беларускага батальёну ў Дзьвінску ** у усходняй Латвіі (студзень — ліпень 1920 г.).

* Больш правільная транслітарацыя — Р. Зарыньш. Аўтар герба Латвійскай Рэспублікі.
** Зараз Даўгаўпілс.

Даследуючы нашу мінуўшчыну, заўсёды сутыкаешся з неабходнасцю пераасэнсавання і разбурэння «аксіём», якія ўкладалі, можна сказаць, убівалі ў школе і ВНУ ў нашыя галовы.

Вось адна з іх: «**беларус** (усюды падкрэслена намі — **А. Ц.**) Ф. Скарына ў **літоўскім** горадзе Вільня на **рускай** мове надрукаваў кніжку». Калі пачынаеш удумвацца ў такія сцверджанні, бачыш — гэта яўная абракадабра, якую паўтараюць, не задумваючыся. Таксама як і тое, што першадрукаром на сучаснай тэрыторыі СССР з'яўляецца Іван Фёдараў. У апошнім выпадку патрэбна проста адмінусаваць ад даты 1564 (год, калі І. Фёдараў выдаў у Маскве «Апостала») дату 1525 (год, калі Ф. Скарына скончыў друкарскую справу ў Вільні). І атрымаецца, што праз 39 год пасля вялікага палачаніна І. Фёдараў друкаваў «Апостала». І яшчэ — навошта рабіць гэта ў чужым горадзе? Адказ жа вельмі просты — **беларус** Скарына ў **беларускім** горадзе, на тагачаснай **беларускай** мове друкаваў для свайго народа кніжкі.

Здавалася, усе культурныя людзі ўжо ведаюць, што Вільня стагоддзямі была цэнтрам беларускай культуры.

Аж не, у мінулым годзе выходзіць брашура У. Доктарава «Нябесныя ахоўнікі хрысціян», дзе аўтар піша: «Православная церковь чтит трёх виленских мучеников: Антония, Иоанна и Евстафия (по литовски — Кумець, Нежило, Круглець)». Хіба трэба быць філолагам, каб убачыць і пачуць, як па-славянску, па-беларуску гучаць гэтыя імёны! Успомнім хаця б Віцебскую берасцяную грамату, якая прыводзілася і зараз прыводзіцца ва ўсіх школьных падручніках «Ад Сцяпана да Няжылы...» (Абэцэдарскі Л. С., Баранава М. П., Паўлава Н. Г. Гісторыя БССР пад рэд. Петрыкава П. Ц. выд. VI з VII рускага. Мінск, 1982, с. 24). Гэта вам не Кумайціс, Нежылайціс і Круглайціс!

Кумец, Няжыла і Круглец — славяне, карэнныя жыхары Віленшчыны. Нават у сярэдзіне XIX ст. на Заходняй Беларусі навукоўцамі фіксаваліся паселішчы чарнарусаў. Апошнія не адрозніваліся ад беларусаў ані мовай, ані звычкамі. Трэба ведаць, што з часоў паганства белымі русамі зваліся — ахрышчаныя, а чорнымі — іхнія неахрышчаныя браты. Хрысціянства прыходзіла і на гэтыя землі з пэўнымі цяжкасцямі, часам трагічна, тым болей, што язычніцкі элемент быў тут асабліва моцным. Што сталася прычынай смерці віленскіх пакутнікаў — гэта тэма асобнай размовы. Але яны — нашы!

І сёння да кананізаваных праваслаўнай царквой 14 беларускіх святых мы маем поўныя падставы далучыць і віленскіх пакутнікаў — Антонія (Кумца), Іаана (Няжылу) і Еўстафія (Круглеца).

**Анатоль ЦІТОЎ**

*Сказанне пра трох віленскіх пакутнікаў*

# ПАМЯЦЬ СВЯТЫХ НОВАЯЎЛЕНЫХ ПАКУТНІКАЎ АНТОНІЯ, ІААНА, ЕЎСТАФІЯ

Верш: *Утраіх памёрлі тры сябры-літвіны,*
*і сёння ўяўна гінуць гэтыя ваяводы.*

Антоній і Іаан былі браты з Літоўскага горада і служылі агню, як і іншыя іх супляменнікі. Палюбіўшы ўсёю душою хрысціянскае добрачынне, прыйшлі да святара Нестара, ад якога і атрымалі Божае хрышчэнне. І быў названы старэйшы брат Іаанам, а малодшы — Антоніем. І жылі яны па-хрысціянску. Служылі ж браты ў Літоўскага князя Альгерда. І не казалі нікому яны, што зрабіліся хрысціянамі. Але паколькі не маглі ўтаіцца, бо змянілі свае звычаі і лад жыцця і адрозніваліся ад астатніх, якія галілі галовы і стрыглі бароды, то спытаў іх князь, ці не хрысціяне яны, і тыя смела прызналіся ў гэтым. Тады сталі іх змушаць адрачыся дабрачыння (хрысціянскага) і з'есці на трапезе ахвярнага мяса. Але дзень быў посны, і тыя адмовіліся, і за гэта трапілі ў змрочную Ірадаву вязніцу, але так радаваліся і весяліліся, што пацярпелі за імя Хрыстовае, быццам не ў вязніцу іх адвялі, а на царства.

Калі ж прайшоў год, Іаан змаладушнічаў, збаяўшыся пакут, і паслаў да князя з маленнем вызваліць яго з вязніцы, абяцаючы рупліва выконваць усё, што яму загадаюць. І здавалася, быццам ён зрабіўся адзінаслаўны астатнім і падобны верою да паганых, але ўпотай (бо страшыўся пакутаў), застаўся ён хрысціянінам. Тады ж быў вызвалены і Антоній. І, жывучы на волі, абодва не адчувалі да сябе ніякага зла, хаця Антоній, у адрозненне ад Іаана, не таіўся, што ён хрысціянін і адкрыта выказваў сваю веру, і брату наказваў тое ж рабіць, спадзеючыся пераканаць яго ў гэтым.

І аднойчы стаялі яны перад князем, як зазвычай. І Іаан еў ахвярнае мяса. Антонію ж таксама было загадана есці, але той адмовіўся, адкрыта абвяшчаючы сябе хрысціянінам. Тады яго зноў кінулі ў яму-вязніцу. Іаана ж паганыя схілялі адмовіцца ад хрысціянства і дапякалі за тое, што захаваў праўдзівую веру, якую той пасля ўжадаў і падтрымаў. І прыйшоў ён тады да памянёнага прэзвітэра Нестара, молячы яго дапамагчы прымірыцца з братам, каб той дараваў яму. Але, пачуўшы пра гэта, Антоній сказаў: «Не буду з ім нават і размаўляць, пакуль адкрыта не спавядае добрую веру». І стаў чакаць Іаан зручнага моманту, каб абвясціць, што ён хрысціянін. І аднойчы стаяў ён перад князем, як зазвычай, прыслугоўваючы таму ў лазні. Тады ён і прызнаўся адкрыта, што застаўся хрысціянінам. І тут жа паводле князевага загаду білі яго і рукамі, і кіямі, а пасля кінулі ў вязніцу. І рады быў гэтаму ён, і брата яго ахапіла душэўная дабрыня. І сядзелі абодва яны ў вязніцы, дзякуючы Богу за тое, што Ён даў ім пацярпець дзеля Яго. І прымалі Антоній і Іаан прычасць Боскіх Хрыстовых тайнаў ад памянёнага іерэя.

Прайшло некалькі год. Антоній быў засуджаны на смерць і, даведаўшыся пра гэта, не спаў усю ноч, а прыйшоў да брата і ўмацоўваў дух ягоны і, успамінаючы ранейшае ягонае падзенне, рыхтаваў яго да пакут і прадказваў, што і той праз колькі дзён прыме такую смерць. І прычасціліся абодва Боскіх тайнаў. А ўдзень быў задушаны Антоній, і так аддаў Богу душу 14 красавіка. Праз некалькі ж дзён пасля пакарання Антонія — 24 красавіка — і Іаан прысуджаны быў да такой самай смерці. Святыя ж іх мошчы пахавалі пачэсна верныя (хрысціяне).

Еўстафій быў юнак у шчаслівых гадах, мужны, прыгожы і доблесны духам і целам. Пажадаўшы ўсёю душою стаць хрысціянінам, ён хрысціўся ад памянёнага іерэя Нестара, і з таго часу пачаў выконваць рупліва Хрыстовыя запаведзі, узрастаючы ў Божай любові, пасцячыся і павучаючы іншым дабрачынствам. А быў ён ушанаваны князем начальствам і ўладаю. Аднойчы, калі Еўстафій быў з князем на ловах, той убачыў, што ні барада яго, ні валасы на яго галаве не астрыжаныя. Бацька ж вогнепаклоннікаў — дабраненавіснік д'ябал — даў звычай паганым стрыгчы валасы на галаве і абразаць бароды. Еўстафій жа не звяртаў увагі на целе, і ўсе злачынныя і дурныя звычаі плоцкія адхіліў і валасы не абрэзаў. Калі ж убачыў гэтае князь, то спытаў, ці не хрысціянін ён. Той жа смела абвясціў сябе хрысціянінам, чым прывёў князя ў вялікі гнеў і шаленства. І спрабаваў князь адхіліць яго ад беззаганнае веры, і спачатку стаў прымушаць яго з'есці мяса, але, паколькі была пятніца і пост перад Хрыстовым Нараджэннем, Еўстафій не захацеў. Князь жа, угледзеўшы, што той і зірнуць на мяса не хоча, ярасцю запаліўся. І наказаў спачатку біць яго кіямі бязлітасна. І стаяў Еўстафій, а слугі білі яго неміласэрна. Пакутнік жа не праліў ні слязінкі, не застагнаў, але дзякаваў (Богу) як чалавек, што далучаецца да святых Яго. А гэта прывяло князя ў яшчэ большую ярасць і гнеў. І той загадаў прынесці сцюдзёнай вады і ўліваць яе ў вусны Еўстафію, і хаця ад гэтага холаду пасінела цела яго, той усё роўна не захацеў нават і дакрануцца да мяса. Тады прыгатавалі яму цяжэйшую муку: перабілі косці на ягоных нагах ад пят і да самых каленяў і зрэзалі валасы з галавы яго разам са скураю і адрэзалі вушы і нос. І цярпеў ён такія пакуты тры дні, і яшчэ павучаў іншых улюблёных хрысціян, што плакалі і рыдалі па ім, як па ўміраючым.

І загадаў мучыцель павесіць яго. І, нягледзячы на перабітыя бёдры й галёнкі, Еўстафій ішоў, як звычайна, нібыта і не пакутаваў горка. А тых, хто павінен быў весці яго, нават і апярэджваў. І так падышлі да дуба. І там павесілі яго на вяроўцы за шыю. Так 13 снежня ён і аддаў душу Госпаду. І вісеў ён там тры дні, і не кранулі яго цела звяры. А потым нейкія набожныя хрысціяне знялі цела яго і пахавалі, дзякуючы Богу.

І вось дзіва, якім уславіў Бог Сваіх страстацерпцаў: пасля іх смерці на тым месцы ніводзін асуджаны не быў больш пакараны.

І сабраліся хрысціяне, і сталі прасіць князя аддаць ім гэтае месца, каб пабудаваць тут свяшчэнную царкву. Той пагадзіўся і аддаў ім названае месца. І пабудавалі яны царкву ў славу Божую. І прынеслі часткі ад свяшчэнных мошчаў гэтых святых у найсвяцейшую вялікую ўсяленскую царкву, там былі яны пакладзены пачэсна. І шмат каго мошчамі гэтымі вылечылі ў славу й хвалу вялікага Бога і Спаса нашага Ісуса Хрыста, Якому слава, пашана і пакланенне з Бацькам і Святым Духам цяпер і заўсёды і ў вякі вякоў. Амін.

# «ШМАТ ВАЯВАЎ І ЗАЎЖДЫ ПЕРАМАГАЎ»

Так характарызуецца ў беларуска-літоўскіх хроніках XVI ст. дзейнасць князя Тройдзеня (1270—1282), які актыўна працягваў на літоўска-беларускіх землях аб'яднаўчую палітыку сваіх папярэднікаў Міндоўга і Войшалка, палітыку пашырэння межаў маладой Літоўска-Беларускай дзяржавы і яе ўмацавання. Гэтая дзейнасць сутыкалася з жыццёвымі інтарэсамі суседніх земляў і княстваў, асабліва Галіцка-Валынскай Русі, князі якой імкнуліся захаваць свой уплыў на Падляшша і Чорную Русь. Барацьба між гэтымі маладымі дзяржавамі была цяжкай і бязлітаснай, пра што сведчаць запісы ў Галіцка-Валынскім летапісу, з якім мы знаёмім чытачоў «Спадчыны».

Зразумела, што галіцка-валынскія летапісцы ўхвальна апісвалі дзейнасць уласных князёў, нават калі тыя хадзілі крыжовымі паходамі з агнём і мечам на яцвягаў ці адзінаверных суайчыннікаў у верхнім Панямонні, і рэзка адмоўна ставіліся да іх супернікаў. Магчыма, князь Тройдзень і сапраўды вызначаўся большай жорсткасцю ў параўнанні з іншымі і заслужыў такія моцныя эпітэты ад старажытнарускага летапісца. Аднак трэба падкрэсліць, што такія аднабаковыя, катэгарычныя характарыстыкі паводле прынцыпу белы-чорны, дабрадзей-злачынец, анёл-чорт былі цалкам у духу тагачасных эстэтычных нормаў, паглядаў сярэднявечча. Тым не меней,

нават з апісанняў варожа настроеных летапісаў узнікае вобраз князя — воя, якога баяліся супернікі. Галіцка-Валынскі летапіс не паведамляе пра час і абставіны смерці князя Тройдзеня. Беларуска-літоўскія ж храністы эпохі Адраджэння сцвярджаюць, што яго забіў родны брат Доўмант. Гэта, несумненна, адвольная перапрацоўка вядомага сюжэта з жыцця Міндоўга. Дакладных звестак пра апошнія гады князя Тройдзеня гістарычныя крыніцы не захавалі. Невядома таксама, якім чынам ён, князь яцвяжскі і даўнаўскі, як называюць яго беларуска-літоўскія хронікі XVI ст., заняў вялікакняскі трон.

Пададзеныя ніжэй летапісныя запісы раскрываюць яшчэ некалькі важных момантаў з палітычнага жыцця Літвы і Беларусі эпохі сярэднявечча, даюць цікавыя звесткі і з гісторыі беларускай культуры таго часу. Напрыклад, мы даведваемся, што горад Камянец заснаваў галіцка-валынскі князь Уладзімір Васількавіч, што па яго загаду быў узведзены ў гэтым горадзе «слуп каменны вышынёю ў 17 сажняў» (Камянецкая вежа) і такі ж слуп у Бярэсці, які, на жаль, не захаваўся да нашага часу.

Уважлівы чытач знойдзе тут і іншую каштоўную інфармацыю: што ўжо ў XIII ст. існаваў у Навагрудку добра ўмацаваны замак, што на заходнебеларускіх землях рассяляліся не толькі яцвягі, але і прусы і інш. Горад Драгічын, які тут згадваецца,— гэта той, што на Бугу ў Падляшшы.

Сюжэтам пра князя Тройдзеня завяршаецца асноўная частка так званых літоўскіх звестак Галіцка-Валынскага летапісу. Далей наступае, бадай, адзін з найбольш цьмяных перыядаў у гісторыі Вялікага княства Літоўска-Беларускага, пра які звесткі супярэчлівыя і нязначныя. З часоў жа князя Гедыміна мы маем сваё ўласнае летапісанне, і пра вояў, князёў і гістарычныя падзеі апавядаюць ужо беларуска-літоўскія летапісцы.

**У год 6778 (1270).** Пачаў княжыць у Літве злачынны, беззаконны, пракляты, нялітасны Тройдзень. Злачынствы ж яго не можам апісаць: такія яны ганебныя. Ён быў такі ж злачынец, як і Антыёх Сірыйскі, Ірад Ерусалімскі і Нерон Рымскі, і шмат іншых, яшчэ горшых, чым яны, злачынстваў учыніў. Пракняжыўшы 12 гадоў, памёр злачынец. Былі ў яго браты Борза, Сірпуці, Лесі і Свялкені. Жылі яны ў святым хрышчэнні, жылі ў любві, ціхмяна і пакорліва, трымаліся праваслаўнай веры, больш за ўсё любілі веру і міласціну чыніць. Яны памерлі яшчэ пры жыцці Тройдзеня.

**У год 6782 (1274).** Тройдзень яшчэ княжыў у Літоўскай зямлі і жыў з [князем] Львом у поўнай згодзе, яны пасылалі адзін аднаму шмат падарункаў. З Уладзімерам жа ён не жыў у поўнай згодзе, таму што бацька Уладзімера, князь Василька, забіў у час войнаў трох братоў Тройдзеня. Вось чаму ён не жыў з ім у згодзе, а ваяваў з ім, хоць і не было вялікіх войнаў. Тройдзень, пасылаючы крадком пешых вояў, ваяваў [зямлю] Уладзімера, а Уладзімер такім жа чынам ваяваў [зямлю Тройдзеня]. Так яны ваявалі цэлы год.

Пасля Тройдзень, забыўшыся на згоду з Львом, паслаў гарадзенцаў захапіць Драгічын. І быў з імі Трыд, ён ведаў [гэты] горад [і ведаў], як можна яго ўзяць. Ён выступіў ноччу, і так яны захапілі горад на самы Вялікдзень і ўсіх перабілі. Уведаўшы пра гэта, Леў вельмі засмуціўся і стаў рыхтавацца да вайны. Ён паслаў паслоў да татар, да вялікага цара Меньгу-Цяміра, просячы ў яго дапамогі супраць літоўцаў. Меньгу-Цямір даў яму войска, а з ім ваяводу Ягурчына, і даў яму ў дапамогу ўсіх задняпроўскіх князёў: Рамана Бранскага з сынам Алегам, і Глеба, князя смаленскага, і шмат іншых князёў. Былі тады ўсе князі ў волі татарскай.

Калі надыйшла зіма, пачалі збірацца рускія князі [у паход на Літву]— Леў, Мсціслаў і Уладзімер. Пайшлі з імі і князі пінскія і тураўскія. Калі яны ішлі каля Турава к Слуцку, то каля Слуцка злучыліся з татарамі. І так усе разам пайшлі к Навагрудку. Не дайшоўшы да ракі Сервеч, яны спыніліся на начлег. Назаўтра, рана ўстаўшы, пайшлі і перайшлі раку на дасвецці і дачакаліся світання. І калі пачало ўзыходзіць сонца, сталі рыхтаваць войска да бою. Падрыхтаваўшы войска, пайшлі да горада [Навагрудка]. Татары ішлі справа сваім палком, побач з імі ішоў Леў са сваім палком, а злева ад яго ішоў Уладзімер са сваім палком.

[Неўзабаве] прыслалі татары да Льва і Уладзімера [пасланца], так кажучы: «Нашыя юныя воі бачылі, што рать стаіць за гарою: пара ідзе з коней. Пашліце верных людзей з нашымі татарамі, няхай паглядзяць, што гэта такое». І яны паслалі з імі верных людзей. Тыя паехалі і ўбачылі, што няма [ніякай] раці, а пара ідзе з крыніц, што цякуць з гор, бо быў моцны мароз.

І так яны падыйшлі да горада і спыніліся каля яго. Мсціслаў жа не прыйшоў, бо ён пайшоў ад Капыля, ваюючы па Палессі. Не прыйшлі ні Раман [Бранскі], ні Глеб [Смаленскі], князі задняпроўскія, толькі адзін Раман, сын Рамана, прыйшоў, бо ён прыйшоў раней з татарамі. Татары вельмі хацелі, каб Раман прыйшоў. Леў жа ашукаў сваіх братоў: патаемна ад Мсціслава і Уладзімера ён разам з татарамі ўзяў вакольны горад, а замак застаўся. Назаўтра пасля ўзяцця горада прыйшлі Раман і Глеб з вялікім войскам. Загневаліся ўсе князі на Льва: Мсціслаў, Уладзімер, і цесць яго Раман Бранскі, і Глеб Смаленскі і шмат іншых князёў — усе яны раззлаваліся на яго, што ён не палічыў іх за людзей, сабе роўных, а сам з татарамі ўзяў горад. Князі задумалі, каб усім разам узяць Навагрудак, а пасля ісці ў зямлю Літоўскую. Аднак раззлаваўшыся на Льва, яны не пайшлі [туды] і вярнуліся дамоў.

**У год 6784 (1276).** Прыйшлі прусы да Тройдзеня, выгнаныя са сваёй зямлі немцамі. Ён прыняў іх і пасяліў частку іх у Гародні, а другую частку ў Слоніме. Уладзімер жа, параіўшыся з Львом, братам сваім, паслаў сваю рать к Слоніму, і захапілі прусаў, каб яны [больш] не сяліліся ў гэтай зямлі. Пасля гэтага Тройдзень паслаў брата свайго Сірпуція і ваяваў каля Каменя. Уладзімер жа паслаў супраць яго [войска] і ўзяў у яго Турыйск на рацэ Нёман і сёлы навакольныя захапіў. Пасля гэтага яны памірыліся і сталі жыць у вялікай згодзе.

Потым уклаў бог добры намер у сэрца князя Уладзімера, пачаў ён думаць, дзе б за Бярэсцем паставіць горад... І стаў шукаць ён зручнае месца, дзе пабудаваць горад. Гэтая зямля пуставала восемдзесят гадоў пасля [князя] Рамана. Цяпер жа Госпад адрадзіў яе сваёю ласкаю. І паслаў Уладзімер умелага мужа па імені Алекса, які яшчэ пры бацьку яго шмат гарадоў пабудаваў, паслаў [яго] з тутэйшымі жыхарамі ў чаўнах у вярхоўе ракі Лесны, каб знайсці такое месца, дзе б горад паставіць. І той [Алекса] знайшоў такое месца, і прыехаў да князя і пачаў расказваць. Князь жа [Уладзімер] сам паехаў туды з баярамі і слугамі, і спадабалася яму тое месца на беразее ракі Лесны. І ачысціў яе берагі, і пабудаваў там горад, і назваў яго Ка́менец, таму што зямля [там] была камяністая.

**У год 6786 (1278).** Тройдзень яшчэ княжыў ў Літоўскай зямлі. І паслаў ён вялікае войска супраць ляхаў, і брата свайго Сірпуція паслаў. Былі таксама і яцвягі тады з імі. І ваявалі каля Любліна тры дні, і ўзялі безліч палонных, і так вярнуліся дамоў з вялікім гонарам.

Прадмова і пераклад са старажытнарускай
Вячаслава ЧАМЯРЫЦКАГА



М. Сеўрук. Папрадуха. Алей, 1941 г.

# НОВЫ ЗАПАВЕТ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА ПАВОДЛЕ МАРКА СВЯТОЕ ДАБРАВЕСЦЕ

Раздзел 1

## ІААН ХРЫСЦІЦЕЛЬ ВЫЙШАЎ НА КАЗАНЬ

**1 Пачатак Дабравесця Ісуса Хрыста, [Божага Сына].**
**2 Як напісана ў прарока Ісаі: «Вось пасылаю перад Тваё аблічча Свайго пасланца, які падрыхтуе Тваю дарогу;**
Мал. 3,1; Мацв. 11, 10; Лук. 7, 27.
**3 Вокліч прапаведніка ў пустэльні: Падрыхтуйце дарогу Гасподнюю, простымі зрабіце сцежкі Яго!»**
Іс. 40, 3; Мацв. 3, 3; Лук. 3, 4; Іаан. 1, 23.
**4 Выступіў Іаан, хрысцячы ў пустэльні і абвяшчаючы хрышчэнне пакаяння дзеля адпушчэння грахоў.**
Мацв. 3, 1; Лук. 3, 3; Іаан. 1, 31; Дзеян. 13, 24.
**5 І выходзілі да яго ўся Іудзейская краіна і ўсе ерусалімляне, і хрысціліся ад яго ў рацэ Іярдане, вызнаючы свае грахі.**
**6 І быў Іаан у вопратцы з вярблюджай воўны і са скураным поясам на паясніцы сваёй, а жывіўся саранчою ды дзікім мёдам.**
Ляв. 11, 22; Мацв. 3, 4.
**7 І абвяшчаў, кажучы: «Ідзе за мною Мацнейшы за мяне, у Якога я нявартны, нахіліўшыся, развязаць рамень Яго сандаляў.**
Лук. 3, 16; Іаан. 1, 27.
**8 Я хрысціў вас вадою, а Ен будзе хрысціць вас Духам Святым».**
Дзеян. 1, 5; 2, 4; 1 Кар. 12, 13.

## ХРЫШЧЭННЕ ІСУСА

**9 І было ў тыя дні: прыйшоў Ісус з Назарэта Галілейскага і хрысціўся ў Іярдане ад Іаана.**
Мацв. 3, 13; Лук. 3, 21.
**10 І адразу, выходзячы з вады, убачыў Ен, што раскрываюцца нябёсы, і Духа, як голуба, што сходзіць на Яго;**
Мацв. 3, 16; Лук. 3, 21; Іаан. 1, 32.
**11 І голас пачуўся з нябёсаў: «Ты Мой Сын улюбёны, у Табе Маё задавальненне».**

## ІСУС У ПУСТЭЛЬНІ

**12 І адразу Дух гоніць Яго ў пустэльню.**
Мацв. 4, 1; Лук. 4, 1.
**13 І быў Ен у пустэльні сорак дзён і выпрабоўваў Яго сатана; і быў са звер'ынаю, і анёлы служылі Яму.**

## ПЕРШАЯ ІСУСАВА КАЗАНЬ У ГАЛІЛЕІ

**14 А пасля таго, як Іаана выдалі, прыйшоў Ісус у Галілею, абвяшчаючы Божае Дабравесце**
Мацв. 1, 12; Лук. 4, 14; Іаан. 4, 43.
**15 І кажучы: «Збыліся часы і наблізілася Божае Царства; пакайцеся і веруйце ў Дабравесце».**
Мацв. 4, 17

## ПАКЛІКАННЕ ПЕРШЫХ ЧАТЫРОХ АПОСТАЛАЎ

**16 А Калі Ен праходзіў паўз Галілейскае мора, убачыў Сімана і Андрэя, Сіманавага брата, калі яны закідалі сетку ў мора: бо яны былі рыбаловы.**
Мацв. 4, 18
**17 І сказаў ім Ісус: «Ідзіце за Мною, і Я зраблю вас лаўцамі людзей».**
**18 І, адразу пакінуўшы сеткі, яны пайшлі ўслед за Ім.**
**19 А прайшоўшы крыху, убачыў Ен Якава Зеведзеевага і яго брата Іаана, як яны, таксама ў чоўне, папраўлялі сеткі,**
**20 І адразу паклікаў іх. І яны, пакінуўшы свайго бацьку Зевядзея ў чоўне з наймітамі, пайшлі за Ім.**

## ПЕРШЫЯ ЦУДЫ Ў КАПЕРНАУМЕ

**21 І ўваходзяць яны ў Капернаум; і Ен адразу ў суботу, увайшоўшы ў сінагогу, вучыў.**
Мацв. 4, 13; Лук. 4, 31.
**22 І ўсе здзіўляліся Яго навуцы: бо Ен вучыў іх як паўнамоцны, а не як кніжнікі.**
Мацв. 7, 28; Лук. 4, 32.
**23 І адразу чалавек з нячыстым духам, што быў у сінагозе, закрычаў,**
Лук. 4, 33.
**24 Кажучы: «Што табе да нас, Ісусе Назаранін? Ты прыйшоў загубіць нас? Я ведаю Цябе, хто Ты, Божы Святы».**
Дан. 9, 24; Мацв. 8, 29; Іак. 2, 19.
**25 Але Ісус забараніў яму, кажучы: «Змоўкні і выйдзі з яго!»**
**26 І нячысты дух, страсянуўшы яго і ўскрыкнуўшы моцным голасам, выйшаў з яго.**
**27 І жахнуліся ўсе, так што пыталіся адзін у аднаго, кажучы: «Што гэта такое? Навука новая з уладаю? І нячыстымі духамі Ен загадвае, і яны слухаюцца Яго»**
**28 І адразу погаласка пра Яго разышлася скрозь па ўсіх ваколіцах Галілеі.**
**29 І адразу, выйшаўшы з сінагогі, яны з Якавам і Іаанам пайшлі ў дом Сімана і Андрэя.**
Мацв. 8, 14; Лук. 4, 38
**30 А Сіманава цешча ляжала ў гарачцы, і адразу кажуць Яму пра яе.**
**31 І, падышоўшы, Ен падняў яе, узяўшы за руку; і гарачка адпусціла яе, і яна прыслугоўвала ім.**
**32 А як надышоў вечар і зайшло сонца, прыносілі да Яго ўсіх нямоглых і апантаных;**
Мацв. 8, 16; Лук. 4, 40
**33 І сабраўся ўвесь горад да дзвярэй.**
**34 І Ен вылечыў многіх заняпалых на розныя хваробы і шмат дэманаў выгнаў і не дазволіў дэманам гаварыць, бо яны ведалі Яго.**
Мар. 3, 12; Лук. 4, 41; Дзеян. 16, 17, 19, 15.
**35 І вельмі рана, яшчэ нацямку ўстаўшы, выйшаў Ен і пайшоў у пустэльнае месца і там маліўся.**
**36 І пасяшаліся за Ім Сіман і тыя, што былі з ім,**
**37 І, знайшоўшы Яго, кажуць: «Усе шукаюць Цябе».**
**38 І кажа Ен ім: «Хадзем у іншыя бліжэйшыя мястэчкі, каб Мне і там абвяшчаць: бо на тое я і выйшаў».**
Лук. 4, 43
**39 І пайшоў Ен, абвяшчаючы ў іх сінагогах па ўсёй Галілеі і выганяючы дэманаў.**

## ВЫЛЕЧВАННЕ ПРАКАЖОНАГА

**40 І прыходзіць да Яго пракажоны і просіць (упаўшы на калені), кажучы Яму: «Калі Ты хочаш, можаш ачысціць мяне».**
Мацв. 8, 2; Лук. 5, 12.
**41 І, злітаваўшыся, Ен працягнуў руку, дакрануўся і кажа яму: «Хачу — ачысціся».**
**42 І адразу зышла з яго праказа, і ён ачысціўся.**
**43 І, сурова наказаўшы яму, Ен адразу адаслаў яго;**
**44 І кажа яму: глядзі, нікому нічога не кажы, але ідзі, пакажыся святару і прынясі за сваё ачышчэнне, што загадаў Майсей, у сведчанне ім.**
Ляв. 13, 2; Мацв. 8, 4; Лук. 5, 14
**45 А той, выйшаўшы, пачаў шмат абвяшчаць, расказваць пра тое, што адбылося, так, што Ен не мог адкрыта ўвайсці ў горад, а быў наводшыбе ў пустэльных месцах. І прыходзілі да Яго адусюль.**



Евангеліст Марк.
Царская брама з вёскі Прылукі Брэсцкага раёна (фрагмент). Другая палова XVIII ст. Музей старажытнай беларускай культуры АН БССР.

Раздзел 2

## ВЫЛЕЧВАННЕ СПАРАЛІЗАВАНАГА; УЛАДА АДПУСКАЦЬ ГРАХІ

**1 І праз некалькі дзён Ен зноў прыйшоў у Капернаум, і пачулі, што Ен дома.**
Мацв. 9, 1

Працяг. Пачатак у № 2, 1989, у №№ 1, 2, 3, 1990.

2 І сабралася іх шмат, так што не ўмяшчаліся ўжо і пры дзвярах, і Ён казаў ім слова.
3 І прыйшлі да Яго са спаралізаваным, якога няслі чацвёра.
Мацв. 9, 2; Лук. 5, 18
4 А таму, што не маглі падступіцца да Яго з-за натоўпу, яны раскрылі дах там, дзе Ён быў, і, пракапаўшы, спускаюць ложа, на якім ляжаў спаралізаваны.
5 І, убачыўшы іх веру, Ісус кажа спаралізаванаму: «Сыне, адпускаюцца твае грахі».
Іс. 43, 25
6 Сядзелі ж там некаторыя з кніжнікаў і разважалі ў сэрцах сваіх:
7 «Што Ён гэтак кажа? Зневажае Бога! Хто можа адпускаць грахі, апроч аднаго Бога?»
8 І Ісус, адразу ўведаўшы духам Сваім, што яны так разважаюць сабе, сказаў ім: «Што гэта вы разважаеце ў сэрцах сваіх?
Іаан. 2, 24; 6, 64
9 Што лягчэй: сказаць спаралізаванаму: «Адпускаюцца твае грахі» ці сказаць: «Устань і вазьмі сваё ложа і хадзі»?
Мацв. 9, 5; Лук. 5, 23
10 Але каб вы ведалі, што Чалавечы Сын мае ўладу адпускаць грахі на зямлі — кажа Ён спаралізаванаму:
11 «Табе кажу: Устань, вазьмі сваё ложа і ідзі ў свой дом!»
12 І той устаў і, адразу ўзяўшы ложа, выйшаў перад усімі, так што ўсе здзівіліся і славілі Бога, кажучы: «Ніколі такога мы не бачылі!»

## ПАКЛІКАННЕ ЛЕВІЯ
## ІСУС НЕ ЦУРАЕЦЦА ГРЭШНІКАЎ

13 І Ён зноў выйшаў да мора; і ўвесь натоўп прыходзіў да Яго, і Ён вучыў іх.
14 І, праходзячы, убачыў Ён Левія Алфеевага, які сядзеў ля мытні, і кажа яму: «Ідзі ўслед за Мною!» І той, устаўшы, пайшоў услед за Ім.
Мацв. 9, 9; Лук. 5, 27
15 І вось Ён узлягае ў сваім доме, і шмат мытнікаў і грэшнікаў узляглі з Ісусам і Яго вучнямі: бо было іх шмат, і яны ішлі ўслед за Ім.
16 І кніжнікі з фарысеяў, убачыўшы, што Ён есць з грэшнікамі і мытнікамі, казалі Яго вучням: «Чаго Ён есць з мытнікамі і грэшнікамі?»
17 І, пачуўшы, Ісус кажа ім: «Не здаровыя маюць патрэбу ў лекары, а хворыя. Я прыйшоў паклікаць не праведных, а грэшных».
Мацв. 9, 13; Лук. 5, 32; І Цім. 1, 15

## КАЛІ ПАСЦІЦЬ

18 А вучні Іаанавы і фарысеі пасцілі і прыходзяць яны і кажуць Яму: «Чаму Іаанавы вучні ды фарысеі посцяць, а Твае вучні не посцяць?»
Мацв. 9, 14; Лук. 5, 33
19 І сказаў ім Ісус: «Хіба могуць сыны шлюбнага пакою пасціць, калі з імі Малады? Дакуль яны маюць з сабою Маладога, не могуць пасціць.
20 Але прыйдуць дні, калі будзе ўзяты ад іх Малады і тады, у той дзень, будуць яны пасціць.
21 Ніхто не прышывае латкі з новай тканіны да старога адзення, бо прышытае яго разарве: новае разарве старое, і дзірка будзе горшая.
Мацв. 9, 16; Лук. 5, 36
22 І ніхто не ўлівае маладое віно ў старыя бурдзюкі, а то віно прарве бурдзюкі, і віно прападзе і бурдзюкі; а віно маладое ўліваюць у новыя бурдзюкі».

## ЧАЛАВЕЧЫ СЫН
## ГАСПАДАР І СУБОТЫ

23 І надарылася Яму ў суботу праходзіць збажынаю, і Яго вучні пачалі дарогаю рваць калоссе.
Друг. 23, 24; Мацв. 12, 1; Лук. 6, 1
24 І фарысеі казалі Яму: «Паглядзі, чаму робяць у суботу яны, чаго нельга?»
25 І Ён кажа ім: «Ці вы ніколі не чыталі, што зрабіў Давід, калі меў патрэбу і быў сам галодны і тыя, што былі з ім?
26 Як ён увайшоў у Божы дом пры Авіяфары-першасвятары і з'еў ахвярныя хлябы, якіх нельга было есці нікому, апроч святароў, і даў таксама тым, што былі з ім?»
Зых. 29, 33; Ляв. 24, 9;
І Цар. 21, 6; Мацв. 12, 4; Лук. 6, 4.
27 І Ён казаў ім: субота для чалавека паўстала, а не чалавек для суботы;
28 Так што Чалавечы Сын гаспадар і суботы.

Раздзел 3

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ Ў СУБОТУ СУХАРУКАГА

1 І Ён зноў увайшоў у сінагогу. І быў там чалавек, які меў усохлую руку.
Мацв. 12, 9; Лук. 6, 6
2 І сачылі за Ім, ці Ён вылечыць таго ў суботу, каб абвінаваціць Яго.
3 І кажа Ён чалавеку, што меў сухую руку: «Стань пасярэдзіне».
4 А ім кажа: «Ці дазваляецца ў суботу дабро рабіць ці ліха тварыць, душу ўратаваць ці забіць?» Яны ж маўчалі.



5 І агледзеўшы іх з гневам, засмучаны закамянеласцю іх сэрцаў, кажа Ён чалавеку: «Працягні руку». І той працягнуў, і яго рука ажыла.
6 Фарысеі ж, выйшаўшы, адразу з ірадыянамі ўчынілі змову супроць Яго, як бы Яго загубіць.
Іаан. 10, 39
7 А Ісус са Сваімі вучнямі адышоўся да мора, і вялікае мноства з Галілеі [пайшло ўслед за Ім] і з Іудзеі,
Мацв. 4, 25
8 і з Іерусаліма, і з Ідумеі, і з Заіярдання, і з ваколіц Тыра і Сідона,— вялікае мноства, пачуўшы пра ўсё, што Ён робіць, прыйшло да Яго.
9 І сказаў Ён Сваім вучням, каб падрыхтавалі Яму човен з-за натоўпу, каб не напіралі на Яго;
10 бо многіх Ён вылечыў, так што ўсе, каго даймала ліха, кідаліся да Яго, каб дакрануцца да Яго.
11 І нячыстыя духі, калі Яго бачылі, падалі перад Ім і крычалі, кажучы: «Ты — Божы Сын».
Мацв. 16, 16
12 Ды Ён ім сурова забараніў, каб яны не раскрывалі Яго.

## ВЫБАР ДВАНАЦЦАЦІ АПОСТАЛАЎ

13 І Ён узыходзіць на гару і кліча да Сябе, каго Сам хацеў; і яны пайшлі да Яго.
14 І вызначыў Дванаццаць [якіх і апосталамі назваў], каб былі з Ім, і каб пасылаць іх на казань,
Мацв. 10, 1; Лук. 9, 1
15 і каб мець ім уладу выганяць дэманаў;
16 [і вызначыў гэтых Дванаццаць], і даў імя Сіману — Пётр,
Мацв. 16, 18
17 і Якава Зевядзеевага, і Іаана, Якавага брата, і даў ім імя Ваанергес, гэта значыць «Громавы сыны»;
18 і Андрэя, і Філіпа, і Варфаламея, і Мацвея, і Фаму, і Якава Алфеевага, і Фадзея, і Сімана Кананіта,
19 і Юду Іскарыёта, які і прадаў Яго.
20 І прыходзіць Ён у дом; і сходзіцца зноў натоўп, так што яны не маглі і хлеба з'есці.
21 І, дачуўшыся, Яго блізкія выйшлі ўзяць Яго; бо казалі: Ён не ў Сабе.
Іаан. 10, 20
22 А кніжнікі, якія прыйшлі з Ерусаліма, казалі: «Ён мае Вельзевула і праз уладара дэманаў выганяе дэманаў».
Мацв. 9, 34; Лук. 11, 17
23 І, паклікаўшы іх, упадабненнямі казаў ім: «Як можа сатана сатану выганяць?»
24 І калі царства падзеліцца само супроць сябе, не можа ўтрымацца тое царства;
Мацв. 12, 25; Лук. 11, 17
25 і калі дом падзеліцца сам супроць сябе, не можа ўтрымацца дом той.
26 І калі сатана паўстаў сам супроць сябе і падзяліўся, не можа ён утрымацца, але канец яму.
27 Але ніхто не можа, увайшоўшы ў дом дужага, абрабаваць яго дабро, калі спярша не звяжа дужага і тады яго дом абрабуе.
28 Папраўдзе кажу вам: «Усё будзе даравана чалавечым сынам: грахі і блюзнерствы, якімі б яны не блюзнілі;
Мацв. 12, 31; Лук. 12, 10;
І Іаан. 5, 16; Еўр. 10, 26
29 А хто зблюзніць на Святога Духа, няма яму адпушчэння навекі, але вінаваты ў вечным граху.
30 Бо яны казалі: «Ён мае нячыстага духа».
31 І прыходзяць Яго Маці і Яго браты і, стоячы знадворку, паслалі да Яго паклікаць Яго.
Мацв. 12, 46; Лук. 8, 19
32 І сядзеў вакол Яго натоўп; і кажуць Яму: «Вось Твая Маці і Твае браты [і Твае сёстры] знадворку, шукаюць Цябе».
33 І ў адказ ім Ён кажа: «Хто Мая Маці і [Мае] браты?»
34 І, агледзеўшы тых, што сядзелі вакол Яго, кажа: «Вось Мая Маці і Мае браты!
35 [Бо] хто выконвае Божую волю, той Мне брат, і сястра, і Маці».

Раздзел 4

## ІСУС НАВУЧАЕ НАРОД ПРАЗ УПАДАБНЕННІ

1 І зноў Ён пачаў вучыць край мора і збіраецца да Яго вялізны натоўп, так што Ён, ступіўшы у човен, сядзеў на моры, а ўвесь натоўп быў на зямлі пры моры.
Мацв. 13, 1; Лук. 8, 4
2 І Ён вучыў іх многаму праз упадабненні і казаў ім у Сваёй навуцы:

## УПАДАБНЕННЕ СЕЙБІТУ

3 «Слухайце, вось выйшаў сейбіт сеяць.
4 І было, калі ён сеяў, упала адно

край дарогі, і наляцелі птушкі і падзяўблі яго.

5 А другое ўпала на камяністы грунт, дзе няшмат было зямлі, і адразу паўзыходзіла, бо глеба была неглыбокая;

6 І калі ўзышло сонца — выгарала і, таму што не мела карэння, засохла.

7 А іншае ўпала ў церні, і ўзняліся церні і заглушылі яго, і плоду яно не дало.

8 А іншыя ўпалі ў добрую зямлю і далі плён, уздымаючыся і ўзрастаючы, і прынеслі і па трыццаці і па шасцідзесяці і па ста».

9 І казаў ім: «Хто мае вушы слухаць, няхай слухае!»

10 І калі Ён астаўся адзін, спыталіся ў Яго тыя, што былі пры ім разам з Дванаццаццю пра ўпадабненні.

11 І казаў ім: «Вам дадзена таямніца Божага Царства; тым жа, па-за вамі, усё паўстае ва ўпадабненнях,

Мацв. 11, 25; 16, 17; 1 Кар. 2, 10

12 Каб яны гледзячы бачылі, а не ўспрымалі, і слухаючы, чулі, а не разумелі, каб калі не абярнуліся яны, не было даравана ім.

Іс. 6, 9—10; Мацв. 13, 14; Лук. 8, 10; Іаан. 12, 40

13 І кажа ім: «Не даўмеліся гэтага ўпадабнення, а як зразумееце ўсе ўпадабненні?

14 Сейбіт сее слова.

Мацв. 13, 18; Лук. 8, 11

15 Дык вось тыя, што край дарогі, дзе сеецца слова: калі яны пачуюць, адразу прыходзіць сатана і забірае слова, пасеянае ў іх.

16 І гэтак жа пасеяныя на камяністым грунце, яны, калі пачуюць слова, адразу з уцехаю прымаюць яго,

Іс. 42, 20; Іез. 33, 31; Іаан. 5, 35

17 Ды не маюць кораня ў сабе і дачасныя; пасля, калі надыходзіць уціск або ганенне за слова, адразу надломваюцца.

18 А іншыя, пасеяныя ў церні, гэта тыя, што слухаюць слова,

19 Ды турботы веку і зман багацця ды жаданні чаго-небудзь іншага, уваходзячы, заглушаюць слова, і яно робіцца бясплодным.

Лук. 12, 15; І Цім. 6, 9

20 А вось тыя, пасеяныя ў добрую зямлю: яны слухаюць слова і прымаюць і прыносяць пажытак па трыццаці і па шасцідзесяці і па ста».

## НЕ ХАВАЙЦЕ СВЯТЛА

21 І казаў ім: «Хіба на тое прыносіцца каганец, каб паставіць яго пад пасудзіну ці пад ложак? А ці не на тое, каб паставіць на падстаўку?

Мацв. 5, 15; Лук. 8, 16

22 Бо няма нічога схаванага, што не адкрыецца, і нічога тайнага, што не выйдзе на яўнае.

Мацв. 10, 26; Лук. 8, 17; 12, 2

23 Калі хто мае вушы слухаць, няхай слухае».

24 І казаў Ён ім: «Заўважайце, што чуеце; якою мераю вы мерыце, такою будзе адмерана вам і дададзена вам.

Мацв. 7, 2; Лук. 6, 38

25 Бо хто мае, таму будзе дадзена; а хто не мае, і тое, што мае, ад яго забярэцца».

Мацв. 13, 12; 25, 29; Лук. 8, 18; 19, 26

## УПАДАБНЕННЕ БОЖАГА ЦАРСТВА

26 І казаў Ён: «Такое Божае Царства: як чалавек, што кіне насенне ў зямлю,

27 І спіць, і ўстае, уночы і ўдзень, а насенне ўсходзіць і расце — як, ён сам не ведае.

28 Зямля сама з сябе прыносіць плён: спярша рунь, пасля колас, пасля поўнае зерне ў коласе.

29 Калі ж даспее плод, ён адразу пасылае серп, бо надышло жніво».

30 І казаў Ён: «З чым параўнаем Божае Царства ці праз якое ўпадабненне выявім яго?

Мацв. 13, 31; Лук. 13, 18

31 Яно як гарчычнае зерне, што, калі сеецца ў зямлю, найдрабнейшае з усяго насення на зямлі,

32 А калі пасеянае ўздымаецца і робіцца большым за ўсю агародніну і пускае вялікія галіны, так што пад яго ценем могуць гняздзіцца птушкі нябесныя».

33 І праз многія такія ўпадабненні казаў ім слова, наколькі яны маглі слухаць;

Мацв. 13, 34

34 А без упадабнення не казаў ім, а Сваім вучням на адзіноце ўсё растлумачваў.

## ІСУС СУЦІШАЕ МОРА

35 І казаў ім у той дзень, калі надышоў вечар: «Пераедзьма на той бок».

Мацв. 8, 23; Лук. 8, 22

36 І яны, адпусціўшы натоўп, бяруць Яго з сабою так, як быў, у чоўне; ды іншыя чоўны былі з Ім.

37 І ўзнімаецца моцны вецер-віхор і хвалі білі ў човен, так што човен ужо напаўняўся.

38 А Ён быў на карме, сплючы на падушцы. І будзяць Яго і кажуць Яму:





Евангеліст Марк. Царская брама з Юраўскай царквы ў Віцебску (фрагмент). Канец XVII ст. Дзяржаўны мастацкі музей.

«Настаўніку, няўжо Цябе не абыходзіць, што мы гінем?»

39 І, прачнуўшыся, Ён пагразіў ветру і сказаў мору: «Маўчы, суцішся!» І суняўся вецер і настала вялікая ціша.

Іоў. 26, 12; Пс. 88, 10

40 І сказаў Ён ім: «Што вы такія баязлівыя? Чаму веры не маеце?»

41 І яны настрашыліся страхам вялікім і казалі адзін аднаму: «Хто ж гэта Ён, што і вецер і мора слухаюцца Яго?»

## Раздзел 5

## ВЫЛЕЧВАННЕ АПАНТАНАГА

1 І прыбылі яны на другі бок мора ў краіну герасінян.

Мацв. 8, 28; Лук. 8, 26

2 І калі Ён выйшаў з чоўна, адразу Яго перастрэў з могілак чалавек з нячыстым духам,

3 Што меў прыстанішча ў магілах, і ніхто яшчэ не мог яго звязаць ланцугамі,

4 Бо шмат разоў яго звязвалі кайданамі і ланцугамі, ды ён разрываў ланцугі і раструшчваў кайданы, і ніхто не мог яго ўтаймаваць;

5 І ўвесь час, уночы і ўдзень, ён быў між магіл і ў гарах, крычучы і б'ючыся аб каменне.

6 І, убачыўшы Ісуса здалёку, прыбег ён і пакланіўся Яму

7 І, закрычаўшы моцным голасам, кажа: «Што Табе да мяне, Ісусе, Сыне Бога Найвышэйшага? Богам Цябе заклінаю, не муч Ты мяне!»

8 Бо Ён казаў яму: «Выйдзі, дух нячысты, з гэтага чалавека!»

9 І пытаўся ў яго: «Як тваё імя?» І той кажа Яму: «Легіён мне імя, бо шмат нас».

10 І вельмі прасіў Яго, каб не высылаў іх з гэтай зямлі.

11 А быў там пад гарою вялікі гурт свіней на пашы;

12 І папрасілі Яго, кажучы: «Пашлі нас у свіней, каб нам увайсці ў іх».

13 І дазволіў Ён ім. І, выйшаўшы, нячыстыя духі ўвайшлі ў свіней, і гурт рынуўся са стромы ў мора — тысяч з дзве — і патапіліся яны ў моры.

14 А іх пастухі паўцякалі і расказалі ў горадзе і ў вёсках; і тыя прыйшлі паглядзець, што здарылася.

15 І прыходзяць да Ісуса і бачаць, што апантаны дэманамі сядзіць апрануты і ў здаровым розуме, той, які меў у сабе «легіён»,— і спалохаліся.

16 І відавочцы расказалі ім, як было з апантаным дэманамі, і пра свіней.

17 І пачалі яны прасіць Яго адысці з іх межаў.

18 І калі Ён ступіў у човен, прасіў у Яго той, што быў апантаны, каб быць з Ім.

19 Ды Ён не дазволіў яму, але кажа яму: «Ідзі ў свой дом, да сваіх, і раскажы ім, што зрабіў табе Госпад і як злітаваўся над табою».

20 І той адышоў і пачаў абвяшчаць у Дзесяцігароддзі, што зрабіў яму Ісус, і ўсе здзіўляліся.

## ВЫЗДАРАЎЛЕННЕ ХВОРАЙ ЖАНЧЫНЫ

21 І калі пераправіўся Ісус [у чоўне] зноў на другі бок, сабраўся вялікі натоўп да Яго, а быў Ён ля мора.

22 І прыходзіць адзін са старшынь сінагогі на імя Іаір, і, убачыўшы Яго, прыпадае да Яго ног

23 І вельмі просіць Яго, кажучы: «Мая дачушка канае; прыйдзі ўскладзі рукі на яе, каб яна ўратавалася і жыла».

24 І Ён пайшоў з ім, і ўслед за Ім ішоў вялікі натоўп і напіраў на Яго.

25 І жанчына, што мучылася ад крывацёку дванаццаць гадоў

Мацв. 9, 20

26 І многа выцерпела ад многіх дактароў і спусціла на іх усё і нічым не ўспамаглася, але больш у іх рукі трапляючы,
27 Пачуўшы пра Ісуса, падышла ў натоўпе ззаду і дакранулася да Яго вопраткі;
28 Бо яна казала: «Калі дакрануся хоць бы да Яго вопраткі, папраўлюся».
29 І адразу высахла крыніца яе крыві, і яна целам адчула, што вылечана ад ліха.
30 І адразу Ісус, адчуўшы ў Самім Сабе, што з Яго выйшла сіла, павярнуўся ў натоўпе, кажучы: «Хто дакрануўся да Мае вопраткі?»

Лук. 8, 49

31 І казалі Яму вучні Яго: «Ты бачыш, што натоўп напірае на Цябе, а кажаш: Хто дакрануўся да Мяне?»
32 А Ён глядзеў наўкола, каб убачыць тую, што гэта зрабіла.
33 Жанчына ж, з бояззю і трымценнем, ведаючы, што адбылося з ёю, падышла і ўпала ніцма перад Ім і сказала Яму ўсю праўду.
34 Ён жа сказаў ёй: «Дачка, твая вера ўратавала цябе; ідзі ў спакоі і будзь здаровая ад свайго ліха».

## ЦУД З ІАІРАВАЙ ДАЧКОЮ

35 Калі яшчэ Ён казаў, прыходзяць ад старшыні сінагогі і кажуць: «Твая дачка памерла; што ты яшчэ турбуеш Настаўніка?»

Лук. 8, 49

36 Ісус жа, пусціўшы мімавуш сказанае слова, кажа старшыні сінагогі: «Не бойся, толькі веруй».
37 І не дазволіў нікому пайсці за Сабою разам, акрамя Пятра, Якава і Іаана, Якавага брата.
38 І прыходзяць у дом старшыні сінагогі, і бачыць Ён сумятню: плачуць і моцна галосяць,
39 І Ён, увайшоўшы, кажа ім: «Што мітусіцеся і плачаце? Дзяўчо не памерла, але спіць».
40 І яны насміхаліся з Яго. Ён жа, выправадзіўшы ўсіх, бярэ з Сабою бацьку дзяўчаці і маці і тых, што былі з Ім, і ўваходзіць туды, дзе было дзяўчо.
41 І, узяўшы дзяўчо за руку, кажа ёй: «Таліфа кум», што перакладаецца: «Дзяўчатка, кажу табе, устань!»
42 І адразу дзяўчатка паднялося і хадзіла: бо было ёй гадоў дванаццаць. І яны ўразіліся адразу ўражаннем вялікім.
43 І Ён цвёрда наказаў ім, каб ніхто не ўведаў пра гэта, і сказаў, каб ёй далі есці.



Раздзел 6

## НЯМА ПРАРОКА БЕЗ ПАШАНЫ

1 І выйшаў Ён адтуль і прыходзіць на Сваю бацькаўшчыну, і ідуць услед за Ім Яго вучні.

Мацв. 13, 54; Лук. 4, 16

2 І калі надышла субота, пачаў Ён вучыць у сінагозе, і многія слухачы ўзрушыліся, кажучы: «Адкуль у Яго гэта? І што за мудрасць дадзена Яму? І такія цуды творацца Яго рукамі?

Мацв. 7, 28; Мор. 1, 27

3 Ці гэта не цесля, сын Марыі і брат Якава, і Іасіта, і Юды, і Сімана? І ці не Яго сёстры тут між нас?» І яны сумняваліся ў Ім.

Лук. 4, 22; Іаан. 6, 42

4 І казаў ім Ісус: «Няма прарока без пашаны, хіба толькі ў бацькаўшчыне сваёй, і ў родных сваіх, і доме сваім».

Іер. 12, 6; Мацв. 13, 57; Лук. 4, 24; Іаан. 4, 44

5 І не мог Ён зрабіць там ніводнага цуду, толькі няшмат хворых, усклаўшы рукі, вылечыў.
6 І здзівіўся іх нявер'ю. І абыходзіў Ён навакольныя сёлы, навучаючы.

Мацв. 9, 35

## ІСУС ПАСЫЛАЕ ДВАНАЦЦАЦЬ СВАІХ АПОСТАЛАЎ НА КАЗАНЬ

7 І заклікае Дванаццаць, і пачаў пасылаць іх па двух і даваў ім уладу над нячыстымі духамі,

Мацв. 10, 1; Лук. 9, 1

8 І наказаў ім, каб нічога не бралі ў дарогу, апроч аднаго кія,— ні хлеба, ні торбы, ні медзякоў у пояс,
9 Але каб абуліся ў сандалі і не надзявалі двух убранняў.
10 І казаў ім: «Дзе б вы ні ўвайшлі ў дом, там аставайцеся, пакуль не выйдзеце адтуль.
11 І калі якое месца не прыме вас, і не паслухаюць вас,— выходзячы адтуль, абтрасіце зямлю з-пад сваіх ног у сведчанне ім».

Мацв. 10, 14; Лук. 9, 5; Дзеян. 13, 51; 18, 6

12 І, выйшаўшы, яны абвяшчалі, каб каяліся,
13 І шмат дэманаў выгналі і шмат занядужаных мазалі алеем і вылечвалі.

Іак. 5. 14

## СМЕРЦЬ ІААНА ХРЫСЦІЦЕЛЯ

14 І дачуўся цар Ірад (аб ім), бо Яго імя зрабілася вядомым, і казаў: «Іаан Хрысціцель устаў з мёртвых і таму цудатворныя сілы дзейнічаюць у ім».

Мацв. 14, 1; Лук. 9, 7

15 Іншыя ж казалі: «Гэта Ілья», а іншыя казалі: «Прарок, мабыць, адзін з прарокаў».
16 А Ірад, пачуўшы, казаў: «Гэта Іаан, якога я абезгаловіў, уваскрос».
17 Бо ён, Ірад, паслаўшы, схапіў Іаана і закаваў яго ў цямніцы дзеля Ірадыяды, жонкі свайго брата Філіпа, таму што ажаніўся з ёю;

Лук. 3, 19

18 Бо Іаан казаў Іраду: «Нельга табе мець жонку брата свайго!»

Ляв. 18, 16; 20, 21

19 Ірадыяда ж затаіла злосць на яго і хацела яго забіць, ды не магла;
20 Бо Ірад баяўся Іаана, ведаючы, што ён чалавек справядлівы і святы і абараняў яго, і, слухаючы яго, моцна трывожыўся, аднак ахвотна слухаў яго.

Мацв. 21, 26

21 І надышоў зручны дзень, калі Ірад у дзень свайго нараджэння справіў банкет для сваіх вяльможаў, і тысячаначальнікаў, і саноўных людзей Галілеі.
22 І калі ўвайшла дачка тае Ірадыяды і станцавала: дагадзіла яна Іраду і яго застольнікам. Сказаў цар дзяўчаці: «Прасі ў мяне, што хочаш, і дам табе».
32 І [моцна] пакляўся ёй. «Чаго ў мяне ні папросіш, дам табе аж да палавіны царства майго».
24 І, выйшаўшы, яна сказала сваёй маці: «Што папрасіць?» І тая сказала: «Галаву Іаана Хрысціцеля».
25 І, увайшоўшы адразу з паспешлівасцю да цара, папрасіла, кажучы: «Хачу, каб ты зараз жа даў мне на талерцы галаву Іаана Хрысціцеля».
26 І вельмі засмуціўся цар, ды дзеля клятвы і застольнікаў не захацеў адмовіць ёй;
27 І, адразу паслаўшы ка́та, цар загадаў прынесці яго галаву. І той, пайшоўшы, абезгаловіў яго ў цямніцы.
28 І прынёс яго галаву на талерцы і даў яе дзяўчаці, і дзяўчо дало яе сваёй маці.
29 І, пачуўшы, яго вучні прыйшлі і ўзялі яго астанкі і паклалі ў магілу.

## ІСУС НАКАРМІЎ ПЯЦЬ ТЫСЯЧ

30 І збіраюцца апосталы да Ісуса і расказалі Яму ўсё, што зрабілі і чаму навучылі.

Лук. 9, 10

31 І Ён кажа ім: «Пайдзіце вы адны ў пустэльнае месца і трохі адпачніце». Бо шмат прыходзіла і адыходзіла і нават паесці яны не мелі калі.
32 І адплылі яны ў чоўне асобна ў пустэльнае месца.

Мацв. 14, 13; Лук. 9, 10

33 І ўбачылі іх, калі яны адплывалі, і пазналі многія і пешкі пабеглі з многіх гарадоў туды і апярэдзілі іх.
34 І, выйшаўшы, Ён убачыў вялікі натоўп і злітаваўся над імі, бо яны былі як авечкі, што не маюць пастуха, і пачаў іх шмат навучаць.

Мацв. 9, 36

35 І калі ўжо надышоў позні час, падышлі да Яго вучні Яго, кажучы: «Месца гэта пустэльнае, а ўжо час позні;
36 Адпусці іх, каб, пайшоўшы ў навакольныя вёскі і сёлы, купілі сабе што паесці».
37 Ён жа ў адказ ім казаў: «Дайце ім вы есці». І яны кажуць Яму: «Ці не пайсці нам купіць хлеба дынарыяў на дзвесце і даць ім есці?»
38 Ён жа кажа ім: «Колькі хлябоў маеце? Ідзіце, паглядзіце». І, даведаўшыся, яны кажуць: «Пяць і дзве рыбы».

Мацв. 14, 17; Лук. 9, 13; Іаан. 6, 9

39 І загадаў ім узлегчы ўсім па групах на зялёнай траве.
40 І ўзляглі яны грамада за грамадою па ста і па пяцідзесяці.
41 І, узяўшы пяць хлябоў і дзве рыбы, Ён, гледзячы на неба, блаславіў і паламаў хлябы і даваў [Сваім] вучням, каб яны раздалі ім, і дзве рыбы падзяліў на ўсіх.
42 І елі ўсе і наеліся,
43 І кавалкаў назбіралі дванаццаць поўных кошыкаў і рэшткі ад рыбы.
44 А было едакоў пяць тысяч мужчын.

## ІСУС ІДЗЕ ПА ВАДЗЕ

45 І адразу прымусіў ён Сваіх вучняў увайсці ў човен і пераплыць на другі бок да Віфсаіды раней за Яго, пакуль Ён адпускае натоўп.
46 І, развітаўшыся з імі, пайшоў на гару памаліцца.

Мацв. 14, 23

47 І калі надышоў вечар, човен быў пасярэдзіне мора, а Ён адзін на зямлі.

Іаан. 6, 16

48 І, убачыўшы, як яны надрываюцца, вяслуючы, бо вецер быў супроць іх, каля чацвёртай варты ўночы прыходзіць Ён да іх, ідучы па моры; і хацеў абмінуць іх.
49 Яны ж, убачыўшы, як Ён ідзе па моры, падумалі, што гэта прывід, і закрычалі;

50 Бо ўсе бачылі Яго і ўстрывожылі-
ся. Ён жа адразу абазваўся да іх і кажа
ім: «Супакойцеся, гэта я, не бойцеся».
51 І ступіў да іх у човен, і вецер
суняўся. І яны моцна зжахнуліся;
52 Бо не ўразумелі яны (цуда) з хля-
бамі, сэрца ж іх было зацвярдзелае.
Мар. 8, 18
53 І пераправіўшыся, прыплылі яны
ў зямлю Геннісарэт і прычалілі.
Мацв. 14, 34
54 І, калі яны выйшлі з чоўна, людзі
адразу пазнаўшы Яго,
55 Аббеглі ўсю тую краіну і пачалі
на ложах прыносіць нямоглых туды, дзе,
яны чулі, Ён ёсць.
Мацв. 4, 24
56 І, куды б Ён ні ўваходзіў у сёлы,
ці ў гарады, ці ў вёскі, клалі хворых
на плошчах і прасілі Яго, каб ім хоць
бы да кутаса Яго вопраткі дакрануцца;
і хто б ні дакрануўся да Яго, вылечваў-
ся.

Раздзел 7

## БОЖАЯ ЗАПАВЕДЗЬ І ПАДАННІ СТАРЭЙШЫХ

1 І выходзяцца да Яго фарысеі і не-
каторыя з кніжнікаў, што прыйшлі з
Ерусаліма.
Мацв. 15, 1
2 І, убачыўшы, што некаторыя з Яго
вучняў ядуць хлеб нячыстымі, гэта
значыць, няўмытымі рукамі,—
3 Бо фарысеі і ўсе іудзеі, калі не вы-
мыюць старанна рук, не ядуць, піль-
нуючыся паданняў старэйшых,
4 І (вярнуўшыся) з рынку, калі не
абмыюцца, не ядуць і ёсць шмат іншага,
чаго яны прынялі пільнавацца: мыцця
чараў, і кубкаў, і меднага посуду, [і
тапчаноў]—
5 І пытаюцца ў Яго фарысеі і кніж-
нікі: «Чаму твае вучні не жывуць па-
водле паданняў старэйшых, але нячысты-
мі рукамі ядуць хлеб?»
6 Ён жа сказаў ім: «Добра прарочыў
Ісая пра вас, крывадушных, як напіса-
на: «Гэты народ вуснамі шануе Мяне,
сэрца ж іх далёка ад Мяне;
Іс. 29, 13; Мацв. 15, 8
7 Але марна ўшаноўваюць Мяне, на-
вучаючы навукам — загадам чалаве-
чым».
Ціт. 1, 15
8 Занядбаўшы Божую запаведзь, вы
пільнуецеся чалавечых паданняў [абмы-
ваеце кубкі і чары і шмат іншага, па-
добнага да гэтага, робіце вы]».
9 І казаў ім: «Адхіляеце добра вы
Божую запаведзь, каб ваша паданне за-
хоўваць.
10 Бо Майсей сказаў: «Шануй бацьку
свайго і маці сваю» і: «Хто знеслаўляе
бацьку ці маці, няхай смерцю памрэ».
Зых. 20, 12; 21, 17; Мацв. 15, 4
11 Вы ж кажаце: «Калі скажа чалавек
бацьку ці маці: Карван [гэта значыць
дар ⟨Богу⟩] тое, чым бы ты ад мяне
пакарыстаўся»,—
12 Вы ўжо дазваляеце яму нічога не
рабіць для бацькі ці маці,
13 Касуючы Божае слова вашым па-
даннем, якое вы перадаеце; і шмат па-
добнага да гэтага вы робіце».

## ШТО РОБІЦЬ НЯЧЫСТЫМ ЧАЛАВЕКА

14 І, паклікаўшы зноў натоўп, Ён ка-
заў ім: «Паслухайце Мяне ўсе і зразу-
мейце!
15 Няма нічога вонкі чалавека, што,
уваходзячы ў яго, магло б зрабіць ня-
чыстым яго, але тое, што з чалавека
выходзіць, робіць нячыстым чалавека.
Мацв. 15, 11; Рым. 14, 17; Ціт. 1, 15
16 [Калі хто мае вушы слухаць, ня-
хай слухае].
17 І калі ад натоўпу Ён увайшоў у
дом, Яго вучні спыталіся ў Яго пра ўпа-
дабненне.
18 І Ён кажа ім: «Няўжо і вы не
даўмеліся? Не разумееце, што ўсё тое,
што ўваходзіць звонку ў чалавека, не
можа зрабіць нячыстым яго,
19 Бо ўваходзіць яму не ў сэрца, а ў
жывот і выходзіць вонкі, ачышчаючы
ўсякую спожыць?»
20 Ён жа казаў: «Тое, што з чалавека
выходзіць, тое робіць нячыстым чала-
века.
21 Бо з сярэдзіны, з сэрца людзей, лі-
хія думкі выходзяць, блуд, крадзеж, за-
бойствы,
Быц. 8, 21; Прып. 6, 14; Іер. 17, 9;
Мацв. 15, 19
22 Пералюб, хціўасць, злосць, падступ,
распушчанасць, ліхое вока, блюзнерства,
пыха, дурнота;
23 Усё гэтае ліха з сярэдзіны выходзіць
і робіць нячыстым чалавека».

## ВЕРА СІРАФІНІКІЯНКІ

24 І, падняўшыся адтуль, пайшоў Ён
у межы Тыра. І, увайшоўшы ў дом, ха-
цеў, каб ніхто не ведаў, ды не змог
утаіцца;
Мацв. 15, 21
25 Бо адразу пачула пра Яго жанчы-




Евангеліст Марк. Царская брама з в. Вараніла-
вічы Пружанскага раёна (фрагмент). XVI ст. Дзяр-
жаўны мастацкі музей БССР.

на, дачка якой мела нячыстага духа, і,
прыйшоўшы, упала да Яго ног;
26 А была жанчына грачанка, сіра-
фінікіянка родам; і прасіла Яго, каб
выгнаў дэмана з Яе дачкі.
27 І Ён казаў ёй: «Дай спярша наес-
ціся дзецям, бо нягожа забраць хлеб у дзя-
цей і кінуць шчанятам».
28 Яна ў адказ Яму кажа: «Госпадзе,
і шчаняты пад сталом ядуць ад дзіця-
чых крошак».
29 І Ён сказаў ёй: «За гэтае слова ідзі,
выйшаў дэман з твае дачкі».
30 І, пайшоўшы ў свой дом, яна знай-
шла, што дачка ляжыць на ложку і што
дэман выйшаў.
31 І, зноў, выйшаўшы з межаў Тыра,
пайшоў Ён праз Сідон да Галілейскага
мора, пасярод Дзесяцігародддзя.
Мацв. 15, 29
32 І прыводзяць да Яго глухога, які
з цяжкасцю гаварыў, і просяць Яго, каб
усклаў руку на яго.
33 І, адвеўшы яго ў бок ад натоўпу,
Ён улажыў Свае пальцы яму ў вушы
і, сплюнуўшы, дакрануўся да яго языка.
34 І, паглядзеўшы на неба, глыбока
ўздыхнуў і кажа яму: «Эффафа», гэта
значыць: «Расчыніся».
35 І [адразу] адчыніліся яго вушы, і
развязаліся путы яго языка, і ён пачаў
правільна гаварыць.
36 І Ён загадаў ім, каб яны нікому
не казалі; але чым больш загадваў, тым
больш яны абвяшчалі.
37 І надзвычай дзівіліся, кажучы:
«Добра ўсё Ён зрабіў: і глухім дае чуць
і нямым — гаварыць».
Іс. 35, 6

Раздзел 8

## ДРУГОЕ ПРЫМНАЖЭННЕ ХЛЕБА

1 У тыя дні, калі зноў быў вялікі
натоўп і не мелі яны чаго есці, Ён, паклі-
каўшы вучняў, кажа ім:
Мацв. 15, 32
2 «Шкада Мне гэтага натоўпу, бо ўжо
тры дні яны астаюцца са Мною і не маюць
чаго есці;
3 І, калі адпушчу іх галодных дадо-
му, аслабеюць яны ў дарозе, а некато-
рыя з іх папрыходзілі здалёку».
4 І адказалі Яму Яго вучні: «Адкуль
зможа хто накарміць іх хлябамі тут,
у пустэльні?»
5 І Ён пытаўся ў іх: «Колькі хлябоў
вы маеце?» Яны ж сказалі: «Сем».
6 І Ён загадвае натоўпу ўзлегчы на
зямлю; і, узяўшы гэтыя сем хлябоў, уз-
даўшы падзяку, паламаў і даў Сваім
вучням, каб раздалі, і яны раздалі на-
тоўпу.
7 І мелі трохі рыбак; і, благаславіўшы
іх, Ён сказаў і іх раздаць.
8 І елі яны і наеліся, і назбіралі з па-
засталых кавалкаў сем кашоў.
9 А было іх каля чатырох тысяч. І Ён
адпусціў іх.
10 І, адразу ступіўшы ў човен са Сваімі
вучнямі, прыбыў у старану Далмануф-
скую.
Мацв. 15, 39
11 І выйшлі фарысеі і пачалі спра-
чацца з Ім, вымагаючы ад Яго знака
з неба, выпрабоўваючы Яго.
Мацв. 16, 1
12 І Ён, глыбока ўздыхнуўшы ў Сваім
духу, кажа: «Навошта род гэты вымагае
знаку? Папраўдзе кажу вам, не будзе
дадзена знаку роду гэтаму».
13 І, пакінуўшы іх, Ён зноў ступіў
у човен і адплыў на той бок.



Евангеліст Марк. Царская брама з вёскі Збірагі Брэсцкага раёна (фрагмент). Першая палова XIX ст.

## СЦЕРАЖЫЦЕСЯ ФАРЫСЕЙСКАЙ НАВУКІ

**14 І забыліся яны ўзяць хлябы і толькі адзін хлеб мелі з сабою ў лодцы.**
**15 І Ён наказваў ім, кажучы: «Глядзіце, сцеражыцеся фарысейскай кіслі ды Ірадавай кіслі».**
Мацв. 16, 1; Лук. 12, 1
**16 І разважалі яны між сабою, што хлябоў у іх няма.**
**17 І, уведаўшы, Ён кажа ім: «Чаго разважаеце, што не маеце хлябоў? Ці яшчэ не ўяўляеце і не разумееце? Ці яшчэ маеце сэрца сваё зацвярдзелае?**
**18 Вочы маючы, не бачыце? І вушы маючы, не чуеце? І не памятаеце,**
Мар. 6, 38; Іаан. 6, 9
**19 Калі тыя пяць хлябоў ламаў Я на пяць тысяч — колькі кошыкаў, поўных кавалкаў, назбіралі?» Кажуць Яму: «Дванаццаць».**
**20 А калі я тыя сем — на чатыры тысячы, колькі кашоў поўных кавалкаў назбіралі?» І кажуць [Яму]: «Сем».**
**21 І Ён сказаў ім: «Вы яшчэ не разумееце?»**

## ІСУС ВЫЛЕЧВАЕ СЛЯПОГА У ВІФСАІДЗЕ

**22 І прыходзяць яны ў Віфсаіду. І прыводзяць да Яго сляпога і просяць Яго, каб Ён дакрануўся да таго.**
**23 І, узяўшы сляпога за руку, Ён вывеў яго з сяла і, плюнуўшы яму на вочы, усклаў на яго рукі і спытаўся ў яго: «Ці бачыш што?»**
**24 І, паглядзеўшы, той сказаў: «Бачу людзей, што нібы дрэвы, здаецца, ходзяць».**
**25 Пасля Ён зноў усклаў рукі на вочы яму, і той пільна паглядзеў і вылечыўся і стаў бачыць усё выразна.**
**26 І паслаў яго дадому, кажучы: «І ў сяло не заходзь [і нікому ў сяле не расказвай]».**

## ПЁТР ПРЫЗНАЕ ІСУСА ХРЫСТОМ

**27 І пайшоў Ісус і Яго вучні ў сёлы Кесарыі Філіпавай; і ў дарозе Ён пытаўся ў Сваіх вучняў: «За каго Мяне лічаць людзі?»**
Мацв. 16, 13; Лук. 9, 22
**28 Яны ж сказалі Яму: «За Іаана Хрысціцеля, а другія — за Ілью, іншыя ж — за аднаго з прарокаў».**
**29 І Ён спытаўся ў іх: «А вы за каго Мяне лічыце?» Пётр у адказ Яму кажа: «Ты — Хрыстос».**
Іаан. 6, 69
**30 І Ён забараніў, каб нікому пра Яго не казалі.**
**31 І Ён пачаў навучаць іх, што Чалавечаму Сыну належыць шмат вытерпець і што ад Яго адцураюцца старэйшыны, і першасвятары, і кніжнікі і што будзе забіты, але праз тры дні ўваскрэсне.**
Мар. 9, 31; 10, 33; Лук. 9, 22
**32 І казаў Ён гэтае слова адкрыта. І, адвёўшы Яго ўбок, пачаў адгаворваць Яго.**
**33 Ён жа, абярнуўшыся і ўбачыўшы Сваіх вучняў, забараніў Пятру і кажа: «Адступіся ад Мяне, сатана, бо думаеш ты не пра Божае, але пра чалавечае».**

## ЯК УРАТАВАЦЬ САВЮ ДУШУ

**34 І, паклікаўшы натоўп разам са Сваімі вучнямі, сказаў ім: «Калі хто хоча за Мною ісці ўслед, няхай зрачэцца самога сябе і хай возьме свой крыж і ідзе ўслед за Мною.**
Мацв. 10, 38; 16, 24; Лук. 9, 23; 14, 27
**35 Бо хто хоча сваё жыццё ўратаваць, той загубіць яго; хто ж загубіць сваё жыццё дзеля Мяне і Дабравесця, уратуе яго.**
**36 Бо што выгадае чалавек, здабыўшы ўвесь свет, а пашкодзіўшы Сваёй душы?**



**37 Бо што дасць чалавек у замен Сваё душы?**
Пс. 48, 9
**38 Бо хто пасаромеецца Мяне і Маіх слоў перад гэтым родам пералюбным і грэшным, таго пасаромеецца і Чалавечы Сын, калі прыйдзе ў славе Свайго Бацькі разам са сваімі анёламі».**
Мацв. 10, 33; Лук. 9, 26; І Іаан. 2, 23; Рым. 1, 16; І Цім. 2, 12

**Працяг будзе**

Як мяркуюць, Марк быў родам з Ерусаліма. З маленства выхоўваўся ў хрысціянскай сям'і, дом якой быў месцам збору і малітваў. З апосталам Паўлам зрабіў падарожжа на Кіпр, пасля далучыўся да Пятра, быў разам з ім у месіянерскай дзейнасці ў Рыме, дзе напісаў паводле яго ўспамінаў, як лічаць евангелезнаўцы, гэтае Дабравесце.

Сёння амаль усе даследчыкі згодныя з тым, што гэта найпершы з жыццяпісаў Ісуса, якія захаваліся і дайшлі да нас. З яго найбольш чалавечна паўстае вобраз Хрыста, з жывымі непаўторнымі падрабязнасцямі. Увогуле твор гэты, слушна зазначаюць даследчыкі, як справаздача відавочцы пра Ісусава жыццё.

Бясхітрасна далучае Марк сказы злучнікам «і», часта ўжывае слова «адразу». Сям-там пракідаюцца арамейскія словы. І здаецца, гэта Пётр, расказваючы Марку аб нядаўніх падзеях, усё яшчэ чуе ўвушшу Ісусаў голас і не можа ўтрымацца, каб не ўзнавіць Яго словы ў іх першароднасці, па-арамейску...

1, 25. Ісус не хацеў, каб пра Яго боства сведчыў нячысты дух.

1, 32. Пасля заходу сонца адыходзіла субота, а разам з ёю і забарона іудзеям насіць цяжары, вось чаму якраз у гэты час і прыносілі да Ісуса хворых.

1, 45. Ісус не мог адкрыта прыйсці ў горад з тае прычыны, што вылечаны пракажоны пэўна ж не змаўчаў пра Ісусава дакрананне да яго, а гэта рабіла, паводле іудзейскай традыцыі, Ісуса «нячыстым».

2, 9. Адпускаючы грахі і вылечваючы хворага — робячы тое, што немажліва чалавеку, Ісус тым самым выяўляе Боскую сутнасць.

2, 28. Гаспадаром суботы быў Бог (Ягве). Тут жа Ісус, кажучы, што з'яўляецца гаспадаром суботы, сцвярджае адначас, што Ён, Божы Сын, роўны Богу. Хрыстос выкрывае розныя памылковыя ўяўленні фарысеяў і кніжнікаў аб сапраўдным святкаванні суботы.

3, 6. Фарысеі варагавалі з ірадыянамі — прыхільнікамі дынастыі Ірада Вялікага, аднак у змове супроць Хрыста лучацца і са сваімі ворагамі.

3, 21. Хрыстовы непрыязнікі распускалі ўсялякія пагаласкі, і родныя прыйшлі па Ісуса, каб завесці ў Назарэт і ўратаваць ад ганенняў фарысеяў.

3, 22. Нават з Ерусаліма прыйшлі кніжнікі, каб знеслаўляць Хрыста.

4, 34. Хрыстос казаў пра Божае Царства ўпадабненнямі, каб яно больш даступна ўявілася іудзеям, якія разумелі яго ў дзяржаўна-палітычным сэнсе, а не духоўным.

4, 38. Для лепшых гасцей у некаторых чаўнах былі лаўкі з падушкамі.

5, 30. Хрыстос знарок задае такое пытанне, каб звярнуць увагу людзей на веру гэтай жанчыны.

6, 5. «Не мог» — гэта значыць, не знайшоў належных умоў у людзей, а якраз веры.

6, 52. Апосталы не зразумелі ў цудзе прымнажэння хлеба галоўнага хрысціянскага таінства — прычасця.

7, 22. «Ліхое вока» — зайздрасць; «дурнота» — так у Старым Запавеце азначалі сапсутых людзей, якія жывуць без Бога ў сэрцы.

**Пераклад і каментарыі**
**Анатоля КЛЫШКІ**

## XVII СТАГОДДЗЕ: ВАНДРОЎКА ТЭАДОРА БІЛЕВІЧА

Тэадор Білевіч — імя новае для сучаснага чытача. І справа тут не столькі ў нашым слабым веданні айчыннай гісторыі, колькі ў асобе аўтара «Дзённіка». Ён не ўславіў сваё імя выключнымі ўчынкамі альбо творчасцю. Тэадор Білевіч быў сціплым прадстаўніком сваёй культуры, культуры эпохі контррэфармацыі і барока, якая яшчэ хоць і трымалася сярэднявечных ідэалаў ананімнасці, але ўжо адчувала рэнесансны смак індывідуалізму. Тэадор Білевіч не цураўся падрабязнай дзённікавай працы, фіксавання ўласных уражанняў і разважанняў, але яму не прыходзіла на думку ідэя неабходнасці выдаць свой рукапіс.

З біяграфіі Білевіча мы ведаем, што на момант напісання «Дзённіка» ён ужо звездаў радасць і асалоду друкавання ўласных твораў — у 1675 г. у Вільні ў друкарні Віленскай акадэміі выйшла яго філасофская дысертацыя «Філасофія ў трох частках: рацыянальная, натуральная і маральная». Тое, што ён не рабіў захадаў для надрукавання сваіх англійскіх уражанняў, можна часткова растлумачыць і тым, што час быў надта неспрыяльны для ўсялякіх мастацтваў: у той час, калі Тэадор Білевіч выходзіў на арэну культурна-грамадскай дзейнасці, Рэч Паспалітая, а ў яе складзе і Вялікае княства Літоўскае залечвалі раны, нанесеныя шматгадовымі войнамі з Расіяй і Швецыяй. А войнам, як звычайна, спадарожнічаюць хваробы, эпідэміі, голад, руіны, смерць. Менавіта ў сярэдзіне і другой палове XVII ст., калі жыў Тэадор Білевіч, Беларусь страціла больш як палову свайго насельніцтва. Надзённым рабілася пытанне: выжыць народу альбо не.

Гэтыя часы адлюстраваныя славутым польскім пісьменнікам Генрыкам Сенкевічам у рамане «Патоп», з якога мы, дарэчы, шмат чаго можам даведацца і пра старажытны род Білевічаў, адкуль паходзіў наш аўтар. Сенкевіч узяў сабе жонку з роду Білевічаў, і такім чынам да яго трапіў архіў гэтага роду. Архіў і паслужыў крыніцай для рамана, а адзін з Білевічаў зрабіўся яго галоўным героем. Так што шмат якія звесткі пра час і сям'ю Тэадора Білевіча мы можам узяць з гістарычнай панарамы Сенкевіча.

Тэадор Білевіч, тыповы прадстаўнік свайго класа і свайго часу, атрымаў вышэйшую адукацыю ў Віленскай акадэміі, на філасофскім факультэце. За гады навучання (1672—1675) Білевіч добра зарыентаваўся, што патрэбна яму для далейшай грамадскай дзейнасці. З тых навук, што выкладаліся на факультэце філасофіі, найбольш сур'ёзна ён вывучаў этыку, эканоміку і палітыку,— курс маральнай філасофіі. Таму ў сваёй дысертацыі, якую мы ўжо згадалі, ён у пэўным сэнсе ішоў супраць традыцыі універсітэцкай навукі таго часу, якая захаплялася праблемамі логікі і фізікі. Карысць маральнай філасофіі Білевіч бачыў у тым, што «занятак ёю выхоўвае людзей не толькі адукаваных, але таксама добрасумленных, дабрачынных і адданых справе служэння айчыне».

Паспяхова скончыўшы акадэмію, Білевіч рушыў у падарожжа. Падарожжы па развітых краінах Заходняй Еўропы былі папулярныя ў асяроддзі дастаткова заможнай моладзі. Яны лічыліся своеасаблівым працягам выхавання — тэарэтычныя веды дапаўняліся практычным вопытам, што павінна было паслужыць пэўнай падрыхтоўкай да грамадска-палітычнай дзейнасці. Аб даволі высокім грамадскім становішчы роду Білевічаў, а значыць, і яго прадстаўніка Тэадора, сведчыць тое, што ў гэтым падарожжы прыняла ўдзел, напрыклад, сястра караля Яна III Сабескага Кацярына Сабеская / у той час яна ўжо належала да магнацкай фаміліі Радзівілаў, бо з ёю ажаніўся падканцлер і польны гетман Вялікага княства Літоўскага Міхал Казімір Радзівіл). Выехаўшы разам з Радзівіламі ў канцы лета 1677 г. з Вялікага княства Літоўскага, Білевіч праехаў з імі па Германіі, Чэхіі, Італіі. У Венецыі іх шляхі разышліся, і далей Білевіч паехаў ужо адзін — у Францыю, а потым у Англію і назад, дадому. Увесь час, пакуль доўжылася падарожжа, ён вёў запісы, якія і склалі «Дзённік». Напісаны ён па-польску са значнай часткай лацінскіх выразаў, таму яго можна аднесці да твораў макаранічнага стылю, папулярнага ў той час у Еўропе. Менавіта тады пачалі актыўна развівацца літаратуры на нацыянальных мовах, але яшчэ моцна давала аб сабе знаць школьная і універсітэцкая лацінская навука. Дарэчы згадаць, што і дысертацыя Білевіча была напісана на латыні, бо гэтая мова ў XVII ст. усё яшчэ заставалася мовай навукі і філасофіі.

Большая частка «Дзённіка» засталася ў рукапісу і захоўваецца зараз у адной з бібліятэк Польшчы. Меншая частка, якая тычыцца падарожжа па Англіі, была надрукавана ў Познані ў 1929 г. (старонкі 83—98 арыгіналаў). З гэтага выдання і зроблены наш пераклад. Падаем яго са скарачэннямі, з захаваннем па магчымасці стылю арыгіналу і ўсіх макаранізмаў.

**Ларыса ЧАРНЫШОВА**





## ДЗЕННІК, ПІСАНЫ Ў АНГЛІІ АБ ТЫМ, ЯК ТАМ ВАНДРАВАЛАСЯ І ЖЫЛОСЯ

Дня 21 [жніўня] я шчасліва пакінуў Парыж, iter accipiendo[1] ў Англію, каб убачыць гэтае каралеўства, якое ў Еўропе абавязкова трэба наведаць; такім чынам, рушыў да Кале, французскага горада на граніцы ля мора, адкуль паеду да Англіі морам...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дня 26 спыніўся, паесці ў Булоні, горадзе за 7 міль ад начлегу. Гэта партовы горад на высокай гары, у прыгожай мясцовасці, і добра абароненываламі, мурамі і равамі, а з другога боку — морам, да якога з-за багны цяжка падысці. Паабедаўшы там, на паштовых ехаў да Кале 7 міль, куды трапіў а трэцяй гадзіне апоўдні. Гэта горад вялікі і прыгожы, аднак таксама гнюсна людны, умацаваны; яшчэ і зараз працягваюць яго узмацняць фартыфікацыяй, вялікім коштам на цэлую мілю extruunt[2] цытадэль. Каб трапіць у горад, трэба абмінуць пяць равоў з магутнымі валамі і мурамі, якія абкружаюць горад. І столькі ж брам з пад'ёмнымі мастамі, presidium[3] у некалькі тысяч вояў, бо горад пагранічны і партовы; з другога ж боку горад alluit[4] мора, ля берагоў якога шмат розных караблёў. Гэта ўжо апошні горад Францыі, адкуль, сеўшы на невялікі карабель, бо таго ж дня а 8 гадзіне вечара ён адплываў (ходзіць два разы на тыдзень), паплылі да Англіі, нацярпеўшыся па дарозе ад сустрэчнага ветру і небяспекі, а таксама ад нездароўя; назаўтра ўвечары прыплылі да limites[5] Англіі, да першага на ўзбярэжжы горада, размешчанага на гары, званага Дуўр, дзе высадзіўшыся, заначавалі.

Дня 27, ачуняўшы ад марской хваробы і наняўшы карэты, паехалі.

Дня 28 раніцай спыніліся пад'есці ў горадзе Кентэрберы праз 14 англійскіх міль, якія складаюць 7 нашых. Ехалі мы хутка, маючы вельмі добрых і прыгожых англійскіх коней. Гэты англійскі край вельмі багаты ўсім, палямі, раллёй, незвычайна багатай і прыгожай з выгляду. Тут шмат палацаў, прыгожых alla campagna[6]. Вельмі прыгожыя коні, скаціна неверагоднай велічыні, так што чвэрць цяляці альбо барана ледзь не з вала. Potus usitatus[7] піва, і вельмі добрае. Plebis[8] строі ў жанчын з высокімі капелюшамі на галавах, а ўнізе калматыя, на чаравіках знізу носяць нейкія круглыя жалезкі, каб не псаваць чаравікі аб брук і каменне. У кожнай вёсцы знаходзіцца некалькі соцень добра апранутых вояў, ёсць яны і ў мястэчках. Край вельмі багаты, звычаямі і ладам жыцця вельмі падобны да нямецкага. У гэтым каралеўстве ўжо няма ніводнага каталіцкага касцёла, і тыя, хто трымаецца гэтай веры (альбо тутэйшыя, якіх, аднак, вельмі мала, альбо чужаземцы, прыезджыя), павінны хавацца з гэтым. Начавалі ў гэты дзень праз 26 англійскіх міль у добра дагледжанай вёсцы.

Дня 29 праехалі 24 мілі да мястэчка . . . . . . . .[9], дзе пад'елі, на начлег ехалі 12 міль да Лондры, aleas[10] Лондана, сталічнага горада Англіі і сталай рэзідэнцыі англійскіх каралёў. Non immerito[11] Лондра бярэ denominationen nominis a longitudine[12], бо на пяць міль extenditur et longitudine multo superat[13] Парыж, толькі не такі шырокі, аднак відавочна большы за Парыж. Не горшы ён і па прыгажосці як камяніц, палацаў, так і розных аздоб, і крам тут таксама вялікая колькасць, бо вельмі гэта на ўсё багаты край і партовы. Мора alluit[14] горад збоку, а праз увесь горад, вельмі доўгі, цячэ магутная Тама[15], па якой караблі ўваходзяць у горад; з-за вялікай колькасці accurate comput[16] іх немагчыма, таму што безупынна адны прыбываюць, другія адбываюць, але трывала знаходзіцца там circiter[17] тры альбо чатыры тысячы галоўных караблёў, акрамя розных дробных рачных караблёў, так што горад ажно apparet[18] стракаціць ад мачтаў і сцяжкоў.

Дня 30 хадзіў да рэзідэнцыі англійскага караля, якая знаходзіцца як бы ў прыгарадзе, але і там, каля рэзідэнцыі, месца добраўпарадкаванае на стары лад. Рэзідэнцыя не вельмі apparens extrensecus[19], не надта высокая і extranei operis magnificentiam[20], аднак вельмі далёка extenditur in longitudine et circumferentia[21]. Там я inveni[22] найпрыгажэйшы і найлепшы парадак аховы, бо заўсёды некалькі соцень людзей стаяць на варце, больш за сотню кавалерыстаў, гэта значыцца гардукораў[23] (так яны называюцца), заўсёды стаяць з агаленымі рапірамі і мушкетамі ля кожнай брамы па двое, вельмі выдатныя ўва ўсіх дачыненнях; грэнадзёраў з сотню з мушкетамі, а ў мушкетах нажы, яны таксама на добрых конях і вельмі прыгожыя з выгляду; пяхоты адборнай, па-каралеўску апранутай (сукно на іх як пурпур),— усяго тысяча дзвесце чалавек. Яны штодзённа мяняюцца а трэцяй гадзіне апоўдні з прыгожым рытуалам; тыя, што ўжо справілі сваю службу, выязджаюць з палаца, наперадзе радамі грэнадзёры, перад якімі едуць барабаншчыкі ў аксаміце, адны — у чырвоным, другія — у лімонным, у вельмі прыгожым суладдзі. Гэтыя, выехаўшы з палаца, радамі стаяць перад брамай, за імі кавалерыя, якой praeeunt[24] трубачы ў такіх самых вопратках, што і барабаншчыкі. Трубачы, яны таксама locantur suo ordine[25]

перад брамай, потым прыязджаюць тыя, што succedunt[26] на варту, equali ordine et numero[27], і яны locantur[28] там жа так, што займаюць увесь пляц з вялікай пышнасцю, у прыгожым парадку і пастраенні, усе на конях; потым афіцэры нанова прыбыўшых ададаюць загад mutant[29] тых вартавых, а споўніўшы варту, разводзяць, потым новыя заступаюць на іх месца і едуць suo ordine[30] да палаца, а вольныя пасля сваёй варты вяртаюцца ў горад. Пяхота hoc ordine[31] з харугвамі mutantur[32] раніцай а восьмай гадзіне. Гэтая вялікая помпа робіць велічнае ўражанне.

Дня 31 быў у каралеўскім звярынцы, які знаходзіцца побач з палацам, там шмат розных звяроў і птушак, між іншым некалькі тысяч розных заморскіх качак varii generis[33], дзіўных, вялікіх, як лебедзі... Там я яшчэ бачыў белых, як снег, варон і некалькі галак, таксама бялюткіх, альбо стракатых, як сарокі. У гэтым звярынцы ёсць падарунак маскоўскага пасла — сава, якую ён падараваў англійскаму каралю ад імя свайго цара, тая ж сава лічыцца raritatem[34] з-за сваёй велічыні. Смеху варта, што яе далёка праз увесь свет везлі.

Дня 1 Septem [bris][35] раніцай быў на вежы, якая supereminens[36] над усім горадам, прыгожая па сваёй структуры з апрацаванага каменя, прызначаная для агляду situm[37] горада. Калі я туды падняўся, дык надта admiratione dignum[38] здалася opus magnificéntia[39] горада, які нельга параўнаць ні з адным іншым горадам; ён далёка пераўзыходзіць па велічыні Парыж, да таго ж незвычайна шчыльна забудаваны і pulcherrimo ordine[40], увесь чырвоны і раўнюсенькі, inaltitudine eminent[41] вежы і касцёлы, зверху адкрываецца надзвычайна pulcherrimum prospectum[42], а праз цэнтр горада цячэ Тама, на якой, што качак, поўна рачных караблёў, і мноства перапраўляецца на іх людзей, адны з прычыны выгод, бо з аднаго месца ў іншае пешшу трэба ісці мілі з дзве ob magnitudinem urbis[43], а па вадзе можна з выгодамі праехаць і дзе трэба на беразе сыйсці, прыбыўшы ad praedestinatum locum[44]; другія ж плаваюць па Таме толькі для рэакрэацыі[45], ствараючы praedelicatum as picientibus prospectum[46]. Недалёка ад гэтай вежы на адной браме бачыў я больш як сто чалавечых галоў, на кіі насаджаных, гэта галовы бунтаўшчыкоў, сенатараў і дэпутатаў парламента, якія паўсталі былі супраць караля; потым кароль, перамогшы іх, загадаў адсекчы ім галовы і, пасадзіўшы гэтыя галовы на кіі, выставіць іх на брамах civitatis[47]. Гэтая брама вялікая і неблагой пабудовы, пастаўлена вялікай spezaú[48], in medio pontis[49], які ідзе праз Таму. На тым мосце размешчаны каменіцы і розныя крамы, так што тым, хто ідзе альбо едзе праз горад, ён здаецца не мостам, а ладна брукаванай вуліцай, якая нічым не адрозніваецца ад іншых вуліц. У гэтым горадзе, як і ўва ўсёй англійскай дзяржаве, вера ў людзей кальвінская, няма ніводнага каталіцкага касцёла, толькі адна каплічка ў каралеўскім палацы in gratiam[50] самой каралевы, якая з'яўляецца каталічкай, бо партугалка. У той капліцы службу адпраўляюць капеланы каралевы. Яны, пакуль знаходзяцца ў палацы, untuntur habitu[51] манахаў, а калі debent egredi[52] альбо выехаць з каралевай, тады апранаюцца ў свецкую адзежу і arma ad latus[53], бо былі б aplebe[54] закіданыя каменнем, калі б apparerent in suo habitu[55] ў горадзе альбо extra[56].

Civitas abudantissima[57] ўсімі заморскімі, індыйскімі, партугальскімі таварамі, бо партовы (і ўся Англія вакол ambitur mari[58]). Горад мае таксама gentes adeo subtilis ingenii ad navigationes[59], што і цяпер яшчэ яны адшукваюць у моры інсулы[60], правінцыі і шляхі, пра якія нічога не было чуваць раней. Гэтая дзяржава, abundans[61] як аквітнасцю зямлі, так і партовымі выгодамі, ні ў чым не мае дэфекту[62], таму сукны, матэрыя і ўсялякія рэчы самыя лепшыя можна купіць у Англіі. Нават скаціна тут такой велічыні, што бараны як дарослыя цяляты, а чвэрці цялячага мяса роўныя нашым валовым чвэрцям.

Апоўдні быў у палацы (які знаходзіцца за ракой) іх кальвінскага архібіскупа, які ў іх таксама з'яўляецца прымасам regni[63]. Потым паехаў на забавы, дзе брытанцы заганялі мядзведзя і яшчэ буйвалаў, вельмі раз'юшаных, так што сабак рагамі кідалі, як быццам мячыкі, далёка ўверх, аднак рогі ў іх абгорнутыя чымсьці, каб не маглі пашкодзіць сабакам.

Дня 2 раніцай быў у вялікім antiquitatus[64] касцёле, пры каталіках ён быў кафедральным; тут хаваюць усіх англійскіх каралёў яшчэ і дагэтуль. Бачыў epitaphia[65] ўсіх слаўных на працягу тысячы год каралёў і каралеў, між іншым Эдуарда, які 560 год назад быў primus confessor[66], аб ім fentur[67], што лячыў усіх хворых толькі solo attactu[68] і гэтую potestatem fertur (si credere fas est)[69] пакінуў усім, аж но да цяперашняга, каралям, і гэта называюць morbus regium[70]. Усе англійскія каралі лечаць attactu[71] толькі ў гэтым касцёле. Наверсе praesentantur effegies expressae[72], зусім як vivae[73], слаўных каралёў, ў каралеўскіх строях, якія раней насіў кожны з іх; некаторыя з іх ужо вельмі старыя, так што строі, як прынята, аксамітныя, кармазінавыя, падшытыя гарнастаямі, antiquitate consumptae[74], як павуцінне, калі дакрануцца; усе гэтыя effegies asservantur cum honore[75] ў замкнёных шафах.

Апоўдні быў у замку, вельмі добра ўмацаваным, які мае suum situm[76] недалёка ад мора. Там asservantur[77] ўсе скарбы regni[78]; маю ўвагу асабліва прыцягнула inter alia[79] каралеўская карона, надзвычай дарагая, у яе наверсе, як звычайна на каронах, смарагд небывалай прыгажосці велічынёй з вялікае галубінае яйка, і нават большы, толькі трохі меншы за курынае, ён каштуе чатырыста тысяч фунтаў серабром; там яшчэ sceptrum presentatur[80] Да той жа кароны, таксама вялікай вартасці, у яго



наверсе аметыст велічынёй з дужы грэцкі арэх, увесь гранёны, надзвычайнай высакароднасці; а яшчэ pomum regale[81], вельмі шыкоўны, увесь у дыяментах. На самым версе кароны, гэта значыць на крыжыку, пэрл, за які давалі ў заклад восемдзесят тысяч фунтаў серабром і розныя іншыя скарбы, і залаты посуд. Ёсць тут яшчэ адна купеля з чыстага золата, з якой каралёў памазваюць in imperia[82], яна вышынёй у палову чалавечага росту. Выйшаўшы адтуль, я разглядаў у цейхгаузе ўсялякую armamenta[83], зброю каралёў, якую яны звычайна насілі, усё гэта вельмі магутнае. Ля брамы замка asservantur varia ghaera animalium[84], менавіта львы незвычайнай велічыні, асабліва два: аднаго з іх называюць каралём з-за яго выключных памераў. Шмат тыграў, леапардаў. З ільвом побач знаходзіцца маленькі сабачка, які жыве ў адной з ім клетцы, так іх і з Афрыкі разам прывезлі; гэта дзіўна, што гэткі жорсткі звер, які ўсё, што толькі трапляе да яго жывое, зараз жа раздзірае на кавалкі, таго сабачку заўсёды patitur[85] і нават, зглададаўшы, не з'ядае яго.

Дня 3 хадзіў па горадзе, прыглядаючыся да крам, у якіх багата розных заморскіх, партугальскіх, індыйскіх тавараў, так што, здаецца, кожны тут можа знайсці сабе ўсе патрэбныя для ўласнай карысці і жадання.

Дня 4, паколькі была нядзеля, бачыў каралеўскую сям'ю. Кароль быў прыватна, без помпы, у сваёй капліцы, якая знаходзіцца ў палацы, а каралева — у сваёй слухала каталіцкую імшу, бо яна партугалка. Яе капліца тут жа ў палацы. З каралём быў князь Мінстэрскі. generalissimus[86] англійскага войска, каралеўскі сын[87], аднак non ex legitimo toro[88] (а ад наложніцы, хаця і primogenitus[89]), бо ад каралевы кароль не мае нашчадкаў. Кароль мае шмат іншых сыноў, усе ад наложніц, якіх у яго больш за дзесятак, з імі ён жыве publice[90].

Апоўдні быў у каралеўскім звярынцы, куды людзі сыходзяцца дзеля праменаду; там бачыў мноства людзей высокага роду, сярод іх нямала дам, якія ў Англіі больш прыгожыя і белыя тварам, чым у іншых краях, яны ні ў чым не саступаюць у дачыненні строяў дамам іншых краёў, бо omnia genera[91] матэрыі і рэчаў, патрэбных для ўбрання, без закупу ў чужых краях, маюць in quantitate[92] ў сваёй краіне, так што суседнія краіны купляюць у іх патрэбнае для адзежы.

Дня 5 аддаў сваю скрыню з некаторымі рэчамі гданьскаму купцу, каб проста праз мора, бо ехаў на караблі, адвёз яе да Гданьска.

У той жа дзень апоўдні (бо наведаў яшчэ кірмаш пад час свайго знаходжання ў гэтым горадзе) быў на рынку, дзе ўсё curiositates dignae ad videndum[93] (на рынку стаяць будкі, у якіх ўсё прадстаўлена). На пэўны час сюды з'язджаюцца з усіх краёў розныя людзі, якія гэтай справай зарабляюць на жыццё.

Primario[94] бачыў там слана, незвычайна вялікіх памераў жывёліну, якая так навучана да розных штук, якія вырабляе носам, што, здаецца, чалавек рукой не мог бы лепей зрабіць; бо нос мае даўгі — на чатыры альбо пяць локцяў даўжыні — і падобны на вужа; гэтым носам слон кіруе па ўласнай волі. Спачатку, узняўшы з зямлі мушкет, робіць розныя фіглі, як вымуштраваны салдат, потым гэтым носам так нясе харугву, што, здаецца, ніводзін чалавек не здолеў бы зрабіць лепей, а потым аддае яе з вялікай цырымоніяй і паклонам чалавеку, які пры ім прыстаўлены. Потым паднімае з зямлі мушкет, пакладзены там раней, і ўжо з запаленым кнотам, і страляе, а пасля ізноў кладзе. Потым на яго ставяць зроблены з дрэва як бы замак з гарматамі, а ўнутры замка людзі, якія страляюць з гэтых гарматак, а тая жывёліна застаецца immobilis[95], як бы ніякага цяжару на ёй і не было. У іншым месцы там бачыў шмат розных а natura[96] дзіўных рэчаў. І — то[97], нейкая заморская птушка, у якой пер'е накшталт поўсці, чорная галава накшталт індычынай, толькі большая, ногі накшталт страусіных, наверсе галавы мае нешта накшталт грэбеня, як бы нейкі рог; яна бохан хлеба, хаця б і самы вялікі, глыне за раз. Там жа ёсць і конь а шасці нагах; карова, у якой ля шыі як бы цэля вісіць, у якога восем рагоў накшталт барановых і сем даўгіх казіных, а астатнія карацейшыя, падобныя на вялікія пальцы proprissimae[98], з пазногцямі, аднак гэта рогі. Ёсць баран, які сам як вялізны сабака і поўсць мае чырвоную, толькі на хрыбце і пад шыяй даўжэйшую, а ногі і галава ў яго як у барана. Бачыў я ўсё гэтае, а яшчэ нежывыя monstra naturae[99], па-першае, адно дзіця без ног і без рук, адно толькі тулава, з жыватом і галавой, нарадзілася і жыло так тры гады, а цяпер пасля анатамізавання, тут presentatur[100], потым яшчэ блізняты, такія маленькія, як кураняты, але з усімі hominis effigies et naturalia[101], відаць, што абое былі хлопчыкамі; яшчэ адно цяля, у якога галава куды большая, чым яно само, потым прадстаўлены розныя іншыя дзівы naturae[102], як сярод рыб, так і сярод звяроў; бачыў там таксама розных марскіх катоў, дзіўных, не падобных да тых, якія звычайна жывуць у нашых краях. Адзін, вялізны, як сабака, меў дзіўную галаву без поўсці, толькі з агіднай рыжай барадой, як у чалавека. Гэты кот заўсёды ходзіць у адзежы, нібыта хлопец. Ён вырабляў розныя штукі на вяроўцы, як у нас жыды, што на вяроўках паказваюць розныя фіглі; гэты кот паліў табак, як чалавек, пускаючы дым праз нос і праз рот; на той жа вяроўцы другі кот такой самай велічыні, толькі афрыканскі, з незвычайна калматай і доўгай поўсцю, а галава, як у чалавека, голая, толькі чарнюсенькая, як у негра. Гэты таксама вырабляў розныя фіглі і на вяроўцы, і на зямлі.

У іншых клетках прадстаўлены розныя грозныя звяры, як, напрыклад, тыгры; хлопцы прадстаўлялі розныя камедыі, уцехі, між іншым, танчылі на вяроўцы розныя

...аўрад ці мог бы паверыць у нешта падобнае, бо хлопец на вяроўцы [illegible] ...ва локця ўверх, робячы розныя фігуры, і не толькі не падаў, а нават не адхіляўся ...бок; на адно калена ўкленчыўшы, другую нагу не згінаючы, пераварочваўся, і ўсё гэта ...абілася ad facilitatem celerrime[103]. Аднак гэта не так дзівіла, як тое, што дзяўчынка, пяці ...рыкладна год, выраблялa на вяроўцы ўсе гэтыя штукі, надзвычай добра танчыла роз...ыя фігуры, з вялікай адвагай і смеласцю, а потым на зямлі ўсе гэтыя штукі з вялікай ...уткасцю ізноў паўтарала, што мусіла maximum omnibus creare admirationem[104]. І шмат роз...ых іншых бачыў я там незвычайных рэчаў, але ўсе іх апісаць не выпадае з-за недахопу ...асу, а хто curiosus[105], трэба, каб усё пабачыў уласнымі вачыма для задавальнення ...ачуццяў і не шкадаваў, што марнуе час.

Дня 6 у карэце рушыў з Лондана, iter accipiendo[106] да Галандыі, у Амстэрдам. У гэты дзень спыніліся паесці ў мястэчку Berentut[107], праз 19 англійскіх міль, а заначавалі ...аксама ў мястэчку, Wtthem[108], праз 18 англійскіх міль. Увесь час ехалі паміж дамамі ... вёскамі.

Дня 7 паелі ў вёсцы Кольчестэр, праз 12 англійскіх міль, адтуль 14 міль ехалі на начлег да Харвіча, добра ўмацаванага і прыгожага in situatione loci[109] горада. Ля мора граніца англійскай дзяржавы канчаецца. Па дарозе мы мелі трохі клопатаў з англійскімі ...рыслужнікамі, бо не знойдзеш у свеце людзей больш зухаватых, чым англічане.

У той жа вечар а дзевятай гадзіне селі мы на карабель, каб праз мора дабрацца да Галандыі; па моры чатыры дні і ночы agitati[110] моцны сустрэчны вецер, былі in summo periculo[111] шукаючы spem salutis[112] у тым, каб стаць дзе на якар, patiendo maximum incommoditatem[113] здароўя; знаходзячыся за 4 мілі ад берага, на працягу ночы і паўтара дзён не маглі мы прыстаць.

Аднак 1 дня appulimus litus[114] да галандскага горада Alabril[115], вельмі добра ўмацаванага, бо таксама стаіць in finibus[116] Галандыі ля мора.

**Пераклад Ларысы ЧАРНЫШОВАЙ.**

---

1 Накіраваўшыся.
2 Будуюць.
3 Ахова.
4 Амывае.
5 Берагоў.
6 У сельскай мясцовасці.
7 Звычайны пакой.
8 У простым народзе.
9 Пропуск у тэксце.
10 Інакш кажучы.
11 Нездарма.
12 Назву ад слова даўжыня.
13 Прасціраецца і значна па даўжыні пераўзыходзіць.
14 Амывае.
15 Тэмза.
16 Дакладна падлічыць.
17 Прыблізна.
18 Здаецца.
19 Уражвае вонкавым выглядам.
20 Звонку невялічкая.
21 Цягнецца ў даўжыню і па акружнасці.
22 Знайшоў.
23 Ад фр.— гвардзейцы.
24 Папярэднічаюць.
25 Размяшчаюцца сваім парадкам.
26 Заступаюць.
27 У тым жа парадку і колькасці.
28 Становяцца.
29 Змяніць.
30 Сваім парадкам.
31 Тым жа парадкам.
32 Змяняюцца.
33 Рознага роду.
34 Рэдкасцю.
35 Верасня.
36 Узвышаецца.
37 Тут — панарама.
38 Вартай здзіўлення.
39 Велічная карціна.
40 У найпрыгажэйшым парадку.
41 У вышыню ўзносяцца.
42 Прыгожы від.
43 З-за вялікай разлегласці горада.
44 Да прызначанага месца.
45 Ад лац.— адпачынак.
46 Найпрыгажэйшую карціну для назіральнікаў.
47 Горада.
48 Ад італ.— кошт.
49 Пасярэдзіне моста.
50 Дзеля.
51 Носяць адзенне.
52 Трэба ім выйсці.
53 Зброя пры боку.
54 Народам.
55 З'явіліся ў сваім манаскім адзенні.
56 Па-за горадам.
57 Горад багаты.
58 Абкружаны морам.
59 Людзей, так добра падрыхтаваных у навігацыі.
60 Ад лац.— астравы.
61 Багатая.
62 Ад лац.— нястача.
63 Каралеўства.
64 Старажытным.
65 Эпітафіі, магільныя надпісы.
66 Першым спавядальнікам.
67 Распавядаюць.
68 Выключна дотыкам.
69 Здольнасць, як перадаюць (калі можна верыць).
70 Царская хвароба.
71 Дотыкам.
72 Выстаўлены зробленыя з воску постаці.
73 Жывыя.
74 Ад старасці друзлыя.
75 Постаці зберагаюцца з пашанай.
76 Сваё месца.
77 Зберагаюцца.
78 Каралеўствa.
79 Між іншым.
80 Выстаўлены скіпетр.
81 Царскі яблык-дзяржава,— сімвал вышэйшай улады.
82 На ўладу.
83 Зброя.



...віды жывёлін.
85 Шкадуе.
86 Генералісімус.
87 Герцаг Монмут.
88 Не з законнага шлюбу.
89 Высокага роду.
90 Адкрыта.
91 Усе віды.
92 У дастатку.
93 Можна пільна разгледзець.
94 Перш за ўсё.
95 Нерухомай.
96 Па прыродзе сваёй.
97 Па-першае.
98 Сапраўдныя.
99 Дзівы прыроды.
...Прыроднымі адзнакамі [illegible]
102 Прыроды.
103 Лёгка і хутка.
104 Выклікаць вялікае здзіўленне.
105 Цікавіцца.
106 Накіраваўшыся.
107 Брэнтвуд.
108 Уайтхэм.
109 Па месцазнаходжанню.
110 Гнаў нас.
111 У вялікай небяспецы.
112 Надзеі на паратунак.
113 Пакутуючы ад усялякіх парушэнняў.
114 Прысталі да берага.
115 Брэль.
116 На граніцы.

*Мікалай Крыштоф* ***РАДЗІВІЛ***

# ПАДАРОЖЖА Ў СВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

У магутным і заможным родзе Радзівілаў, што пакінуў значны след у гісторыі нашага краю, былі не толькі відныя дзяржаўныя дзеячы, палітыкі, рэлігійныя рэфарматары, але і людзі, надзеленыя немалымі літаратурнымі здольнасцямі. Сярод іх яскрава вылучаецца Мікалай Крыштоф Радзівіл, званы Сіроткам (1549—1616), маршалак надворны літоўскі з 1569, маршалак вялікі літоўскі з 1579, кашталян троцкі з 1586, ваявода троцкі з 1590, ваявода віленскі з 1604 года. У 1583—1584 гадах ён, нованавернены католік, шкадуючы сваю змарнаваную маладосць (да 1567 года ён, як і бацька ягоны, Мікалай Радзівіл Чорны, быў кальвіністам), выпраўляецца ў паломнае падарожжа ў Святую зямлю, якое пасля падрабязна і яскрава апіша ў кнізе «Мікалая Крыштофа Радзівіла падарожжа ў Святую зямлю», выдадзенай па-лацінску ў 1601 годзе. Неўзабаве пасля таго кніга была перакладзена на польскую мову (1607) і з тых часоў неаднаразова перавыдавалася, аднак цяпер у Польшчы яна вядомая хіба толькі спецыялістам у гісторыі літаратуры. То ж будзем спадзявацца, што гэты твор нашага земляка станецца жывым літаратурным набыткам і ў нас. Цалкам пераклад «Падарожжа» выйдзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў кнізе «Жыцій і Хаджэнняў» з новай выдавецкай серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі».

**ЛІПЕНЬ 1583**

*Няшчасны выпадак.*

...Здарыўся тут няшчасны выпадак, пра які, як мне бачыцца, напісаць трэба. Святар адзін, нейкі Антоні, з места Панорма, што на выспе Сіцылія (кажуць, што быў ён плябанам у адным месце біскупства Міланскага) у караблі венецкім (што называўся Фалера) прыплыў у Трыполь[1]. Паводле звычаю іншых паломнікаў, накіраваўся ён адразу да законнікаў францішканаў, дзе раніцай у суботу быў на імшы. А па імшы адразу да айца гвардыяна[2] пайшоў і сказаў яму, што калі слухаў імшу аб Святым духу, натхніў яго Госпад Бог, каб ён, веру хрысціянскую пакінуўшы, у магаметанскую абрэзаўся. Чуючы тое, законнік вельмі засмуціўся і намаўляў яго, каб Госпада Бога перад вачмі сваімі меў, чыім слугою і святаром ён быў. Але той апантаны чалавек, перш чым ісці да імшы, тлумача сабе наняў і, імшу справіўшы, пайшоў з кляштара да кады[3]. Заспеў у яго гандляроў валошскіх[4], што патрэбы свае вырашалі, і праз тлумача папрасіў сказаць яму, што ён хрысціянскі святар і што сёння, аб Духу Святым імшу праўляючы, быў ім натхнёны веру турэцкую прыняць. Кады пытаўся, ці добра ён усё абдумаў. Той адказаў, што яшчэ і не еў і, добра разважыўшы, прыйшоў да таго. І так загадаў кады, каб турбан турэцкі прынеслі, і на галаву яму надзеў, а калі тое дзеялася, гэты пярэхрыст гнюсны плакаў, а што на той час у сэрцы меў, адзін Госпад Бог ведае.

*Урачыстасць з атурчаным.*

Раніцай у нядзелю сямнаццатага ліпеня з напышлівасцю і ўрачыстасцю (як звычайна, калі хрысціянін атур-

чыцца) правялі яго праз места. Неслі перад ім дзве харугвы Магаметавы зялёныя, на якіх (замест азнакаў сцяжных) два хвасты морскіх коней [5] вісела. Сто янычараў [6] паабапал з паўгакамі [7], з трубамі, з бубнамі ішло і праводзілі яго праз вуліцу нашу, каб і мы на бядотны трыумф ягоны паглядзелі. Але мы наўмысна вокны пазачынялі і праз дзіры глядзелі на ўсё няшчасце ягонае. Малады быў чалавек, гадоў меў каля трыццаці, зарослы валасамі чорнымі. Ехаў на гнедым кані, на якім і сядзець не ўмеў, і не за вузду, а за сядло трымаўся. Каня пад ім два янычары вялі, чуга [8] на ім была з чырвонага адамашку, стралу ў правай руцэ трымаў, пер'ем дагары, а вастрыём дадолу павярнуўшы. І так па вуліцах мястовых трыумфуючы з ім ездзілі.

*Абразанне ў ятках туркі спраўляюць.*

Нарэшце паміж яткамі ў адной каморы абрэзалі яго, бо туркі не тымі абрадамі, як іудзеі, цырымонію гэтую спраўляюць. Гэтае абразанне вялікую хворасць яму прычыніла, так, што казалі, нібыта меўся з таго памерці. Дазналіся аднак нашыя, што ён штосьці быў у плябаніі напракудзіў, за што меўся быць кардыналам Бароміем пакараны, баючыся чаго, найперш у Венецыю з'ехаў, а пасля, сеўшы на карабель, у Сірыю ўцёк. Гэбрай, тлумач наш, апавядаў нам пасля, што бачыў яго ў стайні ў кады. Адразу ж бо пасля тае цырымоніі дарагія шаты з таго верніка здымаюць, пасля туркі яму там на нешта грошы збіраюць, а менавіта толькі сорак цэхінаў [9] яму перадалі, з іх аднак палову янычарам і музыкам, якія вядуць яго, даць павінен, тады пасылаюць яго на стайню, нарэшце вызначаць яму якую плату.

*Не на тое спадзяваўся.*

Пабачыўшы гэбрая, пытаўся ён, што хрысціяне пра яго гавораць, дык адказваў гэбрай, што вельмі дзівяцца. А ён на тое, болей я сам (кажа) дзіўлюся, што са мною дзеецца (бо яшчэ хворы быў), толькі тым суцяшаюся, што брата маю ў Канстантынопалі, які таксама атурчыўся, мушу да яго ехаць ды шчасце і гора з ім дзяліць.

Увесь той час, што я ў Трыполі жыў, што было вартага пабачыць, уважліва я агледзеў.

*Апісанне Трыполя.*

Места гэтае прыгожыя дамы і лазні мае. Прадмесці поўныя садоў, агародаў, крыніц і пладоў усялякіх. Есць тут і дрэвы моры [10], на якіх чарвячкі, што шоўк вырабляюць, гадуюцца і жывуць, з чаго мурыны [11] і сірыйцы нязмерныя багацці збіраюць, мноства вялікае шоўку па Еўропе рассылаючы.

*Пацук фараонаў.*

Есць у садах надзіва шмат пацукоў, якіх яны пацукамі фараонавымі называюць, асабліва ж у вёсках, дзе яны значную шкоду земляробам чыняць, курэй і гусей ядуць. Паўтары мілі ад места ехаў я да ўсходу сонца, дзе ўбачыў машэю [12] пры беразе морскім, а побач з ёю купальню вельмі вялікую мураваную, у якой прэсная вада і рознае рыбы ў дастатку.

*Святыя рыбы.*

Вераць туркі (з глупства свайго), што рыбы тыя асвячаныя, дзеля чаго пад пагрозаю смерці нельга лавіць іх нікому, хіба толькі (калі я добра памятаю) раз або два на год, князі іх трохі ўзяць і есці пасля могуць. Даюць ім заўсёды корму, ды варажбіты там нейкія чары спраўляюць.

Есць там таксама каля мора вежа з камянёў квадратных надта высокая, з гербамі аднаго шляхціча венецкага, які праз тое, што з адной мурынкаю грэх цялесны ўчыніў (што там у хрысціянаў смерцю караецца), цяжкасці меў вялікія і такою вежаю, за грошы свае збудаванаю, ледзьве адкупіўся. А тым часам карамужан [13] прыплыў, у якім і Секярэцкая, жанчына польская, была, загадаў я ў аднаго багатага гандляра наняць ёй прытулак, то ж яна, як не дазвалялі ёй з дома выходзіць адкрыта, у туркаў з вакна каменнем шпурляла і ў некалькіх трапіла; з таго гаспадар за малым вялікіх клопатаў не меў, што з дома ягонага ў туркаў каменнем шпурляюць. Прасіў пасля, каб я яе куды ў іншае месца звезці загадаў, але яна, без варты будучы, зараз з дома ўцякла, і з вялікаю цяжкасцю толькі на трэці дзень знайшлі яе ў царкве Св. Якуба, за паўтары мілі ад Трыполя. Царква тая папраўдзе грэцкая [14], спраўляюць у ёй аднак і католікі набажэнства сваё.

*Вялікая яе пабожнасць.*

Стараўся я пасля, каб ёй у караблі, у якім мае рэчы ў Венецыю везлі, хоць якое месца знайшлі. То ж вельмі яна смуткавала з таго, што болей ужо Святое зямлі не пабачыць, і тройчы ў мора скокала ад смутку свайго, так што ледзьве ўратавалі яе, каб не патанула. Загадаў я тады, каб варта пры ёй была.

*Уся трагедыя пра эміра.*

У тым часе эмір Махмет, вельмі заможны ўладца з Сірыі Фінікійскай, белы мурын, сын Мензур Кандана, эмір з Лістры і Дэрвіі (ёсць пра тыя месты згадка ў Дзеях Апостальскіх [15]), санджак, уехаў у Трыполь з пяцьцюстамі коннымі і гэтулькімі ж пешымі мушкетнікамі. І хоць эмір той быў магаметанін, аднак меў пры сабе ерэтыкоў хрысціянаў, гэта значыць французаў, пра якіх вышэй гаварылася, якіх друзіянамі [16] называюць, гэта рэшткі яшчэ тых, якія Святую зямлю з рук паганскіх былі вырвалі, але ж ад дабрачыннасці продкаў сваіх далёка адышлі; веку ён быў маладога, маючы дваццаць гадоў, твар меў тлусты, пагляд страшны. Гэта той эмір, пра якога раней пісалася, што туркі баяліся вельмі, каб ён з Абурысам супраць іх не злучыўся; імператар турэцкі [17] вельмі быў на яго з тых прычын узлаваны. Нейкі санджак [18] атрымаў быў ліст ад імператара таго турэцкага, каб



яму бацька таго эміра санджакоўства над местамі памянёнымі і партовых мытаў трыпольскіх саступіў; што невыказную крыўду эміраву выклікала, бо ён за ўрад той і мыта надзіва вялікую колькасць грошай даў быў імператару, так, каб не іначай, але законным парадкам здабытыя тыя дастойнасці ў доме ягоным і пры нашчадках ягоных вечна надалей трывалі. Вось жа, калі вельмі эмір састарэў, а на яго месца новага санджака прыслалі, дык ён ці то ад смутку, ці то ад хваробы памёр. Тады сын яго, малады эмір (пра якога гаворка), такой непрыстойнасцю ўзрушаны, маладзён сардэчны і смелы, хоць толькі васемнаццаць гадоў маючы, восем тысяч стральцоў сабраў і, уехаўшы ў Лістру, санджака, што ягонага бацьку выгнаў, і шмат туркаў з ім забіў, а Лістру, Дэрвію і мыты турэцкія забраў. Паклікалі яго пасля мандатам да імператара, ён не з'явіўся, загадалі яму на вайну ў Персію ехаць [19], ён не паехаў, але дванаццаць тысяч войска сабраўшы, чакаў да канца, што ж далей імператар турэцкі рабіць будзе. Цяпер толькі тысячу чалавек з сабою ў Трыполь прывёў, тры тысячы ў замку сваім за дзве мілі ад Трыполя пакінуў, а ў іншым вельмі добра абароненым (называюць яго Газір, яго мы яшчэ з мора на гары вельмі высокай недалёка ад Берыта [20] бачылі) чатыры або пяць тысячаў гатовых меў; усё тое дзеля таго, што Джафара-пашу [21], які ў Трыполі перабываў, нямала баяўся. Аднак жа назаўтра раніцаю, тысячу людзей з сабою ўзяўшы, ехаў прывітаць таго пашу, які з стану свайго выехаў крыху прагуляцца. Я, каб абодвух пабачыць разам, і сам у поле паехаў. А так вяртаўся паша з чатырмастамі коннымі ў шатах з чырвонай парчы, на кані светла-гнедым; эмір жа выехаў перад ім і з аднаго боку са сваімі стаў, тады яны за звычаем народу свайго супольным галоў нахіленнем павіталіся. Пасля паша пад намётам ссеў з каня (народ збоку стаў); эмір таксама, у брунатным адамашку, перад намётам з свайго варанца ссеў, жаўнеры ж яго конныя адразу расступным радам сталі, а пяхоты ён меў і болей і мужоў лепшых, чым паша. Размова іх гадзіну цэлую трывала, у якой пытаўся ў яго паша, чаму ён імператару супрацівіцца, на што ён шматслоўна адказваў, нявіннасць сваю даводзячы. Пасля ж раз'ехаліся. Чаўш [22] заўсёды праваруч эміра стаяў (бо гэты бок у туркаў слабейшы), які над мытам трыпольскім быў, частку яго ў скарб імператарскі паводле звычаю аддаючы. Эмір дзве жонкі меў, але з ніводнаю не жыў добра, бо чалавекам быў суровым і жорсткім ды ва ўсіх адносінах благім. Ад'ехаўшы ад пашы, ігрышча або цвічэнне сваім маўрам наладзіў (на якім усяляк дзіды кідалі), і сам ён, спрытны і ўмелы вершнік, усіх заахвочваў. Слугі ягоныя вялікую прыязнасць мелі з Францішкам Тэстаросам, агентам Венецыянскае рэспублікі ў гэтых краях, а прыхільнасць тая была паміж імі дзеля мыта з тавараў, якое агент гэты плаціў. Я ж, жывучы ў карвасэрыі [23] венецкай, дзе старшым быў той самы Францішак, гэткім чынам пра ўсё, што там паміж імі дзеялася, даведаўся, бо хрысціяніну да намёта пашы бліжэй падысці нельга.

*Танцы мурынскія і скокі.*

Чакалі мы на полі, пакуль вернецца эмір, чые слугі аднаго разу прывялі нас туды, дзе ён жыў, а там мурыны, запаліўшы свечкі, перад ім, мала чым прыкрыўшыся, брыдкія, а што страшней, распусныя танцы і скокі спраўлялі.

Быў там таксама адзін турак, які па канаце хадзіў, што ў тым краі не навіна, і такія ігрышчы эмір што тры дні дома ладзіў, віднейшых паноў маўрытанскіх і туркаў з дастаткам і шчодрасцю вялікаю частуючы і забаўляючы, што пашу абражала вельмі, і гаварылася адкрыта і яўна ў Трыполі, што паша Ібрагім, уладца егіпецкі, ад імператара мае загад, каб едучы адтуль, войска на Трыполь павярнуў, а эміра схапіў дзеля падазраванай яго магутнасці вялікай. Казалі таксама амаль усе, што эмір, калі законам абараніцца не здолее, шабляю спакою шукаць будзе, хай бы давялося і загінуць, што ён і сам выказваў, не хаваючыся, бо і замкі абаронныя, і спадчыну ды маёмасць надзіва вялікую меў. Персам прыязны быў, і калі пра паразу туркаў навіны прыносілі, рады быў. Мысліў аднак і з другога боку, шчасце ваеннае сумлеўным лічачы, як бы Ібрагім-пашу дарамі надзвычай каштоўнымі ўлагодзіць і ласку ў яго да сябе знайсці.

*Кірмашы.*

Быў таксама тым часам нейкі ў Трыполі кірмаш, і з'ехалася было шмат туркаў і мурынаў, але толькі танцы і скокі (дый тое не было на што глядзець) па ўсіх вуліцах спраўлялі ды плады розныя, якіх тут вялікі дастатак, прадавалі.

*Друзіяне хто такія.*

Часта тут згадваюцца хрысціяне друзіяне, пра якіх хоць і дастаткова гісторыкі пішуць, аднак дадам і я, што яны хутчэй як паганцы ва ўсялякім свавольстве жывуць і ад туркаў нічым іншым не розняцца, адно што не абразаюцца. Маюць таксама свайго ўласнага прарока, называюць яго Ізман, які забараніў абразанне ды накшталт Магамета сваю веру вельмі непрыстойную і свавольную вымысліў і каб яе захоўвалі загадаў. Шмат іх у Дамашак [24] і Трыполь прыходзіць, а як нашыя шкоты [25] ў корабах розныя дробныя рэчы для продажу носяць па вуліцах, так і яны на шыі скрынку нейкую

скураную маюць, а ў ёй некалькі алавяных кубкаў, некалькі скураных пляшак з халоднай вадой, два або тры грэбні, шчотку шатную і люстэрка носяць. Калі мы спаткалі іх у Галілеі, далі яны нам той вады напіцца. А як туркі галовы голяць, а бароды запускаюць, дык звыклі ім іх часаць; нам жа, бачачы, што і на барадзе валасы кароткія, грэбня не давалі, толькі сувалі ў руку люстэрка, каб мы ў яго паглядзеліся. І тое падаванне вады, грэбня, люстэрка лічаць за міласціну, якую і туркам і хрысціянам, кожнаму без разбору, хоць і не просіць ніхто, даюць. Пытаўся я ў іх, калі вада, бо прагу наталяе, яшчэ за міласціну выйсці можа, але ж якая міласціна з люстэрка. Не маглі на тое адказаць. Аднак жа адзін у Трыполі (а я ўжо быў з Ерусаліма вярнуўся), які ў нейкага егіпцяніна лекі гатаваў, апавядаў нам, што паказванне люстэрка яны ад егіпцянаў пераняці. Бо на бяседах, банкетах і розных пасяджэннях, ды там, дзе свае забавы і пацехі мелі егіпцяне, гэтак люстэркі паказвалі, напамінаючы тым, каб кожны пра тое, што смяротным ёсць, не забываўся. І цяпер яшчэ, каторыя там старэйшыя і мудрэйшыя, косці чалавечыя ўсе парадкам на дроце навешаныя, або з дрэва ці з слановай косці, насіць і паказваць адзін аднаму звыклі, прыгадваючы адначасна, каб пра смерць памяталі, а аб прыгажосці, якую хвароба і смерць псуюць, не дбалі. То ж разумнейшыя друзіяне кажуць: калі прагнеш, вадою спатолішся, калі грэбнем чэшашся, упрыгожваеш сябе, калі ж у люстэрка глядзіш, нібыта сам сабою любуешся, але адразу падумаеш, што ўсё гэтае смерць пераменіць, дык і пакарнейшым робішся. Добрая ўвага да спраў чалавечых і канца іхнага, асабліва ж сярод простага люду, вартая, каб яе і хрысціяне часцей згадвалі. Але вернемся да нашага падарожжа.

*Дарэчная міласціна.*

*Глядзі на тое паганства.*

Пры тым, што не мог я ехаць у Апамею або Алеп [26] дзеля Абурыса, які, як было сказана, караваны рабаваў, ды што дарога Канстантынопальская бяспечная не была дзеля войска турэцкага, што з Еўропы ў Персію цягнулася, а да таго ж караблі венецкія і тыя, што ў хрысціянскія краіны плылі, яшчэ нагружаныя не былі, а пра мяне ўжо падрабязна хто я такі пытаццa пачыналі, бо гэбраі былі выкрылі; задумаў я падарожжа ў Егіпет справіць. То ж наняў я сабе джэрму. Гэта судзіна для хуткай язды вельмі прыдатная, але калі бура надарыцца, лёгка яе заліць можа, бо дошкамі не пакрытая, як караблі або карамужаны, перад дажджамі і вятрамі морскімі безабаронная. Вось жа дня дваццаць шостага ліпеня па абедзе пайшоў я да кады і, падарунак яму даўшы, прасіў, каб даў мне якога янычара; даў мне Ахмета, які ўмеў па-славянску і верна служыць мне абяцаў. Пасля рыхтаваўся я да падарожжа і, рэчы свае ў карабель венецкі, на якім мы былі прыплылі, занесці загадаўшы, пакінуў пры іх слугу аднаго, каб іх у нанятай каморы вартаваў і ў Валошчыну [27] завёз, пакінуў з ім яшчэ а. Лаўрэнція Пацыфіка і брата ягонага; іншых жа, хто са мною ў Ерусаліме быў, узяў у Егіпет...

*Што такое джэрма.*

Пераклаў з польскай **Сяргей ШУПА**

[1] *Трыполь* — горад у цяперашнім Ліване (Трыпалі).
[2] *Гвардыян* — настаяцель кляштара.
[3] *Кады* — рэлігійны суддзя ў мусульманскіх краінах.
[4] *Валошскі* — італьянскі.
[5] *Морскі конь* — морж.
[6] *Янычар* — пехацінец у войску турэцкага султана.
[7] *Пайгак* — род лёгкай пальнай зброі.
[8] *Чуга* — доўгая адзежына з поясам.
[9] *Цэхін* — венецыянская залатая манета.
[10] *Мора* — морва, шаўкоўніца.
[11] *Мурын* — маўр, негр.
[12] *Машэя* — мечэць.
[13] *Карамужан* — вялікая турэцкая судзіна.
[14] *Грэцкая* — праваслаўная.
[15] Дзеі Ап., раздз. 14.
[16] *Друзіяне* — друзы, мусульманская шыіцкая секта.
[17] *Імператар турэцкі* — султан Амурат III, правіў у 1574—1595 гг.
[18] *Санджак* — акруговы намеснік.
[19] Вайна Асманскай імперыі з Персіяй (1576—1590).
[20] *Берыт* — сучасны Бейрут.
[21] *Паша* — уладца правінцыі ў Асманскай імперыі.
[22] *Чаўш* — назва некаторых высокіх службовых пасадаў.
[23] *Карвасэрыя* — караван-сарай, заезд для падарожнікаў.
[24] *Дамашак* — цяперашні Дамаск.
[25] *Шкоты* — шатландцы.
[26] *Апамея і Алеп* — гарады на поўначы сучаснай Сірыі.
[27] *Валошчына* — Італія.

■

Мастацкі рэдактар У. Я. КРУКОЎСКІ. Тэхнічны рэдактар З. М. МІКІШЧАНКА. Карэктар І. У. ГІЛЕВІЧ

«НАСЛЕДИЕ»
(на белорусском языке)



**Першы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі.**



Паштоўка
**«Першы Урад Беларускай Народнай Рэспублікі».** Выданне «Таварыства імя Ф. Скарыны». Аддрукавана ў Берліне. 1918 г. На адвароце надпіс: «Народны Сакратарыят выбараў 20.11—27.VII. 1918 гг. Сядзяць: А. Бурбіс (маскоўскі консул), І. Сярэда (Н. С. Гаспадаркі), Я. Варонко (старшыня Н. С. Міжнародных спраў), В. Захарко (Дзяржаўны скарбнік). Стаяць: А. Смоліч (Н. С. Кантролю), К. Езавітаў (таварыш старшыні Н. С.), А. Аўсянік (член Н. С.) і Л. Заяц (загадчык спраў Н. С.)». З калекцыі В. Целеша.

Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-24-54.

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку.

Здадзена ў набор 23.09.90. Падпісана да друку 04.12.90. Фармат 70 × 100 $^{1}/_{16}$. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 8,06. Ум. фарб. адб. 6,75. Улік.-выд. арк 12,71. Тыраж 11000 экз.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. 220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79.

Выходзіць штоквартальна